



# ПОЛЫМЯ

*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС*

**3** (1023)

*САКАВІК*

Выдаецца са снежня 1922 года


## ЗМЕСТ



**Мікола ГІЛЬ**

# АПАВЯДАННІ

## СУСЕДКІ

### Ненапісаны аповед

Даўно цвялілася думка напісаць пра іх, ды штосьці запыняла. Напэўна, тое, што занадта добра, можна сказаць — блізка ведаў іх. І саміх, а найперш — іхніх дзяцей, сваіх аднагодкаў, альбо трохі старэйшых ці маладзейшых. Мусіць, апошняя акалічнасць і замінала паглядзець, убачыць суседак трошкі збоку, так бы мовіць, адасоблена, адцягнена, проста жанчынамі, якіх мноства (на жаль, ужо часцей за ўсё з дадаткам «было») у нашых абдзеленых шчасцем беларускіх вёсках. Абліччамі і імёнамі яны, вядома ж, розняцца, але лёсы іхнія шмат у чым падобныя, амаль аднолькавыя.

Аповед так і не быў напісаны. Засталіся толькі накіды, папраўдзе — канспект...

Яны жылі, можна сказаць, побач — цераз вуліцу, вокны ў вокны. Хоць — якія там вокны? Зрэшты, у Ганнінай хаце вокны — два на вуліцу і два ў двор — былі ўжо ладнаватыя, недзе метр дваццаць на восемдзесят сантыметраў. А ў Верчынай хаціне і на вуліцу, і ў двор глядзелі не вокны, а акенцы: малыя, амаль квадратныя, па нейкія тры пядзі ўдоўж і ўпоперак, зашклёныя чатырма шыбінкамі.

Ганніну хату за два-тры гады да калгаса ставіў ейны Якім. Папраўдзе, не так сам Якім, як ягоны бацька, той парою яшчэ досыць моцны, мажны ў плячах і з худым азадкам, як большасць беларусаў, стары.

Савецкі лад к таму часу ўжо ўсталяваўся, акрэп, жыццё ўсё больш выкіроўвала на новы, адрозны ад колішняга дзедаўскага, лад і парадак. От таму

---

*ГІЛЬ Мікола (сапр. Гілевіч Мікалай Сымонавіч) нарадзіўся 15 кастрычніка 1936 года ў вёсцы Слабада Лагойскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт (аддзяленне журналістыкі) БДУ (1959). Працаваў у газеце «Рабочае юнацтва», на Мінскай студыі тэлебачання, у газеце «Літаратура і мастацтва» (з 1990-га па 1996-ы — галоўным рэдактарам), у часопісе «Маладосць», у газеце «Культура» і часопісе «Мастацтва» (з 2005-га па 2008-ы — галоўным рэдактарам).*

*Аўтар кніг прозы «Ранішнія сны» (1973), «Тацянін чэрвень» (1978), «Пуд жыта» (1982), «Камандзіроўка ў Вішанькі» (1986), «Тэлеграма з Кавалевіч» (1988), «Бралася на дзень» (1993) і інш.*

і хату сыну Якіму, які прывёў сабе ў жонкі Анупрэеву Ганну, ставіў стары Паўлюк па-новаму: са склютаваных сасновых бёрнаў, хоць і не ў чысты «нямецкі» вугал, і не на дубовых калодах, а на каменным фундаменце, хоць і не вымураваным, і з вокнамі ўжо куды большымі, чым у хаце, у якой нарадзіўся і дажывае веку сам. А як жа іначай! Паўсюль адно толькі і крычаць, клічуць у шчаслівую будучыню, да сонца і святла! От хай і будзе ім, Якіму і Ганне, разам з іхнімі дзецьмі, вядома, светла, сонечна ў хаце, як таго ці то жадаюць, ці то патрабуюць-абавязваюць каму́ністыя начальнікі.

А Верка і яе Габрусь, пабраўшыся амаль што адначасова з Ганнай і Якімам, аселі ў колішняй Сролевай ваўначосцы. Сам Сроль жыў у мястэчку, меў добрую хату на дзве палавіны, з вялізным лограбам пад ёю, дзе яго гаварлівая і надта ж ветлая ды сардэчная з усімі Голда трымала свае саленні-квашэнні дыварэнні. А тут, у вёсцы, яшчэ Сролеў бацька набыў ці ўзяў у арэнду (за царом, вядома) пляцок зямлі ды паставіў на ім ваўначоску. Яно, як для такой патрэбы, дык бытта і ладнаватую, метры чатыры ўшыркі і не менш за пяць у даўжыню, а ў дадатак і амаль такога ж памеру трысцен-сенцы. Само сабою, воканкі ў ваўначоснай будыніне не маглі быць вялікія, а тым больш — па тым, старым яшчэ часе. Дзіва яшчэ, што іх там аказалася два, а не адно-адзінае, як зазвычай.

Канешне ж, пасля рэвалюцыі ваўначоску ў Сроля адабралі, нейкі час яна дзейнічала як уласнасць усяе вясковае грамады, а пасля, калі неяк раптоўна шматкроць скарацілася авечае пагалоўе ў вёсцы, з яе воканак усё радзей плыў на вуліцу і ў двор ваўняны перхатлівы пыл, а праз нейкі час яна і наогул аглухла. З год, пэўна, будыніна з тоўстым пластом пылу на падслепаватых акенцах пуставала, ажно пакуль хтосьці не наўдуміў Габруся папрасіць яе ў сельсавеце пад жытло. Там не пярэчылі, і неўзабаве Верка, стаўшы Габрусёвай палавінаю, мыла там усё, вышароўвала не толькі падлогу, але й сцены, і столь. К восені паўстала ў ваўначосцы і печ, заняўшы ці не трэць хаты. І ці думалі тады, на пачатку трыццатых, Габрусь з Веркаю, што зжывуць у былой Сролевай ваўначосцы жыццё, народзяць і пагадуюць у ёй сваіх чацвярых дзяцей? Ат, хто гэта сёння скажа? Ведаючы іх абаіх, Габруся і Верку, мяркую — не думалі. Маладыя ж былі! Спадзяваліся, пэўна, што з часам перабяруцца ў лепшае, больш сучаснае і зручнейшае жытло, у хату кшталту тых, што паспелі самыя бойкія ды ўрвіцельныя паставіць з панскага лесу тым часам, калі не было практычна ў каго пытацца на тое дазволу: калі ні пана не стала, ні начальства ніякага, калі кожны жыў бытта сам па сабе…

Выпадкова сталіся Ганна і Верка суседкамі, а вось жа — пражылі жыццё побачкі, раздзеленыя адно не надта шырокай вуліцай, колісь гразкай — ні прайсці, ні праехаць, потым — старанна, адмыслова выбрукаванай, кожны каменьчык шчытненька падагнаны, бытта век там ляжаў, і нарэшце заасфальтаванай, гладкай і чыстай, нібы пашырэлай. Пражылі жыццё, а нягож! Шчаслівa, гаротна? Больш апошняга было і ў Веркі, што тулілася з Габрусём і чатырма дзецьмі ў былой ваўначосцы, і ў Ганны, якая нібыта шчасліва раскашавала са сваім Якімам і таксама з чатырма дзеткамі ў новай, са смаляным водарам хаце. Хаты — розныя, а доля — адна. Калгас надзяліў усіх аднолькаваю доляю. Не паспелі стаць на ногі іх першынцы — Ганніна Зіна і Верчын Коля, як неяк няўзнак збяднелі і Ганна з Якімам, і Верка з Габрусём — як усе. Забралі ў калгас Якімавага каня разам са збруяй, калясьмі, панарадам, плугам і дзвюма лёгкімі драўлянымі баронкамі, і Габрусёву кабылу амаль з такім жа прычындаллем. І зямлі ў аднаго і другога засталося — як добрай бабе сесці: у Якіма — пяцьдзясят сотак, а ў Габруся — і таго меней: усяго сорак тры. Тое, што было пад

бокам, пры сядзібе. А надзелы-шнуры, што былі за аселіцай, за рэчкаю, ператварыліся (ці растварыліся?) у «шырокія калгасныя палеткі-нівы».

Як жылі за тымі калгасамі да вайны? От неяк жылі. І Ганна гэтак бы сказала, і Верка. З бульбачкі на сотках, з гарода, з кароўкі, якіх па адной на сям'ю пакінулі-дазволілі трымаць. З калгасу клёку мала было: мяшок-другі жыта — вось і ўвесь заробак сям'іскі: гаспадыні — сярпом ды граблямі, гаспадара — плугам ды касою. «Я — калгасніца маладая, жыву весела, ані дбаю. Мае дзетачкі познарана і накормлены, і прыбраны…» Гэтак — у вершах было, у газетах ды кніжках, а яны, Ганна ды Верка, хоць і папраўдзе маладымі былі, толькі аб адным і дбалі, каб накарміць і прыадзець сваіх дзетачак, якіх за дзесяць даваенных гадкоў знайшлося ў адной і ў другой, як ужо казаў, па чацвёра (у Веркі, папраўдзе, апошняя, Зойка, нарадзілася ўжо ў самым пачатку вайны).

Нясытна было і галотна, але — весела: у хаце-чытальні і ДСК — канцэрты, сходы і мітынгі, а ў дадатак — кіно, якое не толькі паказвае, а й гаворыць-спявае. Весялосці было — хоць адбаўляй. З песнямі — і на работу, і з работы. Не мужчыны, вядома — дзеўкі ды бабы, каторыя маладзейшыя. Ім — быццам і не да стомы. Адна перад адной — бы наперагонкі, песню за песняй. І як жа спявалі! Якія песні былі залівістыя і якія жнейкі ды грабельшчыцы галасістыя! Няма таго, што раньш было. Сёння рэчцы не цячэцца, сёння песні не пяецца…

І быццам сабе на галаву наспявалі: вайна звалілася. Гэтак жа заўсёды выходзіць: нібы самі сябе сурочылі, самі сабе накаркалі. Меркавалі — ліха песнямі адгоняць, а яно наадварот выйшла: ліха якраз тут як тут! І якое ліха! Такога свет не чуў і не ведаў. Нелюдзі прыйшлі. А пры іх некаторыя і свае азвярэлі. Тыя, што перажылі навалу, ведаюць, памятаюць, да смерці не забудуць. Абрабаваць, спаліць, забіць — як стой, як плюнуць! І ніякае за тое кары, ніякае нават боязі — ні перад людзьмі, ні перад Богам. Стрэліў у чалавека — як хвастачом па плойме мух. І вокам не міргнуў. І не страпянуўся нават: ат, казюрка пад бот трапіла. А за што, каб хто спытаў? За тое, што пры Саветах быў камуністам ці камсамольцам, у актывістах хадзіў. За тое, што нехта з радні ў партызанах. За тое, што не той парою і не той дарогаю ішоў. За тое, што заступіўся, прыхаваў на вышках габрэйчыка малога. За тое, што не тое нёс. За тое, што пашкадаваў слаўным нямецкім ваякам парсючка (а прыхаваў чалавек таго парсючка, памятаючы аб тым, што ў хаце — пяцёра, шасцёра, сямёра, а то і васьмёра галодных ратоў). Урэшце, проста так, без дайпрычыны, усяго за тое, што не так зірнуў на прыхадня-чужынца, ці за тое, што нешта яму ў табе не спадабалася…

Ганна і Верка за тры доўгія гады акупацыі нікога, дзякаваць богу, з хатнікаў сваіх не страцілі. Зберaглі, не адпускаючы ад сябе ні на крок, нібы квактуха свой вывадак, дзяцей. Зберaглі і мужыкоў, засцярогшы іх ад хлапечага азарту сысці ў лес, да партызанаў. Казалі ім, пэўна, гэтак: «Там без цябе абыдуцца, ваякі нягеглага, а дзяцей сіроціць — не пушчу. Ды каб жа толькі сіроціць! Паб'юць жа ўсіх, калі хто збрэша. Не па злосці нават, па дурноце сваёй…» Мо і самі Габрусь з Якімам не рваліся ў лес, мо жончыны слёзы і пагрозы падзейнічалі, але абодва яны дачакаліся вызвалення, прыходу нашых. Жылі, рабілі зноў на сваёй зямлі, як да калгасаў, хавалі, як умелі і маглі, кожны гарнец жыта і мех бульбы, каб не забралі немцы і паліцаі ці тыя ж партызаны, асабліва далейшыя, не са сваіх ваколіц, якія таксама вымушаны былі карміцца амаль тымі ж, што і акупанты, паборамі, часам — вайна ёсць вайна — жорсткімі. І неяк жа выцерпелі, выстаялі, выжылі тыя тры доўгія і гнятлівыя, як піліпаўскія ночы, гады, і дзецям не далі зайсціся з галадухі, і тыя добра-такі выдыгалі-выцягнуліся, старэйшыя вунь дык ужо зусім цыбатыя, як маладыя галаногія пеўнікі.

А потым прыйшлі нашы, і Габруся з Якімам разам з іншымі мужчынамі і хлопцамі ці не з ходу, літаральна адразу ж паслалі на фронт. Якіму не пашанцавала: без аніякае падрыхтоўкі-абучэння, адно абмундзіраваўшы і ўручыўшы сякую-такую зброю, яго ў ліку навабранцаў з толькі што вызваленых ад акупацыі беларускіх абшараў кінулі ў смяртэльную калатнечу-малатарню пад Кёнігсбергам. Там Якім і згінуў. Ці то «загінуў смерцю героя», ці то прапаў без вестак, Ганна так і не разабралася, бо сама чытака была аніякая, чытала ёй прысланую паперу старэйшая з дзяцей — Зіна, чытала таксама не надта бегла, бэкаючы і мэкаючы. А неўзабаве папера тая наогул прапала: ці то меншыя па дурноце сваёй парвалі, ці сама Ганна некуды схавала яе ад дзяцей, ды так, што і ўспомніць, куды схавала, як ні намагалася, не змагла. І Перамогу яна сустракала без асаблівае радасці. Якая радасць быць у трыццаць пяць гадоў удавой з чатырма дзецьмі, без каровы, без свінчаці, адно з курыцай, нейкі тыдзень ці два назад пасаджанай на выпрашаныя, папраўдзе нажабраваныя па хатах яйкі?!

А ў прыземістую і заўсёды цемнаватую Верчыну хаціну радасць з Перамогай акурат і зазірнула: вярнуўся дадому Габрусь, гаспадар. І не пакалечаны. Нават, можна сказаць, і не паранены, бо страчаны на назе мезенец — хіба ж гэта рана? Тым больш, што здарылася тое нават не ў баі і не ў час абстрэлу ці бамбёжкі: кола ягонай жа ўласнай фуры раструшчыла той няшчасны мезенец. Бог і праўда дзеліць не роўна. Габрусь трапіў не ў акопы, як ягоны сусед Якім. Лёс адарыў яго шчаслівым білетам: увесь свой ваенны год ён праслужыў фурманам пры медсанбаце. Вазіў параненых, а часцей — усё што заўгодна: харчы, прасціны, коўдры ды матрацы, рознае медначынне, бочкі з вадою і газаю, дошкі, дровы. На яго як забываліся. Успаміналі, калі трэба было нешта прывезці ці адвезці. Ён старанна і паслухмяна рабіў тое, што загадвалі. І гэтак з дня ў дзень. Глядзь, а ўжо й вайна скончылася. І тут яму зноў пашанцавала. Па тагачасным парадку ён павінен быў нібыта яшчэ служыць, нават не адзін год, але «нейкі вялікі начальнік» (гэтак казаў і Верцы, і вяскоўцам), усчаўшы з ім гутарку і даведаўшыся, што дома ў яго чацвёра дзяцей, «пусціў пад мабілізацыю». А мо таму, што з коньмі было шмат важданіны і лацвей было абратаць якую-небудзь дабітую «палутарку» ці нават «студабекера». Гэта таксама застанецца тайнаю, бо Габруся, само сабою, ужо няма на гэтым свеце, як, зрэшты, і ягонае Веркі.

Вайна для маіх герояў, а папраўдзе — гераінь засталася ззаду. А што змянілася ў лепшы бок? Анічога. Ганне без Якіма лепш і не магло быць. Неяк узяла была да галавы, што не вытрывае, кранецца з розуму, і запіла. Аглушыць сябе самагонкай — і ёй ужо добра, ні аб чым галава не баліць. Ацверазела і загадала сабе ў рот больш не браць, калі, ачнуўшыся ад цяжкога, з трызненнем і галюцынацыямі сну, наткнулася на вочы самае меншае — Галі. Вочы ейныя неяк нязвыкла блішчэлі. Былі як слязьмі напоўненыя. Ганна сцепанулася ад нейкага благога прадчування. З чаго б гэта? Пеканула думка: «Гэта ж з голаду! Галодны бляск вачэй. Як у ваўчаняці!..» Залілася яна слязьмі, мацюкнулася гучна, са смакам, скінула ногі на падлогу, пайшла ў запечак, намацала ў заскрынку некалькі бульбін, абабрала іх і здзёрла на тарцы. Пасля гэтак жа атупела пасунулася на дрывотню, прынесла паўахапка трэсак, запаліла ў печы. І неўзабаве падала Галі некалькі аладак-дранікаў, спечаных без алею ці скварчыны, на аднай падмазцы: «На, дачушка, еш, не апячыся толькі, не хапай, студзі спачатку. Еш, усе еш, я й яшчэ спяку…»

Пасляваенны голад гнаў вясковую моладзь у горад: там былі сякія-такія заробкі і, адпаведна, сякі-такі хлеб. Выпраўляліся ў горад хто як. Сталейшыя хлопцы і дзеўкі — па вярбоўцы. Ездзілі тады па вёсках вярбоўшчыкі — агіта-

валі моладзь на працу ў горадзе, пераважна на будоўлях. Часам вербавалі і на лесараспрацоўкі, і ў Данбас на шахты, і ў Караганду, але найперш — на будоўлі. Яно і не дзіўна. Мінск той самы — суцэльная будоўля! Вось і ехалі хлопцы, а за імі і дзеўкі, каторыя смялейшыя, байчэйшыя.

Хлопцы-падшыванцы валам валілі ў рамесныя вучэльні і школы фабрычна-заводскага навучання — рабіліся фабзайцамі. Яшчэ й ганарыліся: і накормленыя, і адзетыя, сёй-той вунь у якія модныя ды прыгожыя шынелькі-фуражачкі — дзеўкам на радасць, а бацькам — на гонар. А дзяўчаткі-недаросткі ішлі — таксама ці не плоймаю — у гарадскія нянькі. Дзівосы на калёсах, але пасля вайны ў гарадах быў чамусьці вялікі попыт на нянек. Хоць — што ж тут дзіўнага? Садкоў-ясляў не было, а жанчынам-мацяркам трэба было працаваць. Вось і бралі малалетак-нянек. Балазе, плаціць ім не прынята было: адно — карміць ды сякую-такую адзежыну спраўляць, каб целам не свяцілі. Галоўнаю платаю было тое, што, падрастаючы разам з дзецьмі, нянька мела шанц уладкавацца ўрэшце на працу ў горадзе: ці то прадаўшчыцай, ці швачкай у майстэрню, ці тынкоўшчыцай-маляром на тую ж бясконцую будоўлю.

Ганнінай Зіне ў сорак пятым ішоў пятнаццаты. У нянькі — самы раз. Паспрабавала была ў сорак чацвёртым пайсці ў школу — адразу ў шосты, мінаваўшы пяты, але з вучобай не заладзілася. На двойках ехала і двойкамі паганяла. У сёмы яе не перавялі, а другі год сядзець такой кабыле (гэта сама Ганна бэсціла так дачку) — дайце рады! От і пайшла Зіна ў Мінск нянькаю. Дзяўчынку глядзець. У бацькоў пазнюрка знайшлася — амаль праз дваццаць гадоў пасля сына. Сын у арміі быў, і недзе далёка. А папраўдзе, вучыўся ў ваенным вучылішчы. Ці не ў сорак сёмым прыехаў да бацькоў на пабыўку, ужо лейтэнантам. Убачыў няньку Зінку — і ўлюбіўся. Гэтак — для ўсіх. А Ганна шмат пазней прызналася па-суседску Верцы, што наваспечаны афіцэр проста сілком дамогся Зінкі, а пасля ці то спалохаўся, ці то бацькі вымусілі — ажаніўся з ёю. Маладая яна была, не мела сямнаццаці, таму спачатку й не распісвалі, так павёз яе з сабою туды, дзе служыў.

Меншых траіх нікуды сплавіць не выпадала. Гадавала — як магла. Як сама — гэтак і дзеці. Сама з-за работы свету Божага не бачыла, гэтак — і дзеці. Гнала, змушала да працы. Балазе, усе трое, як і Зінка, да вучобы не гарнуліся. А калі гэтак, дык хай робяць. Міша ў трынаццаць і касіў, і араў. І Анцік — сярэдні — гэтаксама. А самая малодшая Галя ці не ў дванаццаць на пару з маткай і на жніве, і на сенажаці шчыравала.

Міша да арміі дома не дабыў — у шаснаццаць сваяк (пень гарэў, а чорт азадак грэў) дапамог убіцца ў чыгуначнае вучылішча, але толку з таго мала аказалася: і там трэба было задачкі рашаць, урокі рабіць, а Міша лепш кувалдай дзень памахае, чым гадзіну над кніжкай пасядзіць. Ні на машыніста, ні на дэпоўскага работніка не вывучыўся: адно што трапіў з вучылішча ў пуцейскія падсобнікі. Па ўсім, вучылішча Міша не скончыў, але дадому хлопца не адправілі, пашкадавалі, уладкавалі ў пуцейшчыкі. Армію адслужыў з гэтае, пэўна, прычыны ў чыгуначных войсках, а пасля арміі вярнуўся на ранейшае месца пуцейца-рамонтніка. А ім нават і інтэрнатаў людскіх не давалі: зімой і летам жылі ў вагончыках. Нават калі і жонку на той чыгунцы знайшоў, нават калі і дзеці пайшлі, — шмат гадоў жыў у вагоне. Толькі пад старасць атрымаў Ганнін Міша кватэру, ды й то не ў горадзе, а ў вёсцы, лічы, на тым жа чыгуначным раз’ездзе, дзе ў тупіку стаяла сотня, а мо й болей іх жылых вагончыкаў.

Анцік да арміі быў дома, рабіў у калгасе. Пасля арміі — з ёй яму пашанцавала: служыў амаль дома, пад Маладзечнам — з ходу, адным днём з дэмбелем, як сам казаў маці, ажаніўся. Узяў дзяўчыну з вёскі, куды яны, салдаты, хадзілі

са сваёй невялікай часці на вечарынкі-пагулянкі. Прывёз жонку дадому. Пааціраліся троху, маніліся тут і застацца, але пасварылася маладая жонка з Галяй, — дык ускруціліся абое і з'ехалі да яе, у ейную матчыную хату: балазе, маці засталася ў ёй адной. Там Анцік і асеў назаўсёды. І што за крыўду ім (няйначай абаім) Галя ўчыніла, адзін Бог ведае, а толькі яе, Ганнін, Анцічак зрэдку, гады ў рады, наведваўся дадому. Прыедзе, заўсёды адзін, пераначуе — і назад. А бывала, што й без начоўкі: гадзіну-другую крутнецца ў хаце — і бывай здарова, маці! Да сястры нават не азваўшыся!

А ў сястры, у Галі, жыццё не склалася. Амаль да трыццаці дома была, у калгасе рабіла, а пасля паддалася ўгаворам колішняе сяброўкі сваёй і равесніцы, якая даўно ўжо атабарылася ў Мінску. Паехала і Галя да яе на будоўлю, таксама маляром-тынкоўшчыкам. Балазе, інтэрнат адразу давалі. Ды як у каторай не ўварылася, гэтак і не ўпяклося. Дома чалавек не знайшоўся, дык і там, хоць іх і процьма, не спяшаліся браць Галю замуж. Толькі калі было ўжо за сорак, знайшоўся адзін, прысяліўся да Галі: яна к таму часу ўжо і на кватэрку-аднапакаёўку ўзбілася. Але, як на Ганнін розум, дык лепш было б, калі б ён і зусім не знаходзіўся, мужык такі. Лепш ужо зусім без мужчыны, чым за такім. П'яніца і абібок, і бабнік да ўсяго. У Галі дзіцятка не знайшлося, запозна сабралася, дык ён, мусіць, і праз гэта помсціў ёй, назаляўся-здзекаваўся. Яна ж, Ганна, сама была сведкай. Ды — лепей пра тое не ўспамінаць…

А што тады ўспамінаць? Якія такія радасці-ўцехі? Не было іх у Ганны. Як не стала Якіма, так і радасцей ды ўцех не стала. Як абрэзала. Адна праца цягам і аднаго, і другога, і трэцяга дзясятка гадоў. Беспрасветная, нескончоная, атупляючая. На сябе начыста забылася. Адно было наўме — падняць дзяцей. Даў Бог ёй з Якімам дзве парачкі — двух хлопчыкаў і дзвюх дзевачак, дык трэба ж іх паставіць на ногі. Адной. Без Якіма. От і не было калі пра сябе думаць. Асабліва не брала тое да галавы — не адна яна ночкі спіць-каратае ў самоце, вунь колькі баб такіх — і старэйшых за яе, Ганну, і маладзейшых, і ўсе яны жывуць без мужчынскае затраўкі, жуюць свой лёс усухамятку. Такая ўжо доля іхняя. Як тае галубкі, у якой стралец забіў галубка. Калі нават і свята якое выпадзе, на хрэсьбіны ці на вяселле людзі паклічуць, дык ёй — не да весялосці, нават што і смачнейшае ў рот не лезе: хрушч які, скрылёк кумпячка цішком у кішэньку ці ў рукаво пакладзе — Галі, Анціку на зуб узяць.

Іншыя бабы, бачыла, часам, як надаралася, падгульвалі. Асабліва тыя, што не так, як яна, дзецьмі абсыпаныя. Каторая амаль сама напрошвалася ўпаўнаважанага на пастой узяць, іншая вырывалася, пакінуўшы дзяцей на бабу, ад'ехацца куды далей, дзе вока людское за ёй сачыць гэтак пільна не будзе. Ганна ж не магла дазволіць сабе ні таго, ні другога. Няма шчасця, дык і крадзенае — не шчасце. Хутчэй — паскудства. Лепш ужо не пазычаць у сабакі вачэй — як ёсць, так і ёсць. Папраўдзе, дык і тут усё ўпіралася ў працу. Які юр будзе наўме, калі ледзь ногі да ложка давалачэ? «Кіньце, бабачкі, мянташыць языкамі! Не да таго мне! Не аб тым мая галованька баліць, не пра тое мая думачка снуецца…»

Як на духу магла сказаць: пасля Якіма яна так і не аскаромілася. Ні разочку. Ні з кім. Ні са старым, ні з маладым. Было адноечы… Ды не было, а магло быць… Яна з току йшла — нацяныкі, аселіцаю, каб на загуменне выйсці. А з кустоў знячэўку Ляксандра выткнуўся, брыгадзір: як пільнаваў яе? Ганна злякнулася: не пустой ішла, несла ў панталонах колькі прыгаршчаў жыта. Ляксандра ж пачаў жартаваць, дурэць-заляцацца: маўляў, нешта надта ты маркотнаю ходзіш, няўсцерп стала ўсё адной ды адной, прагнеш, пэўна, каб хто прыціснуў, прыгрэў, пакаціў… Яна, дайце веры, трохі і разамлела. І як жа не разамлець?! Праўдачку

ж памаўзлівец кажа! Здаецца, і забылася на ўсё, а во загаварыў, ласа аблізваючыся, дык умэнт бабская хэнць азвалася. А Ляксандра, кажучы нешта пра клубы яе вабныя ды пра іншыя не зусім усохлыя пукатасці, раптам цап яе, ашчаперыў, прыціснуў да сябе, ірвануў ззаду спадніцу ў поясе, а разам са спадніцаю — і панталоны Ганніны, добра-такі напоўненыя жытам. От зерне і шуснула-шаргатнула долу, на ногі ёй і яму, на сцежку. Ляксандра адскочыў, бы ўджалены, нейкае імгненне глядзеў на спалатнелую Ганну як збянтэжана, потым плюнуў і шуснуў са сцежкі ў кусты. А Ганна апамятацца доўга не магла. Гэта ж во… Ляксандра — першы мужык на сяле, і розумам, і спрытам, і сілаю, і хараством — усім узяў, і маладзейшы за Ганну трохі, а — яе ў кустах падпільноўваў… Не ведае Ганна, ад чаго яна плакала, падцягваючы і падвязваючы абарванай аборчынай спадніцу і панталоны і збіраючы рассыпанае зерне: ці то яго было шкада, якога чыста, да каліва, не сабраць, ці то самой сябе…

А болей і ўспомніць нічога не магла. А ўспамінаць — часу было. Асабліва як абязножылася, як пагнуў-пакруціў пракляты артрыт яе ногі. І ў ступнях разам з костачкамі, і ў каленях, і ў клубах.Тады яна ўжо адна засталася ў хаце. А не дай бог адной мець такую хваробу! Ні сагнуцца, ні прысесці, ні ўзяць, ні паднесці. Спярша з кійком сяк-так перабівалася, пасля з мыліцай, адной па першым часе, а потым і з дзвюма. А ў рэшце рэшт і мыліцы не памаглі: стаць на іх не магла даць радачкі. Дык уга колькі часу было тады на думанне ды згадванне-ўспамінанне! З дня ў дзень, з ночы ў ноч ляжала. Ляжала і думала. Аб усім. І аб сабе, вядома, але больш — аб дзецях. Чацвёрачка іх у яе, а — нікога няма побачкі. Усе не тое што не побачкі, а — няблізенька. Не дагукацца, не даклікацца, хоць нема крычы, хоць горла сарві. Дзякаваць богу, што хоць Верка Габрусёва — побач, і што яе доля лацвейшая за ейную, Ганніну: і ногі бабе служаць, і рукі, і вочы, і вушы. Штодня прыбягае, а то й па пяць разоў на дні. Ну, хай не прыбягае, бегатня і для яе ўжо мінулася, але ж — ходзіць, усё робіць, сама сябе дагледжвае, і яшчэ во яе, Ганну, ратуе ад смерці — і з голаду, і з усяго іншага…

Вось тут і перакідвалася ўжо нітачка да аповеду пра Верку.

Нядоўга яна пасля вайны была паняй за сваім Габрусём. Памёр ён неўзабаве. Здаецца, і пяцігодку мірную не працягнуў. Казалі, нібыта нейкую хваробу з вайны прынёс: ці не самыя што ні ёсць пранцы, плявузгалі. Ды, хутчэй, няпраўда гэта. Памёр Габрусь, па ўсім, са звычайнага запалення лёгкіх. Ён, на ўздзіў усіх, падахвоціўся быць у вёсцы пастухом. Браць коней і матляцца-высільвацца за плугам не схацеў, пайшоў на лягчэйшы хлеб. Недарэмна ж вунь і ў дражнілцы пра ластаўчыную песню гаворыцца, што пастух і дома жарэ, і ў поле бярэ, і разам з каровамі ляжыць і жвачку жуе. Хлеб мо і папраўдзе не самы цяжкі, ды — неяк змок Габрусь да ніткі і моцна застудзіўся. А лячыцца не стаў. Перакінулася прастуда ў запаленне лёгкіх, але і тут Габрусь не шманаў, па-людску не лячыўся. Гахаў-кашляў начамі і днямі, і дакашляўся да таго, што ўрэшце злёг і не ўстаў ужо. І Верка зраўнялася па ўсіх ранжырах з Ганнаю. Чацвёра на ёй, як і ў суседкі цераз вуліцу. Ну, Колю ўжо можна было не лічыць: к таму часу, як памёр бацька, ён даслужваў абавязковую ў войску і маніўся з хлопцамі ехаць на будаўніцтва «Волга-Дона». Але ж і трое — нямала: паспрабуй накармі ды апрані. А на рыштантах ейных усё — як гарыць. Дзіва што! Пецьку — трынаццаць, Міцю — адзінаццаць: самыя ўрвіцелі. Меншую, Зойку, крыўдзяць на кожным кроку, найперш — за сталом. Не паспее Верка блін спячы, як тыя хап яго — і з’елі, а малая Зойка адно сліну пускае.

Кароўка ратавала. Калі б не яна-карміцелька, дык ці й выкачаліся б яе габрусяняты, зайшліся б ад нішчымніцы. А з кубачкам малака і даўкі цупік з перамерзлай у зямлі бульбы за маліну йшоў, і зацірка забеленая — лепшай

вячэры і сам Бог не дасць. Але ж як ёй тая кароўка ў знакі далася! Пакуль Коля быў дома ды Габрусь жыў, яна не мела клопату з сенам. А без іх усё на ейныя плечы звалілася. З касой Верка не надта ўпраўлялася, не налаўчылася, як ні старалася. Сярпом Аўтарэні, а пасля і Красулі сена нажынала. Да снядання серп і посцілку ў рукі — і ў равок: ці то Пётраў, ці Драздоў, ці Папкоў. Нажне мурагу, звяжа ражкі посцілкі — і за плечы. А серп — у руках. Надвячоркам, а то й цёмначы ўжо — другую посцілку на гумне вытрасе сушыцца. І гэтак — штодня. І гэткім чынам за два-тры месяцы наношвала цэлы застаронак сянца, якога Аўтарэні амаль што і ўдосталь. А калі было ўабмеж, дык — колькі посцілак саломы ці іржоння з поля прыносіла, у дадатак — і азярод бульбоўніка: на сечку. Ласункам перападала карміцельцы бульбяное лушпінне, адзін-другі бурак, бруччына, яблык.

Яно так, наношвала амаль што ўдосталь, кароўка не крыўдавала. А самой Верцы як тое давалася? Ад аднаго ўспаміну плечы ныць пачынаюць, вочы на лоб лезуць, пот салёны іх поедам есць. Колькі гадоў цягала яна тыя цяжкія (за плечы не закінуць, на калені станавілася, каб на спіну ўзваліць), бы вадою набрынялыя, посцілкі? Пакуль сілы мела.

Пецька і Міця мужчынскі клопат — накасіць карове сена — не паспелі на сябе ўзяць: сышлі ў горад. Не сышлі — выправіла. У вучылішча пры трактарным заводзе. Спачатку старэйшага, а праз год — і меншага туды ж. Дзякаваць богу, дружылі яны між сабою, ейныя Пецька і Міця. Неразлучнымі і дома былі, такімі ж і ў Мінску засталіся. Куды адзін, туды і другі. І на заводзе побач рабілі, і жылі ў інтэрнаце ў адным пакоі. Радавалася Верка: удвух лацвей, смялей у тым горадзе, нават калі і адбіцца ад каго давядзецца. Адно блага — яны ж і ў гарэлцы абодва гэткія ж дружныя. Ужо й дома, здаралася, выпівалі, калі па чатырнаццаць-пятнаццаць было. Спачатку — рэдка, а потым усё часцей ды часцей, на вечарынку без пляшкі ўжо ці й пайшлі калі. Сварылася Верка на іх, крычала. А яны апраўдваліся: «А мы што, горшыя? Усе хлопцы лыкаюць, для смеласці, а мы глядзець на іх будзем?» Яна ўжо голас свой і сцішвала: «Я ж, сыночкі, баюся, каб не ўцягнуліся…»

Ды гэтак — калі дома былі смаркачамі, калі маткі яшчэ хоць трохі пабойваліся. А ў Мінску, без нагляду? Як грошы пачалі атрымліваць? Розуму, сталасці ў галовах — няма. І няма каму прыкрыкнуць, прыгразіць, прысароміць — воля вольная абодвум. Але, але, распіліся яе хлопчыкі ў горадзе. Не бачыла Верка, сама да іх у Мінск гады ў рады ездзіла, але ведала: п’юць ейныя Пецька й Міця. Бо і дома, прыехаўшы на дзень-другі, не кідаліся пасабіць у чым-небудзь матцы, а найперш — пагуляць, выпіць: ці ўдвух, ці ў кампаніі якой.

І што яна магла зрабіць? Якую раду даць? Ужо ж быццам завядзёнка такая: як у песні нікуды без вады, дык цяпер — без чаркі. Ні прывецiць, ні развітацца, ні зрабіць што: узараць, прывезці, змалаціць, пакалоць. Такой бяды ўжо, калі й вып’юць, абы зусім не спіліся, каб рукі трэсліся і самі каб учарнелі ды высахлі, бы струкі…

Што было далей? Была, па абавязку, у Пецькі армія, а неўзабаве і ў Міці. Пасля арміі была жаніцьба — і ў аднаго, і ў другога. А ў хуткім часе пасля таго і хаты свае займелі яе сынкі. Яна ездзіла на наваселле і да Пецькі, і да Міці. Радавалася за дзяцей, на сябе забываючыся, на сваю адзіноту і беспрасветчыну.

А яна неяк надта ж хутка засталася ў хаце адна. Думала: мо яно й добра, што разляцеліся ейныя габрусяняты-хлопцы, век, пэўна, ужо такі, вызваліў вясковых мужчын з палону зямлі, проста-напраста пазбавіўшы іх яе. Затое ёсць у яе дачушка, от пры ёй яна й дажыве веку і, дасць Бог, куды шчаслівей, чым пры самай лепшай нявестцы. Дык жа не даў Бог!

Прыслалі ў вёску новага фельчара — маладога, зусім неаперанага хлапца, ці не адразу пасля вучылішча. Упадабалі яго людзі з ходу, толькі і гаворкі, што пра фельчара Юрку. І дайце веры: Ганна яго на сталаванне ўзяла, яна к таму часу асамоцілася, выправіўшы ўсіх дзяцей у свет. Вядома ж, маладым маладое ў галаве. Ён на Зойку, згледзеўшы яе цераз вуліцу з акна ў двары, кіне вокам, і яна зіркне-правядзе яго позіркам, калі ён ранічкаю на працу бяжыць з Ганніных веснічак. Закахаўся Юрка ў Зойку, а Зойка — у яго. От праз нейкія тры месяцы і пажаніліся.

Перайшоў Юрка ў Верчыну хаціну. Дзень-другі — і адчула Верка: не даспадобы ў яе зяцю. Яна не пакрыўдзілася, разумела: занадта цесна ў іх. Гэта яны з Габрусём не зважалі асабліва на цеснату ў былой Сролевай ваўначосцы, неяк во ўмудрыліся ажно чацвёра дзетак знайсці ў ёй. Цяпер жа — свет іншы. І моладзь іншая. А тут во — пабраліся, а спаць легчы, каб хоць трошачкі асобна, няма як, нават і занавескай нельга падзяліць такое жытло. І літаральна праз пару тыдняў перайшлі маладыя жыць у баковачку пры фельчарска-акушэрскім пункце. Юрка парупіўся там прарэзаць акно і паставіць невялічкую печачку з плітой. У той баковачцы Зойка і першынца свайго нарадзіла, Колем назвала, па дзядзьку, і Верка, хоць і не ў сваёй хаце, паспела трошкі пацешыцца з унука, адвесці душу, разагнаць нечаканую нуду і адзіноту.

Але — сапраўды трошачкі. Жыць сям’ёй у бакоўцы было цяжка, і Юрка, адбыўшы сваю абавязковую пасля вучобы працоўную рату, з’ехаў з Зойкай і сынам у новы калгасны пасёлак, ажно недзе на Палессі, дзе ўжо вопытнаму фельчару паабяцалі двухпакаёвую кватэру з выгодамі. І Верка, як і Ганна, ейная даўняя суседка з маладосці, засталася ў хаце адна.

Пачаўся — у адной трошкі раней, у другой пазней — апошні адрэзак (не, лепш акраец) іхняга жыцця. Жыцця на самоце. Ці, як яны абедзве любілі, па ўсім, казаць, — жыцця савінага: маўляў, адзінокія, як совы ў дуплах. Гэтак і яны ў чатырох сценах сваіх хацін. І гэтак жа, пэўна, вусцішна было ім, асабліва доўгімі восеньскімі і зімовымі начамі, адно што стрымліваліся, не крычалі ў роспачы, як совы, моўчкі глытаючы даўкі камяк, што сцінаў горла, і адчуваючы, як цёпла коціцца-збягае па шчацэ няпрошаная, ды несутрымная сляза.

Не думалі яны, як, пэўна, не думае наогул ніхто, што такою будзе іхняя старасць. Яны ў дзяцінстве і маладосці бачылі старасць сваіх бабы і дзеда, іншых — бліжэйшых і далейшых — вясковых старых людзей. Адзінокіх соў, як яны, Верка і Ганна, тады амаль не было. Звычайна дажывалі веку бацькі пры малодшых дзецях — сыне ці дачцы. Па вайне ўсё звычаёвае пабурылася. Дзеці папёрліся ў гарады (адны — самі, сваім адумыслам, іншыя — пад прымусам, сілаю новага звычаю), а бацькі? Бацькі бадай што самі асудзілі сябе на адзіноту ў старых, струхлелых і не надта грэючых хацінах. Найчасцей жа — не бацькі, а мацяркі — шматлікія, як вокам кінуць, пасляваенныя ўдовы.

Разарвалася, лопнула, як кепска спрадзеная, нітка, што звязвала, лучыла пакаленні. У дзяцей — сваё жыццё, у бацькоў — сваё. У гарадскіх дзяціных кватэрках месца для мацярок — не было. Па першым часе, здаралася, дзеці клікалі апошніх у горад, нават змушалі прадаваць хаціны і збываць гаспадарку — калі патрэбны былі матчыныя рукі, дабрата і клопат гадаваць сваіх дзяцей. Ды падрасталі дзеці — і іх вясковыя бабулі пачувалі сябе ў панэльнабетонных сценах усё больш і больш няўтульна. У многіх даходзіла да таго, што хоць пешшу павалаклася б каторая ў родны куток, дзе завязаўся пупок. І сыходзілі-вярталіся, калі было куды, калі ацалела ў вёсцы старая хата і дворышча. А калі там, на родным котлішчы, бадыллё парасло, ці чужыя людзі аселі? Тады хоць рукі на сябе накладай ці малі Бога, каб хутчэй смертаньку прысылаў, забіраў да сябе.

Ведалі пра такія выпадкі і Верка з Ганнаю. Здаралася такое — з’язджалі і вярталіся збрыдзелыя гарадскім дзецям і падрослым унукам «нянькі» — і ў іхняй вёсцы, і ў суседніх. Таму і адна, і другая завязалі сабе вузельчык: з роднае хаткі — анікуды і нізавошта. А тым больш, што ні Ганніны дзеці, ні Верчыны іх, мацярок, і не клікалі да сябе. Ды як і куды яны маглі клікаць? Не скалаліся жыцці ў іхніх дзяцей. Амаль ва ўсіх. Нават і ў тых, у каго па першым часе бытта і добра было ўсё.

Вось — Ганніны.

Зінка за сваім афіцэрам шчасця не знайшла. Ганна, папраўдзе, як прадбачыла. Бо дзе ж будзе тое шчасце, калі ўсё пачалося ў Зінкі і ейнага Аляксея з няшчасця? Не з любові ўзаемнай, а з гвалту. З гвалту, пэўна, і дзіцятка нарадзілася няўдаленькае — разумова адсталае. Аляксей і да таго піў, а пасля такое бяды і зусім меру страціў, на службе яго паніжалі, па другіх бабах пачаў цягацца, біў Зінку. Трывала доўга, бо — куды ўцякаць? У родную вёску, да маткі ў хату — не хацела, прывыкла да гарадскога жыцця. Хоць — які там і горад? Пісала маці, што невялікі, голы і пыльны, зімой халодны, а ўлетку спякотны: Аляксей жа звёз яе ажно ў Кіргізію. Ганна так да канца добра і не дацяміла, дзе гэта. Адно ведала: далёка. Бо каб блізка, дык бы Зінка прыехала, а то ж — так вачэй ні разу і не паказала. Ганна сто і тысячу разоў думала-перадумала, шукаючы адказу: чаму? Адно ў галаву лезла: з-за дзіцяткі, з-за свайго калечкі няшчаснага. Не хацела Зінка везці яго за свет белы на паказ.

Развялася яна з Аляксеем. Ён пайшоў да іншай бабы (пакваліпася, не паглядзела, што п’яніца), а Зінка са сваім нязбытным горам-сыночкам засталася ў кватэры. З цягам часу знайшоўся чалавек, прыстаў да Зінкі ў прымы, нейкі не наскі, ці то кіргіз, ці то татарын, але не прыкіпеў сэрцам. Мо таму, што таксама чарку любіў больш, чым каго ці што. Зінка яго сама выгнала. Так і жыла з сынам на сваю скупую зарплату швачкі. Так і жыве, пэўна, недзе. «Так і век свой скончыць на чужыне, нават і перад сконам слова роднага не пачуўшы...»

Думаючы гэтак, не ўкладвала Ганна ў гэтыя словы нейкага асаблівага, патаемнага ці сакральнага сэнсу. Хоць сама сабе і здзіўлялася почасту: чаму гэта ейныя дзеці, як і ўсіхныя, пасля горада гэтак хуценька налаўчаюцца гаварыць не па-наску? Круцілася ў галаве жанчыны і такое пытанне-недаўменне: мо адгэтуль і ўсе беды іхнія, дзяціныя? Бо ўсё, што кажуць не па-свойму, бездушэўнае, акурат душою не падмацаванае і не сагрэтае? Як прыходзіла гэта ў галаву цьмяна, так і сыходзіла неасветленым. Не магла тут дайсці да разгадкі амаль што непісьменная вясковая жанчына Ганна, удава Якімава, хоць, па ўсім, і была блізкая да яе.

Міша, прывучыўшыся змалку ўкалваць, не біў лынды і на сваёй пуцейнарамонтнай рабоце. І зарабляў добра. Мог бы жыць ды песенькі пець, дзетак гадаваць ды жонку шанаваць. Але ж зноў — гарэлка праклятая. Работа, казаў, схіляла. Яно бытта і праўда: не ў цяпле рабіў — на слоце, у сівер і мароз. «Сагрэемся, хлопцы?» — «Давай!» І гэтак ці не штодня саграваліся. Дзе ж тое здароўе будзе? У пяцьдзясят інсульт зваліў, спаралізаваў і мову адабраў. Прамучыўся сам і сям’ю прамучыў амаль тры гадочкі — і памёр. Ганна і на пахаванне не ездзіла — к таму часу ўжо на мыліцах соўгалася.

Анцік жа, жывучы ў вёсцы, і да Мішавых гадкоў не дацягнуў — на сорак шостым даўся. Той самай гарэлкаю захлынуўся. Што ні вёска, дык адны п’яніцы. Рэдка каторы самастойны ды дбайны мужчына. Часам думала, што мо лепш было б, каб Анцік тады не з’ехаў, застаўся тут жыць, ды, спахапіўшыся, толькі горка ўздыхала: наўрад ці ўратавала б яна яго і тут, бо таксама ж — п’яніца на п’яніцы, адны чарнамырдзіны на ўвесь велькі свет.

Дык куды ж ёй было ехаць, да каго, каб хто сказаў? Адна Галя магла б прыгледзець яе да смерці, каб не зваліўся на ейную галаву п'янтос і абібок, наогул паскудны чалавек. У дзікім лесе няйначай гадаваўся, сярод звяр'я-быдла, а не сярод людзей. Галя неаднойчы прыязджала з ім дадому. Ганне зяць адразу не спадабаўся. Трубло нейкае, а не чалавек. І гаворыць-лапоча абы-што, як прыдурак. І жэрці — як не ў сябе. Нанач пры ложку трохлітровы слоік малака кіслага паставіць і да раніцы выжлукціць. А зрабіць што — ні рукой, ні нагой. Ну, але ж калі Галя церпіць, дык мо з ёю ён не такі, мо чалавек? І таму, абязножыўшы, згадзілася Ганна хоць зіму ў Галі перабыць. Ды — не вытрывала і двух тыдняў. Кватэрка малая, аднапакаёвая — куды ёй схавацца ад нямоўчнага гулкага тэлевізара, ад зяцевых мацюкоў і штокрокавых стрэлаў задніцай? Сказала была, дык ён зарагатаў: немцы і за сталом не саромеюцца выпускаць газы, затрымка здароўю шкодзіць. А да ўсяго — бясконца таптаў-тоўк Галю. І ноччу, і днём. Ці на ложак пакоціць, ці на падлогу, заголіць і — таўчэ, як кабель. І яшчэ рагоча: зайздросць, цешча, цябе апошні раз яшчэ пры Сталіне таўклі… Ганна, улавіўшы хвіліну, калі яны засталіся ў хаце ўдзвюх, узмалілася: дачушка, я ж матка твая і жывая яшчэ, як жа трываць, чуць і бачыць такое? Адвязі дадому мяне! Адвязі, дачушка, лепш там у сваім г...е здохну, чым…

Адвезла яе Галя. Усцягнуўшы сяк-так матку на ложак, сказала на развітанне (таксі чакала, часу забавіцца даўжэй не было): даруй, мама, не авечка я, усё разумею, а што зраблю? Пустадомак ён, а пры табе яшчэ й знарок назаляецца, але са мною ён не такі, мяне ніколі і пальцам не кранyў, любіць, кажа, дык што я зраблю? Усё ж мужчына ў хаце, і я з ім не адна, як ты… Прамаўчала Ганна на тое, кіўнула галавою ў знак разумення, а сама пасля са здзіўленнем і нейкім недаверам думала: Галя ж, аказваецца, любіць яго, свайго прыдурка, трубло ненаежнае, і ён яе, пэўна ж, таксама, і яна, хоць і матка, была ў тых каменных сценах проста лішняю. Галя пашкадавала яе, забрала, ды шкадобы тае хапіла ненадоўга…

А вось доля Верчынага «племя молодого». Коля, ейны першынец, згінуў невядома дзе і калі. Пасля арміі паехаў з хлопцамі на «Волга-Дон». Там ці не тры гады прабыў. Адноечы, адзін разочак усяго, прыехаў быў дадому. Верка і абрадавалася — столькі не бачыла сыночка! Але і засмуцілася: гуляшчы яе Коля, цыганскага завадзу, аматар лёгкага хлеба. І чарку, па ўсім, не адхіляе, бо прыехаў, столькі гадоў не быўшы, гол-сакалом. Ні ў чамаданчыку нічога, ні ў кішэнях. Смешна казаць: Верка на зваротную дарогу дала, тайком ад Зойкі. А пасля «Волга-Дона» апынуўся Коля ў Сібіры ажно, паблізу Байкала, пра які і чула, пэўна, толькі з песні. Верка добра й не ведала, на будоўлі ён быў там, ці па тайзе хадзіў з геолагамі, што нафту, газ ды золата шукаюць. Там недзе і прапаў. Ці заблудзіўся і памёр-загінуў у той бяскрайняй тайзе, ці забілі якія бандзюкі-турэмшчыкі, што таксама зляталіся, як мухі на мёд, адусюль, гнаныя прагаю лёгкіх і вялікіх грошай. Прыслалі Верцы паперку, што прапаў «бязвестна» дзе. Як на вайне, хоць аніякае вайны там, здаецца, не было. З гадамі яна й назву горада забылася, адкуль прыйшла тая паперчына. Быў Коля — і няма. Ні следу, ні звання. Як і зусім на свеце не было. Ды гэта каму іншаму, а не ёй, Верцы, якая яго пад сэрцам насіла, грудзямі карміла. Як жа так — не было? Быў яе Коля! Габрусёў пястунчык. Больш нікога з дзяцей столькі і гэтак не гушкаў-калыхаў, з рук не спускаў. А во — няма, як і не было. Балела, ныла ў Веркі сэрца, крываточыла душа. А ўсё пачалося з таго, што свет скруціўся. Ці перакруціўся. Інакш быў бы ейны Коля тут, дома, пры ёй, маці, ці паблізу, і яна б на ўнукаў, дзяцей ягоных, сварылася б, ласунка б ім давала. Дык жа во: як і не было…

Пецька і Міця — як пагодчыкі, хоць між імі было амаль два гады розніцы. Заўсёды разам. Калі й малыя былі. А падраслі — дык вадой не разліць. Адзін за аднаго гарой стаяць, хто што ўчыніў — не дабіцца-дапытацца. Гэтак дружненька і па жыцці ішлі, адзін аднаго даганяючы, адзін аднаго падганяючы. Але ж каб на дабро! А то ж ці не найдружнейшыя — за чаркай, трасцу б на яе! А дзе чарка, там і сварка, там і нелады ў сям'і, і непарадак у хаце. І жонкі добрыя, цярплівыя, рабацяшчыя, і дзеці дарэчныя, паслухмяныя, а яны ўсё адно чарцы моляцца. Унукі пайшлі, дык жа і гэта іх не спыніла: штодня — пляшка. На гарэлку — дудкі, жонкі не дадуць, а на таннае «чарніла» — выстранчаюць. Пецька і Міця і самі ўжо больш да «чарніла» ласыя, чым да гарэлкі, на гарэлку ўжо здароўя няма: у абодвух і страўнікі язвамі пабітыя, і ногі-рукі артрытам пакручаныя, але ўсё адно задзіраць лычы і куляць у свае гарлачы не забываюцца, не адвыкаюць. Вось і спытай, у каго з іх — у Пецькі ці ў Міці — ёй месца ёсць? Ага, ёсцека! Самі Пецька з Міцем уцяклі б, каб было куды, са сваіх двухпакаёвак. Во, памрэ яна, Верка, дык ці адзін, ці другі мо і вернецца ў бацькаву хату веку дажываць...

Адзінае дзіця, у каго ўсё добра, гэта ейная паскрэбка Зойка. Хоць і рана выскачыла за свайго Юрку, а не памылілася. Юрка і дзяцей, і яе на руках носіць. Расцвіла Зойка за такім мужам — не пазнаць было. Уся, як цукерачка. І ўкормленая, і дагледжаная, апранeная — на зайздрасць усім. Бытта не за фельчарам, а за самім доктарам замужам, як бытта і сама ўжо што ні ёсць доктарка, усё сяло ёй «выкае», па-бацьку завуць, не інакш. І з дзеткамі пашэнціла. Троечка ў іх з Юркам, два хлапцы і дзяўчынка, і ўсе трое ў студэнты патрапілі, прафесіі набылі, робяць у гарадах, няхай сабе і не ў Мінску, а бліжэй, у Пінску і Брэсце, але ж і яны — не вёска, не трэба ні аб дрывах рупіцца, ні аб вадзе, ні мыцца ў начоўках ці ў тазіку.

От Зойка магла б яе забраць да сябе. І яна, Верка, пагадзілася б. Адно замінае — далёка. Дармо, што Зойчын Юрка машыну мае — усё адно далёка. Амаль тры сотні кіламетраў. Аднаго разу Верка была ў дачкі. Наважылася, рашылася — і з'ездзіла. Але толькі адноечы. А Зойка — прыязджала. І адна, і з Юркам, і з дзецьмі. Ужо і ўнук у яе ёсць, але яго Верка, што праўда то праўда, не бачыла яшчэ, толькі на фотакартцы, ды, дасць Бог, пабачыць. Калі ён злітуецца ды падкіне ёй гадок-другі…

Адсюль ужо блізка і да эпілога аповеду.

Жылі побач, цераз вуліцу, хатамі вокны ў вокны, Ганна і Верка. Недзе з канца шасцідзясятых савецкага веку — ужо адны, совамі ў сваіх чатырохсценавых дуплах. Было, што й сварыліся. Тады, калі яшчэ былі дужыя, трымалі розную жыўнасць, ураблялі соткі і яшчэ сяды-тады, падахвочаныя брыгадзірам, хадзілі на працу ў калгас — от хоць бы сабе вясною перабіраць бульбу ў капцах.

Ды паступова старэлі і слабелі. Першай здала Ганна: падвялі ногі. Пачалі спачатку балець-ныць у ступнях, у костачках, пасля і ў каленях, і ў клубах. Не адзін раз забірала яе «хуткая» ў бальніцу ў раён, дзе за два-тры тыдні ставілі бабу на ногі. Не надта каб вылечвалі, але ж — хоць на нейкі час рабілі Ганне палёгку, не сама па сабе, а з кійком, але магла соўгацца па хаце, выпхнуцца пры патрэбе на двор. Ды ненадоўга трывала тае палёгкі. Неўзабаве боль зноў скоўваў суставы, ды так, што і дзве мыліцы пад пахамі не вельмі памагалі: хоць кладзіся ды памірай. Тады Верка, якая неўпрыкмет сталася ейнаю памочніцай-ратоўніцай, зноў выклікала «хуткую».

Суседка з некаторай пары, як знячэўку вельмі абвастрылася Ганніна хвароба, заходзіла да яе ці не штодня. Папраўдзе — кожан дзянёк. З цягам часу — як да сябе дамоў, ужо лепш за недалэнгу-гаспадыню ведала, дзе і што ў яе

ляжыць, што трэба зрабіць, прынесці-вынесці. І страву якую-небудзь Ганне варыла. Спачатку ў ейнай печы, а пасля — дома: што сабе, тое й Ганне.

Неяк не стала дома на самоце есці — за саганок ды да Ганны: разам паснедаюць. А Ганна вазьмі ды пакажы вачыма на паліцу, дзе пляшка рускагоркай стаяла. Верка ведала, дзе яна і для чаго: Ганна гарэлкай сябе падлечвала. Каўтане раз-другі — вось ужо нібыта і лацвей ёй, не так боль даймае. За тым сняданкам яны разам па некалькі напарсткаў глытнулі. І з таго разу як павялося: ці снедаюць, ці вячэраюць разам — па грамульцы гары возьмуць. Так пакрысе ды памалу і ўцягнуліся. Ат, колькі таго жыцця, ды такога, што хай яно спрахне, — давай, суседка, адкаркоўвай ды налі па кроплі… Ім, старым качарэжкам, горш ужо не будзе, хай маладзёны пабойваюцца, што сап'юцца, а ім такая доля ўжо не пагражае…

Не год і не два больш ляжала Ганна, чым хадзіла. І пакідала сваю хату ненадоўга: адно на час, калі ў бальніцу забіралі і калі ў Галі пару тыдняў пабыла-памэнчылася. Увесь жа астатні час — у сваіх сценах, у кампаніі з Веркаю, хай ёй Бог здароўя дае. Бо калі б не Верка, яна, Ганна, даўно б спруцянела. Ці звар'яцела б ад самоты. Бо хто б калі зайшоў да яе, каб не Верка? Няма нікога. Вёска вымерла. А тыя, што панаехалі, — што яна ім? Во, хіба адна Манька Дудзікава заглянула б. Ды й то наўрад. Гэта яна цяпер зачасціла, п'янтоска тая, каб на дармаўшчыну чарку кульнуць. Дачулася, валацуга, сучка падплотная, што яны з Веркай ратуюцца чаркаю, дык — заявілася, госця няпрошаная. Ёй, ці бачыце, закарцела пабачыць, як яна, Ганна, тут адна абязножаная, мо калі б што ці ў чым памагла б і яна, Манька…Ага, так Ганна ёй і паверыла! Нехта ад Манькі помачы дажджэцца!..

Прыйшоў дзень, калі Ганна, як ні намагалася, як ні ківалася сюд-туд, а не змагла злезці з ложка, нават сесці не здолела. Заплакала ад бяссілля, слухаючы, як цячэ-расплываецца пад ёю цёплая лужына. Невыносны боль у руках не даў ёй падняць сябе ды хоць троху ссунуцца з ложка і тады, калі прыспічыла другая, большая патрэба. Закідалася, заёрзала Ганна па пасцелі, хапаючыся рукамі і зубамі за коўдру і прасціну, ды нічога з ейных сутаргавых высілкаў не атрымлівалася. І тады яна адкінула галаву на падушку і нема зараўла-завыла, дзіка і вусцішна, бытта паранены звер, заенчыла-заскуголіла…

Верка няйначай як пачула гэты роспачны енк суседкі, бо ў хату не зайшла, шлэпаючы нагамі і цяжка дыхаючы, а бадай што спрытна, як у маладосці, заскочыла. З парогу — па смуродзе — здагадалася пра Ганніну бяду, але, бы яшчэ сумняваючыся, перапытала: «Пад сябе? А каб цябе пранцы ўзялі! Яшчэ й гэтага не хапала! Ці ж я табе рады дам — такую калоду варочаць?!»

Рады Верка дала. Адкульнула Ганну да сцяны, выграбла з-пад яе прасціну, выкінула за дзверы, пасля падаслала кавалак плёнкі, што некалі запасліва куплялася Ганнаю на цяплічку, сяк-так абмыла суседку, пераапранула. Расчыніла і акно, хоць ужо бралася на холад — канчаўся кастрычнік. Снедаючы прынесенаю з сабою ўжо халоднаю яечняй, Верка, звыкла кульнуўшы чарку, куснула не так зубамі (іх амаль не засталося), як дзяснамі, хлеба, мацюкнулася: «Храновыя дзялы, падружачка! Зусім храновыя… Паміраць трэба!..»

Ганна не пакрыўдзілася. Сказала на тое спакойна, пагаджальна: «Трэба, Верка. Не сёння зразумела гэта. Каторую ночку, намагаючыся і не могучы заснуць, уталопіўшыся ў столь, прашу ў Божанькі смертачкі, каб скончыў мае пакуты, асушыў мае слёзанькі горкія ды няўцешныя…»

І акурат тым днём прыехала да Ганны Галя. Паплакала, учуўшы, пэўна, невынішчальны нічым пах цяжкахворага чалавека, заявіла: «Паедзеш, мама, да мяне; і не круці галавой — паедзеш; прыдурка майго няма — прапёрла дар-

маеда; так што будзем з табою ўдваёх — як некалі, помніш? Ты ў мяне яшчэ акрыяеш, мо й на ногі станеш, хоць з мыліцаю; да доктара завязу цябе, каб паглядзеў, добрых лекаў выпісаў…» І нечакана загаласіла: «Даруй мне, мамачка, калі можаш — даруй…»

А неўзабаве прыехалі ў вёску і Зойка з Юркам і забралі з сабой Верку. Яна паспрабавала ўпарціцца, артачыцца, але дачка і зяць не саступілі: на парозе зіма, мама, адной табе тут заставацца непанадна, адным словам — збірай манаткі…

Памёрлі яны аб адным годзе — у 1993-м. Час быў небагаты, але светлы, поўны добрых спадзеваў і ўзнёслых памкненняў. Зрэшты, Ганну і Верку гэта мала кранала. Іх жыццё — аднае і другое — прайшло ў іншым, савецкім часе, усё — ад маладосці да старасці, і памяць вяртала ім не толькі благое, але й добрае, звязанае найперш з маладою парою, з іхняй вясною і лецейкам. У рэшце рэшт наўрад ці думалі яны асабліва пра сябе. Думкі іх большай часткай круціліся вакол дзяцей і ўнукаў, якія, спадзяваліся, будуць жыць усё ж лепш, чым яны. Ну, калі не дзеці, дык унукі — душа вон, а — лепш! Бо нашто ж тады яны ўвогуле жылі на гэтай грэшнай — і святой жа! — зямлі…

Абедзве яны пахаваліся не дома. Ганна — недзе пад Мінскам, на нейкіх з новых сталічных могілках. А Верка — на Піншчыне. Ні адну, ні другую дадому, на дзядоўскія вясковыя клады, дзеці не прывезлі. Маўляў, хай мама будзе там, дзе і самі некалі ляжам, і дзеці, унукі ейныя, прыйшоўшы ў адведкі да нас, адведаюць і бабулю.

А хаціны іхнія ў вёсцы яшчэ стаяць. Занядбаныя. Вёска — за нейкае паўсотні кіламетраў ад сталіцы, і на пахіленыя ад часу і недагляду хаты не адзін раз знаходзіліся пакупнікі. Не так, вядома, на самі хаты, як на пляцы зямлі пры іх. Але спадкаемцы Ганны і Веркі хат не прадаюць. Вычэкваюць зручнейшага моманту, калі і гэтае гнілле пацягне на тысячы зялёных? Ці ж дачакаюцца? Заваляцца, абрынуцца самі ці па загадзе з сельсавета, як шматгадовыя бяздоглядныя аб'екты. І не застанецца ў вёсцы аніякае памяткі-следу ад дзвюх суседак, што жылі тут блізу ад пачатку да амаль канца XX савецкага веку — раджалі і гадавалі дзяцей, працавалі дома і ў калгасе, нудзіліся і сумавалі, зрэдку — сяды-тады надаралася нагода ці прычына — весяліліся, а больш гаравалі, мучыліся і пакутавалі і ўвесь час немаведама на што спадзяваліся.

Ды — ці ж спадзяваліся? Слова гэтае напісалася, бадай, машынальна. А як жа інакш? Чалавек колькі жыве, столькі і спадзяецца на нешта. Без спадзеву — якое ж жыццё? Гэта нават не існаванне — смерць: адна яна не пакідае нікому аніякага спадзеву ўжо ні на што.

Дык от жа самае і страшнае ў тым акурат, што ў Ганны і Веркі, як і ў тысяч іншых, спадзеў быў адабраны. Ці, калі папраўдзе, забіты. Страхам, галотаю, прыніжанасцю, загнанасцю, бяспраўем, бяссіллем, суцэльнай беспрасветнасцю. На ўсё ёсць уласць. Не Боская — Савецкая. Самая справядлівая і самая добрая на свеце. Яна нікога не дасць у крыўду, нікога лішне не абдорыць і нікога зусім, каб ні макавіны, не абдзеліць. Усім кепска, цяжка жывецца, кожны б'ецца рыбаю аб лёд, дык чаго ж ёй, Ганне ці Верцы, выстарчаць? Каб льга было, дык, пэўна, уласць бы распарадзілася ўсім зрабіць палёгку. Яна ж, уласць, для народа, не для чорта лазатага, гэта ўсе ведаюць, у любога дзіцяці спытай, не тое што ў сталага чалавека.

У Ганны і Веркі так і не раскрыліся вочы ўбачыць праўду, не дайшло ў іх да разумення таго, што ўласць рупілася найперш менавіта пра самую сябе. Найбольш яскрава выявілася гэта ў пачатку — спадзеўным на здзяйсненне спаконвечных беларускіх мараў на незалежнасць і дзяржаўнасць і аднačасова

грабежніцка-рабункавым — 1990-х. Ды гераіні майго так, папраўдзе, і ненапісанага аповеду тым часам былі ўжо занадта старыя і занадта змардаваныя гадамі атупляючай нечалавечай працы, каб убачыць свае жыткі ў іншым святле і адно зжахнуцца ад роспачы і горычы — паправіць што-небудзь у іх ужо аніяк не выпадала. Яны і ў лепшы свет адышлі без гэтага разумення.

Адышлі такімі, якімі былі: звычайнымі савецкімі вясковымі бабамі. Нават бадай што шчаслівымі. Ну няхай небагата жылі, золата ці хоць бы й папяровых грошай не накапілі, але ж ужо й зрэбнага, можна сказаць, не насілі, як бацькі ды дзяды іхнія, у апошнія, старэчыя гады ўжо й не галадалі, дзякаваць богу, і дзеці, каб не гарэлка праклятая, маглі б жыць-пажываць ды дабра нажываць…

Чаго ж мне гэтак маркотна, горка і вусцішна ад згадак пра іх, маіх Ганну і Верку, пра іх уласныя лёсы і лёсы іхніх дзяцей?..

## ВЕЧАРОВЫЯ МРОІ

### Элегія

Ён ужо даўно пачуваўся блага: кружылася галава, цямнела ў вачах, ныла і пабольвала ў грудзях, адольвала санлівасць. Раніцою не хацелася ўставаць — ляжаў бы, здаецца, ды ляжаў. Бо пакуль ляжаў, нішто асабліва не турбавала. Але досыць было спусціць ногі долу і сесці, як тут жа навальвалася нейкая заўсёдная стомленасць, некамфортнасць і, наўздзіў, санлівасць, быццам і не спаў зусім. А спаў жа, прытым досыць спакойна, нямала, добрых восем гадзін, мо нават і з гакам. З нейкае пары пачаў уставаць пазней, чым тады, калі хадзіў на працу. Хоць спяшацца і тады не было пільнай патрэбы, рабочы дзень пачынаўся ў іх усё яшчэ па савецкай звычцы а дзясятай раніцы, аднак жа да дзевяці, як цяпер, у ложку не ляжаў, у сем абавязкова быў на нагах. Калісьці, памятае, нават пасміхваўся са старых, што кладуцца разам з курамі: сшарэла — і на курасадне. Цяпер жа хоць з самога сябе смейся. Ну, хай не з курамі кладзецца, дык жа і не ўстае разам з імі. Стары чалавек, аказваецца, любіць паспаць гэтак жа, як і дзіця: не будзі яго, дык да паўдня праваляецца. І ў гэтым, мусіць, адзнака тае слушнае заўвагі, што чалавек пад старасць дзяцініцца.

Старасць жа звалілася на яго нечакана, як знячэўку. Не, ён асабліва не маладзечыўся, не зухаваціўся, як бычок-трацячок, але і старэчай кволасці — такой хуткай і, галоўнае, такой раптоўнай — усё ж не чакаў. Састарэў ён, лічы, аб адным годзе. Хваробы сяды-тады адольвалі і ў семдзесят, але хадзілася яшчэ досыць лёгка, і завіхаўся на лецішчы з рыдлёўкай ці сякерай таксама не цераз сілу, па-старэчы не ўкленчваючы, не апускаючыся на карачкі. А стукнула семдзесят два — і ўсё як абарвалася. Задышкі асаблівай, каб язык высалопліваўся, яшчэ, дзякаваць богу, няма, але ногі ўжо цяжкавата ад зямлі адрываюцца, усё больш соўгаюцца па ёй, а не ступаюць, і ў грудзях камень лёг, і паясніца спруцянела — ні нахіліцца, ні разагнуцца, і ў галаве самалёты гудуць — кружаць і кружаць, і ніяк адляцець не могуць. А ў дадатак да ўсяго — аглух. Ну, не зусім каб ужо нічога і ніадкуль, але і ў дзяцей перапытвае, калі што да яго кажуць, і ў жонкі, і ў краме ці на вуліцы дзе. Самае прыкрае, што тэлевізар не можа глядзець. Выходзіць, як у тае лісіцы з вінаградам: бачыць вокам, а на зуб узяць не можа. Гэтак і ён перад тэлевізарам: карцінка ёсць, ды нямая. Здагадвайся ці думай што хочаш. А тэлевізар жа, пры ўсёй дурноце таго, што паказвае, адзінае акенца ў свет, бо газет, хоць яны таксама пустыя, забаўляльныя ад пачатку да канца, чытаць не выпадае — грошай на

іх не выстарчае, сёння газета не капеек ранейшых вымагае, а тысяч і тысяч, хай сабе і драўляных.

Сталася так, што развітаўся ён з працаю ў пярэдадзень зімы, калі дачны перыяд скончыўся, вось і вымушаны днямі аціраецца ў гарадской кватэры. На вуліцу выходзіць асаблівай патрэбы няма, ды і неахвота: зіма, хоць і не надта суровая апошнім часам, усё ж не самая камфортная пара года. На доўгі шпацыр, ці хоць бы невялікую праходку сюд-туд не вабіць. Якая там праходка, калі то слізготна, то непрыступна з-за намеценага снегу: ідзеш бы па пяску-сыпуну. І работы хатняе, лічы, аніякай: ну, хіба бульбы начысціць жонка папросіць ды смецце вынесці. Калісь думаў, што на пенсіі будзе чытаць — дабярэ тое, што не дабраў у маладосці і сталасці. Дык жа не! Сённяшняе літаратурнае чытво яму не па душы, часта яно проста агіднае, а да класікі вяртацца не хочацца. Яна — як першае каханне, добры, салодка-шчымлівы, трошкі сумнаваты ўспамін, які заўсёды з табой. Але абудзіць яго, а тым больш вярнуцца туды немагчыма, дый не трэба, час — катэгорыя незваротная. Хай яна, класіка, і застаецца добрым успамінам. Адзіны занятак — тэлевізар. Як уключыць зранку, так цэлы дзень і свеціцца-мільгае. І ён цэлы дзень перад экранам сядзіць, як Буда. Не так глядзіць, як дрэмле. Альбо думае. Хоць — якое там думанне? Ні пра што пэўнае ці канкрэтнае. Пра абы-што. То адно набяжыць, згадаецца знячэўку, то другое, і ўсё круціцца, круціцца ў галаве, абарвецца, а пасля зноў усплыве.

Часцей жа за ўсё, бадай што, неадступна круціцца там думка пра блізкі ўжо канец, пра хуткі і непазбежны фініш. Не хочаца яму паміраць. Боязна. Нават вусцішна. Амаль як у дзяцінстве, калі ніяк не мог даўмецца, чаму гэта чалавека закапваюць у ямку. Быў аднаго разу на могілках у час пахавання, дык увесь час трымаўся за матчыну руку — гэтак яму было страшна. Асабліва пасля таго, як зазірнуў у яму і ўбачыў, якая яна глыбокая. Гэтак і цяпер. Быццам ён не стары, з пэўным запасам ведаў і вопыту чалавек, а тое ж неразумнае хлапчанё, што ўпершыню пабачыла, як хаваюць нябожчыка. Уявіць, як будуць зачыняць і зашчэпліваць вечка труны і апускаць яе разам з ім у глыбокі дол, як будуць падаць, бухаць па вечку груды зямлі і пяску — і ажно скаланецца, ажно нейкі непрыемны холад усё цела наскрозь пратне. З перапуду расплюшчыць вочы, галавой крутне, каб страсянуць з сябе тое жахлівае ўтрапенне-здранцвенне.

Каб неяк прыйсці да раўнавагі, пачне думаць аб тым, што ён жа не першы і не апошні, што ўсім людзям на зямлі наканавана такая доля — жыць і памерці, што ў гэтым і заключаецца ўся мудрасць і філасофія бясконцасці жыцця. Розум падказвае з усім гэтым пагаджацца, вядома, а душа — не прымае. Як жа ж гэта так? Дзеля чаго тады наогул даецца чалавеку жыццё? Расце ён, вучыцца, набіраецца ведаў і вопыту, нечага дасягае ў жыцці, а разам з тым і пэўнае павагі, значнасці, нават нібыта й нейкае сваёй незаменнасці, — і ўсё гэта ў рэшце рэшт псу пад хвост? Памрэ — і ўсяму таму капцы? Дык дзеля чаго тады ўсе гэтыя камедыі, трагедыі, фарсы і вадэвілі чалавечага жыцця? «Пладзіцеся і размнажайцеся!» — падказвае памяць. Дык жа гэта жывёльная наканаванасць, — пярэчыў без асаблівае перакананасці. А чалавеку, істоце разумнай, павінна была б быць нейкая іншая доля. І якая ж? Адказу не знаходзілася. А страх не адступаў.

Калісь ён любіў пры нагодзе паўтараць словы аднаго мудрага старажытнага грэка: «Усё сваё нашу з сабой». Неяк і цяпер прыбегла да яго гэтае выслоўе. І нечакана для сябе спалучыў яго з тым самым фатальным і жахлівым фінішам. У чым, думаў ён, уся жахлівасць смерці? У роспачлівай, нічым не суцяшальнай шкадобе: яго не будзе, а ўсё застанецца. Цяпер жа неспадзявана падумалася: а ці так гэта? Чалавек у жыцці ўсё сваё носіць з сабой.

А ў час смерці ён усё гэта сваё забірае з сабой. Усё набытае і ўсвядомленае ім. Увесь гэты свет прыроды і людзей, які ён цягам жыцця спазнаваў і які адклаўся, адбіўся ў ягоных розуме, свядомасці, памяці і ўяўленнях. Гэта быў ягоны і нічый больш свет. Толькі ён і ніхто больш бачыў, успрымаў, адчуваў яго акурат такім. Для некага ж іншага быццам той жа самы навакольны свет быў, само сабою, іншым. І калі гэта сапраўды так, дык тады няма чаго шкадаваць: ты ж са сваім светам не развітваешся, ты забіраеш яго з сабой. А ў тым «не тваім» свеце ты пакінеш сёе-тое матэрыяльнае (хату, скажам), што на самай справе не надта і тваё, бо належыць яно і яшчэ каму-небудзь (скажам, жонцы, дзецям). Пакінеш ты ў тым свеце і сваіх дзяцей, унукаў — свой працяг і працяг свайго роду. Вось табе і здзяйсненне лозунгу: «Пладзіцеся і размнажайцеся!»

Розум з гэтым пагаджаўся, здаецца, вельмі ахвотна, аднак жа хацелася, каб і душа гэтым супакоілася. А яна ўпарцілася, супраціўлялася, не пагаджалася і па-ранейўаму трымцела — страх не адпускаў. І тады ён стараўся перакінуць думку на што-небудзь іншае. Няхай сабе нават на нешта зусім неістотнае, адно каб выбавіцца хоць на нейкі час з гэтага гнятлівага, проста невыноснага стану.

Гэтак ён аднаго разу знячэўку прыгадаў дзеўчанё, напатканае ў разанскай вёсцы амаль паўвеку назад. Тады яго забралі на вайсковыя зборы і завезлі нечакана ажно на Разаншчыну, на бераг Акі. Тры месяцы ён быў там, у летніх лагерах нейкае вайсковае часці, дзе сабралі хлопцаў і маладых мужчын, малодшых афіцэраў запасу, з усяго былога Саюза. Усе былі з вышэйшай адукацыяй, тым не менш духоўныя запатрабаванні ў вольныя ад вучобы гадзіны зводзіліся часцей за ўсё да банальнай выпіўкі ды танцаў у клубе суседняга вялікага, на некалькі кіламетраў уздоўж ракі, сяла. У тым вясковым клубе і пазнаёміўся ён са згаданай дзеўчынёхай. Маладзенькай, яшчэ школьніцай (восенню павінна была пайсці ў дзясяты клас), масквічкай, прыехаўшай на лета ў сяло да бабулі.

Чаго раптам узгадалася тая рыжанькая, не надта паглядная, у круглых металічных акулярыках, з дзвюма тонкімі коскамі дзяўчынка? Невыпадкова, не сама па сабе. Уткнуўся быў носам у нейкі фільм на экране. Пачатку не бачыў, але чамусьці стаў глядзець. Нейкая чарговая банальная кіношная гісторыя, але ж яна акурат банальнасцю і прыцягвала. У фільме маладое дзяўчо закахалася ў сталага, нават пажылога ўжо артыста. Вакол гэтага і было ўсё досыць лоўка закручана. Але ён раптам злавіў сябе на тым, што сочыць не за разгортваннем падзей, а адно за паводзінамі маладзенькае кіношнае гераіні: як яна смяецца, абураецца, капрызіць, злуецца, плача. І нечакана даўмеўся, што робіць гэта таму, бо яна яму кагосьці нагадвае. Тую разаначку ён ці ўспамінаў калі-небудзь, начыста, можна сказаць, забыўся на яе, і з гэтае прычыны не адразу датумкаў: каго? І толькі тады, калі экранны герой, шкадуючы і спачуваючы закаханай у яго юнай асобе, амаль па-бацькоўску абняў і пацалаваў яе, яго апякла згадка пра тое ягонае зборнае лета і пра рыжанькае дзяўчо ў сяле над Акою.

Зрэшты, калі папраўдзе, апошнім часам яму часта нібыта і беспрычынна прыбягалі ў галаву самыя нечаканыя, але, дайце веры, акурат такія згадкі, звязаныя нейкім чынам з дзяўчатамі ці жанчынамі, якіх колісь страчаў ці ведаў. Мусіць, і гэта пазнака таго самага старэчага здзяцінення. Бо інакш чым гэта вытлумачыць? Ён жа не наракае на свой лёс. Пражыў нібыта нармальнае, не пустое, сумленнае і па ўсіх параметрах, як кажуць, шчаслівае жыццё, здабыўшы людскую павагу і любоў сямейнікаў — жонкі, дзяцей, унукаў. Шкадаваць аб чымсьці не выпадае, здаецца. Думаць, што лёс мог скласціся неяк інакш

і пакіраваць яго нейкім іншым шляхам, не было падстаў. Прычынаю, вядома ж, мог быць адно ўзрост. Старасць ёсць старасць, і яна, само сабою, не самы лепшы час чалавечага жыцця. Сёй-той нават кажа, што чалавек пад старасць не становіцца ні разумнейшым, ні дабрэйшым. Мо акурат наадварот: робіцца зласлівым, зайздрослівым, нецярплівым, няўступчывым, незгаворлівым, капрызлівым. Ён, бадай, пагаджаўся з гэтым, хоць і не хацеў думаць так пра сябе. Тым не менш, не-не дый зазначаў з сумам, што добрага старэчага спакою і разважлівасці яму, на жаль, нестае. Вось і гэтыя нечаканыя і не надта дарэчныя згадкі. Сёння, у ягоныя гады, думаць пра нешта такое смешна і сорамна, мо нават брыдка. Ну скажы каму: згадалася дзеўчынёха, якую бачыў трычатыры разы і з якою тыя тры-чатыры вечары пабалакаў, прытым крыху на падпітку, абы пра што амаль пяцьдзясят гадоў таму назад! Той хтосьці толькі пасміхнецца ды пацісне няўцямна плячыма. А яму вось ад тае згадкі чамусьці трошкі і ніякавата, і нават ці не сумнавата. Мо гэта проста жаль па сабе — колішнім, ранейшым, маладым, калі быў лепшым, дабрэйшым, шчырэйшым? Калі быў ахвочым і здатным на нейкія добрыя парыванні і летуценні?

Ён не любіў танцаваць, бо не ўмеў. І хадзіў на танцы толькі, як кажуць, за кампанію: хлопцы ідуць, а ён што — лысы? Гэтак і тады, у часе тых збораў. Ён ці сядзеў дзе-небудзь у куце ў клубе, ці стаяў на ганку, курачы цыгарэту за цыгарэтай. Неяк, вярнуўшыся пасля перакуру ў клуб, прысеў на вольнае месца побач з той школьніцай. Пра нейкае заляцанне і думкі не было: ён ужо быў ці не «польскім кавалерам» — было амаль дваццаць сем, а тут — нейкае шаснаццацігадовае дзяўчо, па-сутнасці дзіцянё. Прысеў побач, бо не было больш нідзе вольнага месца.

Праўда, на дзіцянё суседка не вельмі выдавала — аформленаю дзеўчынёха была, досыць спелаю. Пра тое, што школьніца, мо толькі адны коскі і гаварылі, бо ўсё астатняе... Ды што пра астатняе! Не было яму да таго аніякага клопату. Ну сядзіць побач, дык і сядзіць. Ён наогул не надта зважаў там на дзяўчат. Хлопцы, каторыя памаўзлівыя, нюхам чулі, да каторай латвей падлабуніцца. А дзеўкі там, трэба сказаць, былі не сарамлівыя, звыклыя, прыручаныя, штолета ў іх на танцах такіх кавалераў-запаснікоў — на адну па двое-трое. Ён, на тую пару халасцяк і зусім нявопытны ў амурных справах, паспрабаваў быў затрымаць адну, ды наткнуўся на рашучы і цалкам празрысты адпор: маўляў, усе вы ласыя на адно, а каб замуж узяць — дык ніводны. Ён і адышоўся моўчкі, не знайшоўшы слоў, бы злодзей злоўлены, бо, само сабою, пра ніякі «замуж» не думаў. Пасля таго махнуў на разанскіх дзевак рукой: не па ім гэтая лоўля выпадковых і скараспелых уцех. Ён пойдзе з хлопцамі і ў наступную суботу на танцы, але проста так, дзеля прыліку, каб не заставацца дэманстратыўна аднаму ў палатцы.

Не зважаў ён на суседку-дзеўчынёху. А яна вазьмі ды ўрэшце сама спытай у яго, колькі часу. Ён, вырваны з задумення, схамянуўся і адказаў знячэўку гэтак, як прывык, — па-беларуску. Яна паглядзела на яго, хацела, пэўна, перапытаць, бо было відаць па твары, што не адразу датумкала, колькі гэта — чвэрць на дванаццатую, але спытала пра іншае: адкуль ён прыехаў на зборы? Ён, не тоячыся, адказаў: з Беларусі. А канкрэтна адкуль? З Мінска. А Мінск вялікі горад? У параўнанні з Масквой — невялікі, а так — немалы. Прыгожы? Самы лепшы ў свеце! Кожны кулік сваё балота хваліць!..

Вось так і разгаварыліся. Даведаўся ён, што яна з Масквы, праўда, не з самой сталіцы, а з нейкага яе прыгарада, што гэта бацька яе родам адсюль, з гэтага сяла, дык яна тут, можна сказаць, і вырасла, і цяпер кожнае лета ў бабулі — загарае і плавае да самай школы. Жвавае аказалася дзяўчо, гаварлівае.

Прызналася, што танцулькі тутэйшыя ёй не даспадобы, у клуб прыходзіць адно паглядзець, а яшчэ — ад бабулі адпачыць, ад яе натацый і нараканняў на свой цяжкі, неспагадны лёс. Папыталa, чаму ён не выходзіць на круг, зазначыўшы, што ні разу не бачыла, каб танцаваў. Ага, пажартаваў ён, значыць сачыла? Дзяўчо фыркнула: гэтага яшчэ не хапала, надта трэба! Ён засмяяўся: калі зазлавала, дык і праўда сачыла. Суседка яшчэ больш надзьмулася, але не ўсур’ёз, бо неўзабаве зноў павярнулася да яго, гэтым разам ужо не з пытаннем, а з просьбаю: каб ён сказаў ёй што-небудзь па-беларуску, бо ўкраінскую мову можна сяды-тады пачуць, нават па радыё ці з тэлевізара, а як гучыць беларуская — ёй чуць не даводзілася. Ён быў (і застаўся) з тых не надта шматлікіх так званых свядомых беларусаў, якія не развіталіся з родным словам і пасля пераезду ў горад, і таму зірнуў на акулярыстае дзяўчо ўжо з большай павагаю: і гэта яна заўважыла, і гэта ёй цікава? Пра апошнюю несправядлівую для беларускай мовы акалічнасць ён і сам неаднойчы думаў. Украінізмы часта надараліся чытаць у кнігах рускіх пісьменнікаў, часта яны гучаць і ў фільмах. Беларусы ж у гэтым плане чамусьці пакрыўджаны, абыдзены такой увагай. Па нейкіх моўных адзнаках беларуса ў тых самых кніжках ці кіно не пазнаць, не выяўляе ён сябе адметнасцямі сваёй гаворкі. Ну, дык то яму, беларусу, муляе, мо нават і баліць, а што да таго ёй, шаснаццацігадовай разанскай масквічцы? Гэта яго не проста зацікавіла, а трошачкі нібы і ўзрушыла, і ў адказ прачытаў ёй штосьці кароценькае з Купалы ці Багдановіча. Дзяўчо ажно войкнула ад здзіўлення: маўляў, як цікава, зусім незразумела, амаль гэтак жа незразумела, як і па-польску. І тут жа зусім не па-школьніцку зазначыла-спытала: чаму ж тады ўсе думаюць, што беларусы — гэта тыя ж рускія, толькі яны жывуць у Беларусі, і мова іхняя амаль тая ж руская? Ён зноў пасміхнуўся, нібы радуючыся за дзяўчо: сур’ёзна ставіць пытанне. Адказаў таксама сур’ёзна: бо некаму гэта трэба, некаму гэта выгадна — ствараць такі міф пра беларусаў. Яна ўскінула на носе акулярыкі: каму, маўляў? Ён адказаў не адразу. Разануць праўду-матку? Такога ён не мог сабе тады дазволіць. Тым часам боязна было гэтак нават і думаць, не тое што гаварыць. Ды й дзяўчо гэтае мог бы страшэнна напалохаць такім адказам. Трэба было дыпламатнічаць. Сказаў штосьці кшталту таго, што гэта доўгая і даўняя гісторыя, якая пачалася не сёння і не ўчора, што пытанне гэтае вельмі і вельмі няпростае і што наогул тут не месца гаварыць пра яго...

Тады ён першы раз і правёў яе з танцаў. Ну, не правёў — прайшоўся з ёю да хаты ейнае бабулі, балазе не так і далёка ад клуба. А калі праз тыдзень ён зноў сядзеў у клубе, дык яна, угледзеўшы яго, ужо сама падышла і села побач. А пад канец танцаў ён зноў прайшоўся з ёю да бабулінай хаты.

Гэтак усталявалася між імі нешта накшталт дружбы. Яны ўжо не заседжваліся ў клубе, а шпацыравалі сюд-тут па сяле, альбо сядзелі ў двары ейнае хаты на лаўцы. Бабуля спала, ведала, што ў двары з унучкаю бяды не здарыцца, і, здаецца, нават ні разу не зрабіла спробы высунуцца ў акно ці выйсці на ганак, каб зірнуць, з кім там яна бавіць такі позні час, ажно абночваецца.

Пра што яны гаварылі? Калі шчыра, дык пра абы-што. Яна расказвала нейкія досыць дзіцячыя гісторыі пра сваіх школьных сяброўак, пра кніжкі, якія чытала, пра тое, як аднойчы ледзь не ўтапілася, заплыўшы амаль на сярэдзіну Акі, на самую быстрыню. Пра Маскву распавядала мала, і ён зразумеў неўзабаве, што яна адно выдае сябе за масквічку, а на самай справе бывае ў сталіцы гэтак жа, бадай, рэдка, як і ён, аддзелены ад яе сотнямі кіламетраў. Ён жа чытаў ёй вершы, найперш беларускіх паэтаў, нават, сорам цяпер прызнацца, ціха, каб не прыцягваць лішнюю ўвагу, спяваў, а папраўдзе больш

наспеўваў беларускія песні, пераважна народныя, прыгадваў сякія-такія здарэнні альбо цікавыя сустрэчы са свайго журналісцкага жыцця-быцця. Дзяўчо слухала, раскрыўшы, як кажуць, рот, і рэагавала на ўсё надзвычай шчыра і зацікаўлена, і гэта яму чамусьці падабалася і быццам трошкі хвалявала, узрушвала. Разанска-маскоўскае дзяўчо нечым нагадала яму яго першае школьнае каханне — такую ж худзенькую, драбнаватую і таксама рыжаватую дзяўчынку з суседняй вёскі. Гэтая згадка мо і была прычынаю тае ягонай узрушанасці. Цяпер, вядома, яму думаецца акурат гэтак, хоць тады магло ўсё ж быць і інакш: ён быў малады і цнатлівы і проста не мог нейкім іншым чынам рэагаваць на прысутнасць маладой асобы супрацьлеглага полу. Больш за тое: яна пачынала яго чымсьці вабіць. Трошкі, напэўна, і знешнасцю, але найперш, бадай, сваёй амаль дзіцячай чысцінёй, дзявочай наіўнасцю, сваёй непадобнасцю, а папраўдзе — рэзкай адрознасцю ад большасці сталых і трошкі старэйшых за яе селавых дзевак, што таўкліся ў клубе ў нястомных скоках з «запаснікамі». І ён, здаецца, ужо чакаў суботы, каб зноў паплесціся з хлопцамі ў тое надрэчнае сяло і пабачыць, пасумоўнічаць з ёю.

Гэтак ужо амаль звычна сядзелі яны на лаўцы ў двары бабулінай хаты і ў апошні вечар. Гэтак жа аб чымсьці гаварылі. І ў нейкі момант, калі гаворка — так бывае — нібы вычарпала сябе, калі наступіла хвілінная цішыня, ён раптам абняў яе, прыгарнуў да сябе і прыклаўся да ейных вуснаў. Яна не рванулася з ягоных абдымкаў, не загрукала кулачкамі ў ягоныя грудзі, патрабуючы адпусціць, не чапаць яе. Яна адказала на ягоны пацалунак — цалкам цнатліва, амаль па-дзіцячы. І толькі тады, крутнуўшыся з ягоных рук, хуценька падхапілася, шуснула на ганак і схавалася за дзвярыма. Ён нейкі час сядзеў на лаўцы. Чаго? Чакаў, што яна выйдзе? І сам не ведае. Яна не выйшла. Адно праз нейкі час, адхінуўшы фіранку, вызірнула ў акно. Зрэшты, мо яму тое проста падалося. Счакаўшы яшчэ колькі хвілін у нейкае неразумнае надзеі, ён урэшце падняўся, выйшаў на вуліцу і падыбаў да клуба: мо яшчэ заспее каго з хлопцаў, каб разам цішком, без лішніх сведак, вярнуцца да пад'ёму ў сваю палатку...

Вось і ўсё. Больш ён яе не бачыў. Чамусьці не пайшоў чарговай суботай у сяло. Штосьці не пускала. Мо сорам, ніякаватасць — усё ж дзеўчанё зялёнае, аніяк яму не раўня. Не зусім разумна будзе затлумліваць ёй галаву. Можа, яшчэ, чаго добрага, здурнець ды мала да чаго дадумацца. Павагаўся і — не пайшоў. А там скончыўся і тэрмін збораў, і ён у радасным настроі паехаў дадому, і наўрад ці ўспомніў за немалую дарогу тую маладзенькую разаначку. Ну мільганула, як на экране, рыжанькае, худзенькае, з дзвюма тоненькімі коскамі дзеўчанё — дык і што? Былі збрыдзелыя і цалкам непатрэбныя яму зборы, добра, што яны скончыліся, цяпер гадоў пяць яго, трэба думаць, турбаваць не будуць — то і дзякаваць богу. Як казаў слаўны герой Грамадзянскай вайны, плюнуць і забыць. А разам са зборамі — і ўсё тое, што было там. У асадак памяці, на дно!

Так туды трапіла і юная масквічка разанскага паходжання. І ці згадвалася калі? Не памятае. Мо сяды-тады і ўсплывала ў памяці, ды не засяроджваўся ён на тым. Ну пазабаўляўся трошкі ў пусты, анічым разумным не запоўнены час, што схіляў да хлапечай бяздумнасці, — ці ж гэта так ужо варта дакору, а тым больш ганьбы? Ды пабойцеся Бога, смешна ўсё гэта. Тым не менш, нейкая макавінка прыкрасці пры згадцы аб вечаровых спатканнях у далёкім разанскім сяле ўсё ж узнікала. З-за таго дурнога пацалунка. Не стрымаўся, стары дурань! Табе — дурнота, балаўства, а ёй?..

Не, брат, сапраўды нішто на зямлі не праходзіць бясследна. От і тут. Дзясяткі гадоў, можна сказаць, не ўспамінаў, а на схіле, пры канцы жыцця ўсё ж

успомніў. І зноў, як і тады, адчуў гэтую самую прыкрую макавінку сораму. Старасць падсумоўвае рахункі дакладна, чыста ўсе бабкі падбівае, як цяпер кажуць. І большае падлічвае, і драбнейшае, і самае дробнае, што каму чужому і непрыкметнае. Мо і не ў дакор, мо проста каб пазначыць, што было і яно ў тваім жыцці, і нагадаць, што за ўсё ты ў адказе, а не хто іншы.

Гэтага ён не палохаўся. Пагаджаўся: вядома, яму за ўсё адказваць. Балазе, ёсць за што. І не за такія бязвінныя ўсё ж, калі сур'ёзна, хлапечыя грашкі. Былі і сапраўдныя, ненадуманыя грахі, і, на жаль, немалыя і нямала. Іх ён добра памятае, не тое што гэты дураслівы, проста легкадумны ўчынак. Пра некаторыя нікому не гаварыў. Ні жонцы нават, ні дзецям. Навошта, дзеля чаго? Можа быць, яны б яго і зразумелі, і паспагадалі, пашкадавалі. Ды наўрад ці стала б яму праз гэта лягчэй. Гэта — толькі ягонае. Яго крыж, яго Галгофа. Значыць, яму і несці іх. Да канца, дарэшты. Яны ў асадак не выпадаюць, як ні заганяй іх туды, іх не трэба наверх выцягваць, самі ўсплываюць ды ўсплываюць, і зноў вярэдзяць думку, апякаюць душу, працінаюць болем сэрца. Яны з ім неадступна. Боль ад іх незагойны. І ці не самы пякельны боль не ад таго, што некалі ўпадаў, як кажуць, у грэх, дапускаў памылкі, а праз тое, што не вучыўся на іх, што бяздумна паўтараў, рабіў іх зноў і зноў. І ад таго яшчэ, што зразумеў гэта занадта позна, калі ўжо нічога ні змяніць, ні паправіць: на гэта не засталося ні сіл, ні часу. І зусім мала суцяшае ўсведамленне таго, што ён жа не самы вялікі грэшнік на гэтай грэшнай зямлі, што ўсе людзі — грэшныя, адны менш, іншыя больш, і што, мусіць жа, кожны сумленны чалавек зведвае, асабліва ў старасці, як і ён, дакор, сорам і боль за ўсё, што зрабіў ці ўчыніў за жыццё не тое і не так...

А ў далёкім разанскім сяле на высокім беразе Акі тым жа вечарам адна жанчынка, папраўдзе бабуля ўжо, атрэсшы рукі ад работы і прысеўшы ўрэшце перад экранам тэлевізара, каб паглядзець чарговую серыю дужа ж слязлівай меладрамы, знячэўку прыгадала малодшага лейтэнанта запасу з Мінска, які нечакана праявіў цікавасць да яе, тады яшчэ школьніцы-дзесяцікласніцы. Яна тое лета, як і ранейшыя, жыла ў бабулі і бегала вечарамі ў клуб на танцы. Танцаваць там асабліва не было з кім — вясковых хлопцаў мала, двое-трое, а ўсё больш афіцэры запасу, якія праходзілі зборы ў летніх вайсковых лагерах у блізкім ад сяла лесе. Ёй на тых танцах было нецікава: вясковыя кавалеры дурнаватыя і вечна п'яныя, а запаснікі ўсе пераважна ў гадах і таму, вядома ж, маюць жонак, а пэўна і дзяцей. Але ўсё адно ў клуб ішла, найперш, пэўна, насуперак бабулі, якая ці не штодня ныла і скардзілася на свой цяжкі ўдовін лёс, на тое, што не мае ні ад кога помачы і спагады, а яшчэ дудзела і дудзела ёй пра адно і тое ж: яна яшчэ малая, мала што разумее, на тых танцульках нічога і нікога дарэчнага няма, а гэтыя кавалеры, што з'ехаліся з усяго свету, падкія на што папала, не дай бог, прыслепіцца каторы, задурыць галаву, дык і да бяды недалёка. Яна адбрэхвалася, казала, што не такая ўжо яна і малая, ведае, што да чаго, і ніякі валацуга яе не падманіць, яна з імі і танцаваць не йдзе, не тое што бадзяцца дзе пасля танцаў.

Той лейтэнанцік, што аднойчы падсеў да яе, вылучаўся сярод іншых. І мо нават не ў лепшы бок. Салдацкая форма (яны насілі ўсё салдацкае — і пілоткі, і боты кірзавыя) сядзела на ім неяк надта ж няўклюдна, мехавата, выглядаў ён у ёй трошкі нават смешна, быццам апрануў яе знарок, каб папрыдурняцца. Праўда, заўважыла яна і іншае: ён не танцаваў. Сядзеў і глядзеў, часам выходзячы пакурыць. Нават калі аб'яўлялі «белы танец» і яго запрашалі дзяўчаты, ён гжэчна прабачаўся і адмаўляўся, на круг не выходзіў. І таму, калі ён апу-

сціўся на крэсла побач з ёй, яна мо трошкі і наструнілася, але не ўцякла, не перасела на іншае месца, тым больш, што іх, вольных месцаў, па ўсім, і не было. Ды неўзабаве яна і зусім супакоілася. Ён сядзеў побач, але на яе — нуль увагі, быццам яе няма. Ну то і добра, яго для яе — таксама як няма. Танцы доўжыліся, усё было звычна, як заўсёды, пара было, бадай, ісці дахаты, і яна, зусім забыўшыся на вызначаныя для сябе паводзіны, знячэўку папытала ў суседа, колькі часу. Яе моцна здзівіла, што ён адказаў не па-руску і, здаецца, не па-ўкраінску. Яна спачатку нават і не зразумела, што ён сказаў, толькі трошкі падумаўшы, здагадалася, што словы яго азначалі: пятнацаццаць хвілін на дванаццатую. Тады яна папытала, адкуль ён. Высветлілася, што ён — беларус, і ёй захацелася пачуць, як гучыць беларуская мова: датуль яна нічога не чула па-беларуску.

Так яны і пазнаёміліся, і некалькі суботніх вечароў прагаварылі — больш у іхнім двары на лаўцы, чым у клубе. Ён сказаў, што нежанаты, і яна чамусьці адразу паверыла, што сказаў праўду. Дзіўны нейкі быў лейтэнанцік-беларус. Па адукацыі і прафесіі — журналіст. Пахваліўся — так-так, не проста сказаў, а пахваліўся, — што працуе ў адной з самых галоўных мінскіх газет, у якую заходзяць і ў якой друкуюцца пісьменнікі і паэты, прызнаўся ёй, што і сам спрабуе нешта пісаць. Чытаў ёй па памяці беларускія вершы. Яна не ўсё разумела, з ходу схоплівала толькі асобныя словы, але ёй падабалася. Раней ніхто ёй вершаў ніколі не чытаў, ды і сама яны чытала толькі тыя, бадай, што задавалі ў школе, таму гэта было для яе нова і нязвычна, і моцна ўражвала. Ён расказваў пра свае любімыя кніжкі, пра вучобу ў школе і ўніверсітэце, пра паездку студэнтам на цаліну на ўборку ўраджаю, пра сваю Беларусь, пра Мінск і іншыя беларускія гарады, і яна слухала яго, бы захопленая экскурсантка цікавага гіда. Ён нават песні беларускія ёй спяваў, ціхенечка, толькі для яе, а не для каго іншага, песні ёй таксама падабаліся, і яна здзіўлялася, чаму іх ніколі не перадаюць па радыё — гэтак, як украінскія ці грузінскія. Ён спрабаваў тлумачыць ёй, чаму так атрымліваецца, але яна мала што разумела, і ён, бачачы тое, пачынаў распавядаць пра больш блізкае і знаёмае ёй. І яна ўжо ці не радавалася, што не ўцякла тады ад яго, засталася сядзець побач, каб у рэшце рэшт загаварыць з ім. Запаснік-лейтэнанцік у няўклюднай салдацкай форме пачынаў ёй, здаецца, падабацца.

А ў той вечар, які стаўся чамусьці апошнім, ён яе неўспадзеўку пацалаваў. Ну, гэта яна кажа цяпер, што неўспадзеўку, а тады... Тады, ёй думаецца, яна чакала, каб ён зрабіў гэта, бо, мусіць, улюбілася ў яго, і таму не ўскочыла адразу, не запратэставала, наадварот — сама яго пацалавала. А тады ўжо ўцякла ў хату. Вызірнула праз акно на яго. Ён даўгавата сядзеў на лаўцы. Чакаў, што яна выйдзе? Ёй вельмі хацелася выйсці, але — не рашылася. Маладая ж была, зялёная. І так як яе хапіла на тое, каб не закрычаць ды не ўцячы і яшчэ самой яго пацалаваць. Ёй трошку было быццам і сорамна, але і радасна: ён яе пацалаваў. Значыць, яна яму спадабалася. Мо і ён улюбіўся ў яе? Апошняе ўсцешвала: гэта ж не які-небудзь вясковы хлапчук-малакасос, а журналіст, мо нават пісьменнік. І дармо, што на дзесяць гадоў старэйшы. Гэта не так і шмат. Гэта зусім няшмат! Тата за маму старэйшы на ўсе дванаццаць — ну і што?!

Не спала яна той ноччу. Кідалася з боку на бок, ажно бабуля ўрэшце не вытрывала, прыкрыкнула: спі ты ўжо, не брыкайся, а то ўсё бух ды бух у сценку — бабуля спала за той сценкай-перагародкай. Не спала, а ўсё думала, што будзе ў наступную суботу. Як яна зойдзе ў клуб, як спаткаецца з ім вачыма? Гэта ж такі сорам! Сама да яго не падыдзе. Хай ён падыходзіць, першым павітаецца, скажа што-небудзь. А тады ўжо і яна нешта адкажа.

Ды ён у суботу не прыйшоў. Тыя лейтэнанты і малодшыя лейтэнанты, якія з ім прыходзілі ўсе разы, былі, а яго — не было. Спытаць у каго з іх, чаму яго няма, не адважылася.

А яшчэ праз тыдзень на танцах ужо не было ніводнага запасніка: зборы скончыліся, і яны раз’ехаліся хто куды.

Яна доўга памятала яго. Праўда, надта маркоціцца і нудзіцца не выпадала, к канцу лета работы ў бабулі было процьма, а там і школа навалілася, выпускны дзясяты клас. Было не да гуляў і рознага іншага глупства. Трэба было сур’ёзна брацца за вучобу, бо апошні, дзясяты клас быў вырашальны: як скончыш яго, такі і атэстат будзе. І гэты новы клопат выціскаў, адсоўваў на іншы план усё астатняе, таму неўзабаве ўжо і тая летняя прыгода, можна сказаць, забылася, прынамсі — успрымалася ўсяго толькі вясёлаю, трошачкі дзіўнаю прыгодаю. А пасля і зусім выцвіла з памяці.

А цяпер згадалася, дык чамусьці нешта ў сэрцы як і скрабянула. Чаго б гэта? А хто ж яго ведае. Прыгадаўся той лейтэнанцік, дык і сябе ўспомніла — тую, маладзенькую, і тады раптам нейкая шкадоба нагарнулася. Да сябе няйначай. І ўжо думка пабегла ад таго лета ў тое, што было пасля. А што было пасля? А тое, што завецца жыццём. Ды, на жаль, не надта ціхамірным і шчаслівым, а больш недарэчным і бязладным. Замуж зарана і па-дурному выскачыла. І не выскачыла, а пасунулася, як у пятлю. Згвалтаваў яе ў выпускны вечар яе ж аднакласнік. Ён даўно, ці не з восьмага класа прыставаў да яе, дарогу пераступаў, а яна аднеквалася, бо не надта ён ёй падабаўся. А як здарылася тое, дык тут ужо хоцькі-няхоцькі, даспадобы ці не даспадобы, а ідзі, дзеўка, пакуль бяруць, бо і гэта можаш страціць. От і пайшла. Дачку нарадзіла. Праз два гады — сына. А муж падгульваць пачаў, распіўся. Бацька, робячы на ваенным заводзе слесарам-лякальшчыкам экстракласа і аўтарытэт маючы, сабе з маткаю новую кватэрку выбіў, а ім пакінуў хрушчоўку-паўтарачку. От і жылі. Не так жылі, як грызліся. Лічы, штодня. Найперш за капейкі, бо заўсёды яны былі ў абрэз. А муж не глядзеў на тое, яму конча трэба ці не дзень у дзень лыч задзерці. Як дзеці падраслі трошкі, і сама пайшла рабіць — кандуктарам на аўтобусе. Думала, што часова, пакуль на што лепшае ўзаб’ецца, дык тое часовае па самы апошні дзень доўжылася, пакуль і на пенсію не пайшла. Дачка, дзякаваць богу, дарэчнага чалавека знайшла, у дадатак — з кватэраю, жыве па-людску. А сын па-бацьку пайшоў — чарка і ў яго ў пашане. Бацьку чарка веку ўкараціла, да пенсіі не дажыў, дык і тое сыну не ў навуку. І ў ягонай сям’і заўсёдная грызня, крык і слёзы. Дык яна ўцякае ад усяго таго сюды, у сяло, у якім, можна сказаць, і вырасла, хоць і нарадзілася ў горадзе. Добра, што бабуля, царства ёй нябеснае, на яе сваю хацёну адпісала. От яна цяпер на палавіну гараджанка (узімку), а напалавіну — з вясны да позняй восені — дачніца, а папраўдзе — вясковая баба-гаротніца. Ад цямна да цямна то з рыдлёўкай ці матычкай, то з граблямі ці сярпом. І насушыць, і намарынуе, і наквасіць усяго, што толькі можна, і з гарода, і з лесу, — глядзіш, зіма ўжо і не такая страшная ды доўгая з гэткімі прыпасамі.

Сёлета ж яна і на зіму ў горад не паехала. Хай дзеці і ўнукі там адны раскашуюць, калі матка ды баба вельмі ж ім замінае. А ёй і тут добра. Курачак завяла, от і яечка свежае ёсць штодзень. Трусоў трымае і казу прыдбала, дык не абдзелена і малачком, і мяскам час ад часу. Жыць можна, але радасці асаблівай нямашака. Зімовыя вечары і ночы доўгія, яна і тэлевізара таго нагледзіцца, і вылежыцца, і выспіцца. І перад тэлевізарам, і пакуль засне — усё думае, думае.Уся яе жытка ад пачатку да канца пракручваецца ў галаве па шмат разоў. Яна ўжо ведае, сто разоў пераканалася, што жыццё чалавечае на

валаску вісіць. То, мусіць, і доля ягоная, шчаслівая ці гаротная, таксама ад таго самага валаска залежыць. Ці зрабіў што не так, ці наогул не зрабіў — а ўжо ўсё пакацілася далей, як па рэйках, якіх ты не клаў і на якія не спадзяваўся. А спахопішся, што не туды едзеш, ды паспрабуеш спыніцца, адумацца, назад павярнуць ці збочыць — позна, рэйкі тыя бягуць ды бягуць наперад, у не табою абраным напрамку.

От гэтак знячэўку ў звычным вечарова-начным одуме выплыў аднойчы з глыбінь памяці і той лейтэнанцік-запаснік. Чаго раптам? Хто адкажа? Сама яна не можа адказаць. Не было, здаецца, прычыны. Зусім, здаецца, пра іншае думала, з сынам звязанае: пра тое, што трэба будзе схадзіць на пошту ды пазваніць дзецям, бо нешта маўчаць доўга, што, на добры лад, трэба было б набыць гэты кішэнны тэлефончык, каб у любы час з хаты з імі пагаварыць, добра было б, каб дачка з зяцем даўмеліся ды падарылі ёй мабільнік, — а тут неспадзявана памяць і выхапіла з цемры тое даўняе лета і таго механатага лейтэнанціка з Мінска, цяпер ужо замежнага горада, сталіцы асобнай дзяржавы Беларусі. Яна ажно страпянулася ад гэткага неспадзеву. Забылася, калі й згадвала апошні раз. Даўным-даўно, мо яшчэ ў дзясятым класе: памятае, пахвалілася па сакрэце сяброўцы, што праводзіў яе з танцаў адзін запаснік-дзівак, вершамі яе забаўляў, бы яна дзіця, а не дзяўчына. А тут раптам згадаўся чамусьці. І доўга з галавы не выходзіў— як насланнё нейкае. Дык яна вазьмі і падумай пра той самы валасок. Пра тое, што было б, калі б яна тады выйшла з хаты да яго зноў. Усё ж магло быць. Мо яны б перапісваліся, мо ён чакаў бы, пакуль яна школу скончыць, а тады б прыехаў да яе і забраў да сябе ў Мінск, а яна б за той год і мову беларускую падвучыла...

Цяпер адна дурнота пра тое думаць, а магло ж бы яе жыццё на іншыя рэйкі выкаціцца. Як той казаў, чаму б і не. Усё ж на валаску вісіць, на танюсенькім валаску. Гэта яна цяперака ведае. А што не здарылася таго, дык — такая ўжо яе доля. Значыць, не суджана было. Была б каторая іншая на яе месцы, усё магло б скласціся інакш, а ў яе зладжылася гэтак, як зладжылася. І ні на кога яна не наракае. Ні на сябе, ні на яго. Або! Дзівак дзіваком, але ж хлапец сталы быў, што ён мог мець да дзеўчынёхі-школьніцы? Не ляжала ў яго душа да настырных, вопытных дзевак, вось і пазабаўляўся з малалеткай. І добра яшчэ, што от гэтак інтэлігентна, прыгожа, з вершамі і нават песнямі. А пацалунак той? Ат. Таксама з таго ж інтэлігенцкага набору, як цяпер са спажывецкага. Дзяўчынка ўсё ж была з ім, не калода прыбраная, вось трошкі каля яе і разагрэўся. Як і яна сама. Таксама ж, нягледзячы на ўсю яго механатасць і сталасць, пахілілася да яго, пад канец ён ужо нечым быццам ёй і падабаўся...

Доўга не выходзіў ён з галавы. І яна міжволі думала ўжо пра тое, дзе і што з ім цяпер, жыве яшчэ ці памёр ужо. І ці ж успамінаў калі-небудзь яе. Казала сама сабе: наўрад. Бо і яна ж яго не ўспамінала, можна сказаць. А ёй жа, зялепусе, ён запомніўся, мусіць, мацней, чым яна яму. Ён, пэўна, назаўтра пра ўсё забыўся. А яна хоць трохі, а помніла. І сяброўцы, як згадвала ўжо, пахваліцца не прамінула. Ды ўсё гэта — як леташні снег, ад якога ні следу. Як і зусім не было. А ўспомніўся, дык, дзякаваць богу, што хоць без прыкрасці, без гідлівасці. Нават, бадай, наадварот: з прыемнасцю, з уцехаю. Згадкаю пра маладосць, пра светлую і чыстую пару юнацтва, калі не думалася, што свет можа быць і жорсткім, а людзі — злымі і няўдзячнымі...

Думаючы гэтак, яна тым вечарам і заснула незаўважна для сябе спакойна і — амаль шчасліваю...



**Мікола МЯТЛІЦКІ**

# МОВАЮ ТАЕМНАЮ АГНЮ...

* * *

Пад навіссю крывавае каліны —
Яр сакаліны.

Аб прошласці пякучыя ўспаміны —
Яр сакаліны.

Памкненняў неспатоленых руіны —
Яр сакаліны.

Пагаслых дзён самотныя быліны —
Яр сакаліны.

Празяблы золак мроенай краіны —
Яр сакаліны.

Парыў душы народнае адзіны —
Яр сакаліны.

Суцішша курапацкай баравіны —
Яр сакаліны.

---

***Мятліцкі Мікола (Мікалай Міхайлавіч)** нарадзіўся 20 сакавіка 1954 года ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977) працаваў карэспандэнтам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», з 1983 года — рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». У 2002—2014 гадах — галоўны рэдактар часопіса «Полымя».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Абеліск у жыце» (1980), «Мой дзень зямны» (1985), «Ружа вятроў» (1987), «Шлях чалавечы» (1989), «Палескі смутак» (1991), «Бабчын» (1996), «Жыццядайная глыбінныя віры» (2001), «Замкнёны дом» (2005), «На беразе маім» (2010), «Цяпло буслінага крыла» (2010), «Чалавек падымае неба» (2012) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (1998), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2010), Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва (2013).*

Каменны пласт былой жывое гліны —
Яр сакаліны.

Загадны крык наглядчыка звярыны —
Яр сакаліны.

Святла вачэй астатнія хвіліны —
Яр сакаліны.

Узлёт бяссмерця скрушнага арліны —
Яр сакаліны.

Ляцела трое сакалоў —
Жах… смерць… кроў…

* * *

З раны глыбіннай сочыцца кроў,
Вочы мутнеюць халодным шклом.
Дымнае поле.
Стрэліся зноў
Непрымірымцы —
Дабро са злом.

«Кроў мне мілей за пялёсткі руж, —
Радасна кажа скрутнае зло, —
Той, хто хвіліну назад быў дуж,
Сцёкшы крывёю, — вечнае тхло!»

Глянула пасмай ігрыстай зара,
Свет акрываўлены скута нік.
Ўспыхнуў пяшчотнаю зрэнкай дабра
Сонечны блік…

* * *

Як я кахаў яе! Як я кахаў!
Па ёй адной гадзінамі ўздыхаў.
У дні зліліся наступы гадзін,
Пасля спляліся ў доўгія гады.
Сяджу, як перад лямпай Аладзін,
Даўно не малады,
І ўсе гады чаканыя —
Адзін!

* * *

Запалены маланкаю нябёс,
Гарыць агонь — зямлі асветліў лёс.
З далёкай незапамятнай пары
Агню палаць — і цемрань пабароць.
Раскладзеныя прашчурам кастры
Нам грэюць сёння і душу, і плоць.

Я моваю таемнаю агню
З сусветам неабсяжным гаманю,
І чую — адгукаецца святлом
Начных нябёс прытоеная выш,
Махае сэрцу вогненным крылом:
Прыземленыя клопаты суціш!

* * *

Грыбной пары вільготная абложа,
Лес разгуканы з раніцы самой.
Вандроўнікі грыбнога падарожжа,
Мы адпачнём віхурнаю зімой.

І не кашы — усмак напоўнім душы
Спатольнаю гаючай цеплынёй
Зямнога шчасця, дзе палёт відушчы
Душы над першаіснай чысцінёй.

У стоме дзён, як светлае адхланне,
Лясной спагады ценькай дабрыня,
І доўжыцца грыбное паляванне
Да суцемкаў кастрычніцкага дня.

Прымяўшы мох, астуджаны вятрамі,
Пакораны духоўнаму агню,
Ты молішся ў бары, нібыта ў храме,
Паднесеным дарам упершыню.

## ПОЗНЯЯ ВОСЕНЬ

У шэрані, тумане ды імжы
Вятрамі не прадзьмутая прастора.
Не выбліснуць у небе ноччу зоры,
Не спыняцца маркотныя дажджы, —
Бы цэлы свет апанавала змора.

І толькі сэрца здатнае адно
Паўмёртвы сон гарачым рытмам зрушыць.
Натхнёна б'ецца — і чарнечу крушыць.

А з ёй і сум адвечны. І відно,
Як промень сонца працінае душы.

* * *

Ведаю, як гэта нялёгка
Браць штораз скальпель
І дакранацца
Гойстра адточаным лязом
Да чалавечага сэрца.
Другі не менш востры канец скальпеля
Праходзіць у міг гэты
Па сэрцы самога хірурга:
Яно сціскаецца,
Тузаецца,
Сцякае крывёй
І баліць.

А рука, адчуўшы прыліў дужасці,
Робіць надрэз.
Крэпка сціснуты зубы.
І вочы, сухія, пільныя,
Узіраюцца ў баразну
Крывёй набрынялае раны,
Сочачы,
Каб скальпель умела прайшоў
Уздоўж кожнага нерва.

Хто і калі
Палічыць рубцы на сэрцы
Хірурга,
Пакідае якія
Кожная чарговая аперацыя?

## ШТО СЛОВА МАЁ?

Маім голасам агучаны Час.
Праз цокат беглых секунд
Імкнецца маё слова —
Зліваецца з неймаверным гулам
Усіх зямных дзействаў,
Спароджаных стыхіяй Жыцця.

Што слова маё
У гуле гэтым раскатным —
Камень,
Кінуты ў мутную плынь,

Або
Заварожаны выдых здзіўлення
Над асмужаным хараством,
Роўным птушынаму пёрку,
Што, сарваўшыся з нябёс Вечнасці,
Кружляе-ляціць?..

Не ў садзе з ранішніх руж —
У брудзе
Пошасна і нахабліва
Творыць чалавецтва сябе,
Заплюшчыўшы вочы на сорам,
Пружыцца галізной маладых цяглiц,
Разбэшчанае
І абпоенае наркатой.

Над мітульгой ценяў,
Што сыходна рухаюцца
Адзін за адным
За далягляд Часу,
Пад вачніцамі пражэрлівых зорак,
Якія ўтойліва азіраюць-вітаюць
Сыходны рух гэты —

Што слова маё?!

Яно — вугельчык раздзьмуты
Гнеўнымі вятрамі Духу,
Магчыма, зачэпліцца-страпянецца
Хаця б у адным сэрцы
Надзеяй.

* * *

Да Браслава памкне мая душа:
Над Струстаю прыпыніцца спярша,
Прывеціць плёс, наліты сінявой,
Чупрыны гонкіх узбярэжных хвой,
Пад рослым дубам сцішаны дамок,
Пабліз — кастра турысцкага дымок
І, выдыхшы шчасліва — гэта цуд! —
У выш памкне над сінім люстрам Снуд.

І там, мінуўшы шапкі-астравы,
Прывеціць стромы схіл берагавы,
Дзе Краснагоркі хаты чарадой
Высока ўсталі над святлынь-вадой
І яблыні, убраныя у цвет,

Пяшчотай белай расхінаюць свет,
У бліках сонца дахі гожых хат,
Ля кожнай — россып жоўтых куранят,
Прасветлена выш небнае смугі,
Дзе водзіць коршак грозныя кругі.

Пасля душа памкне за лес далей
Да возера, дзе белізной лілей
Пабраная вады ціхмянай гладзь,
Іх вочкі жоўтым колерам гараць,
Купальшчыц юных целы, як між зор.
Хлапец цікуе з берага, замёр,
Свавольніц грудзі, пырскаў перазвон.
Пад гушчу цел нырае спрытна ён.
І, пудзячы дзявочы рагаток,
У жылах чуе звабы першы ток.
Крыляе шчасця ўсцешаная юнь.
Адзін, у акружэнні прыгажунь,
Як юны шах, у воднай сінізне
Ляжыць, развёўшы рукі, на спіне.

І неба выш, адкрытая вачам,
І гэты свет — адзіны гожы храм,
І чысціня ўтрапёнае душы…
І першы шэпт спакусы: — Саграшы…

* * *

Мая зямля сціналася ад сечаў,
Кружыў вайны раз’ятраны вампір,
Ды на крыві пралітай чалавечай
Узвысіў замак старажытны Мір.

Чырвонай кладкай грала сонца ў шыры —
Святло праз хмары чорныя пралье.
Адклаўшы дзіды, думалі аб міры
Калісьці суайчыннікі мае.

Ад грозных сцен адкочвалася згуба,
Крывава гаслі вогнішчы нягод.
З адкрытаю душою міралюба
Жыве здавён прыветны мой народ.

* * *

Горне вячорак зоркі заблудныя
Да чалавечых акон.
Зырка зіяюць нябёсы астудныя,
Сеючы зморлівы сон.

Мройліва, сцішана, стоена, ззорана —
Казка начы надышла.
Колькі нябёсамі свету падорана
Вечнажывога святла?!

Рушаць нябачнаю воку арбітаю
Зорныя статкі ўвышы.
Сэрца да краю праменнем налітае,
Рдзее святлынь у душы.

Зорны пагляд недасяжнае млечнасці
Б’е з-пад сусвету павек.
Ім наталёны, пад крыламі вечнасці
Горда стаіш, Чалавек!

* * *

Курэла канапа ў Курылавай хаце гады,
Нібыта чакала майго паважанага ўзросту.
Стаяў на нагах, пакуль яшчэ быў малады,
І ўсё у жыцці было гладка, і чынна, і проста.

Цяпер жа, калі назаляюць балячкі спаўна
І грозіцца часта хваробы драпежная лапа,
О як па-над рэчкай мне служыць упраўна яна,
Курылавай хаты астача — старая канапа.

Я з ранку сяджу над ракой са сваім вудаўём,
Няхай не клюе шчэ, ды вершы пішу адмыслова.
Далёка працяжна за Быстрыцай гупае гром,
Нібыта каштуе на смак маё кожнае слова.

Маланкі сігаюць над Віліяй зырка штоноч,
Плывуць навальніцы над лесам штодзень вогнекрыла.
То зноўку злуецца, вядзе чараду патароч,
У высі нябёсаў забыты нябожчык Курыла.

Надрэчнага хутара я, адзінокі жыхар,
Часова сяджу на канапе пад небам Айчыны,
Прымаю жыццё як імгненне, нябёс Божы дар,
І слухаю сэрцам вякоў прамінулых быліны.



Георгій МАРЧУК

# АЛЬГЕРД

***Майму настаўніку,***
***найвыдатнейшаму гісторыку***
***Міхаілу Уладзіміравічу Шэлехаву***
***з падзякай прысвячаю.***

Аўтар

## Драматычная аповесць з жыцця віцебскага князя ў дванаццаці карцінах

### Дзеючыя асобы:

**Альгерд** — князь Крэўскі і Віцебскі, 25 гадоў
**Марыя** — яго жонка, 22 гады
**Войдыла** —канюшы Альгерда, затым ваявода, 24 гады
**Фёкла** — стрыечная сястра Марыі, ключніца старога князя, 30 гадоў
**Гудзім Загоска** — баярын-радца, 55 гадоў
**Пракопій** — яго сын, 24 гады
**Сысой Сырамятнік** — баярын-радца, 50 гадоў
**Бутрым Жыла** — староста Віцебскі, 45 гадоў
**Любава** — прыслужніца Марыі, 20 гадоў
**Пелагея** — дачка Сысоя, 16 гадоў
**Язычнік** — палонны, потым вольны, 26 гадоў
**Прадавец мяса,** пасля сарака
**Афоня** — памочнік летапісца, 20 гадоў

---

***Марчук Георгій Васільевіч*** *нарадзіўся 1 студзеня 1947 года ў Давыд-Гарадку. Пасля заканчэння школы № 2 працаваў ва ўстановах культуры. З 1969 года ў Мінску — адміністратар кінастудыі «Беларусьфільм», асістэнт рэжысёра аб'яднання тэлефільмаў той жа кінастудыі. Скончыў аддзяленне тэатразнаўства Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (1973), Вышэйшыя курсы сцэнарыстаў і рэжысёраў у Маскве (1975). Загадваў літаратурнай часткай тэатра-студыі кінаакцёра, працаваў дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура» і галоўным рэдактарам кінастудыі «Беларусьфільм». Цяпер — сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар кніг прозы «Крык на хутары» (1983), «Кветкі правінцыі» (1986), «Вочы і сон» (1990), «Сава Дым і яго палюбоўніцы» (1990) і іншых, шэрагу п'ес, сцэнарыяў кіна- і тэлефільмаў.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (1996).*

**Прадавец гаршкоў і глечыкаў,** 60 гадоў
**Амбросій —** святчэннік, 50 гадоў
**Прадаўшчыца птушак,** 50 гадоў
**Мікіта —** сляпы, былы ваяр, 60 гадоў
**Хлопчык-павадыр,** 12 гадоў
**1 Дружыннік князя Альгерда,** 20 гадоў
**2 Дружыннік князя Альгерда,** 25 гадоў
**Прыслужнік у царкве,** 18 гадоў
**Маці Пелагеі,** 45 гадоў
**Прадавец медавухі,** 30 гадоў
**Малады апалчэнец, пеўчыя царквы, апалчэнцы.**

*Месца дзеі Віцебск. Верхні замак, Ніжні замак, гандлёвая плошча, царква, бераг ракі, дамы баяр, абарончая сцяна з вежай.*
*Час дзеі — 1320—1321 гады.*

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

*Каля лесу. Ідзе гон. Чуцен брэх сабак. Тупат конскіх капытоў, гукі паляўнічага ражка. На невялічкай палянцы ля плеценага кошыка Любава і Язычнік, палонны служка князя.*

Любава (*моліцца*). Святы Божа, святы Крэпкі,
Святы бессмяротны, памілуй нас,
Святая Тройца памілуй нас.

Язычнік (*які збоку назіраў за ёй*). І што ты просіш у свайго Бога? Каб хутчэй замуж выйсці? Дык я гатовы і без Бога, калі князь дазвол дасць.

Любава. Як я пайду за цябе язычніка… Я ж хрысціянка. Вы ж чалавечыя ахвяры свайму Пярунасу носіце.

Язычнік. Хлусня. Гэта прыдумалі на нас твае паны, каб людзей палохаць. Мы нясём да Перуна мёд ды пеўня.

Любава. Пеўню галаву рэжаце.

Язычнік. А што з ім рабіць, калі іх пеўняў пяць, а курачак тры. Дык няўжо не хочаш за мяне? Я ж прыгожы.

Любава. Канапаты. Сляпы на адно вока ды палонны… скончыцца твой палон, уцячэш.

Язычнік. Волю люблю. Але ж калі панясе жонка — чаго ўцякаць. (*Хоча яе абняць.*)

Любава. Адчапіся, язычнік. У цябе рукі ў крыві.

Язычнік. А ў каго яны цяпер не ў крыві? Лівонцы на ліцвінаў, смаленскія на Цвер, цвярскія на Смаленск, Ноўгарад на Пскоў. Брат нашага князя Альгерда Кейстут спіць у сядле.

Любава. У нас ціша. Бо мы молімся, хрысціяне. Князь нікога не забіў.

Язычнік. Скуль ты ведаеш? Можа, па яго наказе забіваюць. Войдыла, яго паплечнік, з леваю рукі мяне — хоп, і — з каня. О, паглядзі, твой поп Амбросій кветкі нюхае. Учора дружыннік нёс сляпых кацянят тапіць, нарваўся на Амбросія, дык той забараніў: напалохаў карай нябеснай.

*Уваходзіць Амбросій. Любава цалуе яму руку, і Амбросій крыжам блаславяе Любаву.*

Любава. Уладыка Амбросій, вось ён не верыць, што ёсць роў паміж язычнікамі і хрысціянамі.

Язычнік. Няма ружніцы. У вас Хрыстос, у нас Пярун: і той, і другі на небе. Можа, яны браты?

Амбросій. Супроціва ёсць. У вас, язычнікаў, няма пакаяння. Вы просіце ў свайго ідала дапамогі толькі самому сабе, а любові да бліжняга няма.

*Усё бліжэй тупат конскі. Язычнік хуценька бярэ карыта. Любава бярэ глечык з вадой і ручнік.*

*Уваходзяць два дружыннікі, а за імі Альгерд, княгіня Марыя, Язычнік і Любава падыходзяць да князя і княгіні. Князь і княгіня мыюць рукі.*

Альгерд. Усё. Апошні раз… усё. (*Амбросій накрывае яго галаву епітрахіллю і хрысціць. Шэпча сам сабе малітву: «Знімі, знімі грэх забойства»*). Сонейка, раніца, птушкі пяюць… і ляціць страла. Кожны раз думаю: каб не пацэліла. Сёння алень, ужо дрыгаючы перад сконам нагамі, такімі вачыма на мяне паглядзеў, аж страшна стала.

Марыя. Не намі прыдумана паляванне… Што ж рабіць. Будзем маліцца.

Амбросій. Бог даруе.

Альгерд (*ля кошыка*). Што сёння?

Язычнік. Ежа… медавуха, яйкі, гарох, шынка, хлеб, абдымленыя вушы парсючка, соль і сала з цябуляй.

Альгерд. Уладыка, калі ў нас пост пачынаецца?

Амбросій. Мой княжа, сёння і пачаўся.

Альгерд. Тады… мне кухаль медавухі… а кошык аддайце дружыннікам.

*Два дружыннікі забіраюць кошык з ежай. Язычнік паспявае выхапіць шынку.*

Язычнік. У мяне няма посту. Я не ваш.

Альгерд. Марыя, жонка мая любая… Ты прасіла хоць раз узяць цябе на паляванне… Яно такое... Яшчэ сны жахлівыя будуць сніцца.

Марыя. Больш ніколі не паеду. І сына Андрэя буду трымаць… далей ад лука са стралой і мяча. Няхай ваююць яго дзед Гедымін ды дзядзька Кейстут, а мы ў Крэве будзем жыта сеяць.

Альгерд. Могуць прыйсці чужакі, ды адабраць жыта. Трэба, каб воінам рос. Уладыка Амбросій, мой канюшы Войдыла ад брата Кейстута не вярнуўся?

Амбросій. Пакуль не…

Альгерд. Каб не здарылася што. Мне сон прысніўся, што ў мяне зуб выпаў.

Язычнік. Калі зуб з крывёю — хтосьці ў родзе памрэ.

Любава. Цьфу, цьфу, цьфу…

Амбросій. Маўчы, язычнік. Сны ад сатаны. Свянчоную ваду піць трэба з раніцы і перад сном.

Марыя. І я пра тое кажу, дык не п’е.

*Тупат капытоў.*

Альгерд. Хто там?

Язычнік. У мяне хоць і адно вока, так скача толькі конь Войдылы. Авохці мне! Загнаў каня. Аж на пярэднія ногі ўпаў…

Марыя. Альгерд, дай мне руку… нешта ў грудзях здрыганулася.

*Уваходзіць Войдыла. Ён устрывожаны.*

Войдыла. Мой князь, хачу паведаміць…

*Альгерд бярэ за руку і адводзіць Войдылу ўбок.*

Войдыла. Ганец прынёс горкую навіну. Бацька княгіні Марыі ў Віцебску аддаў Богу душу.

*Паўза.*
*Альгерд падыходзіць да жонкі, абдымае яе.*

Марыя. Што? Таты майго няма?
Альгерд. Няма.
Язычнік. Сон у руку.
Амбросій. Свят Гасподзь, Ісус Хрыстос. Бог даў, Бог узяў.
Марыя. Татачка!

*Марыя бяжыць у адчаі ў лес. Любава спяшаецца за ёй.*

Альгерд. Чый меч, Войдыла?
Войдыла. Брат твой Кейстут перадаў у знак любові і адданасці.
Альгерд (*спрабуе дакрануцца да мяча, але не рызыкуе*). Не. Калі вазьму… прыйдзецца ім забіваць…
Войдыла. Не толькі. Бараніцца можна.
Альгерд. Няхай ён будзе пакуль у цябе. У замак! Усе ў замак! (*Уваходзіць Любава.*) Як княгіня?
Любава. Абняла сасонку і плача горкімі слязьмі.
Альгерд. У замак!

*Ідзе да жонкі. Войдыла, Амбросій, дружыннік выходзяць. Застаюцца Любава і Язычнік.*

Язычнік. Пашанцавала. Вялікае княства, вялікая ўлада ў задніцу засталася.
Любава. У якую задніцу?
Язычнік. Так некалі казалі ў Кіяві, ну, па-нашаму… у спадчыну.
Любава. Цьфу, ірад!
Язычнік. Во будзе дзіва, калі цябе князь у Віцебск не возьме, а я паеду. Будзеш прасіць мяне, каб замуж узяў.
Любава. Цябе хутчэй не возьмуць.
Язычнік. Бяры кавалак мяса, давай памірымся.
Любава. Не падлізвайся. Не хочаш хрысціцца, не падыходзь. Бедная княгіня… усяго два леты і пакняжыў яе бацька.
Язычнік. Ён бедны. Яна дахаты вяртаецца, а ён на ўсё чужое. Нядобразычліўцаў і зайздроснікаў у наш час хапае.
Любава. Божа міласэрны, уратуй і памілуй маю княгіню і князя.
Язычнік. А чаго для сябе нічога не просіш?
Любава. Будуць жывыя ды здаровыя яны… і я не загіну.
Язычнік. Князь не загіне. Ён з норавам… Калі што не так, па галаве не пагладзіць. Дык вазьмі мяса.
Любава. Сказалі табе — пост.
Язычнік. Мне больш будзе. От не возьмуць цябе з сабою.
Любава. Не каркай.

***Зацямненне.***

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

*Дом Гудзіма Загоскі.*
*Гудзім і Фёкла адны.*

Гудзім. Частуйся, Фёкла. Знаёмы купец гэту смакату і да нас давёз. Сушаны вінаград. Хоча наладзіць гандаль. (*Фёкла ўзяла з міскі некалькі ягадак.*) Разумею, чаму ты панікла. Маўчы і слухай. Я кахаў тваю нябожчыцу маці… Калі твой бацька пры абароне горада загінуў, я даў слова маці быць табе за бацькоў. Ты ж маеш усе правы таксама на княства, калі б была замужам.

Фёкла. Такое гаворыце…

Гудзім. Стары Яраслаў з-за хваробы ўсё блытаў і забываў на хаду.

Фёкла. Я і не думала ніколі пра княства.

Гудзім. Чаму? Баяры маглі вылучыць і падтрымаць на радзе. Марыя ганарлівая. Сёння ты пры двары княжацкім ключніца, а заўтра…

Фёкла. Я нікуды не паеду.

Гудзім. Выпхнуць. Хачу ўратаваць цябе. Хачу ажаніць з сынам сваім Пракопіем.

Фёкла. Як?

Гудзім. Як у старыну рабілі і робяць. Сасватаю, а супраць волі бацькі не ідуць. Акрамя мяне ў цябе больш няма абаронцаў. Можа, паслаць сваім намеснікам у Крэва, альбо зрабіць Пракопія ваяводам? Хіба ж табе мой сын не падабаецца?

Фёкла. Падабаецца… вельмі падабаецца. А як ён?

Гудзім. Самая моцная сямейка, калі жонка кахае, а чалавеку — служба ды грошы. Ідзі і доўга думай над маімі словамі. Я чакаю. Баярына Сырамятніка, выйдзі праз чорны ход на пасаду Завіцебскаму, а не на маставой, дзяцінца! (*Кліча.*) Пракопій! (*Уваходзіць Пракопій.*) Праводзь Фёклу, ды пагуляйце ля ракі. На тое і маладыя гады даюцца, каб нагуляцца.

*Пракопій з неахвотаю, але ідзе праводзіць Фёклу.*

Гудзім. Спаць у шапку няма калі. Сысой хітры бабёр… апярэдзіць мяне перад маладым князем… таўчэ ўсім, што ягоны бацька з князем Аляксандрам на Чудскім возеры крыжакоў біў.

*Уваходзіць прыслуга.*

Прыслужнік. Баярын Сысой Сырамятнік.

Гудзім. Скажы, што я даўно чакаю. Медавухі падасі, як клікну. (*Накрывае ручніком міску з вінаградам.*)

*Уваходзіць Сысой.*

Сысой. Мір і багацце ў дом баярына Загоскі!

Гудзім. Прыму твае словы і падзякую. (*Прапануе сесці на лаву.*)

Сысой. Раней заходзіў да цябе, як да сваяка… А бачу, ты завёў на манер князя — прыслужніка, ахову.

Гудзім. Багата вады рака занесла ў мора… Як маладымі былі, дык да адной прыгажуні сваталіся. Табе пашанцавала. Кожны сам па сабе.

Сысой. Не час нам дзяліць славу ды ўладу.

Гудзім. Падабрэў. А то… пры старым князі, калі я якую справу прапаную, ты адзін кідаешся супраць, каб князь не ўхваліў. Старостам сваяка свайго праціснуў, Бутрыма… Я ж змаўчаў.

Сысой. Было, было… Памыляўся. Я хоць адкрыта супрацьстаяў, бо ведаў, што ва ўсіх тваіх прапановах і ўлажэннях ёсць табе карысць… Я адзін ведаю, як ты атрымаў у знямоглага, хворага Яраслава граматы на пагосты Бабінічы і Котава.

Гудзім. На граматах пячаткі…

Сысой. Хто тыя пячаткі бачыў? У летапісе мо гэта і не запісана?

Гудзім. Што ж табе не хапае? Кіруеш базарам, будаўніцтвам сцяны. Жывеш сыта, даўно аўчыну пасадскую не носіш, гандлюеш сабалямі, бабрамі, лісамі. Усё мала. Да стала князя ежу і пітво пастаўляеш…

Сысой. Не будзем сварыцца. Час трымацца разам. Ты са Смаленскам, я з — Цвер’ю. Ты мне не пераходзіш дарогу, я табе не перашкаджаю. А калі аб’яднаем сілы… Князь хоць малады ды ранні, не парушыць нашай улады.

Гудзім. Думаў аб гэтым. Цвер добра жыве. Хан ардын Узэбек даў князю Міхаілу ярлык…

Сысой. Так…

Гудзім. І хану хапае даніны, і Міхаілу. А ў Смаленску люд бяднейшы. Ахвочы ісці ў паход па водкупы.

Сысой. Неспакойна вакол. Ты мне ўсё даруй, табе дарую. А каб мацнела сяброўства, аддаю сваю дачку Пелагею за твайго Пракопія.

*Паўза.*

Гудзім. Не малая да замужжа?

Сысой. Шаснаццаць летаў мінула… Мы ж сваіх бралі такімі. Твой да яе горнецца.

Гудзім. Глядзі ты… Пакуль у бацьку дазволу не папытаў.

Сысой. Усе цяпер робяць неўпрыкмет. Вена падрыхтаваў. Галадаць ніколі не будуць. Разам мы — сіла. Князь з Крэва сваіх прывёз. Сапхне яшчэ нас, як старых.

Гудзім. Старасць не грэх. Куды ён без нас, баяраў? Чыніць яму перашкоды, сыпаць сабе соль на рану.

Сысой. Разам нас не спіхне. Сілай у яго ўладу не забраць… Калі хто са збрoяй не прыйдзе на горад.

Гудзім. Не дай божа… Нам трэба яго ў наш бок скіраваць. Хітрасцю.

Сысой. Твая праўда.

Гудзім. Тады вып’ем брацiну. Гэй, нясі медавуху!

*Прыслужнік прыносіць брацiну з медавухай. Гэтая чара нагадвае ладдзю. П’юць па чарзе. Цалуюцца тройчы.*

Сысой. Дык буду рыхтаваць вена.

Гудзім. Можа, і так… (*Сысой выходзіць.*) Так я табе і паверыў. Тройчы цалаваўся і раней… А мой люд і тавар не бяруць у Цвер. (*Уваходзіць Пракопій.*) Нешта ж мала пагуляў з Фёклай. Дзеўка ў саку.

Пракопій. Якая яна дзеўка, яна цётка.

Гудзім. Хачу пажаніць вас.

*Паўза.*

Пракопій. З ёю? У яе пад носам вус расце.

Гудзім. З твару вады не піць. Целам дародная. Яна сваячніца княгіні, разумееш? Адзіная сваячніца… Ля князя будзеш… Ваяводам паставіць, ці войтам. Я цябе аддаў у навучэнне латніку нездарма… сякернік, шлёмнік… умееш з жалезам.

Пракопій. Званы ліць лепш. На Міхайлаўскай царкве звон учора паднялі. Маленькі, а голас, як з нябёсаў.

Гудзім. Чуў. Не да званоў. Трэба больш надзейнае.

Пракопій. Не ляжыць да яе душа.

Гудзім. Супраць бацькавай волі не ідзі — трымайся старыны.

Пракопій. У старыну вінаград сушаны не елі, а мы ж ямо.

Гудзім. Цыц! Яшчэ не дарос, каб поперак бацькі. Я не вечны.

Пракопій. Усяго ж хапае. Няўжо мала?

Гудзім. Сёння хапае, заўтра мала. Усё…

Пракопій. Як з ёй да царквы? Старая баба і непрыгожая.

Гудзім. Непрыгожыя мацней кахаюць. Я цяпер шкадую, што не ўдалося за цябе аддаць Марыю… Сысой тады падбухторыў: згаджацца за Альгерда.

Пракопій. Што было, тое сплыло.

Гудзім. Ідзі. Дух мой слабы, ногі ломіць, галава трашчыць. Усё зыбка. Ідзі. У нас тут сяброў няма. Хто рускі, хто ліцвін, хто крывіч… Багаты не мае плямы па крыві… Хоць рускі, хоць ліцвін — адна роўнасць: багацей. І ўсё. Ідзі і доўга думай.

*Пракопій выходзіць.*

***Зацямненне.***

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

*Прыступкі невялічкай драўлянай Міхайлаўскай царквы. На прыступках сядзіць сляпы Мікіта і ягоны павадыр, хлопчык гадоў 12-ці. Яны нешта ядуць з кулака. Ля царквы Пелагея і яе маці.*

Маці Пелагеі. Чаго мы першымі прыйшлі, дачушка?

Пелагея. Каб перад службаю нам з Пракопіем сустрэцца. Сумую. Хоць адным вокам на яго глянуць.

Маці Пелагеі. І мне ён падабаецца. Але ж бацька яго чутку пускае, што нібыта сам князь хоча аддаць за яго стрыечную сястру княгіні…

Пелагея. Фёклу?

Маці Пелагеі. Яе.

Пелагея. Бацька наш — баярын. Мы вольныя.

Маці Пелагеі. Князь усяго ўладар: і дом яго, і двор, і пагосты. Мы — служкі. Сёння багаты баярын, а заўтра — вазі гаршкі прадавай. Ды мы і не надта багатыя. У некаторых, во як у былога войта, аконныя акалоды са срэбра.

Пелагея. Чаму ўсё так? Усе прагнуць багацця.

Маці Пелагеі. Бедныя менш жывуць… чэлядзь, смерды…

Пелагея. Яны на зямлі гаруюць.

Маці Пелагеі. З зямлі не разжывешся. Ідзе…

Пелагея. Хто?

Маці Пелагеі. Пракопій твой.

Пелагея. Ён яшчэ не мой.

Маці Пелагеі. Пагутары з ім. А я пайду да абразоў за вас маліцца.

*Ідзе ў царкву. Пракопій падыходзіць да Пелагеі.*

Пракопій. Што кажа маці?

Пелагея. Баюся й гаварыць. Кажа, нібыта сам князь загадвае твайму бацьку аддаць за цябе пляменніцу Фёклу.

Пракопій. Калі так, то князь будзе мне ворагам.

Пелагея. Цішэй. Хіба ж такое можна казаць?

Пракопій. Ён чужак. Гэта наша зямля… Не будзе па-мойму, збягу да язычнікаў, ці ў свет. Кажуць, князь смаленскі Іван уцекачам дапамагае. Ці зможаш пакінуць бацькоўскі дом дзеля мяне?..

Пелагея. Не. І думак нават такіх баюся. Куды, як, за што жыць?

Пракопій. Думаю і пра гэта, галубка мая…

Пелагея. І я без цябе не магу… І дзень сумны-сумны, калі без цябе…

*Уваходзяць Гудзім з Фёклай. Гудзім падзываў рукой сына да сябе.*

Пелагея. Не ідзі. Заставайся побач.

Пракопій. Гневацца будзе.

Пелагея. Не падыходзь да яе.

Пракопій. Бацька гневацца будзе. (*Ідзе да бацькі і Фёклы.*)

Фёкла. Са святам Божага нараджэння, Пракопій.

Пракопій. Са святам.

Фёкла. Мы ў хоры пеўчых спяваем. Так хораша. Уладыка Амбросій навучыў. Пойдзем да нас у хор.

Пракопій. У мяне голас, як у ваўка зімою.

Фёкла. Наўмысна жартуеш. Далібог, вельмі цікава.

Гудзім. Пайшоў бы.

Пракопій. Ай…

*Уваходзіць Сысой.*

Сысой. З Ражством Хрыстовым, баярын Гудзім.

Гудзім. З Ражством, баярын Сысой.

*Цалуюцца. Ідуць паступова да царквы людзі. Уваходзіць і дружыннік.*

Дружыннік. Дарогу князю Альгерду!

*Усе знімаюць шапкі акрамя Сысоя і Гудзіма. Уваходзяць Альгерд і Марыя. Ім насустрач з царквы ідзе Амбросій.*

Усе. Са святам Ражства Хрыстова, княжа Альгерд і княгіня Марыя.

Марыя. Са святам Нараджэння Хрыстова і вас, люд віцебскі.

Альгерд. А чаму не ўсе шапкі знялі?

Сысой. Нябожчык Яраслаў, бацюшка княгіні нашай, улажэнне вызначыў баярам ні перад кім шапак не знімаць.

*Паўза.*

Марыя (*Альгерду*). Няхай так. Свята…

Гудзім. Старыны трымаемся, калі будзе новае ўлажэнне, мы… (*хацеў зняць шапку, але бачыць, што Сысой не здымае сваёй*).

Альгерд. Няхай так. Мой бацька Гедымін любіць казаць: што зло новай улады пачынаецца з помсты старой. Будзем шанаваць старыну, калі яна ўмацоўвае еднасць.

Гудзім. Слава князю Альгерду.

Усе. Слава.

*Адчынілі царкоўныя вароты. Вынеслі 12-ці ражковую зорку з кутасамі на рогах. Пасярэдзіне свечка высвечвае ікону Божага нараджэння. Амбросій падае знак пеўчым. Пеўчыя спяваюць канон: «Хрыстос радзіўся, Богам хрысціўся, цары вітаюць, ангелы спяваюць, Бога, Бога праслаўляюць».*

Амбросій. Пакі, пакі. Госпаду памолімся. Святы Божа, Святы крэпкі, Святы бяссмертны памілуй нас. Бог нарадзіўся ў зямлі Палесціны… Абвясціў усім вялікую любоў, любові да бліжняга, як любілі яго бацькі Марыя ды Іосіф. Чытаем святое Евангелле ад Апостала Лукі. Вось што піша. (*Чытае аб нараджэнні Хрыста.*) Дзень сустракаць святой малітваю і завяршаць дзень малітваю. Паўтарайце за мной. Гэта будзе для вас як хлеб насушчны, хлеб духоўны. Ойча наш, каторы ёсць у небе. Свяціся імя Тваё. Прыйдзі валадарства Тваё. Будзь воля Твая, як у небе, так і на зямлі. Хлеб наш штодзённы дай нам сёння. І адпусці нам грахі нашыя, як і мы адпускаем вінаватым нашым. І не ўводзь нас у спакусу, але збаў нас ад злога. Амэн. (*Усе паўтарылі за Амбросіем.*) У светлы дзень наведаўся збавіцель наш, які праз 33 гады прыняў пакутніцкую смерць за грахі нашыя. Вучыцеся кіравацца яго запаведзямі, даруйце адзін аднаму дробныя грахі, каб яны не перараслі ў цяжкія грахі. Сёння ў нас і наша свята разам з Хрыстовым нараджэннем. Мы хрысцім у веру праваслаўную дачку баярына Сысоя і сына баярына Гудзіма Пелагею ды Пракопія. Надаём ім імёны Ганны і Васілія. (*Прыслужнік прыносіць чан з асвечанай вадой. Амбросій чэрпае тройчы далонню ваду і палівае галовы Пелагеі і Пракопія.*) У імя айца і сына і духа святога хрысціцца ў веру хрысціянскую раба божая Пелагея і раб божы Пракопій.

*Пелагея і Пракопій цалуюць крыж Амбросія. Пеўчыя спяваюць канон Хрышчэння.*

Альгерд. Бог вам у помач.

*Пелагея цалуе руку Альгерду. Цалуе руку Альгерду і Пракопій. Марыя прыглядаецца да Пракопія, як бы ўзгадваючы штосьці далёкае.*

Альгерд. Што з табой, княжна?

Марыя. Багата свечак тут гарыць, а царква маленькая. Не хапае паветра. Трэба нам новую будаваць.

Альгерд. Няхай люд памоліцца за наша здароўе і без нас. Амбросій, жонка мая благаверная Марыя, прыхажане, у памяць бацькі свайго Ярослава намерана новую царкву збудаваць… З першым цяплом і пачнём. Такое жаданне княгіні і на тое мая воля.

Сысой. Слава князю Альгерду.

Усе. Слава, слава, слава!

*Любава дапамагае Марыі спусціцца з прыступак. Людзі ідуць у царкву. Амбросій і Альгерд адны.*

Альгерд. Уладыка, я прасіў цябе паглядзець, калі мы збіралі баяр на раду, хто з іх устаў першы, калі я ўвайшоў у палаты, хто апошні?

Амбросій. Баярын Загоска ўстаў першым, баярын Сысой апошнім.

Альгерд. Перадай ім, каб яны пасля службы наведаліся да мяне ў замак.

*Амбросій благаслаўляе князя крыжам і ідзе ў царкву. Пеўчыя спяваюць. Святочны звон.*

***Зацямненне.***

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

*Замак князя. Сонечны дзень. У святліцы Войдыла і Альгерд.*

Альгерд. Як, мой сябар Войдыла, не сумуеш па Крэве, не пакінуў там каханку?

Войдыла. Усіх з сабой прывёз… У князя сяброў не можа быць.

Альгерд. Нават так? А хто тады?

Войдыла. Аднадумцы.

Альгерд. А ты, як жа?

Войдыла. Я паплечнік твой.

Альгерд. А як так зрабіць, парай, каб усе былі аднадумцамі: і баяры, і пасадскія, і чэлядзь?

Войдыла. На маю думку, дык дабрынёй, справядлівасцю, незалежнасцю, строгасцю, настойлівасцю і праўдаю.

Альгерд. Багата ўсяго. І добры, і жорсткі.

Войдыла. Такая доля князя. А людзі аднолькавыя ўсюды. Бедныя не любяць любую ўладу.

Альгерд. Віцебск прыгожы. Я часам стану ля акна, вазьму сына на рукі, кажу: «Глядзі на свой горад...» А што табе душу гоіць, калі пра смерць думы адольваюць?

Войдыла. Песні люблю слухаць, калі моладзь на Лучосе спявае, на ваду люблю глядзець. Ад смерці не ўцячэш, а хто носіць меч, дык яна побач.

Альгерд. Як думаеш, чаму варон на дрэвах не стала?

Войдыла. Пару сабе паляцелі ў лес шукаць. Людзі сабе шукаюць ля царквы, на базары сватаюць, а яны ў лесе.

Альгерд. Не ўсе, праўда. Паляцелі туды, дзе крыві многа… карміцца. Недзе, значыць, мой брат Кейстут бароніць свае землі.

Войдыла. Да пары. Баяры ўсё яшчэ носам круцяць. Каб не падгаварылі смаленскіх да цвярскіх цябе назад у Крэва вярнуць.

Альгерд. Пры старым князі яны, бачна, верхаводзілі. А тут невядома, куды я павярну.

*Уваходзіць дружыннік.*

Дружыннік. Баярын Гудзім Загоска.

Альгерд. Войдыла, ты схавайся там, каб нашу з ім гаворку чуць.

Войдыла. Добра. Як мыш буду.

*Войдыла выходзіць.*

Альгерд. Кліч баярына.

*Дружыннік выходзіць.*
*Паўза.*
*Альгерд як стаяў ля акна, так і стаіць, спіною да Гудзіма.*

Гудзім. Князю Альгерду слава і здравія яго княжне і отраку іх.

*Паўза.*
*Альгерд чакае ў напружанні. Альгерд паварочваецца да Гудзіма, які здымае з галавы шапку.*

Альгерд. Здравія баярыну Загоску. Чаму старыну парушаеш, шапку зняў?

Гудзім. Як у пісанні сказана: имеющий уши да услышит. Нашы баяры ганарлівыя, а я волю князя паважаць буду.

Альгерд. Сядай на лаву, у нагах праўды мала.

Гудзім. Зусім няма.

Альгерд. Як люд наш пачувае?

Гудзім. Наш люд, ці твой? Якія з табой прыехалі… крэўскія.

Альгерд. Мой люд. Цяпер усе — мой люд.

Гудзім. Бедны бяднее, багаты багацее, даніну збіраюць, войт утапіўся, жывуць з рамёстваў ды зямлі, кошт на хлеб не падае, хто жыве з гандлю, поп з дзесяціны, стражнік на вежах, у мытніка вока, як у арла, маладыя хочуць замуж, а старыя не хочуць паміраць, летапісец піша…

Альгерд. А пячатка прапала, і скарб згінуў, адна скарбонка і засталася.

Гудзім. Усё патрабуе дагляду.

Альгерд. Школы для дзетак няма… Млын адзін на Лучосе, вал ніжняга замка не ўмацаваны, стражнікі бражнічаюць, суда няма, раду ніхто даўно не збіраў, веча адсутнічае, баяры цёплыя месцы занялі, на прыстані мытню не па вазе бяруць, песень не чуваць.

Гудзім (*аж здзівіўся*). Адкуль князь усё ведае, тое, што й баяры не ўсё ведаюць.

Альгерд. Таму што не хочуць ведаць.

Гудзім. Адзін воз цягне. І за войта, і за ваяводу, і баярскія справы. А тут яшчэ баярын Сысой штурхае нас супрацьстаяць смаленскім.

Альгерд. Як?

Гудзім. Ён з цвярскім князем, як сваякі. Пад яго воляй… так у Смаленску кажуць і крыва на нас глядзяць.

Альгерд. А хіба стары князь не замірыўся са смаленскімі і цвярскімі?

Гудзім. На нейкі момант. Сёння мір, а заўтра аблога, давай водкуп. Усе прагнуць зямлі ды чэлядзі.

Альгерд. І што нам?

Гудзім. Мір са смаленскімі і адрачыся ад цвярскіх. У іх зямлі больш і люду больш.

Альгерд. Добра, што дбаеш пра княства, а не пра сябе.

Гудзім. Як казаў мой нябожчык бацька, які з Аляксандрам на Чудскім крыжакоў біў… Калі стаяць будзе княства і сабе прыдбаеш.

Альгерд. Разумна.

Гудзім. Таму і мацуем мураваную сцяну. У Пскове ўсё ўжо з каменя. А ў нас падпалы як кара.

Альгерд. Ну, добра. Нечым парадаваў, нечым здзівіў. Дзе шукаць згінулы скарб — не ведаеш?

Гудзім. Не ведаю, княжа. Дружыннікам даваў, адкупнога лівінцам даваў… Мала заставалася.

Альгерд. Ды і пячаткі няма. Мо хто скраў?

Гудзім. Не ведаю, княжа.

Альгерд. А хто пры Яраславе быў у апошнюю яго гадзіну?

Гудзім. Багата хто: Фёкла, дружыннікі, Сысой, іншыя баяры. Войт, староста заходзіў… і я быў.

Альгерд. А дзе былы ўладыка Грыгорый?

Гудзім. Да сваіх у Смаленск падаўся, як даведаўся, што вы свайго з Крэва прывезлі.

Альгерд. А люд?

Гудзім. Боскай міласцю і воляй князя апалчэнне збіраем хутка.

Альгерд. Што ў цябе ў торбачцы?

Гудзім. Табе, княжа, дзіва ад рускіх (*дастае цацку, падобную да Ванькі-ўстанькі*). Вось, як яго ні пакладзі, а ён скок і на месца. (*Паказвае.*) Кажуць, як на нас не палезуць, не папхнуць, мы ўсё адно на ногі ўстанем.

Альгерд (*гуляе з цацкай*). Сапраўды, дзіва. А ў нас?

Гудзім. Свістулькі, ражкі, трашчоткі. На базары ў нядзелю дзецям ёсць пацеха.

Альгерд. Рымары няхай мне конскую збрую зладзяць, каб адна на ўсё княства…

Гудзім. З вялікай ахвотаю выканаем. Шаблю з насечкай залатой?

Альгерд. Прыму. Які бунт сярод баяраў — адразу да мяне. Што сабе просіш?

Гудзім. Не сабе, сыну. Прашу вашай волі аддаць за яго стрыечную сястру княгіні Фёклу.

Альгерд. І гэта ўсё?

Гудзім. Пакуль ёсць і хлеб, і сала, і рыба, і мёд. Дзякуй богу.

Альгерд. Калі ўсё да ладу, дазвол на вянчанне дам.

Гудзім. Дзякуй, князь.

*Гудзім выходзіць.*

Альгерд (*да Войдылы*). Добра было чуваць?

Войдыла. Як на споведзі.

*Уваходзіць дружыннік.*

Дружыннік. Баярын Сысой Сырамятнік.

Альгерд. Хавайся, Войдыла, яшчэ адзін. Вядзі яго сюды.

*Дружыннік выходзіць і праз паўзу ўваходзіць Сысой.*
*Сысой не знімае шапку.*

Сысой. Няхай Бог дае здароўе князю і яго дому.

Альгерд. У старыну перад князем стаялі ці сядзелі?

Сысой. Стаялі, а з дазволу князя і сядзелі.

Альгерд. Што трымаеш?

Сысой. Дзіва з дзівосаў. Вось…

Альгерд. Скрынка.

Сысой. А ў ёй фігуркі. Шахматы. Сябры нашы надзейныя ў Цвяры ў дар князю маладому даслалі.

*Альгерд разглядае фігуры.*

Альгерд. Так падаравалі, ці нешта трэба гэтым з Цвяры?

Сысой. Нічога. Толькі былі пад аднымі харугвамі, люд там рослы, дужы, войска хоча, як у крыжакоў, ручніцу.

Альгерд. Не чуў. А хіба меч, шабля, страла горш?

Сысой. Горш. Ляціць з ручніцы агонь і забівае. Смаленскія перад імі вінаватыя. У палон людзей забралі, жывёлу пагналі, і падпалы ўчынілі, як і нам калісь.

Альгерд. Хіба мы не здолеем абараніцца?

Сысой. Сілы мала. Яны аблогу ўчыняць і патрабуюць водкуп. Складчына войт казаў пустая.

Альгерд. Якая складчына?

Сысой. Скарб, казна. Наняць ваяроў няма за што.

Альгерд. А чаго ж складчын няма?

Сысой. Ніхто не ведае. Не слухайце баярына Загоску… Яго смаленскія падкармілі.

Альгерд. Я за чужых ваяваць не хачу. Як люд наш?

Сысой. Бедны бяднее, багаты багацее, даніну збіраем, войт утапіўся, з рамёстваў жывуць, з зямлі, хто з гандлю, поп з дзесяціны, у мытніка нюх, як у лісы, маладыя хочуць жаніцца, а старыя не хочуць паміраць.

*Альгерд раптам зарагатаў. Сысой не зразумеў з чаго, і давай сабе рагатаць таксама.*

Альгерд. Маладыя замуж, а старыя паміраць…

Сысой. Ісціна, не хочуць, зараза, паміраць.

*Паўза.*

Альгерд. Якія ўсё ж хітрыя віцебскія баяры.

Сысой. Бог нас сюды кінуў, кажа, вучыцеся выжываць. Рэкі ёсць, азёры ёсць, лес, каменя зашмат… Змагаемся.

Альгерд. А што ж для сябе папросіш?

Сысой. Мне ўсё будзе добра, калі ў князя ўсё будзе ладна. Адданых служак князь сам-насам з бядою не пакідае.

Альгерд. Калі таго заслугоўваюць.

Сысой. І целам, і духам.

Альгерд. Цікава, што ж сабе папросіш?

Сысой. Дачцэ. Адзінай. Не дай сваёй згоды ажаніць сына Загоскі з Фёклаю-ключніцай. Сын ягоны, Пракопій, маю дачку хоча, Пелагею.

Альгерд. Пелагея, Пелагея, з ёю цела сваё грэю. Гучнае імя.

Сысой. У нас кажуць, палова шчасця там, дзе каханне.

Альгерд. А другая палова?

Сысой. Вядома, там, дзе багацце.

Альгерд. Я выслухаў. Буду думаць. Што яшчэ?

Сысой. Княгіні. Собаль на каўнер.

Альгерд. Таксама з Цвяры?

Сысой. Наш. Сваяк на мытні… Прыміце дар.

*Альгерд бярэ собаля.*

Альгерд. Дагадзіў ты княгіні. Хвалю. Увечары прыйдзеш гуляць у шахматы.

Сысой. Як загадана. Буду.

*Сысой выходзіць.*

Альгерд. (*Войдылу*). Так сабака шапкі і не зняў.

Войдыла. Адзін аднаго хітрэйшы. На п’янай казе не пад’едзеш. Дай волю, перагрызуць адзін аднаму горла. Даць бы дазвол і на Фёклу, і на Пелагею.

Альгерд. Каб чубы сабе паскублі. Даецца ўлада Богам, а з ёю і выбар, кожны дзень выбар.

Войдыла. Я апрануся прадаўцом і пайду, княжа, у горад. Мяне ж ніхто

ў твар пакуль не ведае. Буду прадаваць лыжкі, трашчоткі, свістулькі, міскі. Просты люд усё ведае і пра баяр, і пра войта, які ўтапіўся, і пра Смаленск ды Цвер.

Альгерд. Добра прыдумаў. Паспрабуй. Няўжо згінуў скарб, а, можа, хто ўкраў?

Войдыла. Усё можа…

Альгерд. Марыя казала, і золата, і срэбра ў бацькі ў казне было… І нямала.

Войдыла. У мяне нюх.

***Зацямненне.***

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

*Базар у Ніжнім замку. Доўгі стол, за якім стаяць прадаўцы ежы і рэчаў рамёстваў. Людзі збіраюцца паступова. На стале глечыкі, гаршкі, кошык з гусямі, побач бочкі, цэбры, конская збруя. Праходзяць хлопчык і сляпы Мікіта. Хлопчык іграе на дудачцы, Мікіта б'е ў бубен. Хтосьці кладзе міласціну ў торбу Мікіты, якая вісіць у яго на плячы.*

Прадавец гаршкоў. Дзе люд віцебскі?! Хіба ж базар бедны?

Прадаўшчыца гусей. Пасля ютрані пойдуць. Ідуць.

Прадавец гаршкоў. Я так скажу, калі не купляюць гаршкі — збяднелі. На квасе ды хлебе сядзяць.

Прадавец бочак і цэбраў. У Суражы колькі пуд жыта?

Прадавец гаршкоў. За два зайцы не аддадуць.

Прадавец медавухі. У нас, у Мар'іне, леташні кошт стаіць. У нас каменя багата… Слабая зямля.

Прадавец медавухі. Сала менш ядуць, а медавуху п'юць.

Прадавец гаршкоў. Задарма пачастуй.

Прадавец медавухі. О-ге…

*Уваходзіць у сялянскай вопратцы Войдыла.*

Войдыла. Каму лыжкі, трашчоткі, затычкі да бочкі! Падыходзь, баяры, просты люд. Магу сам падбегчы, пакажы намер. Калі хочаш быць здаровым, і калоць ты лёгка дровы, каб не было адрыжкі, не з рукі еш, а з лыжкі!

Прадавец гаршкоў. Я цябе, чалавеча, нешта не прыпомню.

Войдыла. Я толькі навучыўся лыжкі стругаць.

Прадаўшчыца гусей. А чый будзеш?

Войдыла. З Ражнова бацькі.

Прадавец медавухі. Не быў там.

Прадаўшчыца гусей. Якія мальцы ў вас рослыя!

*Паступова падыходзяць людзі.*
*Уваходзяць Любава, Язычнік, баярын Сысой з жонкаю і дачкою, баярын Гудзім з сынам.*

Войдыла. Першаму пакупніку аддам за паўцаны.

Язычнік (*Любаве*). Як падобны на нашага Войдылу.

Любава. Гэты з вусамі і барадой.
Войдыла (*Язычніку*). Маўчы, калі пазнаў.
Язычнік (*Войдылу*). Маўчу, маўчу…
Прадаўшчыца гусей. Князь, князь ідзе.

*Уваходзяць дружыннік, за ім Альгерд і княгіня. Ідзе побач і староста Бутрым.*

Альгерд. Добра вам у святочны дзень гандляваць, люд віцебскі?
Усе. Добра, добра, княжа. Дзякуй.

*Чутно як спяваюць велікодны канон. І вось ідуць па базары Амбросій з прыслужнікам, які нясе цэбрык са святой вадой, і пеўчыя. Сярод пеўчых Фёкла.*

Пеўчыя. Хрыстос уваскрэсе з мёртвых і смерцію смерць паправ і нам, жывушчым, во гробесях, жывот дараваў!
Амбросій. Хрыстос васкрэсе!
Усе. Ваісціну васкрэсе!
Амбросій. Хрыстос васкрэсе!
Усе. Ваісціну васкрэсе!
Амбросій. Хрыстос васкрэсе!
Усе. Ваісціну васкрэсе!

*Кропіць усіх святой вадой.*

Амбросій (*ля князя*). Хрыстос васкрэсе!
Князь. Ваісціну васкрэсе!

*Цалуюцца. Фёкла апынулася каля Пракопія.*

Фёкла. Хрыстос васкрэсе!
Пракопій (*неахвотна*). Ваісціну васкрэсе.

*Фёкла цалуе Пракопія. Пеўчыя ідуць з Амбросіем далей. Усе хрыстосаюцца і цалуць адзін аднаго.*

Прадавец зайцоў. Зайцы, свежанькія, толькі выцягнуў з удаўкі. Зайцы!..
Альгерд (*зацікавіўся*). І дзе ты іх выцягнуў?
Прадавец зайцоў. Вось у тым лесе, ля Лучосы.
Альгерд. Староста?
Бутрым. Я, мой княжа, тут.

*Падыходзіць да князя, знімае шапку.*

Альгерд. Чый гэта лес ля Лучосы?
Бутрым. Князя Альгерда.
Альгерд. Ці ж мае ён, зайцалоў, дазвол на паляванне ў маім лесе?
Бутрым. Гэта (*напалохана*) недагляд… Не мае… Па звычцы, употай.
Альгерд. Не мае. Дзесяць бузіноў зайцалову і пяць старосту.
Марыя. Альгерд, сёння ж святая Пасха… Божае ўваскрэшанне. Даруй…
Альгерд (*пасля паўзы*). Хай будзе па-твойму. Дарую, але папярэджваю.
Прадавец зайцоў. Век маліць Бога буду.
Альгерд. Староста, ты заслугоўваеш не пяць, а дзесяць. Калодзежа ў Ніжнім замку няма… Маставыя — сажань, размінуцца нельга. А гэты з бочкамі наш?

Староста. З Бабіна.
Альгерд. Мыта плаціў?
Староста. Не ведаю.
Альгерд. А трэба ведаць.
Гудзім. У нас старына… мыта мытнік збірае.
Альгерд. У казну не ўсё аддае.
Гудзім. Э-э… гэта…
Альгерд. Колькі ў нас базарных дзён?
Староста. Як выпадае… На пяты дзень тыдня, шосты…
Альгерд. Ад сягоння будзе ў нядзелю.

*Чуваць голас: «Стой! Жаба балотная, стой! Заб'ю, спыніся!» Прадавец мяса, трымаючы за чупрыну Афоню, памочніка летапісца, выцягвае яго да старосты і князя.*

Прадавец мяса. Сюды, нягоднік, не ўцячэш! Князь наш праведны і справядлівы суддзя…
Афоня. Не я, а ён вінаваты. Пусці, пачвара! Ён падмануў мяне.
Староста. Ціха! Усім ціха!
Прадавец мяса. Ён пабіў мяне.
Прадавец гаршкоў. Пакажы, як…

*Усе рагочуць.*

Афоня. Не я, ён мяне, кулаком-кувадлай. У вачах пацямнела.
Прадавец мяса. Ад медавухі ў цябе пацямнела.
Староста. Маўчаць! Князя слухаць.
Альгерд. Чаму князя?
Староста. У нас, княжа, як у старыну — высокі суд, княжацкі суд. Хто каго біў, што ў каго ўкраў, хто падпал учыніў суседу, хто кабылы не падкаваў — усё князь рассудзіць і вынесе справядлівы прысуд.
Альгерд. А мірскі суд дзе?
Староста. Няма. Толькі княжацкі. Баяры адмаўляюцца судзіць.
Альгерд. Выходзіць, што князь можа цэлы дзень на базары свары разбіраць.
Староста. Так. У старыну так.
Альгерд. Надакучылі вы мне са сваёй старынай. Дарма я табе спусціў пяць бізуноў.
Гудзім. Слухаем князя.
Сысой. Княжацкі суд.
Альгерд. Каб заўтра на думе выбралі суддзю і на векі вечныя, да яго скону!
Прадавец мяса. А як жа я?
Альгерд. Кажы, як сварка пачалася?
Прадавец мяса. Падыходзіць гэты да мяне і таргуецца. Саступаю яму…
Афоня. Каб ты так саступаў чорту балотнаму!
Прадавец мяса. Купляе ў мяне мяса. Купіў. Не паспеў я кашлянуць, вяртаецца п'яненькі ад медавухі, недзе пад лаўкаю каўтануў і да мяне лезе. Кажа, ты з мяне п'янага багата ўзяў, мяса не цяляці, а старой каровы. Тут мяне заела. Ах ты, сабака шалёны, ідзі да царквы і прасі даравання ў Бога за грэх падману. А ён мне маё ж мяса кідае ў твар.

Афоня. Не ў твар, а ў морду.

Прадавец мяса. У падбароддзе пацэліў і ў вока.

Афоня. Гэта ты мяне ў вока тыцнуў.

Прадавец мяса. І давай гарлапаніць: вярні грошы! Гляджу я, а ад кавалка мяса добры кус адрэзаны. Вага не тая. Тут я і садануў. Грошы яму не вярну. Купіў і ўсё…

*Зноў кінуліся адзін на аднаго біцца. Язычнік іх рассоўвае ў бакі.*

Альгерд. Сведкі з двух бакоў ёсць?

Прадавец мяса. Няма.

Афоня. Я быў п'яны, калі купляў. Ён мяне п'янага падмануў.

Прадавец мяса. Ён быў, княжа, цвярозы. Падман. Крыж кладу (*хрысціцца*).

Альгерд. Староста! Дзе прадавец медавухі?

Прадавец медавухі. Я тут, княжа. У нас у кожнай хаце медавуха. Мая самая лепшая.

Альгерд. Піў гэны малец?

Прадавец медавухі. Піў, але ці пасля мяса, ці перад купляй, не скажу.

Альгерд. Не ведаю, што з вамі рабіць.

Гудзім. Княжа, я ахвярую… У дзень Пасхі. Я вярну за мяса грошы Афоні.

Альгерд. Няхай так. Ты задаволены?

Прадавец мяса. Княжацкі суд — справядлівы суд.

Альгерд. Усім жадаю весела і доўга святкаваць.

Усе. Дзякуем, княжа.

*Князь, княгіня і дружыннік выходзяць.*

Афоня. З'еў, язык твой паганы адрэзаць бы.

Прадавец мяса. Адрэж спачатку сабе… гэта… палец…

Гудзім (*Афоні*). Прыйдзеш да мяне ў дом заўтра перад абедам.

Афоня. А калі ў баярына абед?

Гудзім. Калі захоча, тады і абедае.

*Афоня выходзіць.*

Войдыла. Староста, скажы, а раптам хто з нас, не вытрымаўшы медавухі, памочыцца на маставую, які суд?

Староста. Клікнем сведак, памераем, колькі выпусціў нечыстоты і падзадак, ад памеру плямы.

Войдыла. Добра, што яшчэ не прымушаеце сведак нюхаць.

Староста. Цябе за твой востры язык, прывучым.

*Староста спяшаецца за князем. Любава з Язычнікам носяць свой кошык, а прыслужнік Амбросія свой.*

Язычнік. Да стала князю святочныя падарункі, калі ласка.

*Усе нешта кладуць у кошык.*

Прыслужнік. Уладыку да святочнага стала падарунак.

*Кладуць і ў гэты кошык. Сысой купляе ручнік і дае жонцы. Пелагея сочыць за Пракопіем, але яго бярэ за руку Гудзім і выводзіць з базару.*

Жонка Сысоя. У мяне такі ручнік ёсць.

Сысой. Ай, няхай будзе два… Пелагеі на вяселле.

Сысой, жонка і Пелагея выходзяць.

Войдыла (*да Прадаўца зайцоў, да Прадаўца гаршкоў*). Гэй, частую! Трохі ля царквы ўтаргаваў. (*Да Прадаўца медавухі.*) Нясі, медавушнік, кварты. (*Да Мікіты.*) Дзядзька Мікіта, хадзі да нас, пасядзі.

*Да іх падыходзіць Мікіта з хлопчыкам.*

Прадавец зайцоў. Як жыць? У мяне ж трое дзетак.

Войдыла. Нешта князь прыдумае, не сумуй. Мікіта, заспявай нам штось. Вып’ем, мальцы, каб за год даждалі, а ў гэты год дабра прыдбалі.

Мікіта (*спявае*).

Ой, як ішлі мы на Кіеў.
Чарадзей наш збіраў.
Ой, як плакалі дзявочкі,
Ой, як плакалі жанкі.
То мінулі іх вясёлыя дзянёчкі.

Хто казаў усім Хрыстос васкрос?

Войдыла. Уладыка Амбросій.

Мікіта. А як выглядае ўладыка?

Прадавец гаршкоў. Не малады… Барада і вусы, і косы сівыя, нават белыя. Ты хоць памятаеш, калі быў яшчэ не сляпы?

Мікіта. Памятаю. Як лёд на Чудскім возеры. А што ён паліў, што дым ішоў?

Прадавец медавухі. Нейкі ладан прывёз.

Мікіта. Без агню гарыць.

Прадавец гаршкоў. Неяк жа гарыць. Выпі лепей.

Войдыла. А што людзі кажуць, што з вашым войтам стала?

Прадавец медавухі. Любіў выпіць. Кажуць, п’яны палез у раку і патануў.

Прадавец зайцоў. Я чуў, што складчыну-скарб украў у старога пана, уцякаў праз раку і патануў.

Прадавец мяса. А можа, нейкія нелюдзі і ўтапілі, калі, як кажаш, са скарбам ішоў.

Прадавец медавухі. Мне дазваляў прадаваць медавуху, не баючыся старосты. Няхай там, на небе, яму пашанцуе. Вып’ем за гэта.

Войдыла. Мы ўсё вып’ем, а сам не п’еш.

Прадавец мяса. Ён у нас самы хітры.

Прадавец медавухі. Што хітры, каб яшчэ багаты. О-гэ… Я так скажу: простаму чалавеку гонар ды годнасць перашкаджаюць жыць.

Войдыла. А як трэба?

Прадавец медавухі. Абы ціха і абы-як.

Войдыла. Дык іншародцы таптаць будуць.

Прадавец мяса. Патопчуць ды стомяцца, а выжыць усім трэба. Пяць летаў таму ад аблогі адкупіліся, а дзесяць таму падпалы былі і ў палон нашых дзевак пахапалі.

Прадавец гаршкоў. Тваю не ўхапілі. Сірот аддалі ў арду.

Мікіта *(выпівае і спявае)*.

Як у Полацку яблынька цвіла,
Мяне дзяўчына пад ёю ждала.
Ой, чакала не дачакалася.
За другога замуж пайшла.

Война. І што ў цябе, Мікіта, усе песні надта сумныя.

Мікіта. Якое жыццё, такія і песні.

Война. Цішэй. Чуеце? Жаўрук.

Прадавец бочак і цэбраў. Бач ты, яшчэ холадна, а дамоў цягне. Дай божа ўраджайны год. Нават калі багата зерня сабралі, а новае ў зямлю кідаць трэба.

*Стаяць усе нерухома і слухаюць жаўрука.*

***Зацямненне.***

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

*Міхайлаўская царква. Дзверы адчынены. Ля алтара гараць свечкі. Ля прыступак Любава і Язычнік.*

Любава. Не зойдзеш у царкву, не паставіш свечку родным, якія памерлі?

Язычнік. Не буду ставіць свечку чужому Богу.

Любава. Які ж ты ўпарты нарадзіўся. Душы памерлых будуць крыўдаваць.

Язычнік. Прыдумалі ўсё. Адтуль яшчэ ніхто не вярнуўся, якая яшчэ душа? Колькі я сваіх сяброў-ваяроў пахаваў, і ніводны адтуль знака не падаў. Воля ёсць на зямлі, і радуйся. Нават хоць пяць свечак пастаўлю, ніхто мне вока не верне.

Любава. Верыць трэба, з Богам лягчэй… Волю на хлеб не намажаш.

Язычнік. Не ўгаворвай. Апошні раз пытаю… Зараз я вольны, палон закончыўся, мяне адпусціў князь. Пойдзеш за мяне?

Любава. За язычніка не пайду.

Язычнік. Глядзі, каб локці не кусала. Пайду ў свой Ноўгарад. Там у нас усё вырашае народнае веча, а тут... маліся на ласку князя. Ходзяць па беразе дружыннікі і бусакамі шукаюць тапельца.

Любава. Яны войта шукаюць.

Язычнік. А хіба ён учора ўтапіўся?

Любава. Не ўсплыў. Не знайшлі.

Язычнік. І не знойдуць. Яго даўно аднесла вадой гэць адсюль.

Любава. У Ноўгарадзе згінеш. Ты ж акрамя як ваяваць нічога не ўмееш. Не абучаны рамёствам.

Язычнік. Бацька быў цесляром, навучуся.

Любава. Пачакай тады. Пастаўлю свечку і пойдзем разам.

*Уваходзіць памочнік летапісца Афоня.*

Афоня. Гэй, язычнік, пачастуй медавухай.

Язычнік. А што, хіба свята сёння?

Афоня. А то не. Няма вайны дык і свята.

Язычнік. Ідзі да баяр. Яны багацейшыя. Адкуль у мяне грошы?

Афоня. Якраз да аднаго іду.

Язычнік. Каго дружыннікі шукаюць?

Афоня. Войта. Кажуць, што ён нібыта скарб князя ўкраў. Пачастуй…

Язычнік. Адчапіся.

*Афоня сыходзіць. Выходзіць з царквы Любава.*

Любава. Толькі перахрысцілася, крыж пацалавала, а на душы цёпла-цёпла.

Язычнік. Пад маім бокам будзе цяплей.

Любава. Княгіня сюды ідзе.

Язычнік. Без князя.

Любава. Хадзем.

*Абое выходзяць. Уваходзіць Марыя. Яна насцярожана азіраецца. Насустрач ёй выходзіць Амбросій. Марыя цалуе руку ўладыку, ён хрысціць яе.*

Амбросій. Што загадае наша княгіня?

Марыя. Спавядацца хачу. Параду хачу атрымаць.

Амбросій. Хадзем да алтара.

Марыя. Не. Я дзіцятка нашу ў сабе. Мне ад свечак у грудзях цісне.

*Амбросій накрывае яе галаву епітрахіллю.*

Амбросій. Якія праграшэнні: вольныя ці нявольныя, кажы.

Марыя. Даўно тое было. Калі яшчэ ў дзеўках бегала на бераг. Дужа моцна сябравала з сынам Загоскі Пракопіем. Замуж за яго хацела, ды сілком аддалі за Альгерда. Плакала я тры дні і тры ночы. Пацалункі з Пракопіем сніліся. Альгерд хоць і нелюдзімы аказаўся, ганарысты… усё рабіў, каб душа мая да яго павярнулася. Кахаю Альгерда аднаго.

Амбросій. У чым твой грэх?

Марыя. Люд розны. Я свая, ён тут чужы. Баюся, каб не знайшоўся хто злы, не перадаў князю, што побач з ім ходзіць той, каго кахала яго княгіня. Ці ж адкрыцца мне яму, ойча?

Амбросій. Дзеці бязгрэшныя. На яго вачах ты не мілавалася з Пракопіем, не… Няма ў чым каяцца. Пачнеш прасіць прабачэння, больш раззлуецца, яшчэ западозрыць што. Пракопій сватаецца да Фёклы… А я буду маліцца за цішу і благадаць дома князя. Бог дасць, дачакаешся дзіцяці.

Марыя. Дзякуй.

Амбросій. Ідзі з Богам.

*Хрысціць яе. Марыя выходзіць.*

Амбросій. Час званіць да вячэрні, прыслужнік! (*Паўза.*) Фёдар, дзе ты? (*Уваходзіць запыханы Прыслужнік.*) Што ты ўсё на бераг бегаеш, тапельца не бачыў? Запрашай люд да вячэрні. Звані.

*Чуцен звон.*

***Зацямненне.***

## КАРЦІНА СЁМАЯ

*Замак князя Альгерда. Староста стаіць перад князем нерухома, толькі час ад часу выцірае пот з ілба. Альгерд сядзіць у крэсле, побач на невялікім століку скарбонка. Староста не ведае, як сябе паводзіць.*

Альгерд. Падыдзі сюды. (*Староста падыходзіць.*) Адкрый скарбонку. (*Староста асцярожна адкрывае.*) Што ў ёй?

Староста. Пуста.

Альгерд. А чаго рукі дрыжаць?

Староста. Баюся. Усяго баюся.

Альгерд. Калі невінаваты, чаго баяцца?

Староста. Невінаваты.

Альгерд. Я з усіх бакоў толькі і чую: не чапаць старыны, каб усё было як пры старым князю. Сабакі ў начы па вуліцах блукаюць… старыны.

Староста. З усіх бакоў вінаваты.

Альгерд. Дык куды падзеліся срэбра і золата?

Староста. Я не быў дапушчаны да лавы, дзе паміраў князь. Баяры ды войт верхаводзілі.

Альгерд. Дзе скарб, скажаш?

Староста. Адзін Бог ведае.

Альгерд. От у вас звычка ўсё на Бога звальваць. Якое ўлажэнне я даваў?

Староста. Мыта з конных, пешых, возных — у скарб. Браць авёс з трубы. Мыта з вагі. Браць авёс з сахі. Так пачалі рабіць.

Альгерд. Чаму ж пустая скарбонка?

Староста. Але ж сёе-тое баяры-радцы на радзе не ўхвалілі.

Альгерд. Супраць волі князя?! Караць усіх буду. Я не слабы духам.

Староста. Стары князь іх слухаў.

Альгерд. Ты ў сям'і старыну рушыш. Бражнічаеш у пост, ну?

Староста. Бражнічаю.

Альгерд. Харомы будуеце са святліцай. Акалоды акон, каб са срэбра. Замест аўчыны падавай собаля… Калі вока баліць, на сапфір глядзіш.

Староста. Усе баяры круцяць. Лесу хацеў узяць у баярына Сырамятніка на маставыя, не даў. Чалом б'ю, няма чым плаціць.

Альгерд. З трох мастоў, дзіву даешся, два не падымаюцца. Хто будаваў?

Староста. Смаленскія.

Альгерд. Свае абібокі без рук.

Староста. Гудзім баярын наняў. Я паганяйлам быў.

Альгерд. Які з цябе паганяйла. Цябе яшчэ трэба паганяйла. Ваша старына дае вам усім красці ад простага люду нажыўное. Калі баліць у грудзях, чарадзея не клічаш шаптаць малітвы. Апосталаў чытаеш, ды травы п'еш.

*Уваходзіць Войдыла ў вопратцы ваяводы.*

Альгерд. Ваявода Войдыла, схадзі ў сховішча, ці хапае прыпасаў, харчоў на час аблогі, ці там пуста… Ідзі, паганяйла…

Староста (*не верыць вачам*). Гэта ж таго… што лыжкамі гандляваў.

Альгерд. Заўтра на радзе будзе паказаны як ваявода. Ён лыжкі ўмее трымаць у руках і меч. Такое пачуццё, што ўсе крадуць і пакрываюць адзін аднаго.

*Староста выходзіць. Войдыла і Альгерд адны.*

Альгерд. Дык ты кажаш, сярод люду ходзіць чутка, што скарб прыбраў нехта з баяраў, а на войта спісваюць.

Войдыла. Так, княжа.

Альгерд. Закапалі дзесь. Дурні. Вывязуць да чужых. Тыя адбяруць, а благадзею торбу на галаву. Клікні да мяне Фёклу.

Войдыла прыводзіць Фёклу.

Альгерд. Сядай, пляменніца, бліжэй да мяне, я не кусаюся. Радуйся, я даю згоду на вянчанне тваё з сынам баярына Загоскі Пракопіем. Рада?

Фёкла. Рада.

Альгерд. Калі сустракаеш, вочы твае гараць… Няўжо так моцна кахаеш?

Фёкла. Моцна, княжа. Як на Пасху нахрыстосаліся, дык тыдзень не мыла вусны. (*Альгерд усміхнуўся.*) Соладка было.

Альгерд. Цяпер вось што. Прыпомні, калі Яраслаў, сын Васіля паміраў, хто сядзеў ля галавы яго?

Фёкла (*не адразу*). Баяры прыходзілі з самага ранку, войт, ягоныя дружыннікі, я была…

Альгерд. Так. Хто яшчэ?

Фёкла. Пад вечар, калі бацюхна амаль вочы не адкрываў, яшчэ наведваліся, каб развітацца ўладыка Грыгорый, войт, баярын Гудзім, баярын Сырамятнік, я не вытрымала, пабегла да сябе і ўсю ноч не спала. А раніцай яго Бог забраў.

Альгерд. А дзе скарбонку са скарбам князь трымаў?

Фёкла. Жаліўся, што не багата, але ж… Пад лавай сваёй трымаў. Часам рукою мацаў: ці на месцы.

Альгерд. Мог мацаць і пустую, без скарбу. А мог аддаць каму на захаванне, уладыку, баярам?

Фёкла. Што не ведаю, дык не ведаю. Сядзеў летапісец… У кутку. Увесь час драмаў.

Альгерд. Дзе ён?

Фёкла. Узяў падводу ды паехаў святкаваць дзень ангела, брата свайго ў Язвіна.

Альгерд. Дзякуй. Вазьмі ў княгіні грошай, скажы, я дазволіў, ды абнаві адзежу да вянчання.

*Фёкла цалуе руку Альгерду.*

Фёкла. Век буду маліцца…

*Фёкла выходзіць. Уваходзіць Войдыла.*

Войдыла. У баяраў скарб.

Альгерд. А можа, уладыка Грыгорый? І на войта думаю.

*Уваходзіць дружыннік.*

Дружыннік. Мой княжа, дружыннікі выцягнулі тапельца войта. Яго апазнаў староста.

Альгерд. І на ім? Торбачкі…

Дружыннік. Нічога не знайшлі. Да пояса ключы прывязаны, а пад вопраткай ні золата, ні срэбра.

Войдыла. Што ён, дурны, са скарбам у ваду лезці? Будзем шукаць у баяраў. Тут ён, пад бокам, нюхам чую.

Альгерд (*да Войдылы*). Вось што, пасылай дружыннікаў у Язвіна. Прывязіце мне сюды летапісца. Які князь без скарба. Я мушу знайсці… катаваць будзем баяраў, язык вырываць будзем. Калі князя не баяцца — гэта не князь. А інакш прыйдзецца збіраць дружыну ды ісці рабаваць суседзяў.

***Зацямненне.***

## КАРЦІНА ВОСЬМАЯ

*Дом баярына Гудзіма Загоскі. Афоня і Пракопій. Пракопій у нейкім хваляванні ходзіць па святліцы.*

Афоня. Пракопій, што ты танцуеш без музыкі?..

Пракопій. Адчапіся. Чакаеш бацьку, чакай.

Афоня. Усе вы, віцебскія, нейкія несумленныя. Мы, полацкія, больш душэўныя.

Пракопій. Хваліся, хваліся. Скажы, што вашы ў Кіеве сядзелі вялікімі князямі.

Афоня. А што, такога не было? Чаму не пахваліцца. Скажы, хто з вашых ведае алфавіт ад А да Е?

Пракопій. Не лічыў.

Афоня. Бо няма з каго лічыць. А вось я, дык ад А да Ю назубок. Хоць пад хмелем, хоць нашча. Блохі кусаюць, камары спаць не даюць, а «Слово Григория Богослова», «Беседы Василия Великого» посню, у вас ніхто іх не ведае, (*ціха*) нават князь.

Пракопій. Калі такі разумны, чаго ў Полацак не вяртаешся?

Афоня. У вас хлеб смачнейшы і медавуха лёгка п’ецца.

Пракопій. Хоць нешта добрае і ў нас знайшоў.

Афоня. А дзеўкі смак. Твая Пелагея — княгіня.

Пракопій. Не кажы так на людзях, а то князь табе язык адрэжа.

Афоня. Я маўчаць умею. Балбатуна не дапусцілі б да летапісца.

Пракопій. Бацька ідзе. Я пайду, не буду перашкаджаць.

*Пракопій выходзіць. З другога боку ўваходзіць Гудзім. Афоня ўстае.*

Афоня. Мы тут з Пракопіем гутарылі, дык нічым не пачаставаў.

Гудзім. Пачастуем, як не пачаставаць… Ты смелы, надзейны чалавек. Той, хто смелы (*дастае торбачку з грашыма*). Вось тое, што абяцаў.

Афоня (*падкідвае торбачку на далоні*). Ого… Цяжкая.

Гудзім. І яшчэ. Не купляй больш мяса ў гэтага, бяры ў Салейкі. Гэта мой чалавек. За палову цаны аддаваць будзе.

Афоня. За палову? А пасля біцца палезе, зубатычынай.

Гудзім (*усміхаецца*). Рабі, што раю. Мой чалавек.

Афоня. Дзякуй. Не заслужыў.

Гудзім. Кінь наперад, знойдзеш.

Афоня. Калі хто іншы тваё не знойдзе.

Гудзім. Разумна. Хачу, каб сына грамаце вывучыў. Буду добра плаціць. Вучэнне жыццё аблягчае.

Афоня. Гэта не цяжка. Толькі як жэніцца, а жанатыя не хочуць вучыцца.

Гудзім. І жонку вучыць будзеш. Фёкла азбукі не ведае.

Афоня. Я думаў, ён Пелагею бярэ. Ой, як на беразе, калі гуляем, ён уплётвае за ёй. Пасядзі каля яе, паспрабуй, не дай божа: як зыркне, а то — і тумака пад рэбры. На людзях цалуе, сорам. Завядзі ў кусты, да ракі і рабі з ёй, што ў пісанні сказана.

Гудзім. А што там сказана?

Афоня. Жывіце і размнажайцеся. Жана да ўбаіцца мужа.

Гудзім. Ай… Усе мы гулялі з аднымі, а бралі тых, на каго бацькі паказвалі. Такая старына. І вось што… Калі паміраў стары князь, я баюся, што твой летапісец драмаў у кутку і не ўсё запісваў.

Афоня. Можа. Я вар рыхтую прышчэпу.

Гудзім (*дае яму торбачку*). А помні, хто трымаў жывога князя за руку, быў войт. Мы прыйшлі: я, потым Сысой, староста… Ці ёсць гэта ў летапісе? Калі няма, трэба дапісаць. Каб па праўдзе ўсё было… Гэта ж летапіс.

Афоня. Зробім. Можна і дапісаць. Бывала, летапісец нешта ўспомніць і запіша. Ён прыгожыя літары выводзіць, я так не ўмею.

Гудзім. Хто там разбярэ. У Салейкі мяса бяры, сына вучы, знойдзеш сабе пару, дапамагу як сіраце вянчанне справіць.

Афоня. Ого. Стары летапісец пры лучыне яшчэ пісаў, а я пры свечках ужо.

Гудзім. Дапішы.

Афоня. Мяса за паўцаны, не падмане?

Гудзім. Дык я яму за тое зубатычыну дам.

Афоня. Ісціна. А да мяса…

Гудзім. Ну ты і прайдоха.

Афоня. Вы ж казалі, трэба кінуць наперад ці камень, ці грошы… Каб пасля знайсці.

Гудзім. Напачатку справа, медавуха пасля. Будзеш выходзіць, мой чалавек у сенях дасць табе медавухі.

Афоня. Каб не балелі ногі, не калолі вухі, вып'ем, мальцы, медавухі.

*Афоня выходзіць.*

Гудзім. Як цяжка жыць, калі за ўсё даводзіцца плаціць. Дазвол маю. Сын не князь, а на свайго і суда няма. (*Уваходзіць Пракопій.*) Сынок, добрая навіна. Сустрэў Фёклу. Князь даў згоду. Шчаслівая, як бліноў паела. Адзежу на вянчання спраўляе. Чаго маўчыш? Не рады шчасцю?

Пракопій. Маё сэрца не дае згоды.

Гудзім. Зноў за сваё! Супроціў бацькі. Воля мая.

Пракопій. Воля твая, а ёсць воля мая.

Гудзім. Да князя цябе пхну. Альгерд гарачы, як яго брат Кейстут і бацька Гедымін. Пакуль замірэнне… Брат на брата рацъ водзіць. А раптам ад стралы і Альгерд загіне. Тваё княства.

Пракопій. Я не жадаю княства.

Гудзім. Дурненькі. Пакажы мне, хто не жадае ўлады і грошай.

Пракопій. Хай я дурань. А па-твойму не будзе. Войт пры князе быў, а ўсё адно ўтапіўся. Выцягнулі…

Гудзім. Знайшлі ўсё-такі.

Пракопій. Кажуць, пры ім на поясе, як думалі, не знайшлі торбачак з золатам ды срэбрам.

Гудзім. Вадой змыла.

Пракопій. Не знайшлі. Відаць, багата было, калі патануў. На дно пацягнула.

Гудзім. Хапала… Бяры Фёклу — сам завядзеш сваю скарбонку. Альгерд хвацкі… два-тры паходы, два-тры водкупы і новы скарб.

Пракопій. Бывай.

Гудзім. Куды?

Пракопій. Чужым сыты не буду. (*Выходзіць.*)

Гудзім. Вярніся, сабачы сын… Вярніся! Апамятайся! Нічога не дам!

*Цішыня. Паўза.*

***Зацямненне.***

## КАРЦІНА ДЗЯВЯТАЯ

*На беразе ракі. Пракопій закрывае твар шапкай. Пелагея прыглядаецца, не зусім пазнае каханага.*

Пракопій. Сонейка маё, гэта я… я.

Пелагея. Напалохаў. Афоня так дзяўчат з Задзвіння палохае. Сядзем на корч.

Пракопій. Сёння моцна пасварыўся з бацькам.

Пелагея. Зноў. І ўчора сварыўся.

Пракопій. Больш не буду. Памятаеш, я пытаў у цябе: ці зможаш, калі прыйдзецца, уцячы з дому са мной?

Пелагея. Памятаю.

Пракопій. Такі час прыйшоў. Дык як?

Пелагея. І хачу, і баюся.

Пракопій. Трэба ўцякаць.

Пелагея. Загінем без бацькоў.

Пракопій. Не… Адкрыюся табе… Я знайшоў, дзе бацька хавае свае грошы.

Пелагея. О, Божа! Красці грэх.

Пракопій. У свайго не грэх. З такім багаццем я войска куплю. Падамся да Смаленска. Я там з бацькам быў. Рака прыгожая, і людзі ўсюды аднолькавыя, як да іх, так і яны да цябе.

Пелагея. Ой, у грудзях, ой, трасе ўсю. Як кінуць маці, бацьку?

Пракопій. Табе з імі жыць ці са мной?

Пелагея. З табой.

Пракопій. Маё вянчанне Амбросій прызначыў на шосты дзень тыдня.

Пелагея. Як? І ты мне не казаў.

Пракопій. Дык зараз кажу.

Пелагея. Заўтра ж пятніца?! А Божачкі.

Пракопій. Маці ў цябе добрая. Абжывёмся, дамо вестку. А бацька скнарны, але ж не за бядноту аддае. Мы будзем мець усё, як баяры. Бегчы трэба ўначы.

Пелагея. Хто мяне выпусціць?

Пракопій. Раніцай.

Пелагея. Хто на маставой браме выпусціць?

Пракопій. Адкупімся. Грошы сваю справу зробяць. Сына баярына Загоскі выпусцяць, а не, дык праз Лучоскую нізіну, лесам. Я ведаю, роў рыў з людам. Вазьмі хлебы і ўсё.

*Чутны галасы. Нехта набліжаецца да іх.*

Пракопій. Хадзем адсюль. Гулянка ідзе.

*Пракопій і Пелагея выходзяць. Праз паўзу да карча ідуць Афоня і дзве дзяўчыны. За імі Любава і Язычнік.*

Дзяўчаты (*спяваюць*). Ой, рэчанька, рэчанька,
Сцюдзёная вада.
Што ж маўчыш ты сэрданька,
Бо любага няма.
Ой, ночанька, ночанька,
Месяца няма.
А дзе ж мая дочанька,
Не спіць маці мая…

Афоня (*да Любавы і Язычніка*). Вось хаджу за імі колькі часу, тыдзень, усё выбраць не магу, да якой мне падступіцца. Абедзве падабаюцца. З адной іду, другая крыўдуе, з гэтай пайду, тая крыўдуе. От, доля мужыка цяжкая. Я да круглатварых жадзён.

Язычнік. Дык жаніся на абодвух.

Афоня. Амбросій не павянчае.

*Афоня адганяе ад дзяўчат галінкай бярозы камароў.*

Любава. Што ж у Ноўгарад не паехаў?

Язычнік. Дажджы пайшлі, а ў мяне абутак цячэ. Падшыць трэба. На ўвесь горад адзін шавец.

Любава. Вывучыся сам.

Язычнік. Не цягне. Прыгожы месяц.

Любава. Люблю, калі ён, як серп, на небе. І хто яго павесіў?

Язычнік. Кажуць, Бог. Нас перажыве…

Любава. Маці казала, калі памру, ты, дачушка, на месяц глядзі, мо я табе адтуль рукой памахаю. Гляджу і так сумна.

Язычнік. Гэта ад таго, што я ад'язджаю.

Любава. І зусім не. Людзі хадзілі глядзець на тапельца. Я не пайшла. Баюся… І цемры баюся.

Язычнік. Чаму?

Любава. У цемры жыцця не бачна.

Язычнік. Са мной і цемры не баялася б. Хадзем яшчэ песні паслухаем.

Любава. Сумныя песні.

Язычнік. Я вясёлую ведаю.

Мне не трэба пуд гароху,
Мне адну гарошынку.
Мне не трэба дзевак многа,
Мне адну харошую.

*Хоча абняць Любаву.*

Любава. Адыдзі.

Язычнік. Нікога ж няма.

Любава. І што? Адыдзі.

Язычнік. І што рабіць…

Любава. Адганяй камароў, як Афоня. Фёкла рыхтуецца да вянчання.

Язычнік. Пазайздросціла. Я з’еду, князь табе пару знойдзе.
Любава. Я і без князя знайду.
Язычнік. І каб хрысціянін быў.
Любава. Так. Хадзем да замка. Ля цёмнай вады страшна. Яшчэ тапелец прысніцца.

*Чутна песня.*

***Зацямненне.***

## КАРЦІНА ДЗЯСЯТАЯ

*Замак князя Альгерда. Князь углядаецца ў лісты летапісу. Ён адзін. Уваходзіць Войдыла.*

Альгерд. Мой ваявода, дзе стары летапісец?
Войдыла. Не давезлі. Па дарозе сканаў.
Альгерд. А памочнік ягоны?
Войдыла. Дзе ж яму быць. У порубі сядзіць.
Альгерд (*паказвае ліст*). Не сумняваюся... Я і так круціў і гэтак. Пра войта вось тут дапісана чужой рукой.
Войдыла. Ён баязлівец, усё пакажа. Варта. (*Уваходзіць дружыннік.*) Прывядзі з поруба памочніка летапісца.
Дружыннік. Сюды?
Войдыла. Сюды...

*Дружыннік выходзіць.*

Альгерд. Застаецца нам разгадаць, хто з баяр яго падбухторыў. Ці Гудзім, ці Сысой?
Войдыла. А можа, абодва згаварыліся?
Альгерд. Вялікі крадзеш адзін робіць, каб ціха ўсё...

*Дружыннік прыводзіць Афоню.*

Альгерд. Зімна ў порубе?
Афоня. Надта холадна, мой князь.
Альгерд. Падыдзі сюды. (*Паказвае летапіс.*) Вось гэта хто пісаў? Не рука летапісца.
Афоня. Не яго.
Альгерд. А чыя?
Афоня. Мая, княжа. Але я не вінаваты. Мне баярын... (*Баіцца сказаць імя.*)
Альгерд. Кажы, не бойся.
Афоня. Мне баярын Гудзім Загоска наказаў дапісаць, каб папраўдзе было.
Альгерд. Та-ак. За грошы наказаў?
Афоня. Добра заплаціў. Хачу новыя боты ў шаўца заказаць.
Альгерд. Ды ты за грошы падлог учыніў. А каб ён табе загадаў дапісаць, што князь княства аддае яго сыну Пракопію...
Афоня (*зразумеў сітуацыю, падае на калені*). Міласці прашу... не па сваёй волі. Не карай, княжа...

*Уваходзіць дружыннік.*

Дружыннік. Баярын Гудзім Загоска.

Войдыла. Забраць памочніка ды схавацца?

Альгерд. Не. Агалі меч свой і прыстаў яму ззаду да спіны. На лаўца і звер бяжыць. (Дружынніку.) Вядзі яго сюды.

*Праз паўзу дружыннік уводзіць Гудзіма Загоску, які ўбачыўшы, што Афоня стаіць на каленях, здымае шапку і падае побач з ім на калені. Войдыла прыстаўляе да яго спіны меч.*

Альгерд. Забіваць цябе на месцы ці сам прызнаешся? Дзе скарб князя?

*Паўза.*

Гудзім. Смерці заслугоўваю. Твая воля на ўсё. Быў скарб, я яго схаваў, каб Сысой не падхапіў з войтам...

Альгерд. Дзе скарб?

Гудзім. Няма.

Войдыла. Як?

Гудзім. Мой сын, Пракопій, скраў яго і ўцёк з горада.

Войдыла. Далёка не ўцячэ. Я ўсіх вартавых на маставых брамах на нашых, крэўскіх, дружыннікаў памяняў.

Альгерд. Шукаць, кожны дом, пабудовы... Каб мыш не... Каб вада паміж пальцаў не прасачылася.

*Войдыла выходзіць. Уваходзіць дружыннік.*

Дружыннік. Баярын Сысой Сырамятнік.

Альгерд. І гэтага да пакаяння падштурхнулі. Вядзі і гэтага сюды. Мо разам і кралі.

*Дружыннік прыводзіць Сысоя.*

Альгерд. Бачыш, баярын Сысой... раней і шапкі не знімалі, а цяпер перад князем на калені падаюць.

Сысой. Яго ўдушыць мала. Мой князь, яго сын, мо згаварыўшыся, звёў маю дачку і яна ўцякла з дому. Гора нам, гора... Каб без бацькавага дазволу. Без князя дазволу. (*Гудзіму.*) Куды ты глядзеў?

Альгерд. Не туды ён даўно глядзеў. Ягоны сын разам з тваёю дачкою ўкралі скарб віцебскага князя Яраслава, які раней скраў баярын Гудзім Загоска.

Сысой. Маці Прасвятая Багародзіца... Усе казалі войт. Не-е... за злодзея дачку не аддам. Ганьба на ўвесь Віцебск, ганьба.

Альгерд. Варта! (*Уваходзіць дружыннік.*) Гэтых у поруб, няхай сядзяць, пакуль уцекачоў не зловім.

Сысой (*моліцца*). Госпадзі, уратуй і памілуй... Дачушка. Адзіная дачушка і з кім звязалася. Злодзеі!

*Сысой выходзіць. Дружыннік выводзіць Афоню і Гудзіма.*

Афоня. А твой Салейка мяса не аддаў за паўцаны.

Гудзім. Каму цяпер тваё мяса трэба, дурань... Пісаць трэба было не на асобным лісце, а там, дзе пра смерць Яраслава пісана, ёлупень.

*Альгерд адзін некаторы час. Яшчэ раз прыглядаецца да летапісу. Уваходзіць Амбросій.*

Амбросій. Бог у помач.

Альгерд. Дзякуй, уладыка.

Амбросій. Княгіня просіць святой Пятроўскай вады. Прынёс. Сысой расказаў... тое праўда?

Альгерд. Праўда, як гэты дзень.

Амбросій (*хрысціцца*). Божа міласэрны, хто б мог падумаць... добрапрыстойны муж...

*Уваходзіць Войдыла.*

Войдыла. Будзем шукаць і ўдзень, і ўначы.

Альгерд. У мяне добры настрой. Знойдзеш: конь белы прысніўся, на якім я скакаў. Што заслугоўваюць?

Войдыла. Гудзіма смерцю пакараць, каб астатнім у навуку было, кары каб баяліся. Памочніку — бізуны, і вон з горада.

Альгерд. Тваё слова, уладыка.

Амбросій. Так думаю, няхай баяры вырашаць на радзе, што са сваім рабіць. На грэцкі ўклад. Там, у Афінах, быў суд арэапаг.

Альгерд. А што, цікава. Паслухаем, як свайго: ці тапіць, ці ратаваць будуць.

***Зацямненне.***

## КАРЦІНА АДЗІНАЦЦАТАЯ

*Пакой княгіні. Любава расчэсвае Марыю.*

Любава. Мая княгіня, а якое дзіцятка вы больш хочаце — хлопчыка ці дзяўчынку?

Марыя. А як бы ты адказала?

Любава. Якое Бог пашле.

Марыя. І я так скажу.

Любава. А гэта страшна, балюча? Дзіця прыводзіць на свет?

Марыя. І цяжка, і радасна.

Любава. Ой, маленькае. Як яно расце...

Марыя. Богам усё прадумана. І табе Бог дасць. Бо самая вялікая радасць для чалавека на зямлі — прывесці на свет Божы дзіцятка.

Любава. Зайздрошчу Фёкле. Бог дае і ёй пару. Чакала, чакала... і свайго дачакалася. Будзе дзякаваць князю ўсё жыццё.

*Уваходзіць усхваляваная Фёкла. Яна адразу падае перад Марыяй на калені.*

Фёкла. Мая княгіня, уладычыца наша. Ратуйце! Вы, толькі вы... Гора, ой, не магу, ратуйце!

Марыя (*здзіўлена*). Што здарылася, Фёкла? Устань, няхораша так.

Фёкла. Толькі што дружыннікі паймалі Пракопія... у порубе... Нібыта ён украў у бацькі грошы і ўцёк... З Пелагеяй з дому. Уратуйце. Вас князь адну паслухае.

*Любава хоча дапамагчы ўстаць Фёкле з каленяў.*

Фёкла. Не, буду стаяць, пакуль не пачую ратавальнага слова.

Любава. Што ты так галосіш? Ён з Пелагеяй уцёк, а не з табою.

Фёкла. Я яго моцна кахаю. Калі ён будзе жыць, радавацца — мне на душы спакайней.

Марыя (*пасля паўзы*). Князь не любіць, калі я ўмешваюся ў ягоныя справы.

Фёкла. Не, не, не... Толькі вас паслухае. Яго могуць пакараць смерцю. І мне пагібель... Можа, я яго падштурхнула ўкрасці.

Любава. Не ты, а Пелагея. Яе ён кахае, якая табе радасць ад таго, што яму даруюць. Да цябе ж не павернецца за гэта.

Фёкла. Не дзеля сябе прашу. Я яму жадаю шчасця. Няхай... няхай з Пелагеяй. Але каб жыў. А я... я ў манастыр у Полацак... там за ўсіх вас маліцца буду. Не даў Бог мне яго ў пару, але ж падарыў каханне. Няхай іх каханне квітнее цветам яблынь. Я заручуся з Госпадам, як дачка Полацкага князя Еўфрасіння.

Марыя. Не буду прасіць. Не таму, што не хачу ўратаваць. Не магу, гэта не з табой, не князем, гэта маё... Толькі маё. Не маю права за яго прасіць, каб не варушыць мінулае. Не прасі больш. Не стану.

Фёкла (*падаўлена*). Утапіцца ці што?

*Любава дапамагае ёй устаць.*

Любава. Вось прыдумала, тапіцца. Няхай яны з-за нас топяцца.

Фёкла. Ты не зразумееш мяне, і княгіня не зразумела. Бывайце... Мне ўсё тут чужое. Цяпла мала.

Любава. Ты ж сама печ топіш.

Фёкла. Не печ... Не хапае цяпла... (*Аддае Любаве ключы.*) Бяры, клапаціся, мне тут не жыць.

Любава. Можа, князь і сам яго памілуе?

Фёкла. Не. Пакараюць. Мне тут холадна. (*Выходзіць.*)

Любава. А можа, папрасіць у князя?

Марыя. Памаўчы. Мне, можа, цяжэй. Будзем спадзявацца на Госпада нашага. Амбросій папросіць. Мне нельга.

***Зацямненне.***

## КАРЦІНА ДВАНАЦЦАТАЯ

*Замак князя Альгерда. Войдыла і князь. Альгерд гуляе ў шахматы за сябе і саперніка з другога боку дошкі. Войдыла з цікавасцю назірае. Побач Амбросій.*

Альгерд. Штосьці доўга баяры шэпчуцца.

Войдыла. Не будуць да вечара, есці захочуць — завершаць. Патрабуюць у старосты харчоў ім свежых у трапезную падаваць.

Альгерд. Што ў горадзе кажуць? Якога хочуць князя? Моцнага, багатага?

Войдыла. Просты люд хоча добрага і справядлівага.

Альгерд. Як любіць казаць мой бацька: усім добры не будзеш. І ў цябе, уладыка, хачу запытаць: ёсць розніца паміж разумным і хітрым?

Амбросій. Ёсць. Хітры на адзін раз, а разумны на ўсё жыццё.

Альгерд. Напачатку розум.

Войдыла. І хітрасць розуму не пашкодзіць. Напаткаў я неяк у Крэве яшчэ мядзведзя ў лесе. Каб быў разумны: у лес адзін не пайшоў бы, альбо на дрэва залез. А хітрасць падказала: прыкінься мёртвым. Патаптаўся каля мяне ён нерухомага і падаўся сабе далей у лес.

Амбросій. Хітры не заўсёды добры. Разумны добры, ацаркоўлены чалавек.

Альгерд. А як справядлівым быць? Аднаго пакараеш, другі затаіць злобу і помсту.

Амбросій. Азірайся на Бога і страшна не будзе. Адчуваеш, што не вінаваты за суд свой перад Богам, судзі строга і любі бліжняга.

Альгерд. Як любіць, калі я не ведаю яго. Можа, ён і не варты любві?

Амбросій. За тое любі, што ён утвораны па вобразе і падобію Бога. Ад зайздрасці злое і галеча.

Альгерд. Лепш было б жыць, каб усе так паводзілі сябе, як царква просіць. Дзе ўцекачы?

Войдыла. У порубах. Тры порубы і занялі.

Альгерд. І Пелагею туды ж?

Войдыла. Пакуль рана адпускаць. Маці з ёй разам, каб не страшна было.

Альгерд. Дзе іх дагналі?

Войдыла. Нібыта назад праз Суражскую браму вярнуліся.

Альгерд. А як пакінулі горад? Прайшлі і твайго надзейнага дружынніка з Крэва?

Войдыла. Не ведаю. Ён надзейны... Мы сцяну не дабудавалі з боку Лучосы. Там выйшлі.

Альгерд. Цікава, надта цікава.

*Уваходзіць дружыннік.*

Дружыннік. Баярын Сысой.

Альгерд. Вядзі яго сюды.

*Дружыннік выходзіць і вяртаецца з Сысоем, які адразу знімае шапку.*

Альгерд. Які прысуд баярыну Загоску вынеслі баяры-радцы?

Сысой. Не ведаю, з чаго і пачаць...

Альгерд. Адразу давай.

Сысой. Было наш шасцёра... доўга ўсе разважалі, раіліся, спрачаліся нават, некаторыя і вырашылі: вынесці па ўласным разуменні і справядлівасці.

Альгерд. Ну...

Сысой. Палова баяр за пакаранне баярына Загоскі Гудзіма праз смерць, а другая палова — тры баяры за тое, каб дараваць і прыняць пакаянне.

*Паўза.*

Альгерд. Усё на волю князя аддалі? Уу-гу-гу... Схітравалі. Не былі б то баяры. Добра. Ну, а ты, баярын Сысой, які ты вынес прысуд бацьку Гудзіму?

*Паўза.*

Сысой. Я? Я ж не прысутнічаў у той дзень. Гарачка на мяне навалілася. Свет Божы не міл был. Ногі не трымалі, і жонка праўду маіх слоў пацвердзіць.

Жонка Сысоя. Так, мой княжа... калаціла ўсяго.

Альгерд. Ай, што з вас узяць. Нешта яшчэ ёсць, відаць, акрамя, і розуму, і хітрасці. (*Бярэ ліст пергаменту.*) Будзе князя прысуд. Войдыла, прывядзі сюды ўсіх з порубаў.

*Войдыла і дружыннік выходзяць.*

Сысой. Княжа, мая дачка, анёл, малое дзіця, не вінавата. Усё Пракопій ды злодзей Загоска... Які бацька такі і сын. Я гатовы водкуп за яе... Усё прынясу, што пажадаеш. І на царкву дам, уладыка. Я ніколі не даваў веры баярыну Загоску. Я прыкідваўся, што яго паважаю і цаню. Вер мне, княжа.

*Альгерд маўчыць. Уваходзіць Войдыла, Пракопій, Пелагея, яе маці, дружыннік, Афоня.*

Альгерд. Будзе княжацкі суд. Напачатку паслухаем прысуд баяраў-радцаў (*бярэ пергамент*): Загоску смерці...

*Не паспеў князь дачытаць, яму ў ногі кінулася Пелагея.*

Пелагея. Не карайце смерцю! Пракопій не вінаваты. Мы былі напалове папрышчаў да Смаленска, калі ад сляпога Мікіты, які патрапіў нам на вочы ў сяле, празналі, што бацька Пракопія ў порубе, і, мой княжа, Пракопій і кажа: вяртаемся дамоў, аддамо грошы, каб ратаваць бацьку.

Гудзім. Сын мой (*плача*).

Пелагея. Я не змагу жыць без яго. І мяне смерцю карайце. Я казала: бяры грошы...

Сысой. Што ты плявузгаеш? Адкуль ты ведала, што гэта скарб (*дапамагае разам з жонкаю падняцца дачцэ з каленяў*).

Пракопій. Які скарб, княжа?

Альгерд. Ты, сын Загоскі, скраў у бацькі свайго скарб, які ён, твой бацька, украў у князя Яраслава.

Пракопій. Забі мяне пярун! Няхай усе святыя неба праклянуць мяне... не ведаў, лічыў, што гэта бацькавы грошы. Торбачкі, у якіх было золата ды срэбра, нашыя торбачкі.

Альгерд. Перасыпаў, хітрун.

Пракопій. У дзежцы на дне, пад жытам ён заўсёды хаваў свае грошы.

Альгерд. Там схаваў і крадзеныя. Вы не даслухалі прысуд баяраў. Загоску Гудзіма, а не Пракопія — смерці не прысуджаць. Трое баяраў былі за пакаранне смерцю, трое — супраць. За пакаянне... Мая воля такая. Каб на векі вечныя і просты люд, і баяры, дваровыя, чэлядзь, пасадскія людзі, хоць крывічы, дрыгавічы, хоць ліцвіны ці русічы за крадзеж у князя, а таксама ў суседа спуску не будзе, кара княжацкая спасцігне. Пазбавіць Гудзіма Загоску баярства, зняць усе прывілеі, забраць дом і пабудовы, даць аднаго каня, падводу і саслаць у сяло Котава, каб жыццём простага люду жыў. Няхай так. Хоць розум падказвае, што яго трэба было б пакараць смерцю.

*Гудзім перахрысціўся. Усё ж застаўся жывы.*

Альгерд. Сына Пракопія, які, не ведаючы, што скарб княжацкі, скраў у роднага бацькі: пакараць пяццю бізунамі, даць вольную на пару для сумеснага жыцця, выправіўшы яго ў Крэва, быць памочнікам старосты крэўскага.

Пелагея. Я з табой.

Сысой. Нікуды ты не паедзеш...

Пелагея. Уцяку.

Альгерд. Па маладосці і па моцы кахання, дачцэ баярына Сысоя Пелагеі дараваць віннасць. Дазвол на выгнанне з Пракопіем даю сваю волю.

*Маці адбымае Пелагею, якая плача ад радасці. Раптам пачуўся звон.*

Войдыла. Амбросій, чаго звоняць? Якое свята?

Амбросій. Няма свята. Гэта ж набат!

*Урываецца ўсхваляваны староста.*

Староста. Мой княжа, бяда! Незнаёмае войска ля сцяны горада. Аблога!

Альгерд. Масты паднялі?

Староста. Паднялі.

Альгерд. Усе тры?

Староста. Усе тры.

Альгерд. Умееш, калі захочаш. Збірай апалчэнне. Усе на гару мураванай сцяны. Войдыла, мой меч.

Афоня. Мяне, мяне адпусціце з поруба. Выкупіць віну хачу — з непрыяцелем біцца буду.

Войдыла. Ідзі, дапамажы старосту збіраць апалчэнне.

*Усе выходзяць. Афоня застаецца стаяць на каленях. Войдыла падае меч Альгерду.*

Альгерд. Вось і спатрэбіўся падарунак брата майго, не хацеў да яго дакранацца, ды жыццё свае ўлажэнні дыктуе. Відаць, не падмануць яго. Прыйдзецца забіваць...

Амбросій (*благаслаўляе*). Бараніся, княжа. З Богам, у імя Бога і міру горада.

Альгерд. Кальчугу мне, латы, шлем...

Войдыла (*Афоню*). Што ты стаіш на каленях, ніколі не прывыкай... Не жыві чужой воляй. Ідзі, дапамажы старосту.

*Чуцен звон.*

*Зацямненне.*

*Мураваная сцяна. На галерэі для насценнага бою збіраецца люд віцебскі. Хто з сякерай, хто з лукам, хто з мячом, хто з пікай. Чуцен надакучлівы тупат конскіх капытоў. Сярод гараджан прадавец мяса, прадавец зайцоў, прадаўшчыца гусей, прадавец медавухі, прадавец гаршкоў і глечыкаў, прадавец бочак і цэбраў, дружыннікі, баярын Сысой, Пракопій, малады павадыр Мікіты Афоня, пеўчыя. Амбросій з іконай «Божай Маці-Заступніцы»*

Прадавец гаршкоў. Як спрытна гарцуюць. Туды, сюды...

Прадавец зайцоў. Сіла вялікая.

Прадавец бочак. Рыхтуй, староста, водкуп. Колісь даўно, памятаю, нават сена бралі, не толькі скуры, мёд, авёс.

Староста. Ціпун табе на язык...

Прадавец медавухі. Запасаў у паграбах хопіць?

Староста. Хопіць... Ты не пра запасы думай, а як ворага адужаць?

Афоня. Палезе на сцяну... нацягнем вочы на месца, адкуль ногі растуць.

*Лёгкі смех.*

Староста. Не да смеху. Іх не надта багата. Падводаў няма. Усе вершнікі.

Прадавец мяса. Князь ідзе з ваяводам.

*Уваходзіць* *Альгерд* *і* *Войдыла.*

Усе. Слава князю!

Альгерд (*не адказаў на прывітанне*). Чые?

Войдыла. Невядома. Смаленскія... Лівонцы... А можа, дазор? Прыгледзіцца, ці ёсць у нас сілы якія?

Альгерд. Лівонцаў Кейстут не пусціць. Можа, ардынцы?

Староста. Не падобна. У іх коні ў грыве ніжэйшыя. Адзін сюды скача.

Альгерд. Шырыня вала?

Староста. 15 сажаняў, вышыня 4 сажні.

Альгерд. Нізкі... Унізе, што там?

Староста. Вязкая гліна. Сын Загоскі прыдумаў...

Альгерд. Малайчына... хоць і... Колькі радоў бярвення ў каркасе?

Староста. Сем, мой княжа. Вытрымае. Спрабавалі неяк, ды адступілі.

Войдыла. Гарцуе ля вала. Лучнік выпусціў стралу.

Прадавец гаршкоў. Мая страла дастане. Дазволь, ваявода, прыцэліцца.

Альгерд. Пачакаем. Яны няхай знак пададуць, што ім трэба. З Вялікага пасада ўсе тут?

Староста. Пасадскія ўнізе, дзе надбудавана сцяна. Мая віна.

Войдыла. Там вязка, княжа, балота... Не пройдуць Задунайскую браму.

Альгерд. Харугвію віцебскую сюды, бліжэй... Вогнішча запаліце, каб больш дыму... Нікому не пакідаць сцяны! (*Трывожная музыка.*)

Прадавец бочак. Можа, крыжакі гэта?

Войдыла. Гедымін не прапусціць...

Прадавец медавухі. Водкупу хочуць. Нават калі прыблудныя.

Староста. Не, не ардынцы. Шацёр не разбіваюць.

Альгерд. Як даўно яны тут?

Староста. Ад самага ранку.

Прадавец мяса. Трэба рыхтаваць водкуп.

Альгерд. Хто сказаў?

Прадавец мяса. Я, княжа.

Альгерд. Яшчэ раз скажаш, адрэжу язык. Хто яшчэ баіцца ворага? На месцы заб'ю сам.

Амбросій (*моліцца*). Заступніца наша, Маці Божая віцебская. Прызываем яе, заступніцу нашу, памолімся... (*Усе хрысцяцца.*) Свет Гасподзь, Ісус Хрыстос, Святая Дзева Марыя, злітуйцеся. Абарані ад ворага горад наш і люд наш. Табе молімся. На цябе спадзяёмся. Ва імя Айца і Сына, і Духа святога. Амінь. Бласлаўляю ваяроў нашых (*кропіць іх святой вадой*). Ойча наш, каторы ёсць у небе, свяціся імя Тваё. Прыйдзі валадарства Тваё, будзь воля Твая, як у небе, так і на зямлі. Хлеба нашага штодзённага дай нам сёння. І адпусці нам грахі нашыя, як і мы адпускаем вінаватым нашым. І не ўводзь нас у спакусу, але збаў нас ад злога. Амэн. (*Усе хрысцяцца.*)

*Альгерд цалуе ікону Божай Маці. Пачуўся перазвон званоў.*

Войдыла. Яшчэ адна трывога.
Амбросій. Не. Гэта перазвон радасці.

*Уваходзіць прыслужнік Амбросія.*

Прыслужнік. Княжа, княгіня нарадзіла сына!
Амбросій. Слава табе, Госпадзі!
Альгерд. Бог з намі! Пасылае нам на падмогу яшчэ аднаго воіна. Няхай б'юць у званы, вораг павінен ведаць, што мы не баімся яго. Хто тут самы малады?

*Уперад выходзіць павадыр Мікіты.*

Альгерд. Чаму без мяча?
Войдыла. Малы яшчэ. Будзе стрэлы падаваць.
Альгерд. Якім імем хрышчоны?
Павадыр. Дзмітрый.
Альгерд. Сыну свайму даю імя Дзмітрый.

*Паўза*

Усе. Слава сыну князя Дзмітрыю.
Прадавец бочак. Гэты пагарцаваў, пагарцаваў ды да сваіх паскакаў.
Афоня. Іхні ваявода на белым кані.
Прадавец зайцоў. І што?
Афоня. Каб усе бачылі...
Староста. Адыходзяць... Дзякуй богу.
Альгерд. Нешта задумалі. Горад не ўзяць… такой колькасцю, як у іх. Ды спаць не будзем у шапку… будзем гатовыя бараніць сваё.
Войдыла... Можа, задумалі нешта, ды з боку Віцьбы...
Староста. Не, не рызыкнулі стаць на аблогу.
Афоня. Уцякаюць...
Прадавец гаршкоў. Асабліва цябе спалохаліся. Бо ты ж абяцаў ногі з аднаго месца адарваць у іх. Мо пачулі...

*Смех.*

Альгерд. Сцяну да раніцы не пакідаць, узмацніць варту. Апалчэнне распускайце.
Амбросій. Слава табе, Госпадзі.
Альгерд (*Войдылу*). Ведаеш, я шмат за гэтыя дні перадумаў, пасталеў быццам. Усё проста: не давай ганьбіць свой люд, упрыгожвай горад рамёствамі, ухваляй каханне, шануй і любі свой люд і ўсё. Чалавеку і спачуваць трэба, і любіць яго трэба.
Войдыла. Але ж і гнеў князя люд не павінен бачыць.
Альгерд. Ты таксама багата думаў. Згодзен. Пабудзь з людзьмі, а я пайду на сыночка гляну... Гэта ж мой першы віцебскі. Супакою княгіню.
Войдыла. Дай бог, каб і не апошні.

*Войдыла і Альгерд выходзяць.*
*Застаюцца на сцэне Любава і Язычнік.*

Язычнік. На гэты раз пашанцавала, усе жывымі засталіся.
Любава. Бог з намі.

Язычнік. І са мной таксама. Вось (*дастае нацельны крыжык на матузку і паказвае Любаве*).

Любава. Хрысціўся!

Язычнік. Ты ж прасіла. Думаю, як такой прыгажуні не дагадзіць. З Богам больш надзеі.

Любава. І якое імя наракл?

Язычнік. Іван.

Любава. Па-нашаму Янка. Іван...

Язычнік. Па мне хоць васпаватым заві, з тваіх вуснаў усё люба слухаць.

Любава. Як думаеш, праз многія-многія лета хто-небудзь успомніць, узгадае пра нас? У іх будуць цэрквы ў залатых купалах, багата дзяцей, на рацэ віціны, стругі... Ці ўспомняць? Добрым словам… як думаеш?

Язычнік. Калі летапісы якія інаверцы не спаляць, мо і ўспомняць альбо калі які Афоня не перапіша іх на свой лад. Так хораша жыць... Ты навучыш мяне маліцца?

Любава. Навучу. Гэта проста, каб ад любові да ўсяго. Паўтарай: Святы Божа, Святы крэпкі, Святы бессмяротны, памілуй нас. (*Язычнік паўтарае за Любавай.*) Атрымалася. Ты здольны.

Язычнік. І што я заслужыў?

Любава. Што?

Язычнік. Пацалунак. А за ім і дазвол князя на вянчанне. Жыццё, як ты кажаш — цуд Божы.

*Абдымае Любаву. Гучыць канон «Да исполнится молитва моя».*

***Заслона.***



Алесь ПІСАРЫК

# У СЭРЦЫ ЗГАДКІ АЖЫЛІ

* * *

Марозік такі, што ля гурбаў платы
На пятках ад холаду скачуць...
«Прарэзаўся ў месяца зуб залаты!» —
Паненкі з хітрынкаю кажуць.

Гармонік гасцінных двароў не міне:
Прыйшла Каляда — следам госці!
І ты, дарагунька, чаруеш мяне
Пяшчотай сваёй маладосці...

Шчаслівых — і рэха нясе на руках
У храм падвянцавага гаю,
Каб светла пранесці ў наступных вяках
Сагрэтае сэрцам: «Кахаю...»

* * *

Чараўніца, а выкрасці змог
Я цябе з-пад распененай хвалі.
Ты прыпала на зорны мурог —
Незабудкі шаўкамі ўкрывалі...

Да чаротаў і ноч заплыла,
Следам — знічак зялёныя ліўні.

---

***Пісарык (Пісарчык Аляксандр Уладзіміравіч)*** *нарадзіўся 9 красавіка 1954 г. у Мінску. Вучыўся на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1976—1978). Працаваў на Мінскім трактарным заводзе (1977—1981), у рэдакцыях газет «Аўтазаводзец» (1981) і «Трактар» (1983), Мінскім трамвайна-тралейбусным упраўленні (1985—1995).*

*Аўтар кніг паэзіі «Белы май» (1983), «Пакуль гарыць мая зара» (1995), «Ноч дзявочай касы» (1996), «На востраве чароўнай амазонкі» (2002), «В памяти лет» (2004), «Моя молитва» (2013), «На сямі вятрах» (2014).*

Я смялеў — ты касу распляла
Пад расяным уборам каліны...

Не будзі, рэха, сонных палян,
Там драмаюць вятры, як манахі.
Закувала зязюля — паглянь —
Зніклі хмараў цікаўныя птахі...

Кветкай-папараццю расцвіла...
Не шапнула мне, што маладая,
Прытулілася і абняла...
Расплюскалася цемра густая...

Не русалка, а ў косах — зара!
Запаліцца б тваім летуценнем,
Каб да скону рамонкам згараць,
Стаць тваім мне пад раніцу ценем.

* * *

Жніўнем выспелі зоры, як зёрны.
Разрумянілі шчокі дажджы.
Ці не вычарпаў месяц азёры?
Глянь,
Лілеі ў астральным каўшы!

Ты паверыла страсці?
Забудзем
Пра мінулае,
Як пра падман,
У лугах нашай тайны заблудзім,
Развяселім пануры туман.

Лета ў восень глядзіць
З паднябесся,
Дзе паспеў залаты вінаград,
Кожны міг на зямлі,
Ён — як песня
Пад чароўныя струны наяд...

Прыгажосць не хавае маршчынак.
Наша ноч нам не стане чужой.
Веру я, што са мною жанчына
З неабкрадзенай, чыстай душой.

## ЧАРАЎНІЦА

Дзікі бераг. Дзікі мёд.
Сонны гул пчаліны.
Затаілася са мной
Ты каля каліны.

Снамі ўкрылася раса.
Спіць мурог прымяты.
Залацістая каса
Захмялела мятай.

Зоры чэрпаюць ваду
З рэчкі-завітушкі.
«Начаруе ноч бяду!..» —
Спачувалі птушкі.

Хай даруюцца вачам
І грахі, і чары.
Не паверым касачам,
Як бы ні крычалі.

Можа, ты мая бяда,
У красе жаночай?
Не разлучыць нас вада
Ані ў дзень, ні ў ночы...

## КАХАННЯ НАШАГА КАСТРЫ

Настрой у верасня падманны.
Зайграў прамень — смялее бор.
З юначай смеласцю туманы
Склікаюць мары за сабой.

Ад рэха сонная ўстрывога,
Але наўкола — ні душы.
Ля дуба — віцязя сівога —
Вартуюць логвішча вужы.

Галубка шчырая кугае
Пра ўсё, што ў памяці жыло.
Узняў руку — і працякае
Па ёй гаючае святло.

Над сонцам венчык ружаніцы.
У сэрцы згадкі ажылі,
Як да чабору чараўніцы
Чароўнай сцежкаю вялі...

Каліны ўсмешкамі сустрэлі,
Хоць пад руку красунь бяры!
Гарэлі, высака гарэлі
Кахання нашага кастры...

## ПЯРСЦЁНАК ПОЎНІ

Сон змарыў і поўню за аблокамі,
І цыганку зорную ў акне.
Адчуваю ў сне, як ты далонькамі
Дацягнуцца прагнеш да мяне...

Наша шчасце ў сэрцах неразлучнае.
Пачуццю не выкрыкнеш: «Засні!» —
Пад яго настрой радок развучваю
На струне бяссоннай цішыні.

Не заснеш і ты, мая харошая,
Успамін аб шчасці шле лісты,
А цыганка зорная выпрошвае
У цябе пярсцёнак залаты...



**Зінаіда ДУДЗЮК**

# НІКА

*Аповесць*

## 1

Сёння мне другі раз за зіму прыснілася школьная сяброўка. У сне мы былі юныя, як некалі, гарталі кніжкі і, занятыя справаю, не размаўлялі. Калі прачнулася, вельмі шкадавала, што не спытала, як яна жыве, і не расказала, як любіла яе, як ганарылася сяброўствам з ёю. На той час яна была для мяне самым блізкім чалавекам, гэта пры тым, што да дзесяцігадовага ўзросту я ўжо вызначылася з жыццёвым крэда радкамі песні, якую пачула ў фільме «Апошні дзюйм»:

Якая мне справа да вас да ўсіх,
А вам да мяне?..

Голас спевака гучаў за кадрам, густы, напружаны, трагічны. Да гэтага часу добра памятаю яго. У тым фільме апавядалася пра бацьку і сына-падлетка. Яны не надта разумелі адзін аднаго, але былі знітаваныя ўзаемным прыцягненнем. Бацька займаўся падводнымі здымкамі акул, лётаў дзеля гэтага на ўласным двухмесным самалёце на далёкі востраў у акіяне. Якраз у той дзень хацеў выправіцца ў палёт адзін, але сын настойліва напрасіўся ў спадарожнікі. Пад вадой на бацьку напала акула і цяжка параніла. Ён выплыў, але потым у час палёту страціў прытомнасць. Сын выратаваў бацьку, здолеў давесці самалёт да аэрадрома і дакладна пасадзіць.

Прыкладна такія адносіны былі ў мяне з маёй сяброўкаю. Яна нават не ведала, што ратавала мяне ад адзіноты, якую пераражываюць часам пад-

---

***Дудзюк Зінаіда Іосіфаўна*** *нарадзілася 29 сакавіка 1950 года ў вёсцы Слабодка Браслаўскага раёна. Скончыла Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут (1977) і Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Літаратурным інстытуце імя Максіма Горкага ў Маскве (1993), працавала інжынерам, загадчыкам літаратурнай часткі ў тэатры.*

*Выдала зборнікі вершаў «Праводзіны птушак» (1983), «Абрысы лета» (1988), «Так і не» (1993), «Табе» (2000), «Падданыя кахання» (2003), кнігу прозы «Палоннікі жыцця» (1997), раманы «Год 1812» (2005), «Кола Сварога» (2006), «Аднарог» (2010), гістарычны нарыс «Леў» (2011). Пераклала на беларускую мову казку П. Яршова «Канёк-гарбунок» (1993), камедыю Яна Ходзькі «Вызваленая Літва, або Пераход цераз Нёман» (2002) і інш.*

леткі. Не скажу, што ў нас склаліся гранічна даверлівыя адносіны, але нам было добра бавіць разам вольны час. Пазнаёміліся мы, калі прыйшлі ў пяты клас. Абедзве былі самыя малыя ростам і, мусіць, таму селі за першую парту перад настаўніцкім сталом. Не помню, можа, яна спадабалася мне з першага позірку, светлавалосая, з доўгаю, да пояса касою, з гуллівымі кудзеркамі на скронях. Тады яшчэ я не ведала, што яе на першую парту прывяла блізарукасць, пазней яна стала насіць акуляры. У нас было шмат агульнага. Яе звалі Вераніка, а мяне Вера. Аднак яна з першага знаёмства адрэкамендавалася Нікай, усе яе так і сталі называць. Мелі мы па малодшаму брату, якіх звалі Андрэямі. Яна збірала фотаздымкі, папулярных і маладых на той час акцёраў, у яе калекцыі былі, помніцца мне, Вячаслаў Ціханаў, Нона Мардзюкова, Алег Табакоў, Міхаіл Казакоў, Нэлі Машкова, Уладзімір Коранеў і яшчэ мноства іншых, чые імёны я ўжо забылася. Яна час ад часу разгортвала гэтыя фотаздымкі, і мы разглядвалі прыгожыя твары. Партрэты акцёраў прадаваліся ў газетных кіёсках, але ў мяне ніколі не было лішніх грошай, каб набываць іх, ды я мала цікавілася імі. Мне давалі толькі па 20 капеек у нядзелю схадзіць з малодшым братам у кіно. Аднак я таксама мела сваю калекцыю — сотні дзве малюнкаў, выразаных з канвертаў. Збірала іх, мусіць, таму, што любіла маляваць. Старыя канверты я выпрошвала ў суседзяў. Не ведаю для чаго, але Ніка хацела займець і маю калекцыю. Я падаравала ёй малюнкі на дзень нараджэння. Яны доўга ляжалі ў яе на падаконні, а потым некуды зніклі. Праўда, і сама я хутка страціла цікавасць да канвертаў, таму што ў мяне з’явілася новае захапленне — паэзія. Абедзве мы пасля заняткаў бавілі час у групе падоўжанага дня, бо мая сям’я займала пакой у бараку, дзе было цесна, шумна і тлумна, а Ніка з бацькам наогул тулілася ў вагончыку.

Жылі мы ў маладым беларускім гарадку, які будаваўся ля вялікага завода. Сюды прыслалі мноства людзей з усяго Савецкага Саюза. Людзі сяліліся пераважна ў часовым жытле: вагончыках, бараках, а летам нават — у палатках. Апошнія мне найбольш падабаліся, таму што такую брызентавую хатку можна было згарнуць і панесці з сабою. Хутка ўзводзіліся трохпавярховікі, але кватэр усё роўна не хапала.

Ніка прыехала з бацькам з-пад Смаленска. Мама яе засталася ў роднай вёсцы з малодшым сынам. Іншы раз яна наведвала мужа і дачку, а потым зноў з’язджала. Аднойчы Ніка запрасіла мяне ў госці да сябе, якраз, калі прыехала яе мама. Насустрач нам выйшла высокая (мабыць, была на галаву вышэйшая за свайго мужа) заспаная жанчына, апранутая па-вясковаму. Яна з цікавасцю паглядзела на нас і пайшла за перагародку, адкуль вынесла вялізны пакунак з цукеркамі і шчодра пачаставала мяне і Ніку. У вагончыку было цесна і душна, мы там доўга не затрымаліся.

Ніка амаль штодня расказвала мне пра нейкага Рамонка, які жыў з ёю ў адным вагончыку, захаплялася ім — дужы і прыгожы, вясёлы і добры. У чарговы раз, калі яна запрасіла мяне ў госці, мы пасядзелі ў яе, паглядзелі фотаздымкі акцёраў, а потым пайшлі ў гараж будупраўлення, дзе працаваў Рамонак. Яна вырашыла паказаць мне яго, а прычыну знайшла банальную: наважылася схлусіць, быццам згубіла ключ ад вагончыка. Ніка здалёку ўбачыла Рамонка каля вялікага грузавіка і сказала мне, каб я пачакала, а сама ледзь не подбегам кінулася да высокага дзецюка. Ён жа не абрадаваўся ёй, наадварот, на ягоным твары з’явілася незадаволенасць. Спярша нешта зласнавата казаў маёй сяброўцы і толькі пасля даў ключ.

— Бачыла, бачыла, які ён?! — з захапленнем спытала ў мяне Ніка.

Я адказала, што здалёку не вельмі разгледзела, але калі ён ёй падабаецца, дык, мусіць, таго варты. У мяне, напрыклад, ёсць дваюрадны брат, старэйшы за мяне на дзесяць гадоў, ён мне таксама здаецца вельмі прыгожым і разумным. Галоўнае, каб чалавек добра ставіўся да цябе. Мой брат некалі браў мяне, зусім малую, з сабою на рыбалку, потым, калі падрасла, вучыў ездзіць на веласіпедзе.

— Мы з Рамонкам гуляем у шашкі і карты. Іншы раз мне ўдаецца даць яму «дурня», тады ён злуецца, а тата задаволена хваліць мяне за кемлівасць.

Хоць Ніка і ўзяла ключ, але ў вагончык мы не вярнуліся. Сяброўка вырашыла правесці мяне дамоў. Было слотна, скрозь стаялі лужыны. Яна, абутая ў гумавыя боты, лёгка пераадольвала іх, а я ў чаравіках старалася абысці ваду, але не заўсёды мне гэта ўдавалася, ужо не раз зачарпнула мулю халяўкамі. Перад вялізнаю калужаю, якую немагчыма было абмінуць, мы спыніліся. Ніка прапанавала перанесці мяне на спіне. Так яна і зрабіла. Дзіўна, скуль у яе ўзялася сіла? Мы пераадолелі перашкоду. Барак мой быў зусім блізка, мы пайшлі да мяне дамоў, аднак сяброўка не доўга гасцявала, бо мой свавольны малодшы брат так і круціўся перад ёй, а маці ўвесь час хадзіла з пакоя на агульную кухню і незадаволена бурчала. Наогул, да мяне рэдка наведваліся сяброўкі. Не ведаю чаму, мо з-за цеснаты ў нашым пакоі і вечнага тлуму.

Аднойчы Ніка сумна мне паведаміла, што Рамонак жэніцца і выбіраецца з вагончыка.

— Нічога дзіўнага, усе хлопцы аднойчы жэняцца, — адказала я.

— Я прасіла, каб ён пачакаў, калі я выpасту, а ён не згадзіўся. Чаму я магу чакаць, а ён не? — абурана спытала яна.

Я шчыра паспачувала ёй, бо ўжо тады ведала, калі чалавек знікае з твайго жыцця, дык назаўсёды. Мае бацькі да гэтай будоўлі жылі раней у іншых гарадах, і скрозь заставаліся людзі, якія мне падабаліся. Напрыклад, я вельмі любіла слухаць радыё ў мамінай сяброўкі, цёткі Піляды. Вялізная круглая чорная талерка вісела на сцяне і спявала песні ці нешта расказвала. Мне было зусім не страшна, калі цётчын муж, дзядзька Веня, які вярнуўся з вайны без нагі, прымацоўваў да куксы драўляны пратэз. Я разумела: так трэба, інакш ён не зможа хадзіць. Пазней у іншым горадзе я часта бегала ў госці да цёткі Фені, якая мела радыёлу. Прасіла яе ўключыць прыёмнік, каб пакруціць колца, пашукаць музыку на доўгіх ці кароткіх хвалях. Цяпер я ведаю, што ніколі не ўбачу тых цётак. Яны засталіся ў мінулым часе, у далёкіх гарадах, куды мае бацькі не маюць ніякага жадання вяртацца. Прынамсі, яны пра гэта ніколі не кажуць, жывуць цяперашнім жыццём. Усе іхнія мары скіраваныя на тое, каб павялічылі хоць трохі зарплату ды далі кватэру, тады можна было б пажыць па-чалавечы. Наогул усе людзі гарадка вымушаны чакаць, што ім нехта нешта дасць, быццам самі яны нічога не здатныя зрабіць.

Ніка таксама не можа прымусіць Рамонка чакаць, пакуль яна вырасце, бо спазнілася нарадзіцца. А мо ён паспяшаў з’явіцца на свет, такі ўжо нецярплівы чалавек удаўся. Што і казаць, Рамонка Ніка не магла забыць. Гэта я зразумела, калі да нас прыйшлі шэфы з завода, першую чаргу якога нарэшце пусцілі. Двое мужчы гадоў пад трыццаць расказалі нам пра сваю брыгаду і працу, а, галоўнае, пра тое, што яны бяруць шэфства над нашым класам і гатовыя завесці нас да сябе на экскурсію, толькі трэба ўзяць дазвол у начальства. Ніка зачараванымі вачамі пазірала на шэфаў, а потым сказала, што той дзядзька, які вышэйшы ростам, ёй вельмі нагадваў Рамонка. Мы дарэмна чакалі, што шэфы выканаюць сваё абяцанне. Яны больш не з’явіліся, а Ніка помніла пра іх і ўгаворвала мяне пайсці на завод.

— Як мы пойдзем, там жа прапускная сістэма? — спытала я.

— Прыдумаем нешта…

— Ды навошта мне здаліся тыя шэфы-падманшчыкі? Ім даручылі камсамольцы наведаць наш клас, каб паставіць галачку ў сваёй паперы аб праведзеным мерапрыемстве, а мы дурні чакаем...

Ніка замаўкала, але праз нейкі час зноў заводзіла тую самую гаворку, ды я ўпарта адмаўлялася шукаць шэфаў. Мінула не меней за год, перш чым яна забылася пра іх. З-за свайго слабога зроку ці яшчэ па якой іншай прычыне яна, як ні прыглядалася да хлопцаў, не магла выбраць самага прыгожага. Часам пытала ў мяне, хто мне з аднакласнікаў найбольш падабаецца.

— Мішка Сурок — сімпатычны і вясёлы хлопец, Жорка Міхнюк — таксама нішто сабе ды ці мала хто. Хлопцаў поўная школа, — адказвала я.

— А табе, хто найбольш падабаецца? З кім бы ты хацела сябраваць?

— Не ведаю, — ухілялася я ад адказу.

Пакуль яшчэ я не ўяўляла, як можна сябраваць з хлопцамі. На папярэдняй будоўлі, калі вучылася ў трэцім класе, дык разам з падлеткамі нашай вуліцы ваявала з вясковымі дзецьмі, кідалася каменнем. Апранала тады цёмна-зялёныя шаравары і выглядала, мусіць, маленькай атаманшай. Але цяпер мне зусім не хацелася паўтараць тыя дзіцячыя подзвігі.

## 2

Сем'ям, якія жылі ў вагончыках, вельмі пашанцавала: ім далі кватэры, а іхняе часовае жытло пагналі на нейкую новую будоўлю, якіх у сярэдзіне 60-х гадоў у Савецкім Саюзе было шмат. Ніка з бацькам таксама перасялілася ў прыемную двухпакаёўку, дзе мелася ўсё неабходнае для жыцця, безумоўна, па ўяўленнях таго часу. Прыехала яе маці, агледзела новае жытло і зноў падалася ў вёску пад Смаленск. А мы з Нікаю цяпер амаль увесь час бавілі ў яе дома, слухалі музыку, рыхтаваліся да заняткаў. У яе выдатная памяць. Варта ёй было прачытаць які тэкст, як яна тут жа магла пераказаць яго слова ў слова. У мяне ніколі не было такой сабранасці і ўважлівасці, хоць і я ведала мноства вершаў на памяць. Наогул тады я чытала шмат паэзіі, бо ўпотай з шостага класа пачала пісаць вершы. Вяла вершаваны дзённік свайго жыцця, але нікому пра гэта не расказвала, нават лепшай сяброўцы. Мне здавалася, што шмат хто піша вершы, проста пра гэта не прынята расказваць іншым людзям. Звычайна нанач я хавала пад падушку сшытак з алоўкам, каб запісаць тыя рыфмаваныя думкі, якія прыйдуць да мяне перад сном. Брат заўважыў гэтую маю звычку і часам выкрадаў мае пісьмовыя прылады, тады я вельмі злавала на яго.

У шостым класе мы з Нікаю ўпершыню адважыліся пайсці ў кіно на вячэрні сеанс. Купілі білеты па трыццаць капеек і селі на першым радзе. У той вечар паказвалі «Фантамаса». Зала была поўная, фільм смешны, рогат стаяў такі, што, здавалася, сцены рассунуцца. А ў мяне недарэчна разбалелася левае вуха: страляла, калола, быццам ламалася перапонка. Я смяялася і стагнала ад болю, але дагледзела фільм да канца. У падлеткавым узросце мае вушы занадта часта балелі, мусіць, нечага я вельмі не хацела чуць, хутчэй за ўсё лаянкі бацькоў.

Пра тое, як патрэбна была мне ў жыцці Ніка, сведчыць хаця б такі выпадак: аднойчы летам у мяне забалела горла, паднялася высокая тэмпература. Я трызніла і хацела аднаго, каб прыйшла сяброўка. Калі з'явілася доктарка, я прыняла яе за Ніку — мне адразу палепшала, ачомалася, перастала трызніць

і з жалем зразумела, што Ніка прыйсці не можа, бо на канікулы паехала да мамы пад Смаленск.

Увогуле Ніка была дамаседкай, але аднойчы прапанавала пайсці ў госці да нейкай вясковай цёткі, якая партызаніла разам з яе бацькам. Я не вельмі паверыла, што тата Нікі мог партызаніць у гэтай мясцовасці, бо тутэйшых партызанаў бачыла, яны прыходзілі ў школу і расказвалі пра вайну. Я не стала расчароўваць сяброўку сваім недаверам, таму што ў яе былі вельмі таварыскія адносіны з бацькам, які працаваў экспедытарам, суправаджаў харчы і прамысловыя тавары ў крамы гарадка з райцэнтра. Часам у яго атрымлівалася нейкая блытаніна з лічбамі ў паперах, тады Ніка садзілася, разбіралася, нешта рахавала і даводзіла да ладу справаздачную дакументацыю. У якасці тавараў яна таксама добра цяміла. Калі мая мама набыла і прычапіла на сцяну намаляваны на палатне дыванок, мне здалося, што гэта каштоўная рэч. А Ніка адразу вызначыла, што ён вельмі танны. Бацька маёй сяброўкі не мог нарадавацца са сваёй разумнай дачкі. Што і казаць, я таксама была ў захапленні ад Нікі. Мне падабалася яе імя. Няхай бы і мяне бацькі дадумаліся назваць Веранікай, дык не, у іх хапіла фантазіі толькі на Веру. Я пераймала яе цікавы почырк, які яна змяніла пасля таго, як з’ехаў Рамонак, і пачала пісаць літары з дзіўным надломам. Мне падабаўся яе кірпаты носік, доўгая каса і тое, што яна ўмела цярпліва рашаць арыфметычныя прыклады, якія я проста ненавідзела, бо па няўважлівасці рабіла памылкі. У рашэнні задач яшчэ мне бачыўся нейкі сэнс, а прыклады — пусты занятак. Дадаць, адняць, падзяліць, памножыць… Ды колькі можна займацца гэтай лухтой?!

Нарэшце сабраліся мы з Нікаю і пайшлі ў вёску да той партызанкі, у якой апошнім часам тата сяброўкі занадта часта бываў і нават іншы раз начаваў. Цётка аказалася даволі маладая, прынамсі, не старэйшая за маю маму, якая ў вайну была падлеткам. Я зноў падумала, што гэтая жанчына не магла быць партызанкаю, але не выказала сумненняў сяброўцы. Зрэшты, мы не мелі звычкі абмяркоўваць паводзіны нашых бацькоў.

Цётка вельмі здзівілася нам, нават быццам спалохалася, была скаваная, пачаставала нас яблыкамі і выправіла дамоў. Але ўсё роўна мы засталіся задаволеныя гэтаю вандроўкаю, бо па дарозе зайшлі на разбураную панскую сядзібу, пахадзілі па парку на беразе невялікай маляўнічай рэчкі і вярнуліся да Нікі на кватэру, дзе яна дастала з паштовай скрынкі «Піянерскую праўду». Мы пагарталі газету і ўбачылі партрэт хлопчыка з кнігай. Тварык у яго быў вельмі сімпатычны. Сяброўка загарэлася напісаць яму ліст.

— Як ты думаеш, ці ён адкажа мне?

— Адкажа… Хто яму піша? Бачыш, тут пазначана ўнізе, што ён жыве ў інтэрнаце.

Ніка пачала перапісвацца з тым інтэрнатаўцам і на некаторы час перастала даймаць мяне пытаннямі пра лепшага хлопца нашай школы. Я часам здзіўлялася, як гэта ёй удаецца дадумацца, каб напісаць незнаёмаму чалавеку. Можа, і мне гэтак зрабіць, але ўсё не знаходзіла падыходзячую кандыдатуру. Аднак перапіска Нікі хутка абарвалася. Хлопцы не любяць пісаць лісты. Прынамсі, пра гэта мне казаў мой стрыечны брат.

Калі прызнацца шчыра, дык я саромелася сказаць сяброўцы, што мне падабаўся Вадзім Шчыглоў, спакойны, сінявокі, з кароткім вожыкам попельных валасоў. Гэта ён аднойчы выратаваў мяне ад калецтва, а мо і ад смерці. Мы ўпрыгожвалі ёлку на Новы год. Я ўскараскалася на самую вяршыню лесвіцы і вешала на галінку цацку. У гэты час лесвіца паехала на коўзкай фарбаванай падлозе спартзалы. Вадзім, які, мусіць, мімаволі сачыў за мною,

заўважыў, што лесвіца падае, упёрся нагамі і спыніў яе. Я злезла, а ў сярэдзіне ў мяне ўсё калацілася ад перажытага спалоху. Нават не падзякавала яму ад разгубленасці. Некалькі разоў я заўважала, што Вадзім ідзе следам за мной са школы, хаця жыве ў іншым баку, але старалася не звяртаць увагі, бо не ведала, пра што буду з ім гутарыць. А раптам нас нехта пабачыць разам, потым засмяюць. Ды чым больш я да яго прыглядалася, тым больш ён мне падабаўся. Пасля таго, як у восьмым класе ён сеў на другой парце, адразу за маёю спінай, я зразумела, што ён цікавіцца мною.

Аднойчы я ўсё ж сказала сяброўцы, што Вадзім Шчыглоў — самы прыгожы хлопец у нашым класе, а мо і ва ўсёй школе. Яна нічога мне не адказала, толькі спытала, ці пайду я на вечар, які наладжваецца ў школе ў бліжэйшую суботу. Я адмовілася, бо не было ў мяне лепшае сукенкі, чым сіняя школьная форма. А на вечары дазвалялася хадзіць у прыгожым святочным адзенні. Звычайна там красаваліся начальніцкія дочкі, якім здавалася, што школа існуе толькі для іх. Напрыклад, дачка дырэктара завода была сакратаром камсамольскай арганізацыі, сын галоўнага бухгалтара будупраўлення ўзначальваў піянерскую дружыну. Сшыткі дачкі намесніка дырэктара выстаўляліся ў якасці ўзорных, а прымітыўныя малюнкі яшчэ адной начальніцкай дачушкі вывешвался на спецыяльным стэндзе.

Бацька Нікі хоць і не быў начальнікам, ды працуючы экспедытарам, меў магчымасць набываць сваёй дачцэ прыгожыя сукенкі. Паказаць новыя строі яна магла толькі на школьным вечары, якія пачала наведваць, як толькі ўступіла ў камсамол. Я была маладзейшая, бо пайшла ў школу ў шэсць гадоў, а таму найдаўжэй лічылася піянеркаю і фармальна не мела права хадзіць на вечары старшакласнікаў.

Ніка любіла танцы, яна часта ставіла пласцінкі з вясёлай замежнай музыкай, якія прывозіла ад сваякоў з Масквы, і пачынала натанцоўваць твіст або шэйк. Я ў гэты час звычайна малявала яе. Старалася схапіць рухі і паставу ў кожнае новае імгненне. Часам мне нешта ўдавалася. Дзіўна, чаму мне ніколі не хацелася паскакаць разам з ёю? Мо таму, што я любіла назіраць збоку за тым, што адбываецца навокал. Яшчэ калі была зусім малая, часта бацькі пакідалі мяне дома адну, маім звычайным заняткам было глядзець у акно або маляваць. Дарэчы, раней я таксама выпрошвала грошы ў мамы на пласцінкі. Але аднойчы п'яны тата ад няма чаго рабіць пабіў іх усе, па адной выкідваючы за парог. Мусіць, песні, запісаная на іх, яму не спадабаліся.

Пасля чарговага школьнага вечара Ніка пахвалілася, што яе правёў дамоў Вадзік Шчыглоў. Нешта перавярнулася ў маёй душы і паўстала супраць гэтае навіны. Я не пацікавілася ў сяброўкі, як ёй там было, што казаў Вадзік, а, быццам прыгаломшаная, паплялася дамоў. З таго дня больш ніколі я не сядзела за першай партай, выбрала сабе пустую апошнюю. Вызваліла месца для Вадзіка. Калі Ніка яму падабаецца, дык няхай садзіцца з ёю. Я ахвяравала хлопцу, які мне падабаўся, сваю сяброўку і пакутавала ад гэтага, але ён з другой парты нікуды не пайшоў.

Ніка нават не спытала ў мяне, чаму я ад яе перасела, усё сама зразумела. Мы не сварыліся, таму падтрымлівалі ў класе стасункі, але цяпер мне не хацелася бачыцца з ёю лішні раз. Адзінае, што я сабе дазваляла, глядзець на Вадзіка, калі ён адказваў ля дошкі. Мяне здзіўляла, што і ён кідаў позіркі на маю апошнюю парту. І тады я ціха радавалася.

Мы заканчвалі восьмы клас, рыхтаваліся да экзаменаў. Ніка сама падышла да мяне і прапанавала разам вучыць білеты. Я пагадзілася. Яна дала мне сваю шарыкавую ручку, якую я бачыла ўпершыню, бо да гэтага ўсе пісалі толькі

чарнільнымі аўтаручкамі. Мы пайшлі ў малады парк з тоненькімі дрэўцамі, селі на траве і доўга рашалі задачы па алгебры і геаметрыі. Потым памяняліся і абуткам. Яна абула мае белыя басаножкі, а мне дала свае карычневыя туфлі. Так непрыкметна наша сяброўства аднавілася.

Экзамены здалі на пяцёркі (у той час існавала пяцібальная сістэма ацэнкі ведаў). На выпускны вечар мама купіла мне ў суседкі вельмі танна салатавую сукенку, з круглым каўнерыкам, пашытую ў шэсць кліноў. Сукенка была на суседку малаватая, а яна, мусіць, усё старалася яе ўсцягнуць на сябе, таму тканіна ў швах дзе-нідзе парасходзілася. Але колер сукенкі вельмі пасаваў да маіх зялёных вачэй. У Нікі была прыгожая белая сукенка. Мы пайшлі на выпускны вечар, ды Вадзіка і шмат іншых нашых аднакласнікаў у гарадку ўжо не было. Іхнія бацькі перабраліся на іншую будоўлю і павезлі сваіх дзяцей. Сумны быў гэты вечар. На другі дзень мы сфатаграфаваліся з нашаю класнаю кіраўніцаю Вікторыяй Леанідаўнай, смутак адбіўся на маім твары.

У тое лета я раптам адчула сябе дарослаю. Саромелася сказаць маме, што мне трэба купіць ліфчык. Пашыла яго сама ўручную з набіўнога паркалю. Калі павесіла абноўку сушыцца, дык мама быццам спахапілася, што ў яе доме расце дзяўчына. А я на тым не спынілася. Пашыла сабе яшчэ купальнік і камізэльку маме са старой спадніцы. На маю думку, атрымалася не горш, чым у тае швачкі, да якой Ніка носіць шыць свае строі. А жанчына тая хітрая, нахвальвае маю сяброўку, маўляў, каб мне такую нявестачку. Дзяўчына вушы развесіць і радуецца. Хаця, безумоўна, яна вельмі сімпатычная, можа спадабацца каму заўгодна.

На канікулы Ніка зноў паехала ў вёску да маці, а я ўсё лета шмат чытала, хадзіла на луг маляваць, збірала вялізныя букеты кветак, прыносіла дамоў, і зноў малявала. Часам напрошвалася да жанчын, якія ішлі ў чарніцы ў лес, а потым па памяці малявала высозныя сосны. Іншы раз мяне прасілі суседкі паглядзець іхніх малых дзяцей. Я з задавальненнем бавілася з хлопчыкамі і дзяўчынкамі, якія яшчэ і размаўляць не ўмелі, насіла іх на руках, гушкала на арэлях. Сумаваць не даводзілася. А калі дома ўсе засыналі, я даставала з-пад падушкі сшытак з алоўкам і пісала вершы, дакладней рыфмаваную лухту, як, напрыклад, гэты тэкст пра рэчку, якую мы ўбачылі ў вёсцы, калі наведвалі цётку-партызанку:

Рэчанькі, рэчкі, шырокія, вузкія,
Стужкі блакітныя, стужкі бялюткія,
Ці з берагамі паўнюткія, роўныя,
Ці пад нагамі ў іх, як палонныя.
Паміж лугоў, праз балотную багну
Мкнецеся вы па зямлі маёй прагна,
Поіце, корміце, мыеце, носіце,
Шмат чаго, дужыя, умееце й робіце.
Рэчанькі, рэчкі, шырокія, вузкія,
Любыя рэчкі мае беларускія…

Такіх тэкстаў у мяне ўжо назбіралася амаль агульны сшытак. Сама не ведала, скуль браліся гэтыя думкі і рыфмы. Проста наплывалі словы, быццам у душы гучала песня, трэба было толькі паспяваць запісваць яе. Але я сумнявалася, ці ж гэта вершы? Ці здолею я калі-небудзь навучыцца пісаць, як Якуб Колас і Янка Купала, якіх я чытала вельмі шмат. У Якуба Коласа мне асабліва падабаліся апавяданні. Я нават спрабавала маме расказваць пра Зыгмуся і Даміцэлю. Але яна пасмяялася з мяне і пачала называць Даміцэляю. Тады я ў чарговы раз зразумела, што сваімі пачуццямі і думкамі не варта дзяліцца з іншымі, гэта мой асабісты таемны скарб. З Нікаю гутарыць пра беларускую

літаратуру наогул не мела сэнсу. Яна была вызвалена ад вывучэння гэтай дысцыпліны, хоць на сваім смаленскім дыялекце размаўляла быццам па-беларуску: ідзець, вядзець і гэтак далей. Я разумела, што вершы таксама нельга нікому паказваць — будуць смяяцца. Зрэшты, хіба можна было каму даверыць васмірадкоўе, прысвечанае Вадзіку Шчыглову:

Я думала — час адплывае ў нябыт,
Я думала — сэрца даруе здраду.
Я думала — памяць зможа забыць
І праўду маю, і маю няпраўду.
А час бумерангам варочае зноў
Усё да апошняй хвіліны…
Болем, пяшчотай і горкай тугой —
Цяперашнія ўспаміны…

Навошта некаму ведаць пра маё першае таемнае каханне, пра мае страты і пакуты? Я была перакананая, што ніколі больш не ўбачу Вадзіка. Мы згубіліся ў часе і прасторы, быццам памерлі адно для аднаго. І з гэтым адчуваннем фатальнасці жыцця трэба было неяк існаваць і мірыцца, бо разумела: мала што ад мяне залежыць.

## 3

У дзявятым класе з'явілася шмат новых вучняў. Прыйшлі пераважна дзяўчаты з вясковых васьмігодак, некаторыя ездзілі штодня ў школу ажно за пятнаццаць кіламетраў. Увогуле класы ператасавалі, адпаведна характару вытворчага навучання. Хлопцам прапанавалі спецыяльнасць электраслесар, з прыцэлам, што большасць з іх пойдуць працаваць на завод, а дзяўчатам далі магчымасць выбіраць паміж прафесіямі маляра і афіцыянта. Мы з Нікаю вырашылі, што лепш размалёўваць сцены, чым падносіць талеркі з баршчамі, і аказаліся ў дзявочым класе, дзе было ўсяго чатыры хлопцы. Разумныя начальніцкія дочкі захацелі быць электраслесарамі і апынуліся ў хлапечым класе.

Хоць наша сяброўства з Нікаю аднавілася, але ў дзявятым класе я па-ранейшаму села за апошнюю парту каля акна. Нічога дзіўнага, гэта мой любімы занятак з маленства, глядзець у акно і маляваць. Да мяне падсела Міла Буркіна, з грубаватымі рысамі твару, але вельмі прыгожымі карымі вачамі і залацістымі валасамі. Пасмы яе прамых валасоў спадалі на твар, калі схілялася над сшыткам, тады яна закладвала іх за вуха і працягвала пісаць. У Мілы былі два малодшыя браты, сястра і вельмі прыязная бабуля. У іхняй сям'і ўсе вельмі добрыя, нават стары айчым, ледзь не бабулін равеснік, не па ўзросце — усмешлівы і пяшчотны. Маю новую сяброўку ён называў не інакш, як Мілачка. Мабыць, яму нялёгка было прыжыцца ў рускай сям'і, дзе ўжо гадавалася трое чужых дзяцей, але гэты мудры сівы яўрэй неяк прыстасаваўся і, прынамсі, мне ніколі не даводзілася чуць у іхнім доме сваркі, гэта пры тым, што мае бацькі сварыліся ледзь не кожны дзень. Мілін айчым працаваў цырульнікам, зрабіў падчарыцы прыгожую доўгую касу. І цяпер толькі Міла і Ніка красаваліся з доўгімі косамі, нават вясковыя дзяўчаты не маглі пахваліцца такой красой.

Верасень у той год выдаўся на дзіва цёплы. Мы штовечар выходзілі на галоўную вуліцу, дзе ўздоўж шпацыравала мноства моладзі. Аднойчы нас запынілі трое хлопцаў. Мы пайшлі разам, па дарозе пазнаёміліся, а да канца вечара ўжо раздзяліліся на пары. Мы з Мілаю за два апошнія гады прыкметна падраслі, а Ніка заставалася ўсё такою ж нізенькаю (мусіць, удалася ў бацьку),

але яна выбрала сабе высокага хлопца з па-змяінаму малою галавой на доўгай шыі, якога звалі Яшкам. Мне спадабаўся Герман з інтэлігентным тварам, у акулярах, Міле дастаўся каржакаваты Ігар.

Герман, праводзячы мяне дамоў, называў не Вераю, а Максімкам за маю па-негрыцянску кучаравую галаву, параўноўваючы з чарнаскурым хлопчыкам з аповесці пра рускіх матросаў, якога яны ўзялі юнгам да сябе на карабель. Мне спадабалася гэтае імя. Я нават падумала, ці не ўзяць сабе такі псеўданім, калі раптам аднойчы захачу надрукаваць свае вершы, але згадала, што ў беларускай літаратуры ўжо ёсць чатыры Максімы: Багдановіч, Гарэцкі, Танк, Лужанін, і адмовілася ад гэтай ідэі. Герман сказаў, што ён студэнт, прыехаў на завод на практыку ўсяго на месяц, а потым зноў вернецца ў Мінск давучвацца.

— Пaступай да нас у політэхнічны, будзем разам вучыцца, — прапанаваў ён, але потым, мусіць, сцяміў, што пакуль я скончу школу, дык ён будзе ўжо гатовы інжынер.

— Яшчэ не вызначылася, куды буду паступаць, — адказала я, не жадаючы першаму сустрэчнаму апавядаць пра свае намеры.

— Звычайна дзяўчаты мараць вывучыцца на настаўніц. Прынамсі, мая малодшая сястра пра гэта думае.

— Пажывём — пабачым, — бестурботна прамовіла я, не жадаючы больш працягваць гаворку пра сябе. — Вось я і дома.

— Ты жывеш у гэтым бараку? — спытаў ён спачувальна.

— Бацьку абяцаюць кватэру…

— Людзі ўсяляк жывуць, — адзначыў для сябе Герман.

Я не стала затрымлівацца, баялася, каб хто з суседзяў не пабачыў мяне з хлопцам, сказала толькі, узбягаючы на ганак:

— Бывай.

— Бывай, Максімка! Сустрэнемся, — адказаў ён.

Я не азірнулася нават, хоць і хацелася. З Германам мы сустрэліся яшчэ разы тры, а потым яго практыка скончылася. Ён паехаў назаўсёды з нашага пасёлка, які яму, мусіць, не вельмі спадабаўся. Я ведала, што больш ніколі не ўбачу гэтага сімпатычнага хлопца. Колькі ж цікавых людзей мы сустракаем і губляем на працягу жыцця! Дык ці варта прывязвацца, прыкіпаць душою? І дзе ён, той адзіны, што стане каханнем і шчасцем? Тут сто разоў можна з дарогі збіцца, пакуль выйдзеш на патрэбную сцяжынку. Не, розумам нічога не разлічыш. Толькі душа мо пазнае таго роднага чалавека і пацягнецца да яго. Я так і запісала ў сваім дзённіку:

Памру для цябе, але жыць застануся для іншых.
Новы дзень незнарок мой лёс перапіша,
Папpавіць памылкі, падкажа, паможа…
Ні згадка, ні цень мой цябе не патрывожаць.

І хто я для таго Германа? Нават не дзяўчына, а падлетак, істота ніякага роду, Максімка!

Міла пасябравала з Ігарам, а Ніка — з Яшкам. Хлопцы прыехалі ў наш пасёлак на працу пасля будаўнічага тэхнікума, але восенню іх павінны былі забраць у войска. Таму яны не гублялі часу дарма, а кожны вечар бавілі са сваімі новымі сяброўкамі. Дзяўчаты былі ад іх у захапленні, але дэталямі сустрэч са мною не дзяліліся. Я і не спрабавала нешта выведаць. Заўважыла толькі, што Ніка, каб выглядаць вышэй, больш не заплятала касу, а майстравала са сваіх доўгіх валасоў мудрагелістую высокую прычоску. Цяпер яна часам стала прапускаць заняткі. І тады я забягала да яе пад вечар, каб папытацца, ці не захварэла яна.

— Прышчы павыціскала, — бестурботна адказвала яна, паказваючы на прымочкі з тэтрацыклінавай мазі, прыклееныя да твару, і завальвалася зноў у пасцель, якую ніколі не засцілала.

— А як жа спатканне з Яшкам? — спытала я.

— Сёння не пайду. Схадзі да яго ты і скажы, няхай мяне не чакае.

— Не пайду. Ведаеш, у старажытнасці ганца з дрэннаю весткаю забівалі.

— Яшка не заб'е, ён памяркоўны… Схадзі, прашу. Як я з такою мордаю з'яўлюся да яго?

Ніка так упрошвала, што я не магла ёй адмовіць. Калі выйшла з пад'езда, дык убачыла, што Яшка ўжо аціраецца ля яе дома. Я перадала прывітанне ад Нікі і сказала, што сёння яна трохі прыхварэла. Хлопец засмуціўся, а я не стала яго суцяшаць, а падалася дамоў. Ну іх да д'ябла. Няхай самі разбіраюцца. Атрымалася, быццам я вінаватая ў тым, што сапсавала настрой чалавеку.

Пасля гэтага выпадку вырашыла меней бегаць да Нікі, а завяла сяброўства з Машаю, якая жыла ў суседнім бараку і вучылася ў паралельным класе. Цяпер з ёю хадзіла па вечарах на шпацыр. Неяк у туманным вечаровым паўзмроку сутыкнуліся з Толікам Баламацюком, які прычапіўся да нас, як смала, увесь вечар цытаваў Фелікса Дзяржынскага, выдаваў нам розныя яго выказванні накшталт гэтакіх: «Сапраўднае няшчасце — эгаізм. Дзе ёсць любоў, там няма пакуты, якая магла б зламаць чалавека. Шчасце — гэта не жыццё без турбот і смутку, шчасце — гэта стан душы. Адсутнасць у вас судзімасці — гэта не ваша заслуга, а наша недапрацоўка…» Толік падлеткам трохі адседзеў у калоніі. Турэмны дух настолькі атруціў яго і выбіў усе свае думкі, што цяпер ён выказваўся толькі лозунгамі, якія бачыў на сценах турмы ці ў аддзяленні міліцыі, куды вельмі часта хадзіў бавіць час. Там яго ўсе ведалі і, мусіць, у выхаваўчых мэтах не праганялі. Мы ледзьве адбіліся ад яго і зарakліся калі-небудзь яшчэ з ім прагульвацца. Аднак праз тыдзень ён зноў падсцярог нас на вуліцы і пачаў упрошваць схадзіць з ім на танцы ў вёску. Мы адмаўляліся, а ён распісваў нам у самых яскравых фарбах, як там цікава:

— На гармоніку нейкі вясковы фраер шпарыць. Гарадскія прыходзяць з гітарамі! Людзей процьма! Век волі не бачыць! — хваліўся ён на турэмны лад.

— Якія танцы? Там жа цемра беспрасветная! Сёння і месяца няма, — запярэчыла я.

— Каму тое святло трэба? Найлепшыя справы робяцца ў цемры, — пераконваў Толік.

Да адзінаццаці гадзін вечара я мела дазвол бавіць час за межамі свайго дома, Машу маці наогул не абмяжоўвала, а бацькі ў яе не было, ён пакінуў сям'ю, у якой было трое дзяцей. Я заўсёды здзіўляюся, калі бываю ў такіх сем'ях, як Міліна, ці Машына. Думаецца мне, што з мацярок маіх сяброўак маглі б атрымацца выдатныя жонкі, прывабныя, вясёлыя, і згатаваць смачна ўмеюць, а мужы пакінулі іх з малымі дзецьмі, нават не цікавяцца, як там гадуюцца іхнія нашчадкі. Прынамсі, Маша і Міла пра сваіх бацькоў ніколі не згадваюць, быццам нарадзіліся ад святога духа.

— Можа, сходзім? — не вытрымала спакусы Маша. — Для разнастайнасці можна. Што тут у горадзе мы не бачылі? Штодня адны і тыя ж твары.

— Пойдзем, калі хочаш, — згадзілася я. — Толькі мне трэба да адзінаццаці быць дома.

— Гадам буду, да адзінаццаці вернемся, — з палёгкаю паабяцаў Баламацюк і зноў пачаў сыпаць на нашы галовы турэмныя лозунгі.

— Слухай, калі хочаш ісці з намі, дык маўчы! — папярэдзіла я, думаючы пра тое, што, мусіць, усе ягоныя продкі па мужчынскай лініі былі балбатуны

ці баламуты, інакш не атрымалі б такое характэрнае прозвішча, якое цалкам адпавядала ўнутранаму зместу ягонага ўладальніка.

— Ты сапраўдная зэчка, — пахваліў мяне Толік і змоўк.

Вёска зусім блізка. Метраў праз двесце заканчваўся асфальт, і на ўзгорак цягнулася шырокая сцежка, якая пераходзіць у вясковую вуліцу, адкуль ужо чуліся пералівы гармоніка. Праз колькі хвілін мы далучыліся да гаманкога натоўпу, згубілі надакучлівага Толіка, нас захапіў вір вальса. Самазабыўна кружымся з Машаю, налятаем на некага ў цемры, смяёмся і рухаемся далей. Вальс скончыўся, бадзёра ўстрапянула душы полька. Мы з Машаю зноў кінуліся ў круг скакаць польку ў два бакі. Дзіва дзіўнае, з Нікаю я ніколі не скакала яе віхлястыя твісты і шэйкі, а тут мне так лёгка і светла скачацца. Бадай, тыя замежныя танцы не для душы, а для цела.

— Добра тут! — крычыць мне на вуха Маша.

Я згаджаюся з ёю, бо ў цемры адчуваю разняволенасць і радасць, адасобленасць і суладнасць з мноствам людзей, якімі кіруе музыка. Побач з'яўляецца хлопец з гітарай, малоціць па струнах з усяе сілы, ды хіба яму перайграць гармонік? Раптам пачуліся галасы:

— Нашых б'юць! Нашых б'юць!

Хлопцы рынуліся ў цемру, каля гарманіста засталіся толькі дзяўчаты. Ды і яны з цікавасці пасунуліся ў той бок, скуль чуўся крык. Сціх музыка, каб прыслухацца і зразумець, што адбываецца. Мы з Машаю таксама падаліся туды. Падыходзілі асцярожна, каб не патрапіць каму пад гарачую руку. Наперадзе зрабілася ціха, толькі бліскалі кішэнныя ліхтарыкі. Натоўп утрапёна маўчаў. У святле ліхтарыка мы ўбачылі Толіка Баламацюка. Ён скурчыўся на зямлі, абсыпаны пылам, быццам урастаў у глебу, станавіўся яе часткаю. Нехта з хлопцаў нахіліўся і крануў яго, Толік не падаў ніякіх прыкмет жыцця. Людзі навокал стаялі нерухома і не ведалі, што рабіць. Час быццам спыніўся. Яшчэ я спадзявалася, што зараз Толік падымецца і скажа:

— Гадам буду, калі не адпомшчу! Крывавымі слязамі будзеце плакаць! Век волі не бачыць!

Але ён не варушыўся і на вачах быццам ператвараўся ў тлен. Нарэшце пад'ехала машына хуткай дапамогі. Дактары абслухалі Толіка, паклалі на насілкі і павезлі.

Мы з Машай агаломшаныя папляліся дамоў.

— Больш ніколі не пайду ў вёску на танцы, — сказала я.

Маша пагадзілася са мною. Мы ішлі, шкадавалі Баламацюка і былі перакананыя, што дактары яго выратуюць.

Толік памёр у бальніцы. На ягоным пахаванні нікога з моладзі не было, бацькі павезлі яго некуды на сваю радзіму. Хлопца, які яго забіў, пасадзілі ў турму, а мы з Машаю не давалі веры, што Баламацюка больш няма і ніколі не будзе. Нам здавалася, што ён проста схаваўся ад сваіх забойцаў, каб лішні раз не мець непрыемнасцей.

## 4

Восенню Міла і Ніка правялі ў войска сваіх хлопцаў і цяпер актыўна з імі ліставаліся. Гэтая акалічнасць зноў згуртавала нас, але ненадоўга. Ніка пазнаёмілася з дарослымі дзяўчатамі і вольны час бавіла толькі з імі. Мне яна сказала неяк у класе, што сябруе з новым хлопцам Віктарам Барысавым, з якім у нядзелю збіралася ехаць у райцэнтр у рэстаран.

— А чаму так далёка? У нас жа і ў гарадку таксама ёсць рэстаран, — спытала я.

— Хіба не разумееш, мяне ж тут усе ведаюць, — Ніка паглядзела на мяне праз акуляры як на нікчэмнасць і адвярнулася, уткнулася вачамі ў падручнік, мабыць, цяпер не паспявала рыхтаваць хатнія заданні, але не хацела губляць марку адной з лепшых вучаніц класа.

Я вучылася трохі слабей, але зусім не таму, што мела горшыя здольнасці. Была ў мяне дрэнная звычка не слухаць тлумачэнні настаўніка. Любіла на занятках марыць пра нешта недасяжнае і маляваць. Мая свядомасць увесь час існавала ў нейкіх дзіўных ілюзіях, напрыклад, што мы з Вадзікам плывём у чоўне па рацэ і рвём белыя лілеі. Пры гэтым малюю лодку, сябе і яго, раку, гарлачыкі, вербы, схіленыя да вады, і шапатлівы трыснёг. Прывабны атрымліваецца малюнак, і я доўга любуюся ім на уроку хіміі. Мяне тыя грам-молі, пра якія тлумачыць настаўніца ля дошкі, проста раздражняюць. Яшчэ адна фантазія часта наведвае мяне: я прыязджаю ў нейкі горад і проста на вуліцы сустракаю Вадзіка, дзякую яму за тое, што выратаваў мяне ад калецтва, а мо нават ад смерці. Мы ідзём па горадзе, трымаючыся за рукі. Я малюю горад, пешаходаў, трамваі, машыны і застаюся задаволеная працаю. Калі звініць званок на перапынак заканчваю свой твор і паказваю Міле. Яна хваліць малюнак. А я зноў ні слова не чула, што там расказвала настаўніца. Усе патрэбныя параграфы маіх падручнікаў дома вывучаю самастойна. Мусіць, каб можна было, дык зусім не хадзіла б у школу, здавала б экзамены экстэрнам, але не дазваляю сабе такога нахабства. Ды і куды ў нашым гарадку можна схавацца ад настаўнікаў, суседзяў і проста знаёмых, хіба толькі ў лес. Усе адразу зразумеюць, што я збегла з заняткаў.

Ніка больш разняволеная, іншы раз і па два дні не прыходзіць у школу, калі павыціскае вугры ды ляжыць з прымочкамі ў пасцелі. Яна добрая вучаніца, яе ніхто не дакарае. На фізкультуру наогул не ходзіць з-за блізарукасці, вось пашчасціла! Ніхто з дзяўчат у нашым класе не любіць фізкультуру. Вельмі часта мы, спасылаючыся на крытычныя дні, ігнаруем гэтыя заняткі. Настаўнік неаднаразова прыходзіў у клас і заганяў нас у спартзал, каб сядзелі ў сукенках і глядзелі, як іншыя займаюцца. Ненавіджу гэтыя фіялетавыя баваўняныя трэнікі з выцягнутымі каленямі, у якіх усе ходзяць на заняткі. Упрасіла маму пашыць мне штаны з прыстойнай тканіны, каб я магла насіць іх не толькі на заняткі, а скарыстоўваць як звычайнае адзенне. У штанах цёпла і зручна. Яна пагадзілася са мною і саступіла маім просьбам. Цяпер іншы раз нават начальніцкія дочкі, калі забывалі сваю спартыўную форму дома, прыбягалі да мяне пазычыць на ўрок фізкультуры мае штаны. Праўда, было гэта ўсяго разы тры.

У панядзелак Ніка не з’явілася ў школу. Я падумала, што яна зноў лячыла твар, каб лепш выглядаць і падабацца свайму Барысаву. У той вечар я была якраз занятая, пісала сачыненне. Літаратура — мой любімы прадмет! Хоць і на гэтых занятках я што-небудзь малявала, але чытала ўсё, што задавалі па праграме. Напісаць добрае сачыненне мне нічога не каштавала. Праўда, іншы раз з-за няўважлівасці прапускала літары ці цэлыя склады. За гэта настаўніца зніжала ацэнку па мове, але па літаратуры заўсёды былі пяцёркі. Іншы раз мае сачыненні нават зачытвалі ў класе. Мне хацелася паказаць настаўніцы свае вершы, але нешта стрымлівала мяне. Яшчэ раскажа каму, будуць абгаворваць, смяяцца.

Калі Ніка не з’явілася ў школе і на трэці дзень, я занепакоілася, пайшла да яе дамоў. Мне ніхто не адчыніў. Параілася з Мілаю, выправіліся разам шукаць Ніку да яе новых старэйшых сябровак. Адна з іх нас і на парог не пусціла.

— Мусіць, Ніка тут хаваецца? — выказала здагадку я.

— Чаго ёй хавацца? — спытала Міла.

— Яна ж са сваім Барысавым у рэстаран ездзіла, мо замуж сабралася…

— Ты прыдумаеш! Яна ж з Яшкам перапісваецца.

— Яшчэ калі той Яшка адслужыць і вернецца. А Барысаў тут…

— Не, я не веру…

— Я таксама не веру… Проста разважаю…

Ужо сцямнела, калі мы выйшлі на вуліцу і завярнулі да таго дома, дзе жыла Ніка. Я ўбачыла, што ў яе акне гарыць святло і сказала:

— Глядзі, нехта ў яе дома з’явіўся.

— Пайшлі, — рашуча сказала Міла.

Нам адчыніў дзверы бацька Нікі і спытаў:

— Мо ведаеце, дзе мая Верка?

Толькі яму дазвалялася называць дачку Веркай, усе астатнія звыклі, што яна Ніка. Мы паціснулі плячамі і растлумачылі, што самі шукаем яе. Бацька ўздыхнуў і зачыніў перад нашымі насамі дзверы. Мы выйшлі з пад’езда ў роздуме.

— Можа, той Барысаў украў яе? — спытала я.

— Адкуль я ведаю, — адказала Міла. — Няхай бы яе міліцыя пашукала…

— Дык, мусіць, бацька ведае, што робіць…

З трывогаю за сяброўку мы разышліся па хатах. Але на нашу радасць, Ніка на другі дзень усё ж з’явілася ў школе.

— Дзе ты была? — кінулася я да яе з пытаннем.

— У Галі, — спакойна адказала яна, маючы на ўвазе тую самую дарослую сяброўку, якая ўчора не пусціла нас у кватэру.

— А як рэстаран, як Барысаў?

— Пасля калі-небудзь раскажу, — паабяцала Ніка.

Я не стала чапляцца да сяброўкі з роспытамі, як і што там было. Сапраўды, калі трэба будзе, яна сама мне ўсё раскажа. Але пасля мы больш ні разу да гэтай тэмы не вярнуліся. Якая мне справа была да яе любоўных прыгод, калі я сама ўвесь час плавала ў нерэальных фантазіях? Толькі ад Мілы я даведалася, што з рэстарана Ніка прыехала з Барысавым на таксі вельмі позна. Яна разлічвала, што бацька ў нядзелю будзе начаваць у сваёй партызанкі, і прывяла хлопца ў кватэру. А бацька, як на злосць, аказаўся дома. Ён выкінуў з кватэры Барысава, а потым усю ноч малаціў Ніку, зацягнуў за валасы ў ванны пакой і лупасіў паскам. З-за гэтага Ніка ўцякла да Галі, а потым бацька ўсё ж знайшоў яе і вярнуў дамоў.

Праз колькі тыдняў сяброўства Нікі са старэйшымі дзяўчатамі разладзілася, і яна папрасіла мяне забегчы да яе пад вечар, каб разам ісці на шпацыр. Дзверы мне адчыніў яе бацька і сказаў, што дачка зараз у суседкі Лілі. Я падалася туды і знайшла там вясёлую кампанію: гаспадыня, гадоў дваццаці васьмі, з шорсткімі рыжымі валасамі, Ніка, Міла і Галя разглядалі кнігу па акушэрстве. «Знайшлі занятак, — незадаволена падумала я. — Няўжо цікава разглядваць жаночае цела ў разрэзе?» Сама я такую кніжку бачыла ў суседкі па бараку Люды, якая працавала медсястрою ў бальніцы ў розныя змены і часам прасіла мяне паняньчыць яе малых дачок. Гэты нечаканы занятак маіх сябровак навёў мяне на думку, што Ніка нездарма зацікавілася пытаннямі акушэрства. І прычынаю гэтаму мог быць Віктар Барысаў, пра якога яна больш не згадвала, а расказвала пра тое, што ёй піша Яшка. Праўда, мае здагадкі заставаліся толькі здагадкамі, не хацелася абцяжарваць душу падазрэннямі.

## 5

Паціху-памалу мы ўваходзілі ў дарослае жыццё. Яно нам здавалася прывабным і шчаслівым. Прымерваліся, прыкідвалі, як будзем жыць, чым будзем займацца. А пакуль у школе на вытворчым навучанні прапанавалі нам заняткі па малярскай справе. Рыжая і буйная цётка, прараб Хазарава з будаўнічага ўпраўлення, чытала лекцыі пра фарбы і пэндзлі, мы старанна запісвалі, а я думала, што гэта мой лёс: калі не стану мастаком, дык буду маляром. Размалюю наш горад ва ўсе фарбы вясёлкі, бо абрыдла шэрасць цэглы. Дзявяты клас я скончыла паспяхова. У табелі былі ў асноўным пяцёркі. Чацвёркі я схапіла па фізкультуры (з-за некалькіх пропускаў), а таксама па хіміі і нямецкай мове, самастойна адолець гэтыя навукі на выдатна не змагла. Наперадзе былі канікулы і вытворчая практыка, між іншым, не абавязковая, таму Ніка і не думала працаваць, а паехала да родзічаў у Маскву. А мы з Мілаю ў ліпені напісалі заявы ў аддзеле кадраў, і нас накіравалі ў брыгаду маляроў, вясёлых прыязных маладзіц, якія часам хораша спявалі за працаю, часам мацюкаліся, горш за п’яных мужыкоў. Усялякая справа ладзілася ў іхніх руках. Прыходзілі ў пакой, дзе ўсё было чысценька вымецена, прыбрана, і пачыналі фарбаваць сцены, вокны і шафы. Так прыгожа і добра ў іх атрымлівалася, што проста не хацелася выходзіць з таго святочнага і светлага пакоя.

Спакойная і старанная Міла працавала лепш за мяне. А мяне фантазіі часам заводзілі так далёка, што я забывалася, дзе знаходжуся і чым займаюся, і абавязкова рабіла нейкую прыкрую памылку: або незнарок разлівала фарбу, або шыбу запэцквала. Маляр з мяне пакуль быў дрэннаваты. Я старалася з пэндзлем у руках ні пра што не думаць. Але хіба ж можна жыць з пустой галавой? У мяне не атрымлівалася. Паступова мы ўцягваліся ў працу, нам падабалася раніцай ісці з рабочым людам, а потым вяртацца дамоў. Мы ўжо ведалі ўсіх цётак, якія працавалі побач, па імёнах, назіралі за імі і заўважалі, што яны крадуць фарбу, пляткараць, і разумелі: гэта ў іх такія маленькія радасці жыцця. На нас з Мілай пачалі звяртаць увагу сантэхнікі ды электрыкі. Адзін стараваты дзядзька, якому з выгляду можна было б даць гадоў трыццаць пяць, аднойчы падсеў да мяне і пачаў абдымаць. Я доўга не думаючы, тыцнула яму пэндзлем з фарбаю ў агідную пысу і пабегла. Пакуль ён вочы прадраў, мой і след прастыў. Больш ён ніколі да мяне не падыходзіў.

Міла, якая была сведкай гэтае сцэны, сказала мне:

— Добра ты яму ўмазала. Да мяне таксама адзін электрык усё чапляецца.

— Прыгожы?

— Нішто сабе, толькі стары, яму, мусіць, гадоў трыццаць. Кажа, што паехаў бы са мною на які-небудзь неабжыты востраў і жыў бы да старасці.

— Чаму не да смерці? — спытала я.

— Ён кажа: спачатку прыходзіць старасць, а потым смерць. А ў старасці жанчыны без патрэбы. І смяецца, бы дурань.

— Ён, мусіць, жанаты, ад жонкі схавацца хоча на востраў.

— Гэта яго праблема…

— Куды сёння пойдзем увечары? — спытала я.

— Як звычайна, штурмаваць стометроўку.

Мы дафарбавалі акно, сабралі прылады і пайшлі да брыгадзіркі Коласавай адрапартаваць пра выкананую справу. Яна прыязна паглядзела на нас і сказала:.

— Пойдзем глянем, што ў вас атрымалася.

Брыгадзірка ўважліва агледзела акно, заўважыла запэцканую шыбу, дзе фарбавала я, дастала анучку з кішэні робы і старанна выцерла шкло.

— Трэба адразу за сабою прыбіраць, — лагодна ўсчувала яна, — потым і зубамі не адгрызеш.

Я расчаравана зразумела, што не хутка яшчэ навучуся рабіць малярскую справу засяроджана і дасканала. А брыгадзірка акінула нас позіркам і з усмешкаю сказала:

— Ідзіце вы, дзеткі, дахаты, хопіць з вас.

Мы разумеем, што цётцы Коласавай з намі адны турботы, але няма куды дзявацца ні ёй, ні нам, заўтра мы зноў прыйдзем на працу. Нам абяцалі нешта заплаціць. Які дурань адмовіцца зарабіць? Мы здымаем рабочае адзенне, надзяваем свае шырокія спаднічкі з вялізнымі накладнымі кішэнямі. Пашылі мы іх у самым пачатку канікулаў. Міліна бабуля дазволіла пакарыстацца яе ручною швейнаю машынкаю. У мяне на паркалі markaлі рознакаляровыя ромбы, у якіх пераважае блакітны колер і блузачка таксама блакітная, яна вельмі хараша пасуе да спаднічкі, утвараецца прыемны ансамбль. У Мілы спадніца белая, размаляваная вялікімі бэзавымі кветкамі з зялёным лісцем, і белая блузачка, таксама няблага глядзіцца.

Цяпер найчасцей вольны час бавіла я ў Мілы на кватэры. Звычайна яе малодшыя браты цэлымі днямі гойсалі на вуліцы, сястра была ў дзіцячым садку, бацькі — на працы. Дома заставалася толькі бабуля, якая блага сябе адчувала і найчасцей ляжала ў сваім пакоі. Кватэра была трохпакаёвай, і нам з Мілаю ніхто не замінаў рыхтавацца да заняткаў, або, як цяпер летам, проста пра нешта гаварыць. Па нядзелях і на святы да сяброўчыных бацькоў прыходзіла ў госці сям'я, з якою яны прыехалі з аднаго ўральскага горада, мажная цётка Ліна і худзенькі з доўгім носам, падобны на камарыка, дзядзька Гоша. Тады на стол падаваліся смачныя пірагі і піражкі, фаршыраваная рыба, бульба, салянка. Нас з Мілаю запрашалі за вялікі круглы стол разам з дарослымі. Я глядзела на ўвішную маладую Міліну маму, цётку Шуру, на яе старога мужа, і думала: «Няўжо гэтыя людзі кахаюць адно аднаго? Што звязвае іх? Жыццёвыя варункі? Цёці Шуры цяжка было гадаваць траіх дзяцей ды яшчэ ўтрымліваць бабулю, таму, мусіць, яна і вымушана была пайсці замуж за старога яўрэя ды нарадзіць яшчэ адно дзіця». Пераводзіла позірк на цётку Ліну і пытала сама ў сябе: «Няўжо яна кахае гэтага смешнага дзядзьку Гошу? І чаму мае бацькі, маладыя і прыгожыя, якія знешне так падыходзяць адно аднаму, ніяк не могуць ужыцца, а бясконца сварацца між сабою, што іншы раз і дамоў не хочацца ісці?» Здагадвалася, што цёткі Шура і Ліна трапілі ў цяжкую сітуацыю, засталіся з дзецьмі без мужоў, а таму вымушаныя былі звязваць свае лёсы не з самымі прыгожымі мужчынамі, а з тымі, якія выбралі іх, прапанавалі сваю падтрымку і дапамогу.

Мы з Мілаю выйшлі з бытоўкі на вуліцу, шчодра абагрэтую ліпеньскім сонцам, шукаючы, куды б схавацца ў цянёк.

— Нешта дадому не хочацца, — сказала Міла. — Мо пасядзім у парку?

— Пайшлі, — пагадзілася я, — толькі горача вельмі.

— Пазагараем…

— Як там наша Ніка ў Маскве смажыцца? Лепш бы з намі працавала.

— Куды ёй з яе здароўем, — адказвае Міла.

Я здзіўлена зірнула на сяброўку і не магла зразумець, што яна мае на ўвазе, але ўдакладняць не стала. Асабіста я ніколі не лічыла Ніку хворай. Блізарукасць — гэта ж не хвароба. Не варта разводзіць плёткі пра сяброўку. Мы павярнулі да парку, засаджанага тоненькімі маладымі ясенямі. Абапал асфальтаваных дарожак стаялі лаўкі. Мы селі на бліжэйшую. Міла дастала з кішэні пачак цыгарэт.

— У Лёнькі забрала. Уяўляеш, дванаццаць гадоў, а ён ужо курыць! Які паскуднік! Дзе толькі грошы бярэ! Мо закурым? — спытала яна.

— Я не ўмею.

— Паспрабуем.

Міла падала мне цыгарэту і пачак запалак, другую прыкурыла сама. Я пацягнула горкі і пякучы дым — адразу закашлялася, ажно слёзы на вочы набеглі. Адкінула цыгарэту і сказала:

— Не разумею, што людзі ў гэтым знаходзяць?

— Да цыгарэт прывыкнуць трэба, тады ўжо цяжка кінуць, — патлумачыла Міла.

— Гэта, мусіць, проста мода такая, як і на піццё гарэлкі. У нас у бараку мужчыны пакуль цвярозыя, усе быццам разумныя і прыстойныя. А варта ім напіцца, дык горш за дурняў робяцца. Дрэнная звычка — піць гарэлку. Ад яе адны сваркі ды бойкі кожную нядзелю.

Міла таксама адкінула цыгарэту і весела сказала:

— Што ні кажы, а няма нічога смачнейшага за цукеркі. Каб цыгарэты былі салодкія, мо я і курыла б з кім за кампанію.

— Уяві сабе, раптам прыляцеў да нас іншапланецянін, ідзе па вуліцы, а нашы мужыкі цыгаркі смаляць, і дым з носа пускаюць. Мусіць, доўга рагатаў бы, — сказала я.

— А каб нашых п’яных пабачыў, што іншы раз на чатырох касцях з лужын выграбаюцца, дык, мусіць, памёр бы ад смеху!

Мы асудзілі чалавецтва, падкае на ўсялякія заганныя звычкі, і разышліся па хатах, бо сонца прыпякала і хацелася піць, папярэдне дамовіліся сустрэцца каля танцпляцоўкі, дзе звычайна летам збіралася моладзь. На дарослыя танцы школьнікам хадзіць не дазвалялася, але назіраць, як весяляцца іншыя, ніхто не забараняў.

## 6

У той вечар на танцпляцоўцы не проста іграў мясцовы аркестр, а спяваў нейкі камандзіровачны хлопец песні з рэпертуару папулярнага на той час спевака Юрыя Гуляева, голасам і нават знешне быў на яго вельмі падобны. Дзяўчаты вакол яго кruціліся роем, але ён нікога на танцы не запрашаў, а толькі спяваў і спяваў усім вядомыя і любімыя песні. Мы з Мілаю таксама заслухаліся. Вельмі ж прыгожы, кранальны і глыбокі быў голас.

— Не пашанцавала хлопцу, яму б на тэлебачанні спяваць, — сказала я.

— Не ўсім так шанцуе, — адказала Міла, — хоць ён і варты таго.

Тэлевізара не было яшчэ ні ў Мілінай хаце, ні ў маёй, але мы хадзілі глядзець цікавыя тэлеперадачы і кінафільмы да адной цырульніцы, якая працавала разам з Мілiным айчымам. Гэта была прыемная маладая жанчына, жыла яна адна, мела двух сыноў-блізнят. Муж яе пакінуў. Яна часам працавала ў другую змену і прасіла мяне ці Мілу забраць яе сыноў з садка. Аднойчы я цягнула санкі з гэтымі дзецьмі, а насустрач мне ішлі мужчыны. Адзін паглядзеў на мяне і сказаў:

— Такая маладая, а ўжо двое дзяцей!

Гэтая рэпліка мяне спярша абурыла, а пасля ўсцешыла. Выходзіла, што я ўжо выглядаю як дарослая дзяўчына, а не як падлетак ніякага роду, Максімка. З таго часу я пачала адчуваць сябе дарослаю, нават цяпер, калі ведала, што на танцпляцоўку мне хадзіць пакуль забаронена. Да нас падышлі два незнаёмыя

хлопцы, мабыць, нядаўна прыехалі. Адзін быў высокі і чарнявы, другі сярэдняга росту, русявы, з прыемнай усмешкай прыгожа акрэсленых вуснаў. Такія мне даводзілася бачыць у нейкага акцёра на фотаздымку ў калекцыі Нікі.

— Пойдзем на танцы, дзяўчаты, — запрасіў чарнявы.

— Нам нельга. Як настаўнікі ўбачаць, дык на абаранкі заробім! — адказала я. — Ды і кантралёрка цётка Клава ўсіх школьнікаў ведае ў твар, выведзе з ганьбаю.

— Тады пойдзем гуляць, — прапанаваў русявы.

— Чаму б і не, — пагадзілася Міла.

— Давайце пазнаёмімся, — прапанаваў чарнявы. — Мяне завуць Багданам, а яго Віталем.

Мы назвалі свае імёны і пайшлі разам з хлопцамі напрасткі да клуба, каб выйсці на бетонку.

— Пачакайце, дзяўчаты, трэба ж неяк жыццё падсаладзіць, — сказаў Віталь. — Я забягу ў буфет на хвілінку.

Хоць летам танцы ладзіліся на танцпляцоўцы, але клуб не зачыняўся, па вечарах там паказвалі кіно і працаваў буфет. Віталь вярнуўся з вялізным пакункам цукерак і падаў мне.

— Дзякую, гэты дарунак звяжа мне рукі на цэлы вечар, — сказала я.

— Давайце цукеркі па кішэнях рассыплем, вунь яны ў вас якія вялікія на спадніцах, — прапанаваў Багдан.

Мы так і зрабілі. Ласаваліся цукеркамі. А хлопцам асабліва было прыемна лазіць да нас у кішэні, але паводзілі яны сябе прыстойна, таму, мабыць, і спадабаліся нам. Мы хадзілі па вуліцы, нешта апавядалі пра сябе, згадвалі смешныя выпадкі. Міла расказала, як я засвяціла пэндзлем нахабнаму сантэхніку ў твар. Усе доўга смяяліся, хоць мне было трохі няёмка за маю нястрыманасць. У адзінаццаць гадзін я спахапілася, што мне трэба дамоў. Віталь пайшоў мяне праводзіць. З таго дня мы пачалі даволі часта сустракацца. Праўда, праз месяц Віталева камандзіроўка скончылася, але ён абяцаў вярнуцца ў хуткім часе зноў. Міла ўсе вечары бавіла з Багданам, расказвала, як моцна ён цалуецца, што ў яе ажно вусны робяцца драўляныя.

— Як гэта вы цалуецеся? — здзіўлялася я.

— А ты паспрабуй, дык і будзеш ведаць, — пасміхнулася Міла.

Я адчувала, што адстаю ў развіцці ад сваіх сяброўак. Па-першае, яны былі старэйшыя за мяне: Ніка на год, а Міла амаль на два; па-другое, яны жылі неяк проста, а я ўсё ўскладняла. Мне нават казаць нічога не трэба, варта толькі глянуць нядобра, і я ўжо адчую, быццам праткне мяне позірк, а таму пастараюся хутчэй аддаліцца ад гэтага чалавека і больш ніколі з ім не сутыкацца. А калі мне сказаць нешта крыўдлівае, дык, мусіць, усё жыццё буду помніць. Не помсціць, не злаваць, а менавіта помніць. Гэтак чуйна звыкла я жыць у сваёй сям'і, загадзя адчувала, што наспявае сварка і сыходзіла з дому. Ведала, што бацькі пасварацца, пасля памірацца, а мне лепш гэтага не чуць і не бачыць, бо я ніколі не змагла б дараваць тыя брыдкія словы, якія яны кажуць адно аднаму падчас сваркі. Мая свядомасць развівалася ад процілеглага, быццам выпадкова паслаў мяне Бог у гэтую сям'ю. Пераблыталі нешта ў нябесным загсе.

Перад самым пачаткам новага навучальнага года вярнулася Ніка. Яна была шчаслівая, таму што ў Маскве сустрэлася з Яшкам, якому пашанцавала служыць у сталіцы. Казала, што ён не збіраецца адтуль з'язджаць і хоча застацца ў войску, можна сказаць, ужо прымярае афіцэрскія пагоны, на гэта дае яму права дыплом аб заканчэнні тэхнікума. Яна прывезла новыя пласцінкі. І кожны раз, калі я прыходзіла да яе, яна круціла іх і вытанцоўвала ўжо

неяк па-новаму, як навучылі яе ў Маскве. Танцаваць яна магла і без музыкі, а проста напяваючы сабе якую-небудзь песеньку.

У школе былі таксама добрыя навіны. Да нас пасля дэкрэтнага адпачынку вярнулася наша любімая класная кіраўніца Вікторыя Леанідаўна. У сёмым класе на 8 Сакавіка мы падпісалі ёй дваццаць дзевяць паштовак, кожны вучань асабіста павіншаваў яе са святам, а яшчэ купілі вялізны букет папяровых кветак, бо іншых у нашым гарадку ў той час не прадавалі. Настаўніца была вельмі ўважлівая і справядлівая, не выдзяляла ніякіх улюбёнцаў. З першага дня называла нас не дзецьмі, не вучнямі, не рабятамі, як іншыя, а таварышамі. Гэта вельмі цешыла калектыўны гонар класа. А яшчэ наша Вікторыя была незвычайна прыгожая.

Гэты апошні год у школе ляцеў неяк асабліва хутка. Прамільгнулі цёплы верасень і кастрычнік, пачаўся лістапад. Міла правяла ў войска Багдана. І цяпер мусіла пісаць лісты двум салдатам. Але ліставанне тое раптам абарвалася. Аднойчы Міла вырашыла ў адзін вечар напісаць абодвум хлопцам, але лісты пераблытала, калі ўкладвала ў канверты. Багданаў ліст паслала Ігару і наадварот. Адказу не атрымала.

Нягледзячы на слотнае надвор'е, мае сяброўкі зноў пачалі бегаць у вёску на танцы, не ў тую, дзе забілі Толіка Баламацюка, а ў іншую, дальнюю, але і не такую далёкую, каб не дайсці туды пешкі. Прынамсі, шмат вучняў з нашай школы жылі там, штодня хадзілі на заняткі і не скардзіліся. Танцы ладзіліся ў якой-небудзь хаце, дзе мелася дзяўчына ці хлопец. Каб не адрывацца ад кампаніі, я таксама пайшла з сяброўкамі на вячоркі. У хаце было поўна моладзі, у памяшканні панавала задуха. Граў гармонік, некалькі дзяўчат кружыліся ў вальсе на сярэдзіне пакоя, хлопцы стаялі, курылі, размаўлялі. Пратанцавалі і мы колькі танцаў, я спахапілася, зірнула на ходзікі, і зразумела, што мне пара вяртацца, інакш да адзінаццаці не паспею. Я не любіла, каб бацькі з-за мяне нерваваліся, была, можа, нават занадта паслухмянаю. Сказала сяброўкам, што іду дамоў. Яны адмахнуліся ад мяне, маўляў, рабі, што хоча, а мы застаёмся. Я ўявіла, што зараз мне давядзецца поначы кіламетры тры ісці адной і спалохалася, але раптам убачыла Ігната з паралельнага класа. Раней мы вучыліся разам, але цяпер ён апынуўся ў хлапечым класе. Некалі, яшчэ калі былі шасцікласнікамі, мы з ім пабіліся. Ігнат схапіў маю кніжку пра Хатабыча і пабег. Я пагналася за ім. Ён ускочыў на парту, а стуль — на падаконне. Я штурхнула яго — хлопец страціў раўнавагу, разбіў шыбіну двайнога акна і ледзь не вылецеў з трэцяга паверха. Патрэбна была нам тая кніжка і той Хатабыч! Неяк абышлося, ні мне, ні яму не дасталося за гэты ўчынак, што нас і памірыла.

Я падышла да яго і ніякавата прызналася, што баюся ісці дамоў. Ён адразу згадзіўся мяне правесці. Мы ішлі, згадвалі тую дзіцячую бойку і смяяліся. Як толькі дайшлі да першай жа гарадской вуліцы, я сказала Ігнату, што тут ужо мне блізка, я нічога не баюся. Ён не настойваў, бо, згадзіцеся, чатыры разы за дзень хадзіць на адну і тую ж адлегласць, не вельмі цікава. Ён сёння раніцай ішоў гэтаю дарогаю ў школу, потым вяртаўся дамоў, а цяпер яму дзеля мяне давялося пераадолець той жа шлях.

Яшчэ разы тры я схадзіла на тыя танцы, мяне праводзіў Ігнат, таму дамоў я вярталася своечасова. Але я перастала хадзіць на вясковыя вячоркі, таму што ў канцы лістапада вярнуўся Віталь, і мы зноў пачалі сустракацца па вечарах. Хоць ён і падабаўся мне, але я не лічыла, што гэта каханне. Мы сябравалі, і нам было добра разам. Ён быў на пяць гадоў старэйшы за мяне, дарослы хлопец, якому з-за хваробы маці на два гады далі адтэрміноўку ад войска. Хадзіць са мною па-піянерску за ручку ён не збіраўся. Аднойчы, калі мы сядзелі ў аль-

танцы, ён пацалаваў мяне. Я спалохалася, засаромелася першага пацалунка і ўцякла дамоў, баючыся зірнуць Віталю ў вочы. Праўда, на другі дзень ён трохі кпіў з мяне, што я палахлівая і сарамлівая, але казаў гэта з любасцю, каб не пакрыўдзіць, а надаць большай разняволенасці. З цягам часу я прывыкла да хлапечай пяшчоты, яна мне пачала падабацца.

## 7

У пачатку снежня выпаў даволі глыбокі снег, а ў мяне не было ботаў. Чаравікі мае зусім падраліся, таму хадзіла я ў асенніх туфлях, купленых за грошы, заробленыя мною летам на практыцы. Тады была вялікая праблема з зімовым абуткам. Калі яго прывозілі, каля крамы выстройваліся вялізныя чэргі. Каб не мерзнуць, абувала цёплыя шкарпэткі. У той вечар, калі збіралася на спатканне да Віталя, раптам высветлілася, што прапалі мае штаны. Здагадалася: узяў брат. Напярэдадні ён разадраў у сваіх будзённых нагавіцах калашыну, а зараз недзе гойсае ў маіх! Часу да спаткання заставалася мала. Я кінулася на вуліцу. Убачыла на замерзлай лужыне хлопчыкаў, якія коўзаліся на каньках. Пабегла туды і здалёку пазнала свайго брата, які ездзіў на адным каньку, папіхаючыся нагою. Я схапіла яго за каршэнь і павалакла дамоў. Ён упіраўся, але ведаў, што вінаваты, таму мусіў ісці. Паспрабаваў са мною біцца, ды хоць ростам былі мы амаль аднолькавыя, я, старэйшая на шэсць гадоў, усё ж была дужэйшая. Кінула яго на ложак, падмяла пад сябе, патрымала, пакуль супакоіцца, і сказала:

— Я магу цябе адлупцаваць, але не раблю гэтага. Так што па-добраму аддавай мае штаны. І больш ніколі не дакранайся да маіх рэчаў, бо абязвечу, — апошняй фразай засталася асабліва задаволеная, бо яна атрымалася ў рыфму «рэчаў-абязвечу».

Брат, чырвоны ад злосці, паслухмяна вярнуў мне маю апратку, усцягнуў свае падраныя нагавіцы і з каньком у руках зноў падаўся на коўзанку. Увогуле мы з ім сварымся рэдка. Люблю яго і добра ведаю ягоны характар, бо няньчыла малога з пялюшак. Ды і ён сумуе без мяне, калі доўга не бачымся. Летам, як вярнуўся з піянерскага лагера, дык цэлы дзень ад мяне не адыходзіў, нават пацягнуўся са мной маляваць разбураную царкву, хоць не яго гэты занятак, занадта ён непаседлівы.

Я хуценька сабралася і заспяшалася на вуліцу, дзе на скрыжаванні ўжо чакаў мяне Віталь. Мабыць, ён прыйшоў трохі раней, таму прытупваў, каб сагрэцца. Мы прайшліся па вуліцы. Я заграбала снег туфлямі і думала, што хутка мае шкарпэткі намокнуць і таксама пачну мерзнуць.

— Давай схаваемся ад марозу,— прапанаваў Віталь.

— Куды? — пацікавілася я.

— Хлопцы далі мне ключ ад бытоўкі. Там цёпла. Пойдзем?

— Пайшлі.

Вагончык-бытоўка стаяў каля будынка, які быў узведзены да другога паверха. Каля яго з-пад снегу відаць былі жалязякі і вялікая гара цэглы. Будаўнічая пляцоўка асвятлялася, нават можна было разгледзець, што вагончык пафарбаваны ў зялёны колер. Віталь адамкнуў дзверы. Мы ўвайшлі ў сярэдзіну. Сапраўды, тут было цёпла. Пасярод памяшкання стаяў стол з лаўкамі, на сцяне вісела рабочае адзенне.

—Тут мы і зазімуем, — усміхнуўся Віталь.

— Мусіць, нас адсюль выжывуць, — сказала я. — Вартаўнік падумае, што мы злодзеі.

— Ніхто нас тут не знойдзе! Забудзь пра ўсё і ўсіх.

Ён абняў мяне, пачаў цалаваць. Твар мой разгарэўся. Стала горача. Я скінула паліто. І зноў апынулася ў абдымках. Вусны ўжо нічога не адчувалі, яны сталі быццам драўляныя, цела гарэла, нават было сорамна, што так распалілася.

— Ты мне верыш? — спытаў Віталь.

Я зразумела, што ён пытаецца, ці давяраю яму, ці ўпэўнена, што ён не мае зламысных намераў, што са мною нічога дрэннага не здарыцца і адказала:

— Я сама Вера.

І раптам адчула, што ягоная рука расшпыляе маланку маіх штаноў. Я адштурхнула яго, хуценька апранула паліто, накіравалася да выхаду. У галаве мітусіліся думкі: «Што ён падумаў? Я не так зразумела пытанне! Як ён мог! Які сорам!»

— Што здарылася? Чаго ты спалохалася? Пачакай! Куды ты? — спрабаваў утрымаць мяне Віталь.

Я моўчкі выслізнула за дзверы і пабегла прэч. Пакуль Віталь замыкаў вагончык, я ўжо была далёка. Ён дагнаў мяне на паўдарозе, пачаў угаворваць і прасіць прабачэння:

— Не хацеў цябе пакрыўдзіць. Прабач. Што здарылася?

Я маўчала, а ў душы закіпала злосць на сябе. Навошта падманвала, прыкідвалася, што кахаю? Не, не кахаю яго, а сябраваць не атрымалася, не здолела трымацца на дыстанцыі з-за цікаўнасці. Як усё паскудна атрымалася!

— Не злуй, я проста хацеў праверыць…

Гэтыя ягоныя словы быццам хвастанулі мяне, і я пабегла ад яго, а ў галаве мітусіліся пытанні, якія выклікалі злосць і абурэнне: «Праверыць? Што праверыць? Ці самазабыўна кахаю яго? Ці змагу ахвяраваць сваім лёсам дзеля ягонай прыхамаці? Сам жа гадаваўся без бацькі!»

Калі пабачыла, што ён даганяе, павярнула да яго злосны твар і сказала:

— Забудзь мяне! Я для цябе больш не існую! — і пабегла далей.

Доўга адсопвалася на ганку, калі дыханне нарэшце выраўнялася, пайшла дамоў. Не ўключаючы святла, замкнула дзверы, распранулася, і легла спаць. Сон не прыходзіў. У галаве круціліся радкі:

Паміж сяброўствам і каханнем
Прадонне самоты,
Я гэта зразумею потым…

Пашукала пад падушкаю сшытак з алоўкам, каб запісаць новы верш, і не знайшла — зноў нашкодзіў брат, некуды закінуў. Я ляжала і думала, што ніколі нельга хлусіць сабе, прыкідвацца, таму што міжвольна хлусіш іншым людзям. Мо Віталь сапраўды пакахаў мяне, хоча ажаніцца, завезці да сваёй хворай мамы, каб я даглядала яе. Але ж мне яшчэ няма і шаснаццаці гадоў. Нават пашпарта не маю. Якая жаніцьба? Навошта мне гэта? Ды і не казаў ён ні пра якую жаніцьбу. Проста хацеў, каб я стала ягонаю каханкаю напавер. Не хачу ні пра што думаць. Так, я схлусіла сабе і яму. Пераблытала сяброўства з каханнем, дык што, цяпер я павінна паламаць свой лёс? Пакінуць школу, забыцца на мару стаць мастаком? Ды як я бацькам скажу пра гэта! Сорам! Калі б на месцы Віталя быў Вадзік, усё было б інакш. Мы сябравалі б па-сапраўднаму, скончылі б школу, паехалі б вучыцца. І потым усё жыццё былі б разам. Я пачала згадваць Вадзіка і непрыкметна заснула. Раніцай маці, як заўсёды, пабудзіла мяне з братам:

— Дзеткі ўставайце, хлеб даядайце. Вы спіце, а хлеб цвіце.

Гэтак у маленстве будзілі яе, яна паўтарае некалі пачутае. Не, мусіць, я такую бязглуздзіцу сваім дзецям казаць не буду. Праўда, яшчэ гадоў колькі таму аднойчы летам здарылася, што і ў нашым гарадку быў хлеб нарасхват, прывозілі і прадавалі проста з машыны. А цяпер хлеба даволі.

Мы з братам моўчкі п'ём гарбату. Бачу: ён задаволены, што нашкодзіў мне, схаваўшы сшытак і аловак. Няхай пакуль парадуецца! Калі зноў папросіць памагчы рашыць задачу, я нагадаю яму пра ягонае паскудства. Апранаемся і выходзім з ім на вуліцу. Яшчэ цёмна, але свецяць ліхтары і ззяе ў іхнім святле снег. Нас сустракае аднавокі прыблудны сабачка Бобік, які прыбіўся да нашага барака з вясны, і жыве на вуліцы каля агульнай прыбіральні. Туды яму носяць ежу дзеці і дарослыя. Калі бывае асабліва холадна, дык ён начуе на ганку. Бобік праводзіць нас ледзь не да школы, а потым вяртаецца назад. Мы задаволеныя: ён нас любіць. Распранаемся ў гардэробе, на развітанне я папярэджваю брата, каб не крыўдзіў дзяўчынак, ён толькі крыва пасміхаецца ў адказ. Кажу яму гэтыя словы нездарма, бо надоечы ён папрасіў мяне:

— Намалюй, што я б'ю дзеўку, а дырэктар на мяне сварыцца.

Тады адмахнулася ад гэтае бязглуздай просьбы, а зараз згадала і вырашыла паўплываць на ягоныя паводзіны, але, мусіць, я для яго малы аўтарытэт. Паднялася на трэці паверх. Абчыніла дзверы ў клас і ўбачыла Мілу і Ніку, якія сядзелі за першай партай і шапталіся, мусіць, дзяліліся ўражаннямі пра ўчарашнія танцы. А ў мяне на душы кепска. Першы ўрок алгебра, Сцяпан Сцяпанавіч нешта тлумачыць ля дошкі. Ён добры і ўважлівы, да ўсіх вучняў ставіцца роўна, і выкладае даходліва і зразумела, але я яго не слухаю, а пішу вершы ў дзённік пра тое, што перажыла ўчора. Мяне распірае ад злосці на Віталя. Мой давер ён зразумеў, як дазвол на тое, каб расшпіліць маланку на маіх штанах. Цікавая логіка! Я амаль ненавіджу яго і ніколі больш не хачу бачыць. Вадзік такога паскудства сабе не дазволіў бы. Ён ні разу нават не адважваўся падысці да мяне пасля заняткаў, проста ішоў следам і праводзіў позіркам. Дзе ён цяпер? Чым займаецца? Як вучыцца? Каб ведаць… А найбольш злавала на сябе. Было сорамна і брыдка, разумела: пра тое, што адбылося ў нас з Віталем, ніколі не змагу расказаць сяброўкам, яшчэ саромелася праяў даросласці. Гэтага не павінна было здарыцца, бо я толькі сябравала з ім, але не кахала.

Міла з зацікаўнасцю паглядвала на мяне, але не замінала. Мне добра і ўтульна на апошняй парце каля акна. Празвінеў званок на перапынак — я дапісала апошні сказ у дзённіку і быццам скінула цяжар з душы. На трэцім уроку фізікі, калі ў класе гаспадарыла наша Вікторыя, нехта пастукаў у дзверы. Настаўніца зірнула ў калідор і сказала, каб я выйшла. Мяне ажно ў жар кінула: «Няўжо Віталь прыйшоў?»

За дзвярамі стаяла мама з вялікаватаю картоннаю каробкаю, купіла мне новыя боты, светла-карычневыя, з белым кантам па краю падэшвы! Цуд, а не боты! За трыццаць тры рублі! Гэта ж трэць татавай зарплаты! Прынесла памераць на выпадак, калі не падыдуць, дык яшчэ паспее памяняць. Я абулася! Боты аказаліся якраз па памеры. Нават не стала іх здымаць. Маці паклала ў каробку мае туфлі. Я вярнулася ў клас. Не ведаю, ці хто заўважыў маю абноўку. З-за парты не ўстала да канца заняткаў, каб меней мяне разглядвалі. Праўда, Міла спытала ў мяне, чаго клікалі. Я паказала ёй свае новыя боты. Яна ажно ахнула і натапырыла вялікі палец. Яе чаравікі былі падобныя на прасы і вельмі нягегла глядзеліся на тоненькіх ножках. Мабыць, яна мне зайздросціла. Калі вярталіся са школы, яна ўсё паглядвала на мой абутак.

## 8

Увечары да мяне прыйшла Міла і пашаптала мне на вуха, каб не чулі сямейнікі, што мяне кліча Віталь. Якраз тады я чысціла новыя боты, якія трэба было шанаваць, каб надоўга хапіла.

— Скажы яму, што я не выйду. Няхай забудзе мяне назаўсёды, — абыякава адказала я.

— Што здарылася? — здзіўлена спытала сяброўка.

— Нічога! Мне трэба вучыцца, а не займацца глупствам.

— Адно другому не замінае, — пасміхнулася Міла. — Я ўдала спалучаю тое і другое. Праўда, недасыпаю. Учора вярнулася з танцаў а другой ночы. Дык што, не выйдзеш да яго?

— Не выйду ні сёння і ніколі…

— Дык пайшлі з намі на танцы.

— Не трэба мне прыгод — цягацца па начах.

— Ты разважаеш, як старая бабуля…

— Што думаю, тое і кажу. Бывай. Запрасі Віталя на танцы, няхай не сумуе.

Міла пайшла, а мне падумалася, што сапраўды за гэтыя суткі я калі не пастарэла, дык пасталела душою. Мне хацелася хутчэй скончыць школу і паступіць вучыцца на мастака. А іншы раз думала, можа, мне лепш стаць паэтам. А мо адначасова быць пісьменніцай і мастачкай. Чаму б і не? Нямала было выдатных людзей, якія сумяшчалі гэтыя заняткі. Напрыклад, Тарас Шаўчэнка і Міхаіл Лермантаў, Язэп Драздовіч і Карусь Каганец добра малявалі і пісалі выдатныя творы. Ёсць жа недзе ў Маскве Літаратурны інстытут… Спыняла мяне толькі тое, што так далёка, у Маскве, я, мабыць, не змагу пражыць на адну стыпендыю. У маіх бацькоў вечна не хапала грошай. Мама ў такіх выпадках сябе падбадзёрвала: «Хвост пісталетам!» Ды ішла да суседзяў пазычаць тры ці пяць рублёў. Больш не прасіла, бо ніхто з іх не меў шмат грошай.

Назаўтра ў школе я не спытала ў Мілы пра Віталя, яна сама не вытрымала і сказала, што ён вельмі засмуціўся і на танцы з ёю не пайшоў.

— Мне няма ніякае справы да яго, — абыякава адказала я.

— Што здарылася? Ты можаш растлумачыць?

— Нічога не здарылася. У нас выпускныя экзамены на носе! Толькі і ўсяго. Хопіць гуляць у дзіцячую гульню — сяброўства з хлопчыкамі. Яму дваццаць гадоў. Ён дарослы мужчына! Яму жаніцца трэба! Не чапляйся, бо пасварымся, — абарвала яе.

Віталь потым яшчэ адзін раз прысылаў па мяне Машу, я выйшла да яго і сказала, што нічога не хачу вяртаць. Яму не варта турбавацца і шукаць мяне. Аднойчы бачыла з акна школы, як ён спяшаўся на працу, трымаў у руцэ цыгарэту, убачыў мяне і засунуў у рот гарачым канцом, мусіць, апёкся, што мяне вельмі насмяшыла. Вясною яго забралі ў войска, і мы больш не бачыліся.

Сярод урока гісторыі Мілу паклікала завуч, пасля і Ніку павялі ў канцылярыю. Я зразумела: нешта здарылася. У клас яны вярнуліся гадзіны праз паўтары ў суправаджэнні нашай Вікторыі. Абедзве мае сяброўкі былі заплаканыя. Класная падазрона зірнула на мяне, чаму я, іхняя таварышка, аказалася не з імі і сказала:

— Разам скачуць, а пасобку плачуць.

Мусіць, мала хто з нашых аднакласнікаў зразумеў гэтую фразу. Вікторыя прынялася выкладаць астраномію, а я спачувальна паглядвала на Мілу, якая сядзела, апусціўшы галаву.

— Хто давёў да слёз? — спытала я.

— Мама паскардзілася завучу.

— І што цяпер будзе?

— Знізяць ацэнкі па паводзінах.

— Такой бяды, — адказала я. — На танцы пойдзеш?

— Не, — адмоўна пахітала галавою Міла. — Цяпер мяне пазней васьмі вечара не выпусцяць.

— А бацька Нікі не прыходзіў?

— Яго з працы выклікалі. На нас крычалі ўсе. Было такое, што хоць скрозь зямлю праваліся.

— Таварышы на апошняй парце, прашу увагі, — строга сказала Вікторыя, і мы аціхлі.

Пасля гэтага здарэння Ніка і Міла замкнуліся, быццам смаўжы ў ракавінках, старанна рыхтаваліся да заняткаў і атрымлівалі толькі выдатныя адзнакі. Мне, фантазёрцы, якая ніколі не магла засяродзіцца і выслухаць тлумачэнні настаўніка, было цяжка ўгнацца за імі. Аднойчы пасля фізкультуры, на якую я пайшла, а мае сяброўкі засталіся ў класе, здарылася непрыемнае. Ніка сказала, што Міла брала з партфеля мой дзённік з вершамі і чытала, хацела дазнацца, што ў мяне здарылася з Віталем.

— А ты таксама чытала? — спытала я.

Яна пачала аднеквацца, падалося, што нават вельмі шчыра. Абурэнне і злосць ахапілі маю душу. Я не ведала, што павінна зрабіць, але пасля вяртання са школы, найперш узяла сшытак з вершамі, пайшла на вуліцу і за прыбіральняй падпаліла яго пад наглядам Бобіка. Папера ярка ўспыхнула, курчылася ў агні, чарнела і ператваралася ў попел. Гэтак жа курчылася і балела мая душа ад несправядлівасці і агіды, ад злосці і бездапаможнасці. На другі дзень я ні словам ні адазвалася да Мілы. Яна ў мяне не спытала, чаму я байкатую, мабыць, адчувала віну. З таго дня мы, хоць і сядзелі за адною партаю, бо не было куды перасесці, не размаўлялі да канца вучобы. У маі мне споўнілася шаснаццаць гадоў, я атрымала пашпарт і адчула сябе зусім самастойнаю.

У чэрвені пачаліся выпускныя экзамены. Сачыненне я напісала на пяцёрку, а па пісьмовай матэматыцы атрымала тройку. Задача па геаметрыі мне здалася занадта лёгкай. Не можа быць, каб далі такую простую задачу, што ў аснове паралелепіпеда ляжыць чатырохкутнік. Мусіць, гэта паралелаграм. Умею я ўскладніць сабе жыццё! Пакутавала я з тым прыдуманым паралелаграмам, так і недарашала да канца задачу. Прыйшла да Нікі ўсхваляваная, паскардзілася на сваю дурноту, а яна прапанавала:

— Плюнь і разатры! Давай запішамся ў вячэрнюю школу і атрымаем выдатныя атэстаты.

— У цябе ж чацвёрка па матэматыцы! Чаго ты не хочаш далей здаваць экзамены?

— Мяне гістарычка заваліць.

— Чаго гэта раптам?

— Я закруціла раман з мужам яе сястры…

— Калі і паспела? — здзівілася я.

— На дурную справу шмат часу не трэба.

— Можа, гістарычка нічога не ведае?

— Ведае, сястра паскардзілася. Ён казаў…

— Нашто табе жанаты мужык?

— Ён сказаў, калі хочаш закруціць, дык найлепш з жанатым…

Я не стала ўдакладняць у Нікі, што азначае «закруціць». Яна дарослая, ёй праз паўгода — васямнаццаць. Магчыма, гэткае «круценне» было ў яе з Барысавым, з Яшкам, а можа, і з Рамонкам, якога, здаецца, яна да гэтага часу не можа забыць. Ён у яе ўяўленні застаецца эталонам сапраўднага мужчыны. Здатныя мы ствараць сабе куміраў з нічога…

Дома я спытала ў мамы, ці варта з-за тройкі далей здаваць экзамены. Яна абурылася і загадала, каб я выкінула дурноту з галавы, заканчвала школу і не выстаўляла яе на смех перад суседзямі. Астатнія экзамены я здала паспяхова, на выпускны вечар мне пашылі сапраўдную белую сукенку і купілі новыя туфлікі. На вечары мы патанцавалі да адзінаццаці гадзін і разышліся па хатах. Было гэта даўно, у выпускнікоў яшчэ не існавала завядзёнкі гуляць усю ноч да світання.

Я збіралася паступаць у мастацкае вучылішча. Ніка падала дакументы ў вячэрнюю школу. Цяпер у яе завёўся новы залётнік, Лёшка-марак, яна не спускала яго з языка, увесь час расказвала пра тое, які ён дасціпны і вясёлы, разумны і дужы. Штовечар хадзіла да яго ў інтэрнат, вярталася дамоў позна, потым удзень адсыпалася. Бацька разумеў, што дачка вырасла, і цяпер не абмяжоўваў яе свабоду. Пра Мілу я нічога не ведала.

* * *

З сяброўкамі спаткалася я ў нашым гарадку толькі праз сем гадоў, усе мы на той час паспелі набыць прафесіі, выйсці замуж і нарадзіць па дзіцяці. Пахадзілі па вуліцах, весела пагаманілі.

Ніка скончыла гандлёвае вучылішча, працавала таваразнаўцам у краме. Яна яшчэ падлеткам разбіралася ў якасці тавараў не горш, чым яе бацька. Замуж выйшла за Яшку, які стаў афіцэрам. Расказвала пра яго з пагардай, мусіць, так і не здолела пакахаць, а другога такога чалавека, як Рамонак, не сустрэла.

Міла недавучылася ў політэхнічным, на трэцім курсе пакінула вучобу і паехала з каханым на Украіну, цяпер працавала інжынерам. Пры сустрэчы яна шчыра радавалася, што я на яе больш не крыўдую.

Адрасамі не абменьваліся, дамовіліся сустрэцца на наступны год летам, але так больш і не пабачыліся. З таго часу мінула шмат гадоў, лёс раскідаў нас па прасторах былога СССР. Ведаю толькі, што Ніка жыве з нялюбым Яшкам у нейкім гарадку каля Масквы. Міла развялася з каханым мужам і засталася на Украіне.

Я мастаком не стала, хоць і да гэтага часу захапляюся маляваннем, але, на жаль, цяпер не хапае часу для любімага занятку. У мастацкае вучылішча не прайшла па конкурсе. У прыёмнай камісіі мне патлумачылі, што здольнасці ў мяне ёсць, але тэхніка слабая. Трэба пазаймацца з рэпетытарам. А дзе было ўзяць яго ў нашым гарадку? Год я адпрацавала маляром у брыгадзе Коласавай. Паглядзела фільм «Журналіст», які і вызначыў маю будучую прафесію. Паступіла на журфак універсітэта. Пасля заканчэння вучобы працавала рэдактарам на тэлебачанні, выйшла замуж за калегу, напісала некалькі вершаваных і празаічных кніжак. Мо і не ўзялася б апавядаць пра гэтую даўнюю пару майго юнацтва, каб двойчы за зіму не прыснілася мне Ніка і не прымусіла ўспомніць усё пражытае і перажытае. І не так важна, колькі нам цяпер гадоў, недзе глыбока ў нашых душах жывуць тыя дзяўчынкі-падлеткі, якімі некалі мы былі.



Віктар САБАЛЕЎСКІ

# ДАЗВОЛЬ З ТАБОЙ ДА ЗОРАК УЗЛЯЦЕЦЬ

## ВАЛЬС ШАПЭНА

Зімні вечар. Ціш. Субота.
Вальс Шапэна за сцяной.
Успамінаў льюцца ноты,
Парушаюць мой спакой.

Гэты вальс гучаў калісьці
Вечар цэлы для дваіх.
Адшукаць не мог я выйсця,
У вачах тануў тваіх.

Ноч цудоўная кахання
Паяднала зноўку нас…
Потым быў час развітання,
Разам з намі плакаў вальс.

Пад мелодыю Шапэна
Закружылася зямля.
Ты стаяла каралевай,
Жабраком паехаў я.

Яшчэ доўга ў наваколлі
Гукі вальса я лавіў…
Успаміны ціхім болем
Абуджае той матыў.

---

***Сабалеўскі Віктар Вацлававіч*** *нарадзіўся 7 красавіка 1961 года ў вёсцы Марозавічы Стаўбцоўскага раёна. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1983). Працаваў у рэдакцыі стаўбцоўскай раённай газеты «Прамень», з 1988 года — у газеце «Чырвоная зорка» (г. Узда).*

*Аўтар кніг паэзіі «Чабаровая паляна» (1994), «Абранніца» (1997), «Пра бабу Маню, дзеда Васіля і іншых» (2003), «Табою я жыву» (2014), суаўтар і ўкладальнік шэрагу калектыўных зборнікаў, друкаваўся ў абласной і рэспубліканскіх газетах, часопісах.*

*Кіраўнік раённага літаратурнага аб'яднання «Нёманец». Член Беларускага саюза журналістаў, Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

Ды ганю я прэч самоту,
Бо ў марах ты са мной.
Зімні вечар. Ціш. Субота.
Вальс Шапэна за сцяной.

### ДАЗВОЛЬ

Дазволь з табой паслухаць
цішыню
І гэтай цішынёю наталіцца,
І ў захапленні шчырым тым забыцца.
Дазволь з табой паслухаць
цішыню.

Дазволь з табою зведаць
прыгажосць —
Пачуццяў светлых і на дзіва простых,
Забыцца на трывогі, боль і роспач.
Дазволь з табою зведаць
прыгажосць.

Дазволь з табой усмешку
адшукаць
У закуточках тваіх мілых вуснаў
І не пазбегнуць дум маіх
распусных
Дазволь з табой усмешку
адшукаць.

Дазволь з табой смяяцца,
сумаваць,
Азёрнай гладдзю ціха любавацца,
Ніколі ў жыцці
не расставацца.
Дазволь з табой смяяцца,
сумаваць.

Дазволь з табой да зорак
узляцець,
І ў вышыні табою
захапляцца.

На грэшную зямлю каб
не вяртацца,
Дазволь з табой да зорак
узляцець.

Дазволь…

# ГАРАДЫ НА ЗЯМЛІ І МЕСЯЦЫ

*Калі бываю дома, у маці, я часам дастаю з кніжнай шафы агульны сшытак — пульхны ад наклееных у яго выразак з вершамі беларускіх паэтаў, які завёў яшчэ старшакласнікам у самым пачатку 80-х. Выразкі з «ЛіМа», «Чырвонай змены», «Работніцы і сялянкі»... Выразкі з новымі вершамі не толькі тады ўжо «жывых класікаў», але і сваіх равеснікаў, з кім разам пачыналі няпросты шлях на старонкі рэспубліканскіх выданняў. Мы сапраўды цікавіліся творчасцю адзін аднаго, адразу запаміналі кожнае новае імя ў літаратуры, а добрае слова ў наш адрас (нават ужытае проста ў агульным пераліку) з боку знакамітых калег у тым жа «ЛіМе» дапамагала адчуць за спінаю крылы. Памятаю, як, здаецца, у 1983 годзе, на Рэспубліканскім семінары маладых пісьменнікаў у Каралішчавічах Рыгор Барадулін пахваліў вершы Валянціны Аколавай і дадаў, што з іх можа скласціся кніга. Памятаю, як, пачуўшы гэта, Валя заплакала.*

*За трыццаць гадоў, якія мінулі з таго часу, у літаратуры адбылася змена эпох, што адбілася не толькі на ёй самой, але і на адносінах пісьменнік—рэдактар—чытач. Сёння не тое што надрукавацца ў перыёдыцы — выдаць кнігу стала куды прасцей. Вырасла колькасць часопісаў і выдавецтваў, а да ўсяго з’явіўся інтэрнэт: толькі паспявай пісаць ды выкладваць. Таму калі напачатку 80-х у маладых хадзіла ад сілы чалавек дваццаць, то сёння іх набярэцца добрая сотня — разбітых на групы і групоўкі «па інтарэсах», незалежных ад старэйшых калег у плане свайго далейшага творчага лёсу. Адбылася і пэўная разарванасць паміж пакаленнямі — але ўжо не толькі, а можа, і не столькі ад гэтай самай «незалежнасці», колькі ад таго, што ў многіх маладых цяпер іншыя літаратурныя арыенціры, якія не зусім супадаюць з тым, на чым многія дзесяцігоддзі грунтавалася ў аснове сваёй беларуская літаратура.*

*Якія ўжо там слёзы!..*

*Яны, сённяшнія маладыя, сапраўды, крыху іншыя. Гэта адчуваецца па іх стылі, па імкненні спрабаваць сябе ў розных літаратурных жанрах і навамодных накірунках. Нарэшце, па мове, якая, на жаль, пакрысе аддаляецца ад народна-гутарковай, пазбаўляецца таго незвычайнага каларыту і смаку, характэрнага да мовы беларускай вёскі. Што ж, сённяшнія маладыя і самі ўсё часцей у літаратуру прыходзяць не з вёскі, а з горада, і атрымліваюць не філалагічную, а тэхнічную адукацыю.*

*Апавяданні, якія прапануюцца чытачам «Полымя», мы не адбіралі спецыяльна па іх прыналежнасці да пэўнага жанру: так атрымалася выпадкова. З іншага боку, у такой выпадковасці ёсць і пэўная заканамернасць, паколькі новае пакаленне беларускіх празаікаў у сваіх творах любіць выходзіць за межы рэальнага, спалучаць зямное і касмічае, з лёгкасцю будуючы гарады не толькі на Зямлі, але і на Месяцы. Нам падалося, што звярнуць увагу на гэты пласт сучаснай беларускай прозы таксама не лішне, а ўжо даваць яму ацэнку — справа чытачоў і крытыкаў. І мы будзем рады кожнаму водгуку, з якіх, магчыма, на старонках часопіса пачнецца шырокая і зацікаўленая размова пра маладую беларускую літаратуру.*

*У кожнага з аўтараў свой жыццёвы і творчы вопыт. Але ў кантэксце сённяшняй публікацыі ўсе яны — нашы палымянскія дэбютанты.*

***Алесь БАДАК***

Таццяна БУДОВІЧ-БАРАДУЛЯ

# НЯШЧАСНЫ ВЫПАДАК

*Фантастычнае апавяданне*

Ідучы з працы на тралейбусны прыпынак, я зазвычай выбіраў даўжэйшы шлях: па мосце над ракой, потым па набярэжнай і цераз парк, каб прывесці да ладу думкі і пераключыцца на тое, што мусіў рабіць, вярнуўшыся дадому. Так і сёння. Але замест нейкай душэўнай палёгкі я адчуваў такую маральную стому, быццам некалькі гадоў запар працаваў без выхадных і водпускаў, хаця насамрэч апошні скончыўся пару тыдняў таму — дастаткова, каб зноў уцягнуцца ў штодзённы працэс вытворчасці, але замала, каб зноў хацелася ў адпачынак.

У галаве дакучліва круцілася апошняя размова з маім калегам, яго беспадстаўныя прыдзіркі да мяне. З пэўнага моманту той стаў канфліктаваць амаль з усімі ў нашым невялікім калектыве: ці то хвароба нейкая хранічная ў яго абвастрылася, ці то асабістае жыццё пачало расклейвацца — ніхто дакладна не ведаў. Мяне ж нахабныя выпады на мой адрас уганяюць у стан ступару, і я не магу адказаць належным чынам, што потым выліваецца ў бяссонныя ночы самаедства: крыўдныя словы суразмоўцы і ўсе мажлівыя варыянты адказаў на іх гадзінамі пракручваюцца ў маёй галаве, не даючы спакою і адхлання.

У такім прыгнечаным настроі я падышоў да прыпынку, дзе, як заўжды ў гэты час, было шматлюдна. Неўзабаве паказаўся патрэбны мне тралейбус. Ён спыніўся, і дзверы расчыніліся. Наўздзіў, з іх ніхто не выйшаў ды ніхто, акрамя мяне, і не ўвайшоў, што было вельмі нетыпова для прыпынку ў цэнтры горада, ля метро ў гадзіну пік. Гэтыя падрабязнасці я прыгадаў пазней, але на той момант, калі апынуўся ў напаўпустым салоне, я быў занадта паглыблены ў свае перажыванні, каб адчуць: штосьці тут не так.

Дзверы зачыніліся, і тралейбус крануўся. Я рушыў да свайго ўлюбёнага месца, якое гэтым разам было вольным: самага высокага, акурат над левым заднім колам ля акна. Я з дзяцінства люблю менавіта гэтае месца: можна доўга глядзець на бясконцую плынь сустрэчных і спадарожных аўто за акном, можна адлятаць у думках далёка-далёка, зачараваўшыся адлюстраваннямі агнёў на мокрай восеньскай дарозе.

Сядзенне побач не пуставала, і яго займаў нейкі дзяцюк. Яму, пэўна, было незразумелым, чаму я хачу прашчаміцца паўз яго на тое вольнае месца, калі ў салоне хапала і іншых, дзе нікога не давялося б турбаваць. Памкнуўшыся, я звярнуўся да яго са словамі: «Дазвольце, калі ласка». Той глянуў, адначасова крыху адсунуўшыся і прапускаючы мяне, і я ледзь не паваліўся ў прорву: на мяне глядзелі мае ўласныя вочы, мой уласны твар. На ватных нагах я прасунуўся, куды хацеў. Пранеслася думка: «Усё ад нерваў». Між тым твар майго суседа не выявіў ні кроплі здзіўлення. І, толькі ўладкаваўшыся, я ледзь не аблаяў сябе апошнімі словамі: забыў набыць праязны, а сёння ж першы дзень месяца. Апошні час усё спяшаўся, адкладаў, раніцай ускочыў у тралейбус ледзь не на хаду. Што ж, трэба ісці да кіроўцы па квіток, бо канфліктаваць яшчэ і з кантралёрамі, калі яны раптам аб’явяцца… гэта мяне б даканала.

Давялося зноў турбаваць майго суседа, які і на гэты раз не выявіў ніякага здзіўлення.

Калі тралейбус спыніўся на святлафоры, я падышоў да кіроўцы. У яго (ці ў яе) былі такія ж светлыя, хвалістыя, доўгія, ніжэй за лапаткі, валасы, як і ў мяне. Не магу расстацца з імі, яны для мяне як атрыбут багемнага ладу жыцця, нефармальных тусовак, нязменным удзельнікам якіх я быў у юнацтве і маладосці. Гэта ўсё, што ў мяне засталося ад тых часоў, і, здаецца, калі абрэжу валасы — не будзе лучнасці з чымсьці жывым, істотным для мяне.

Я пагрукаў у акенца кабіны, трымаючы напагатове грошы. Кіроўца (а гэта аказаўся мужчына) раўнадушна зірнуў на мяне, паківаўшы галавой. І тут у другі раз мне ледзь не стала блага: і ў яго таксама быў мой твар. Прыхінуўшыся спінай да парэнчы, я не мог зразумець, ці гэта другі запар мой двайнік у адным і тым жа месцы і як такое магчыма, ці гэта нервы канчаткова здалі. Дачакацца б бліжэйшага прыпынку, выйсці б і — пешшу да самага дома, да поўнай знямогі!

У салоне былі яшчэ пасажыры. І вось тут, калі мне «цюкнула» зазірнуць у іх твары, я адчуў сябе ў нейкім мроіве, у сне-трызненні: твары былі ва ўсіх аднолькавыя. Усе з маім тварам. Апранутыя па-рознаму, з рознымі прычосками, хто вусаты-барадаты, хто ў акулярах, хто з завушніцамі ў вуху, хто з пірсінгам, мяне яны нібыта не заўважалі, былі занятыя сваімі клопатамі: слухалі музыку ў навушніках, гулялі ў цацкі на мабільніку, глядзелі ў акно ці перад сабой пустымі вачыма. Мяне як не існавала.

Адно з двух. Альбо ўсё — сон, фантазія хворага ўяўлення, альбо нейкае вар'яцтва. А калі тралейбус праехаў прыпынак і не спыніўся (хаця павінен быў), я канчаткова зразумеў: так проста я адсюль не выйду. У зацятым, тупым, безнадзейным адчаі (калі няма чаго губляць) я павярнуўся да кабіны кіроўцы і з усяе моцы стаў малаціць кулакамі ў шкло. Той абыякава павярнуўся да мяне. Не цямлю, колькі працягваўся момант «двубою» вачэй, мне было пранізліва жудасна, да немагчымасці, да нерэальнасці, да нейкага душэўнага і фізічнага анямення без астатку. Апошняе, што я запомніў, — гэта віскат тармазоў, страшэнны ўдар, скрыгат металу аб метал. Я моцна выцяўся аб штосьці, мяне, мусіць, павінна было там размазаць, але болю адчуць не паспеў.

І вось цяпер, дзень пры дні лежачы пад кропельніцамі ў рэанімацыі, я пакутліва, да драбніцы намагаюся аднавіць у памяці той фатальны вечар, хаця б у галаве «намацаць» эфемерную мяжу паміж рэальным і нерэальным.

Доктар і медсёстры, якія з нуднай рэгулярнасцю зазіраюць да мяне, маімі двайнікамі не з'яўляюцца. Яны не распавядаюць мне акалічнасцей той аварыі, толькі пра тое, якое надвор'е на дварэ ды што мне нельга хваляваცца. Наведвальнікаў у мяне амаль не бывае. Пару разоў прыходзілі мае калегі, але іх не пусцілі, толькі перадачу ўзялі. А сёння мне сказалі, што прыходзіў мой брат-блізнюк, вельмі хацеў да мяне трапіць, але яму не дазволілі. Ён перадаў мне канверт. У мяне ніколі не было братоў. Але канверт я разгарнуў: там ляжаў праязны на тралейбус на гэты месяц. Але наўрад ці я адсюль выйду раней, чым скончыцца тэрмін яго дзеяння.

## Валерыя САРОТНІК

# КРЫЛЫ

*(З нізкі «Гісторыі з горада Ў»)*

Аднойчы — такое заўсёды здараецца знянацку — горад Ў захапіла эпідэмія.

Эпідэміі — страшная рэч, скажаце вы. А ўрачы згодна паківаюць — так, так... Калі эпідэмія вялікая, на ўвесь свет і нават на Месяц — гэта ўжо называецца пандэмія, падкажа Анатоль Сцяпанавіч Грыбочак, сур'ёзны дзядзька ў вялікіх акулярах з папкай Сусветнай арганізацыі аховы здароўя пад пахай. Але, дадае ён заўсёды, калі праводзіць экскурсіі для школьнікаў па медыцынскім музеі бальніцы горада Ў, ёсць людзі, якія ведаюць, што рабіць. І яны не дадуць хваробе, якой бы страшнай і складанай яна ні была, дабрацца да вас. Ва ўсялякім разе, не да ўсіх, думае Анатоль Сцяпанавіч, але спыняецца на «да вас», і дзецям здаецца, што яны ў поўнай бяспецы.

Але супраць эпідэміі, што накрыла горад Ў, не было ні лекаў, ні выратавання.

За тры дні да пачатку эпідэміі ў горадзе Ў усё было, як заўсёды — спакойна і сумна.

А малады чалавек, па імені Алег і па прозвішчы Іваноў, паліваў герань на акне настаўніцкай, як заўсёды, у дванаццаць гадзін, акурат перад урокам. Ён выкладаў матэматыку, любіў лічбы і гэтую адзіную, нікому, акрамя яго, непатрэбную герань. Ён паліваў і аўтаматычна лічыў на дрэвах за акном настаўніцкай — роўна восем вароніных гнёздаў, а ў яго партфелі, калі прыпомніць, роўна чатыры ручкі, а на абед ён з'еў адну цэлую восем дзясятых і тры сотых талеркі супу, які ён таксама любіў. Да ўрока заставалася колькі хвілін.

Ён толькі на момант затрымаўся ля акна, загледзеўшыся на варон. Варон, у адрозненне ад супу і лічбаў, Алег не любіў — што гэта за птушка, ніякай эстэтыкі, шэрая і чорная. Не сказаць, аднак, каб Алегу даспадобы былі папугаі — так многа колеру для яго было занадта. Але калі ўзяць вельмі шэры і вельмі сумны дзень снежня, без снегу — такая ўжо была зіма, — дадаць да яго дождж і шэрых з чорным птушак, на душы становіцца так самотна і горка, што хоць ты сам сябе кіслотна-жоўтымі фарбамі аблівай. А была б магчымасць… ці крылы, паляцеў бы куды далей. Хаця б туды, дзе ёсць снег, падумаў Алег. Падумаў роўна адну цэлую дзве дзясятых хвіліны, і пайшоў на ўрок.

Так, зіма ў той год у горадзе Ў выдалася без снегу. Людзі, самотныя і сонныя, павольна брылі па мокрых вуліцах, бы не спяшаліся нікуды. Усе мы ведаем, што такі час «безсезоння» трэба проста перажыць, і сонца прыйдзе зноў — бо ўсялякія там антыцыклоны вечна вісець над галавой не могуць. Але жыхарам горада Ў здавалася, што цемрадзь і слота не скончацца ніколі — адны на працы і дома раз-пораз абнаўлялі старонку з прагнозам надвор'я ў інтэрнэце, другія стараліся не прапускаць навіны па тэлевізары, а мясцовы магістр белай магіі з дыпломам Вальдэмар Казлакоўскі нават праводзіў нейкі «вялікі рытуал па прыцягенні духаў зімы», як ён напісаў у запрашэннях і аб'явах, не забыўшыся дадаць пункт пра цану білетаў на гэтае шоу. Але, ці таму, што людзі не звярнулі ўвагу на яго памкненні, ці таму, што проста нешта

складанае і метэаралагічнае тварылася над горадам Ў, снег не з'яўляўся і не з'яўляўся.

І вось менавіта тады пачалася эпідэмія.

Настаўнік матэматыкі Алег стаў першым, каго яна падкасіла. Ён прачнуўся як заўсёды рана, роўна ў шэсць гадзін, пацягнуўся, пайшоў у ванны пакой, пачаў чысціць зубы… і толькі праз хвіліну, глянуўшы ў люстра, са здзіўленнем убачыў — у яго за спінай былі КРЫЛЫ. Самыя сапраўдныя крылы, як у птушак, ці як малююць у анёлаў — толькі не белыя, а нейкія сінія з залатым. А пакуль ён здзіўляўся крылам, эпідэмія ішла па горадзе. Людзі прачыналіся і бачылі за сваімі спінамі крылы — розных колераў і памераў. Адны доўга цёрлі вочы, спадзеючыся, што гэта сон. Другія нават спрабавалі імі варушыць.

А Таня, прадаўшчыца на рынку, ціха плакала на кухні, і слёзы яе падалі проста ў кубак з гарбатай. Падалі і падалі. Усё склалася, як кажуць, адно да аднаго — яе звольнілі з працы, хлопец кінуў, памерла канарэйка (яна была ўжо вельмі старая і гэта было лагічна, але не меней сумна), і, нарэшце — вось гэтыя крылы. Яны, прынамсі, былі прыгожыя — чырвоныя з «падпалінамі», і, калі б Таня была арнітолагам, яна б сказала, што зараз падобна на птушку-кардынала. Але ёй, не-арнітолагу, было ўсё роўна, на каго яна цяпер падобная. Само тое, што крылы з'явіліся, было і страшна, і незразумела.

Тым часам, свет не стаяў на месцы.

У мэрыі тэлефоны проста разрываліся. Недзе пасля пятага званка мэр горада Ў Міхаіл Міхалыч ужо ведаў, што чакае яго за кожным новым паведамленнем. З экрана тэлевізара тоненькая журналістка з кіслотна-зялёнымі крыламі гучна і надрыўна расказвала пра тое, колькі выпадкаў «эпідэміі» рэгіструецца кожную гадзіну. Мэр Міхаіл Міхалыч працёр лысаватую галаву жудаснай фіялетавай насоўкай, пачухаў задуменна правае чорна-белае крыло, адчыніў сакрэтныя дзверцы і падняў трубку сакрэтнага тэлефона. Ён ведаў, што рабіць, калі пачалася эпідэмія.

І вось горад Ў акружылі ваенныя. Танкі і верталёты не давалі выязджаць і заязджаць у горад нікому, акрамя ўрачоў і вучоных. Прэса міма іх прабралася неяк сама.

— Што мы маем на сённяшні дзень? — паправіў свае вялікія акуляры самы галоўны ўрач горада Анатоль Сцяпанавіч Грыбочак. Яго фіялетавыя крылы не змяшчаліся за крэслам, і яму давялося стаяць. У астатніх вучоных крылы былі трохі меншыя, і яны сядзелі.

— Увесь горад зараз мае крылы, — падаў голас тонкі малады чалавек у белым халаце паверх смешнай кашулі ў кветачку і з гэткімі ж крыламі. — Вытокі феномена пакуль невядомыя.

Анатоль Сцяпанавіч пагайдаўся з наска на абцас, памаўчаў, крытычна аглядаючы калег.

— Феномен пачаў развівацца ўчора, — сказала таўставатая дама з аранжавымі крыламі і старамоднай прычоскай. — Група маіх аспірантаў зараз працуе там, адкуль, мы лічым, эпідэмія пачала распаўсюджвацца.

— Добра, — пацёр рукі Анатоль Сцяпанавіч. — А самі вы што?

Вучоныя здзіўлена на яго паглядзелі.

— Ну, вы самі. Вы спрабавалі нешта з імі рабіць?

— Я пер'е выдзіраў, — няўпэўнена прызнаўся дзядзька-фізіёлаг з вялікай барадой і ружовымі рамантычнымі крыламі за шырокай спінай. — Па структуры — самыя звычайныя. Птушыныя.

— А ці хто-небудзь з вас спрабаваў *лётаць*?— спытаў Анатоль Сцяпанавіч. Вучоныя пераглянуліся, што, хутчэй за ўсё, азначала «не».

Тым часам, у «ачагу эпідэміі» — чытай, у кватэры Алега — працавалі тры худыя аспіранты з аднолькавымі, бледна-сінімі крыламі і сумнымі тварамі. «Ачаг эпідэміі» вылічылі па тым, як распаўсюджвалася крылатасць, памецілі дом, зацягнулі пад'езд жоўтымі пластыкавымі стужкамі і паставілі міліцыянераў ля ўвахода.

Алег сядзеў на канапе і моўчкі трываў, пакуль яму мералі ціск, бралі аналізы, правяралі нешта на незнаёмых прыборах. Скончыўшы, абодва аспіранты, усё гэткія ж сумныя, пайшлі з кватэры. Алег падышоў да акна, выглянуў на вуліцу — людзі з markдзі з рознакаляровымі крыламі за спінай ішлі па сваіх справах так паўсядзённа і спакойна, бо эпідэмія эпідэміяй, а жыць неяк трэба. Стракатая ад розных колераў вуліца цалкам расцвіла, і на душы, нягледзячы на ўсю дзіўнасць таго, што рабілася, было чамусьці радасна.

Але толькі не на душы ў прадаўшчыцы Тані. Яна, праўда, перастала плакаць, паглядзела тэлевізар і… супакоілася зусім. Бо чаго баяцца, калі горш, чым ёсць, ужо не будзе? Таня была песімісткай, і, як лічыла сама, няўдаліцай. Кава ў аўтамаце заўсёды канчалася на ёй, картка застравала ў банкамаце, варта было толькі Тані паспрабаваць забраць зарплату не ў банку. Адзіны аўтобус да працы, нібы здзекуючыся, зачыняў дзверы проста перад яе носам. Таня жыла, чакаючы новых няўдач і праблем. І зусім не памятала, напрыклад, што яе адну не зачапіла, калі недалёка ад яе латка на рынку ў пазамінулым годзе ўзарваўся газавы балон. А яшчэ, што яна не захварэла пасля таго, як у дзяцінстве правалілася пад лёд на возеры. А яшчэ, што маршрутка, на якую яна аднойчы спазнілася, трапіла ў аварыю…

Але цяпер яна не баялася нічога, ні аб чым не думала і нічога не чакала. Па яе асабістых падліках, жыццё дайшло да дна, і пакуль у гэтае дно, як у тым анекдоце, ніхто не спрабаваў пастукаць. Ёй было лёгка і наўдзіў спакойна. У гэтым нязвыклым стане Таня апранулася як магла, прарэзаўшы вялікімі нажніцамі дзіркі для крылаў у кофце і паліто, і выйшла на вуліцу.

Тым часам самы галоўны ўрач Анатоль Сцяпанавіч Грыбочак старанна збіраў дадзеныя ад калег і тых, хто ў касцюмах хімічнай абароны хадзіў па горадзе Ў з учарашняга дня. Праўда, касцюмы яны хутка знялі, бо высветлілася — тое, што выклікала з'яўленне крылаў у мясцовых жыхароў, не перадавалася ні паветрана-кропельным шляхам, ні праз брудныя рукі, ні праз ежу і ваду. І нават праз погляд не перадавалася. Вучоныя, што прыехалі ў горад, з цікаўнасцю хадзілі па ім, бралі пробы паветра, зямлі і вады, саскрэбы з машын, і пер'е, што гублялі на хаду некаторыя прахожыя — так, на ўсялякі выпадак.

Але дагэтуль не было амаль нічога зразумелага. Анатоль Сцяпанавіч сядзеў за сталом адзін, амаль суткі, у думках размаўляючы з паперамі, што прыносілі ў яго кабінет кожную гадзіну. «Ну, што на гэты раз», — мармытаў ён, звяртаючыся да новага лістка, здымка, кардыяграмы. «Ніякіх анамалій», — сцвярджалі сур'ёзныя паперкі з аналізамі. «Ніякіх анамалій»,— працягвалі здымкі, — акрамя птушыных крылаў, цалкам функцыянальных і рэальных». Па ўсім выходзіла, што крылы абсалютна бяспечныя. І нічога дрэннага сваім «носьбітам» не робяць.

Анатоль Сцяпанавіч хадзіў па кабінеце, абхапіўшы рукамі галаву, нібы яна магла раскалоцца ад думак, якія ў ёй калаціліся. Адукацыя, веды і жыццёвы вопыт падказвалі яму — усё, што з'яўляецца, з'яўляецца не проста так.

Анатоль Сцяпанавіч Грыбочак не верыў ні ў што і ні ў каго. Мабыць, акрамя законаў прыроды і эвалюцыі (нават такой хуткай і нечаканай) — а гэта значыла, што ў крылаў павінна быць нейкая функцыя. Слова, якое так і «танцавала» на языку — «лётаць». Але як лётаць, калі ні косці, ні будова цела, ні нават гравітацыя не дадуць гэтага зрабіць?..

Ён не мог уявіць сабе, што такая ж думка прыйшла ў той жа момант у галаву настаўніка матэматыкі Алега. Алег не захапляўся біялогіяй і больш за ўсё верыў лічбам. І падлічыў ужо, што яго гіпотэза на 50 працэнтаў магла быць памылковай, а на 50 магла спраўдзіцца. І зараз, падпарадкоўваючыся чыста навуковай цікаўнасці папалам з нейкім унутраным поклічам, падымаўся на самы верх тэлевежы горада Ў.

Знізу пачуліся крыкі — людзі ўбачылі яго, і, напэўна, ужо выклікалі, як мінімум, міліцыю. Алег усміхнуўся сабе. Паглядзеў у неба. Скінуў паліто. Раскінуў крылы — яны падаліся яму нават большымі, чым калі ён быў дома. Пер’е пералівалася нават без сонца, вецер нібы дражніўся. Алег зрабіў крок і паляцеў. Шмат людзей бачылі яго тады, акрамя Анатоля Сцяпанавіча Грыбочка, які амаль прыліп да акна кабінета. Цяжка сказаць, што Алег адчуваў у той момант — а можа, увогуле, не адчуваў нічога. Але палёт яму хутчэй спадабаўся, чым не. Людзі ўнізе маўчалі. Міліцыя з аднолькавымі сінімі камуфляжнымі крыламі таксама маўчала, а яе начальнік нават апусціў рупар, у які збіраўся ўгаворваць хлопца не канчаць жыццё самагубствам. Алег забыўся на сваю гіпотэзу і проста ляцеў. Ён зрабіў круг над горадам і прызямліўся, не без праблем, праўда — першы ж раз — у парку горада Ў, на кучу гнілога лісця. Ён не паспеў нават скінуць гэта лісце з сябе, а здалёк да яго ўжо беглі журналісты, міліцыя, урачы і проста людзі — многія са смартфонамі, на якія здымалі палёт.

Так сціплы настаўнік матэматыкі Алег за адзін дзень ператварыўся ў амаль сусветную знакамітасць.

Праз суткі яго зноў аглядалі, аналізавалі, скаміравалі. Алег сядзеў на бальнічным ложку, увесь у правадках і датчыках, і стомлена даваў прэс-канферэнцыю адразу трыццаці каналам з усяго свету. Не сказаць, каб яму гэта падабалася — ён не ўмеў прыгожа гаварыць на камеру, а яшчэ вельмі не любіў мітусні, асабліва вакол сябе.

— Дык вы сцвярждаеце, што чалавек можа лётаць? — з моцным акцэнтам пытаўся журналіст з плашкай амерыканскага тэлеканала на мікрафоне.

Алег уздыхаў:

— Я нічога не сцвярджаю. Я проста паспрабаваў і ўсё.

— А што вы плануеце рабіць далей? — падхоплівала журналістка з «французскай» плашкай.

— З чым? — шчыра здзівіўся Алег.

— З вашымі крыламі.

Алег не адказаў. Ён зразумеў раптам, што зусім не ўяўляў сабе, што будзе далей. Так ён і сказаў журналісцы.

— А як вы дагледаеце свае крылы?

— А што вы думаеце пра Сусветны фінансавы крызіс? А пра праблему ўсынаўлення дзяцей аднаполымі парамі?

— А якую марку гадзіннікаў вы выбіраеце?

Прадаўшчыца Таня другі дзень бяздумна хадзіла па горадзе. А што яшчэ рабіць, думала яна, калі не зразумела, што далей? Яна ўвогуле любіла вось гэтак хадзіць па горадзе і разважаць пра розныя рэчы, падбіраючы ў галаве

прыгожыя словы — мабыць, з яе атрымалася б пісьменніца, але, ізноў, Таня лічыла сябе зусім бяздарнай.

«Мабыць, я натраплю на што-небудзь, на нейкі сэнс жыцця — хто ведае? Уся гэтая гісторыя з крыламі. Яна ўжо не столькі страшная, колькі дзіўная, і хочацца радасна бегчы да гэтага «дзіўнага», разглядаць яго, памацаць і зразумець. Яна нясе прадчуванне нечага новага, але і адначасова трывожнага, а яшчэ…»

Таня не паспела прыдумаць, што «яшчэ», бо сутыкнулася нос да носу з хлопцам, якога не заўважыла і ў якога ўрэзалася так, што яны абое паваліліся на зямлю.

— Глядзіце, куды ідзеце! — у адзін голас абурыліся ён і яна, і не без цяжкасцей падняліся на ногі. Хлопец абтрос адзежу, сінія з залатым крылы і, пануры, ужо збіраўся ісці далей, але Таня раптам пазнала яго.

— Пачакайце! — яна злавіла яго за рукаў. — Вы, вы — Алег! Той чалавек з навін, вы ўмееце лётаць?

Алег памкнуўся кінуцца прэч, але прыпыніўся, выдыхнуў:

— Калі ласка, скажыце, што вы не журналіст, не ўрач і не з міліцыі.

Алег толькі-толькі змог уцячы ад журналістаў і даследчыкаў і зусім не гарэў жаданнем пачынаць усё наноў.

— Што вы, што вы! — адмахнулася Таня. — Я зусім не…

Аднекуль здалёк, з другога канца алеі, па якой гуляла Таня, пачуліся крокі і галасы.

— Гэта па мяне, — Алег спалохана паглядзеў у той бок.

Таня насупілася на хвіліну, а потым штурхнула Алега за лаўку ля кустоў, села на яе і на ўсялякі выпадак раскрыла свае крылы.

— Сядзіце ціха, я вас не здам, — прашаптала яна да таго, як да яе падышоў бліжэй немалады чалавек у белым халаце, ён быў на чале натоўпу з журналістаў і вучоных, кінуўся да яе:

— Дзе ён?!

Таня асцярожна наступіла на сіняе пёрка, што засталося на зямлі ля лаўкі, і паглядзела на чалавека пранікнёна і нявінна:

— Хто — ён?

— Алег Іваноў. Вы павінны былі бачыць яго, яго нельга не заўважыць! — чалавек у белым халаце пачаў чырванець ці то ад злосці, ці то ад нерваў.

— Дзе я магла яго бачыць? — працягвала Таня, гледзячы на яго чыстымі, сумленнымі вачыма.

Чалавек зусім раззлаваўся:

— Хопіць! Зараз жа кажыце, дзе ён?!

— Не крычыце на мяне! — раззлавалася і Таня. — Гэта раз. А два — вы хто такі, што вам і ўсім гэтым людзям ад мяне трэба?! Я зараз міліцыю паклічу!

— Міліцыя тут! — з натоўпу вылузаўся таўставаты начальнік міліцыі.

— Дзядзька Дзіма, ну скажыце яму!— працягвала Таня, не падымаючыся з лаўкі.

Начальнік міліцыі горада Ў войкнуў:

— Танька! Ты што тут робіш?!

— Гуляю, дзядзька Дзіма! А тут нікога няма, праўда-праўда, — адказала Таня. — А хлопец з сінімі крыламі вунь туды пабег. Здаецца…

Начальнік міліцыі ссунуў фуражку на патыліцу і паглядзеў на чалавека ў белым халаце. Той правёў рукой па твары.

— Хадзем адсюль, — гыркнуў ён, і ўвесь натоўп, развярнуўшыся сінхронна, пайшоў у іншы бок.

Калі крокі сціхлі, Алег, увесь у вільготнай лістоце кустоў, выбраўся з-за лаўкі.

— Дзякуй, — ён хацеў прысесці побач з Таняй, ледзьве не сеў на свае крылы, падскочыў, згубіў раўнавагу і паваліўся на зямлю. Таня дапамагла яму падняцца, і яны ўсё-ткі прыселі побач.

— Алег, — прадставіўся хлапец, працягнуўшы Тані руку.

— Таня, — сказала тая.

А праз колькі хвілін яны ўжо гутарылі як старыя сябры.

— А ты ведаеш тэарэму Лагранджа? — пытаўся Алег.

— Не, — усміхнулася Таня. — А ты ведаеш, як выбраць самыя свежыя ківі?

— Не! — адказаў Алег.

А потым яны хадзілі па горадзе і размаўлялі. Яшчэ разы два, да самай цемры, ім давялося хавацца ад журналістаў і вучоных. А потым прыйшла ноч. І толькі тады Алег спытаў:

— А ты спрабавала лётаць?

Таня хацела сказаць, што баіцца лётаць, бо ёй па жыцці не шанцуе, што ў яе абавязкова не атрымаецца. Але замест гэтага няўпэўнена адказала:

— Н-не.

— А хочаш паспрабаваць?

— Ты яшчэ пытаешся! — выдыхнула Таня і сама спужалася таго, што сказала.

Але праз хвіліну яны стаялі на той жа тэлевежы, з якой Алег паспрабаваў паляцець першы раз. Унізе свяціўся горад Ў, дзесьці над галовамі браўся світанак — як хутка праляцела ноч.

Алег асцярожна ступіў на край і пацягнуў Таню за руку. Яна, як ніколі смела, пайшла за ім.

— Што трэба рабіць?

— Раскрый крылы, як я, бачыш? Вось вецер, адчуваеш? А цяпер узмахні крыламі і…

Яны паляцелі разам, побач так, нібы інстынктыўна, так, каб не зачапіць адно аднаго.

Яны не ведалі, што недалёка адтуль, на даху свайго дома, стаяў галоўны ўрач горада Ў Анатоль Сцяпанавіч Грыбочак. Да гэтага дня Алег быў адзіным чалавекам, што адважыўся выкарыстаць свае крылы па прызначэнні. Анатоль Сцяпанавіч змяніў пошукі збеглага «летуна» на доўгія падлікі і невясёлыя думкі.

Галоўны ўрач горада Ў з дзяцінства марыў лётаць. Тады, многа год таму, ён усё аддаў бы за пару крылаў. А цяпер? Ён стаяў на даху свайго дома і думаў, пакутліва і доўга. І глядзеў у далечыню. А ў далечыні, на фоне світанку, ляцелі двое. Анатоль Сцяпанавіч перастаў быць рамантыкам недзе ў восьмым класе, і ўжо не памятаў, чаму. Дзесьці ў той жа час ён перастаў верыць у нешта, акрамя навукі. Але зараз, гледзячы на гэтых шчаслівых дзівакоў — ён адразу зразумеў, куды збег Алег — Анатоль Сцяпанавіч быў гатовы таксама паспрабаваць лётаць. І, калі сонца паказалася на небе, ён зрабіў першы, няўмелы крок з даху.

Вадзім Колкі, журналіст мясцовай газеты «Вячэрні Ў» марыў пра славу і кубак гарбаты — у каморцы, якую займала газета, было, як заўсёды, холадна.

Нават крылы, што ў яго з’явіліся, як і ва ўсіх жыхароў горада Ў, не ратавалі ад холаду і прафесійнай невядомасці. Вось гэты хлопец, Алег. Што ўвогуле ён зрабіў? Палятаў над горадам колькі разоў — і ўсё, увесь свет пра яго ведае. Ён, Вадзім Колкі, мог бы таксама палётаць і напісаць рэпартаж. Але гэта будзе ўжо не так вострa і актуальна, як магло быць, калі б ён аказаўся першым у гэтай справе.

Шчыра кажучы, Вадзім Колкі ніколі не быў таленавітым журналістам. Усё, што дапамагала яму трымацца ў газеце, дык гэта скандалы і даследаванні, многія з якіх амаль не мелі сэнсу, але рабілі многа шуму. Вось і цяпер, адчуваючы пагрозу «вылету» з газеты — галоўны рэдактар ужо некалькі разоў намякаў на гэта — Вадзім апантана шукаў, за што зачапіцца каб утрымацца ў рэдакцыі.

А раніцай у нядзелю зачапіцца ўжо амаль было за што.

Вадзім Колкі выйшаў на вуліцу ў нядзелю так рана толькі з-за сваёй таксы, што настойліва скуголіла ля дзвярэй і спрабавала куснуць яго за левае крыло. А на вуліцы ён нечакана сутыкнуўся з міліцыяй і машынай «хуткай дапамогі».

— Што там здарылася? — спытаў ён маладога міліцыянера з белымі, чыстымі крыламі за спінай.

Той развёў рукамі.

— Вучоны адзін, ці ўрач — хто яго ведае, са слоў тых, хто бачыў — спрабаваў лётаць, як той дзівак, што з вежы сігануў колькі дзён таму, чулі?

— Так. І што ён?

— Той хлопец — нічога. Жывы, цэлы, арол, як кажуць. А гэты, — міліцыянер махнуў рукой. — Вось ён спрабаваў лётаць, і нават падняцца змог. А потым нешта здарылася. Ну, ён і каменем уніз. І ўсё.

Вадзім паківаў галавой і асцярожна прыблізіўся да чырвона-белай стужкі, якой агарадзілі месца няўдалага прызямлення недарэкі. Вакол мітусіліся крылатыя эксперты, з-пад белай прасціны, якой прыкрылі цела, неахайна тырчэлі брудныя фіялетавыя крылы. Вадзім уздыхнуў, адцягнуў свайго цікаўнага сабаку і пайшоў дадому.

А дома яго нібы асяніла…

Алег ішоў на працу з радасцю. Ён любіў сваю працу, што рэдка здараецца ў нашы дні, асабліва, калі ты настаўнік і працуеш у школе. Але ў гэтай радасці была яшчэ адна прычына — з гэтай самай «прычынай» яны вечарам збіраліся ў кіно на адну зорную сагу. Таня, як і ён, любіла розныя гісторыі «пра космас, зоры і бясстрашных даследавальнікаў», як яны называлі іх паміж сабой. Алег у думках ужо быў часткова там, з Таняй, і радаваўся ёй больш, чым фільму. Ды ўвогуле — што там фільм, няхай хоць пра хамякоў будзе, ён пайшоў бы ўсё роўна. Бо там будзе Яна. Дагэтуль Алег яшчэ ні разу не кахаў — здараецца і такое — і зараз не зусім разумеў, што з ім рабілася, але быў не супраць.

Алег не заўважыў, праходзячы каля настаўніцкай, як дзіўна глядзіць на яго лепшы і любімы 7 «Б». Не звярнуў увагі ён і на касыя погляды завучаў. І толькі пасля другога ўрока яго паклікаў да сябе дырэктар. Ён дазволіў хлопцу сесці, разгарнуў на стале свежы экзэмпляр газеты «Вячэрні Ў» і моўчкі паказаў Алегу артыкул, падпісаны В. Колкім, на першай паласе. Назва проста крычала:

«СМЕРЦЬ ІКАРА: ЦІ НЕ НАРОДЖАНЫ МЫ ПОЎЗАЦЬ?»

Пад назвай у траўрнай рамцы было фота Анатоля Сцяпанавіча Грыбочка. Алег хутка прабег вачыма артыкул — там сцвярджалася, што палёты, нават

з такімі крыламі, немагчымыя, што гэта даказалі вучоныя (і нават быў прыведзены спіс з імёнамі і прозвішчамі). А таксама артыкул называў палёт «усім вядомага Алега Іванова» «небяспечнай містыфікацыяй», якую ён спланаваў разам з невядомай маладой асобай (тут памяшчалася размытае фота, на якім Алег, нягледзячы ні на што, пазнаў Таню), ад якой пацярпеў «вядомы вучоны і ўрач А. С. Грыбочак». Далей на паўстаронкі разгортвалася біяграфія Анатоля Сцяпанавіча (самая доўгая, якую толькі можна было знайсці), і многа разважванняў пра палёт Алега, і пра тое, ці ёсць «аб'ектыўныя факты» таго, што палёт быў. Апошні абзац артыкула горача заклікаў разабрацца ў тым, што на самай справе здарылася ў горадзе Ў і не спадзявацца на дзівосы, бо людзі не народжаныя лётаць.

Алег, ледзь не трацячы прытомнасць, адклаў газету і паглядзеў на дырэктара. Той сказаў:

— І як вы гэта ўсё растлумачыце?

— Але… — з цяжкасцю прагаварыў Алег. — Але ж я лётаў…

— Я таксама пра гэта чуў, — уздыхнуў дырэктар. — А факты дзе?

— Але мяне здымалі… — пачаў Алег. Дырэктар не даў яму дагаварыць.

— Увогуле, які прыклад вы падаяце дзецям?! Мне пасля вось гэтага, — ён тыцнуў пальцам у газету, — ужо званілі, і многа разоў. Маці Лёшы Ткача ўчора злавіла яго на балконе — лётаць сабраўся, на вас гледзячы. А бацькі Юлі Афанасенкі! Яны яе ў пакоі зачынілі, яна ледзь не кінулася з даху…

Алег слухаў, але гукі даляталі да яго як з-пад вады. На хвіліну апрытомнеўшы, ён толькі пачуў:

— Хопіць. Заняткаў у вас сёння больш не будзе. Заўтра таксама можаце не прыходзіць.

Алег выйшаў са школы і адразу апынуўся ў коле журналістаў, міліцыі і вучоных. Пяць камер і з добры дзясятак мікрафонаў адразу нацэліліся на яго:

— Як вы пракаменціруеце артыкул?

— Як вы спланавалі гэтую акцыю? Што вы скажаце наконт смерці вучонага?

— Якія былі вашы матывы? Чаго вы хацелі гэтым дасягнуць?

— Хто гэтая таямнічая жанчына, у якіх вы з ёй адносінах?

Міліцыя — дзякуй ёй — моўчкі і панура намагалася адштурхнуць прэсу ад Алега, але — ён зразумеў — не дзеля таго, каб абараніць. Дзесьці за натоўпам чакала машына «хуткай дапамогі», побач з ёй — тыя, хто таксама быў не супраць прыхапіць Алега да сябе.

Таня даведалася пра ўсё па тэлевізары. Яе дзень таксама пачаўся з радасці і цёплых думак — але трэба ж было ўключыць тэлевізар, каб даведацца, якое заўтра будзе надвор'е. Праз хвіліну рэпартажа з плошчы, дзе Алега ўжо схапілі і запіхнулі ў белую кашулю з завязанымі рукавамі, яна спрытна накінула паліто і пабегла да яго, нават не зачыніўшы дзверы кватэры. Добра, думалася ёй, — плошча недалёка. Галоўнае — дабегчы, а што будзе потым, ёй чамусьці было ўсё роўна.

Алега цягнулі да «хуткай дапамогі», калі ён убачыў Таню. Яна стаяла пасярод плошчы і глядзела на яго. Журналісты кінуліся да яе — як яны даведаліся, было ўжо ўсё роўна. Алег і Таня паглядзелі адно на аднаго. Алег ірвануўся — кашуля трэснула на ім, вызваляючы крылы. Таня скінула паліто.

Яны ўзляцелі разам, з месца, на вачах усіх.

Яны падымаліся ўсё вышэй і вышэй.

Кажуць, потым іх болей не бачылі… Яны зніклі, два яркія промні сярод аблокаў — сіняе і чырвонае.

А на наступны дзень крылы зніклі ва ўсіх — рассыпаліся жменямі пер’я, нават следу не засталося на спінах. Замежныя вучоныя сабралі дадзеныя і з’ехалі з горада Ў, следам за імі падалася прэса. Апошнімі былі ваенныя, што да гэтага акружылі горад. І горад Ў зажыў сваім, спакойным, пераднавагоднім жыццём.

Журналіст Вадзім Колкі пакаваў рэчы — ён збіраўся ў сталіцу, паспрабаваць шчасця там — скандальны артыкул не дапамог яму затрымацца ў газеце. Мэр Міхаіл Міхайлавіч з палёгкай зашмагнуў шторку, за якой хавалася сакрэтная дзверца. У горада Ў з’явіўся новы галоўны ўрач. Усё стала, як заўсёды. Вось толькі цяпер снег пайшоў — белы-белы, ён падаў буйнымі, важкімі шматкамі, падобнымі на птушынае пер’е.

## Сяргей БЕЛАЯР

# ЗАКЛАД

*Фантастычнае апавяданне*

— Я вар’яцею ад праклятай манатоннасці! — паскардзіўся Таўтвоіш Кандрашэвіч, здаючы карты. — Кожны дзень адно і тое ж: батарэі, калектары, модулі... Яшчэ гады два, і мяне можна будзе здаваць ва ўтыль!

Кгін Мажэйка падняў вочы на інжынера-геліяэнергетыка і сказаў:

— Ты ж выдатна ведаў, што чакае цябе ў месяцовай калоніі, калі падпісваў кантракт з касмічным агенцтвам!

— Але ж я не думаў, што рэчаіснасць акажацца настолькі аднастайнай! Мне вельмі хочацца зламаць адну з батарэй, каб хоць гэтак разнастаіць знаходжанне ў паселішчы!

— Паспрабуй адцягнуцца — займіся сексам, выпі самагонкі, пакуры траўкі!.. Калі не адпусціць, звярніся да Доўкшы.

— Ды я і без візіту да псіхааналітыка магу паставіць дыягназ! Банальная нуда!

— Нават так?.. Адбой!

— Праекціроўшчыкам трэба было паклапаціцца пра большы выбар забавак для каланістаў!

— Бібліятэка, аранжарэя, спартыўная зала, фанатэка з відэатэкай — хіба мала?

— Мала!.. Бяру!

— Бюджэт асваення Месяца не настолькі вялікі, каб дазволіць мець у калоніі ўсе тыя забавы, якія былі на Зямлі! — нагадаў галоўны механік. — Радуйся, што ў нас наогул штосьці ёсць — марсіянскія каланісты і гэтага мінімуму не маюць!

Таўтвоіш Кандрашэвіч сумна кіўнуў і пачаў тасаваць калоду.

— Калі Вегер даведаецца пра тое, што ты спецыяльна зламаў сонечную батарэю, табе не паздаровіцца — бліжэйшым рэйсам адправішся на Зямлю з

«воўчым білетам» і будзеш вінен агенцтву за неадпрацаваны кантракт! Яно табе трэба?.. Так што цярпі!

— Ды не вытрымаю я яшчэ сем гадоў!

— Прымусь сябе!.. Дама!

— Не магу!

— Туз!.. Тады папрасі Вегера — ён дакладна знойдзе для цябе занятак!

— Пашле здабываць гелій-тры! Мэр толькі і ведае, як нагружаць людзей цяжкай фізічнай працай!.. А мне патрабуецца разумовая рэлаксацыя!

— Прапаную партыю ў гексаганальныя шахматы Глінскага.

— Надакучыла! — інжынер-геліяэнергетык згроб карты ў кучу. З гульнёй яму сёння не шанцавала — вось ужо сёмы раз запар ён заставаўся дурнем, з іх тры — з пагонамі. — Мне хочацца чаго-небудзь арыгінальнага!

Таўтвоіш Кандрашэвіч перастаў варушыць карты і задумаўся. Скарыстаўшыся паўзай, Кгін Мажэйка закурыў.

— Эўрыка! — праз некалькі хвілін гаркнуў інжынер-геліяэнергетык.

Нездаровы бляск вачэй Таўтвоіша Кандрашэвіча Кгіну Мажэйку зусім не спадабаўся. І галоўны механік не памыліўся ў чаканнях.

— Праз тыдзень я стану кіраўніком калоніі!

— Калі ты хочаш падняць бунт, я — пас! Супраць Вегера я не пайду!

— Для таго, каб узначаліць паселішча, бунт не спатрэбіцца — каланісты самі зробяць мяне мэрам!

— Хіба? — Кгін Мажэйка і не думаў хаваць свайго скепсісу.

— Трымаем заклад?

Галоўны інжынер адказаў толькі пасля таго, калі перабраў у галаве ўсе магчымыя варыянты, як зрушыць Лювера Вегера.

— У цябе нічога не атрымаецца!

— Упэўнены?

— На сто адсоткаў! Не, нават на дзвесце!

— У такім выпадку трымаем заклад. Праз тыдзень я стану мэрам, дзякуючы толькі самагонцы, траўцы і амбіцыям!.. Калі выйграю я, ты на паўгода станеш маім рабом! А калі ты... Чаго хочаш?

— Тады ты год будзеш маім! — у запале выпаліў Кгін Мажэйка. У сваёй перамозе ён ніколькі не сумняваўся. Як і ў тым, што рабства таварыша абмяжуецца максімум адным днём.

— Па руках! Пачынаем проста цяпер!

У наступную гадзіну Таўтвоіш Кандрашэвіч раздрукаваў на лазернай друкарцы пачак пагадненняў.

— Я, ніжэйпадпісаны, прадаю сваю душу Таўтвоішу Кандрашэвічу і атрымліваю наўзамен...

— Літр самагонкі ці дзесяць папярос!

— Ты сапраўды думаеш, што хтосьці пагадзіцца прадаць табе душу за самагон і траўку?

— Ты дрэнна ведаеш людзей, Кгін! У кожнага ёсць свой кошт, і ён, як правіла, не вельмі высокі! Патрэбен толькі правільны падыход да чалавека!

— Сумняваюся, што табе ўдасца падабраць падыход да ўсіх каланістаў!

— Вось пабачыш! — інжынер-геліяэнергетык шырока ўсміхнуўся, а Кгін Мажэйка злавіў сябе на думцы, што ўжо не так моцна ўпэўнены ва ўласнай перамозе. — Дуят, паставіш подпіс?

— Калі адкажаш, навошта табе нашы душы! — пасля паўзы сказаў адмін.

— Простая фармальнасць, неабходная для таго, каб даказаць, што рабіць так або інакш усіх без выключэння людзей — пабуджае ўлада!

— Я чытаў Ніцшэ!.. Праўда, гэта было даўно, і я нічога не зразумеў!.. Мне траўкі!

— Зойдзеш вечарам!

— У тэхнічны модуль або ў жылы блок?

— У жылы блок!.. Ну, што я табе казаў? — усміхнуўся інжынер-геліяэнергетык, калі мужчыны пакінулі камп’ютарны цэнтр. — Кожны з нас гатовы прадаць усё, была б толькі такая магчымасць!

— Адзін выпадак яшчэ нічога не даказвае!

— Згодзен, але ўсё яшчэ наперадзе!.. О, Любарт! Маё шанаванне тэхніку!

— Таўтвоіш, нальеш літр у доўг?

— Не!

— Мне вельмі трэба!

— Усім нам што-небудзь трэба — камусьці больш, камусьці — менш! Не налью, нават не прасі!.. — бачачы дашчэнту засмучаны твар тэхніка, інжынер-геліяэнергетык дадаў: — А вось абмяняць магу! Літр самагонкі на душу!

— Ты сур’ёзна?

— І не думаў жартаваць! Вось папера, вось ручка!

Любарт Ванібутовіч узрадавана падпісаў.

— Не хочаш паглядзець, што там?

Тэхнік толькі адмахнуўся.

— Увечары чакаю ў жылым блоку!

— А цяпер нельга? — Любарт Ванібутовіч аблізаў вусны. — Вельмі трэба!

— Тады табе прыйдзецца зрабіць для мяне адну рэч!

— Я згодны!

— Ты ж нават не выслухаў Таўтвоіша! — здзівіўся Кгін Мажэйка.

— Што трэба зрабіць? — паціснуў плячыма тэхнік.

— Вось табе пагадненне. Прынясеш мне яшчэ адну душу! Прапануй літр самагонкі ці дзесяць папярос з траўкай!

— Згода!

— Ведаю, што ты скажаш, Кгін. Тым не менш, зараз у мяне ўжо дзве душы!

Галоўны механік у адказ прамаўчаў, уражаны тым, з якой лёгкасцю Таўтвоіш Кандрашэвіч купіў другую душу. Адмін і тэхнік нават не спрабавалі задумацца пра тое, што яны робяць. І калі з п’яніцам усё было зразумела, то адмін, чалавек недурны, здзіўляў. Дуят Драмашка заўсёды адрозніваўся разважлівасцю.

Заставалася толькі спадзявацца на тое, што іншыя каланісты не такія.

— Давай пачакаем тэхніка тут. Думаю, чвэрці гадзіны яму хопіць!

Любарт Ванібутовіч справіўся за дзесяць хвілін.

— Вось, Ромут Сімак! І мне трэба яшчэ адно — для Кібарта Даманчука!

— Выдатная праца! — Таўтвоіш Кандрашэвіч выдаў новае пагадненне, пасля чаго мужчыны рушылі да жылога блока інжынера-геліяэнергетыка. Тэхнік ледзь не бег. — Атрымай, як і дамаўляліся!

Самагон і папяросы перавандравалі да Любарта Ванібутовіча. Пры гэтым Таўтвоіш Кандрашэвіч выдаў аванс.

— Справа рухаецца! — пацёр рукі інжынер-геліяэнергетык.

Да наступлення ночы яму ўдалося займець яшчэ пяць душ.

— Без разваг…

— Бо кожны меў свой план…

— Падспудны.

— Хлуслівы.

— Проста жах, мы былі такія ідыёты!

Уорвік пераводзіў вочы з Мішэля на Ірэн, з Ірэн на Мішэля; калі б ён так уважліва слухаў настаўнікаў у школе, ён быў бы цяпер акадэмікам.

— Мішэль разлічваў, што яму дадуць Нобелеўскую прэмію міру! — Ірэн і Мішэль усміхнуліся, напэўна, гэта быў сямейны жарт. — За тое, што прытуліў ды ўзяў на ўтрыманне дзіця з іншага свету!

— Я цешыўся з таго, што такая прыгожая жанчына будзе цалкам залежаць ад мяне!

— А я проста хацела паехаць у яшчэ іншую краіну. Мне было ўсё адно, хто ад каго будзе залежаць. Я хоць за чорта лысага замуж выйшла б!

— Колькі нам было гадоў тады?

— Па дваццаць сем.

— Не, калі пазнаёміліся — дваццаць шэсць.

— А калі ажаніліся — дваццаць сем…

— Мы трэці год разам.

— Усяго толькі…

— Здаецца, як учора…

— Не, як сто гадоў таму…

Уорвік пракаўтнуў астылую каву: перасохла ў горле.

— А як вы… Як вы… даведаліся?

Мішэль і Ірэн пераглянуліся.

— На другі дзень…

— На трэці.

— Ты забыўся…

— Добра; на трэці…

— Ты мяне не ўразіў…

— Ты мяне спалохала…

— А ты ўвесь час маўчаў…

— А потым ты пацягнула мяне ў Луўр…

— Гэта ты прапанаваў…

— І ты рыдала ў Луўры, як немаўлятка…

— Няпраўда.

— Ну добра, ты плакала…

— Добра, я плакала…

— У зале, там дзе старагрэчаскія скульптуры… ты спынілася перад нейкаю Афінаю — там так многа гэтых Афін, проста мармуровы лес…

— Цемрашал!..

— Я іх цяпер таксама люблю… А ты спынілася перад адной Афінай.

— Яна рабіла рукамі вось так, — Ірэн узняла рукі над сталом, прыўзняла вочы, каб паказаць мармуровую жанчыну.

— Вось так рабіла рукамі… А ты спынілася. І стала плакаць. У цябе шчокі былі мокрыя. Ты на мяне забылася. Ты так глядзела на гэтую Афіну…

— Мне здавалася, што яна рухаецца!

— І ты плакала. І ты з такім замілаваннем на яе глядзела! І я тады зразумеў, я адчуў, што гэтая жанчына ніколі не будзе ад мяне залежаць! І ні ад каго ніколі не будзе залежаць. Ты стаяла перад Афінай, а я глядзеў на цябе...

Я ніколі не бачыў, каб хто-небудзь плакаў перад скульптурай. І я зразумеў, што калі ў чалавека ў сэрцы жыве такая любоў…

— Ты на мяне паглядзеў — вось такімі вачыма! Як маленькі хлопчык. Так глядзяць толькі маленькія дзеці. Вось такімі вачыма! — твае мазгі былі відаць праз зрэнкі!

— І я тады зразумеў…

— І я тады зразумела…

Зноўку патрапіўшы ў такт адно аднаму, яны прыпыніліся. Уорвік уважліва глядзеў на іх, не адчуваючы няёмкасці.

— Дык вось… Вось з таго моманту мы і ўбачылі адно аднаго…

— Калі мы толькі-толькі сустрэліся, мы хацелі схлусіць…

— Падмануць…

— А потым мы вырашылі павянчацца ў царкве.

— У касцёле…

— Я праваслаўная…

— А я каталік…

— Я не змяніла веры — бо я не веру ў агульнапрынятым сэнсе… Можна мяняць рэлігію, калі ты быў ёй адданы, а я не была верніцай. Гэта была даніна традыцыі — я паходжу з краіны, дзе пануе праваслаўе.

— Я таксама не адданы каталік…

— Але мы вырашылі пайсці ў царкву.

— У касцёл…

— Каб сказаць адно аднаму нешта важнае…

— І мы сказалі…

— І мы не схлусілі…

— Мы не падманулі…

— Нехта, — Ірэн зрабіла акцэнт на слове «нехта» — зусім не ўлічваў нашых намераў! Нас абралі!

— Нам пашанцавала…

— І ўсё перамянілася…

— Мы змяніліся…

— Поўнасцю! Я была такая… незалежная… Вельмі незалежная. І жорсткая. І нават злая.

(Уорвік адчуў ейны нястрачаны славянскі акцэнт: Ірэн вымаўляла гук «ж» занадта цвёрда, і, нібы ведаючы гэта, цягнула яго, спрабуючы выправіць памылку, і слова «злая» выходзіла ў яе шыпячым як змяя: «mechhhante»!)

— А я быў такі… разбэшчаны хлопчык!

— Проста распуснік!

— І мы перамяніліся.

— Мы сталі спакойнымі…

— Упэўненымі…

— Шчаслівымі…

— Мы сталі такімі… здольнымі жыць.

— А… як вы… — Уорвік шукаў словы, і не мог знайсці, — як вы мяркуеце… цяпер… З досведам мінулага жыцця… Ці можна жыць без гэтага?

— Можна! — упэўнена, аднагалосна, сцвердзілі Мішэль і Ірэн.

— Можна.

— Але складана.

— Трэба працаваць над сабой.

— Няспынна.

— Штодня.

— Гэта складана…

— Як бегаеш у замкнёным коле…

— У той час як трэба жыць, а ты замест таго, каб жыць, змагаешся з сабой!

— А мы цяпер жывём…

— Нам пашанцавала…

— Проста так…

— Мы не спадзяваліся…

— Мы адчаіліся…

— Мы, мабыць, не заслужылі, а цяпер мы такія…

— Шчаслівыя…

— Як багі!

— Мы жывём…

— Усё перамянілася, усё, усё! Жыццё набыло іншы сэнс. Як мне цяпер здаецца, адзіны магчымы сэнс. Мяне не хвалююць ні грошы, ні праблемы з працаю. Я гляджу на Ірэн і не разумею: прыгожая яна ці не? Мне здаецца, што яна адзіная жанчына ў свеце, іншых проста няма, мне ўсё адно, якога колеру ў яе валасы, калі б яна адрэзала вушы, я не заўважыў бы…

— Я блытаю, дзе я, а дзе — Мішэль! Калі ён з’язджае, мне здаецца, што гэта я з’ехала!

Яны глядзелі адно на аднаго, Мішэль глядзеў на Ірэн, Ірэн глядзела на Мішэля, Уорвіку здавалася, што яны абменьваюцца жыццём праз гэты позірк. Яны павярнуліся да яго.

— Такое бывае…

— Такое здараецца…

— Гэта здарылася…

— З намі…

— Мы не ведаем, як.

Запанавала цішыня, за акном шоргала па падаконніку залева. Час стаяў у пакоі, як вада ў возеры.

— Мо спаць?

Ірэн не перамяніла тону, яна вымавіла гэтае простае пытанне гэтаксама спакойна, як кагадзе расказвала пра звычайны цуд.

Звычайна пасля такіх шчырых размоў паміж незнаёмымі людзьмі ўзнікае няёмкасць, але гэтая размова не была звычайнаю.

Уорвік ляжаў на канапе, бязмэтна глядзеў у белаватую столь і думаў, што не зможа заснуць. Мішэль і Ірэн — іх імёны цяпер немагчыма было адасобіць — нібы пачаставалі яго не ліпкаю каваю, а ледзяной, празрыстай крынічнай вадою, падзяліліся з ім жыццядайнаю вадкасцю, і ён баяўся страціць хаця б кроплю яе. Уорвік ляжаў і думаў. Ён думаў пра тое, што людзей, злучаных вось такім каханнем, начамі катуюць зусім іншыя дэманы, чым яго. Не тыя дробныя, а злосныя, гэта чэрці адзіноты, якія, калі ўжо прыстануць, дык прыстануць, якіх колькі не адштурхоўвай ад самотнага ложка, а яны ў шаленстве ўсё роўна скачуць вакол, зрываюць цёплую коўдру... А дробныя чэрці адзіноты ў гэты час крывяць звярыныя пысы ды цягнуць іклы да твайго мяккага горла…

Не, шчасліва каханым людзям не страшныя такія непрыстойна дробныя чэрці. Да такіх людзей уначы, напэўна, прыходзяць іншыя, сапраўдныя дэма-

ны. Спакойна, з усведамленнем уласнае магутнасці, яны моўчкі стаяць над ложкам ды пасміхаюцца: ніколі, ніколі вам дваім не стацца адным чалавекам! Якімі моцнымі ні былі б вашыя абдымкі, вы ніколі не здолееце зліцца ў адно, хіба толькі пасля… Пасля ўсяго…

А ў чалавечым жыцці… Вам, разлучаным, адасобленым — ніколі не пазбыцца страхаў за сваю другую палову! Наколькі розным бывае чалавечае шчасце! — і ці бывае яно ўвогуле?..

Уорвік не спадзяваўся заснуць, але заснуў. Ён прачнуўся ад таго, што нехта і настойліва нешта яму шаптаў і кратаў за плячо.

— Прачынайся… Шэсць гадзін! Прачынайся, я зараз выклічу таксоўку!

Мішэль, смешна патлаты пасля сну, нацягнуў джынсы, накінуў куртку, пайшоў правесці Уорвіка да таксоўкі. Уорвік дапамагаў яму выцягваць з багажніка кофр, які ўчора яны там пакінулі.

Неба было чыстае-чыстае, быццам вымытае ўчорашняю навальніцаю. Уорвік паспеў заўважыць, што не кожны дзень над Парыжам, ахутаным смогам, уранку бывае такое чыстае, маладое неба.

Перад тым, як развітацца, яны абняліся.

— Прыязджай, — сказаў Мішэль.

— Абавязкова, — паабяцаў Уорвік.

Ён адчуваў, што не проста вымаўляе словы, а насамрэч абяцае сябру прыехаць.

— Прывет Ірэн! — сказаў Уорвік, калі таксі кранулася.

Мішэль, ужо аддалены затанíраваным шклом, кіўнуў галавой: ну вядома ж!

У машыне Уорвік спаў. У аэрапорце ягонае цела яшчэ захоўвала прыемную млявасць, спакойнае цяпло начнога сну, але дакучлівай санлівасці Уорвік не адчуваў. Па зале ў кірунках, вызначаных указальнікамі, рухаліся абцяжараныя багажом людзі. Уорвік, у хвалюючым прадчуванні блізкага неба, падняў вочы на табло, і раптам лямпачкі падміргнулі і выдалі яму такі, аказваецца, нескладаны шыфр: «Бог ёсць».



**Таццяна СІВЕЦ**

# ПЛЫЦЬ ЗВОНКІМ ЧОЎНАМ, КРЫШТАЛЬНАЙ ЛОДКАЙ

* * *

Гэта дзяўчынка-русалачка —
рыбкаю ў кулаку —
так трапечацца смешна,
што хочацца сціснуць пальцы…
Яму нават здаецца, ён чуе
крыштальны гук
звонкіх яе запясцяў…
Ён старэйшы ўдвая…
Ён умее не памыляцца…
Толькі падаюць
лыжкі-відэльцы з рук…
Калі
яна
усміхаецца…

Ён думаў, што больш
не мае чаго баяцца,
што ведае
усе пасткі,
што болей за час
не здольны ніхто скалечыць…

---

*__Сівец Таццяна Мікалаеўна__ нарадзілася 23 чэрвеня 1982 года ў Мінску. Скончыла факультэт беларускай філалогіі і культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка (2005), аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі (2008). Працавала на радыёстанцыі «Беларусь», галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць». Цяпер — галоўны рэдактар штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», вядучая праграмы «Дыя@блог. Пра літаратуру» на тэлеканале «Беларусь 3». Паэт, драматург, перакладчык.*

*Аўтар кніг «Праляцець па вясёлцы» (2002), «Ліпеньская навальніца» (2003), «Таму, хто знойдзе» (2009), «Брык і Шуся шукаюць лета» (2012), «Куды прапала малпа Маня?» (2013), «Самы лепшы падарунак» (2014).*

*Пераможца рэспубліканскага літаратурнага конкурсу «Лепшы твор 2013 года».*

Ды
калі яна побач,
калі глядзіць на яго
(думае, ён не бачыць),
страх агортвае гэтакі...
Хочацца ўкленчыць —
толькі б не ўпасці…

Ён сядае далей…
Як мага далей
ад яе…
Каб хіба што позіркам…
Каб рукою
не дацягнуцца…
Ён запэўнівае сам сябе:
мне яна проста сніцца…
Але
аніяк
не прачнецца…
І моліцца, каб ніколі ўжо
не прачнуцца.

* * *

Дзе тыя школы, што вучаць крэсла адсоўваць так,
каб заняло дыханне?
Ты сядаеш, а ў скронях тахкае:
«кахаю-кахаю-кахаю-кахаю-кахаю»…
Ён пытаецца нешта, ты кажаш: «Так!»
І не чуеш, пра што ён пытаў: пра тое, ці хочаш кавы,
ці хочаш пражыць з ім разам бліжэйшыя трыста год…
Ты глядзіш на яго, як на вогнішча,
і павекам горача… І не глядзець няможна…
Што ж ты робіш-та,
Божухна мой ласкавы?!
Што я зрабіла табе такога? Каб зноў мяне —
у агонь...

* * *

Як ён п’е віно, як глядзіць, як ламае хлеб!..
Мне чытаць, бы кнігу, зморшчынкі на яго чале…
Рухі ягоных веек у памяці, бы ў смале бурштынавай, захаваць,
цалкам укласціся ў выгін яго брыва…
Кожнае слова з вуснаў яго — бы мёд,
і нават чужая мова робіцца лепшай з моў!
Шкода, што не мажліва ценем ягоным стаць…
Гэтак, напэўна, думала Магдаліна, воч не ўзнімаючы на Хрыста.

* * *

«Не плач — ты ж дзяўчынка», —
мусяць казаць беларускам з самага нараджэння, і
тыя румзаюць ціха — так, каб іх,
крый божа, ніхто не пабачыў…
Гэта хлопчыкі маюць раскошу бегчы да мамкі з плачам —
дзяўчынкі ж вяртаюцца да сваіх
з сухімі вачыма.
Канечне, усё будзе добра: і ўрэшце яны пажэняцца!
Ну а як іначай?!

* * *

У тваёй галаве спяваюць інакшыя птушкі…
У вачніцах маіх адбіваюцца зоры-завеі…
Не веру табе, не веру табе я... і
ўсё чакаю, калі ты мяне адпусціш…
Быць закаханым — значыць
камусь падкладаць аблокі
пад самае сэрца, небам-подыхам высцілаць зямлю…
Гэта значыць плыць звонкім чоўнам, крыштальнай лодкай
з хвалі на хвалю, з хвалі на хвалю…
Хвалююся, калі чую ахрыплых птушак,
што аніяк не выберуцца з завеі
ў маёй галаве…

* * *

У бабулі маёй на дне куфра ляжаў тугі клунак:
з белай і чыстай апраткай…
Яна прымяраць не давала:
«Няможна… Гэта ж на смерць…»
У сэрцы маім — у самым куце патаемным — схавана
каханне,
светлае, чыстае, лепшае самае…
Пэўна, ў яго прыбяруся,
як траплю да Пана…

Мікола ЛОБАН

# ДЗЁННІКІ ЗА 1948—1952 ГАДЫ

## 1948 ГОД

*6.1.48.*

Зіма сёлета, як ніколі: тэмпература да 6° вышэй нуля. Снег дастае. У нас на столі паказалася мокрая пляма. Хаджу працаваць у бібліятэку. Там стала вельмі многа чытачоў і трэба прыходзіць абавязкова з раніцы.

Да збору матэрыялаў я нарэшце прыступіў. Жывыя людзі — гэта самае каштоўнае: тут сабе ўсё на месцы, возьмеш ад яго ўсё, што хочаш. Учора слухаў Машу Радзіонаву. Яна была радысткай. Расказаў цікавыя эпізоды М. Бірыла[1], абяцае Бас. Калі за першую палову 1948 года збяру дастатковы матэрыял, то з верасня 1948 года пачну пісаць першую кнігу. Самае галоўнае — больш матэрыялаў непасрэдна з вуснаў новых людзей, удзельнікаў партызанскага руху, медперсаналу, былых франтавікоў. Самы добры матэрыял — гэта біяграфія.

*11.1.48.*

Пакуль што мне яшчэ не ўдалося дакладна выканаць планы аднаго дня. Чаму? Можа, наогул нельга спланаваць свой час, сваю працу? Думаю, што можна. Чым жа растлумачыць, што да гэтага часу я не здолеў наладзіць так сваю працу і планаванне, каб можна было яго здзейсніць?

1) Першым недахопам з’яўляюцца недастаткова сур’ёзныя адносіны да планавання. Я часта выходжу за мэты сваіх мажлівасцей, будую планы на аснове жаданняў, не падмацоўваючы іх рэальнымі ўмовамі.

2) Я планую свой час, выходзячы толькі з сваёй асабістай работы, не ўлічваючы ўсіх астатніх відаў работы, звязаных са службай, грамадскім жыццём і жыццём сям’і.

3) Я мала ініцыятыўны. Толькі той можа кіраваць сабою і другімі, хто заўсёды і ўсюды першы, а гэта ўсё трэба прадугледзець у плане.

4) Мой вораг — таптанне на месцы. Трэба змагацца з гэтым. Трэба кожны дзень, кожную гадзіну рабіць тое, што рухае наперад.

5) Абавязкова ў самы карацейшы тэрмін ліквідаваць адставанне, а прычыны гэтага адставання — марудлівасць у працы, якая вынікае з няўмення яе арганізаваць.

Першая мая задача: быць першым па французскай мове. Дамагчыся яўных адзнак гэтага к 20 студзеня. Для гэтага вывучыць актыўна дзвесце пяцьдзесят слоў, перакласці 20 тэкстаў, вывучыць 20 дзеясловаў трэцяй групы.

Другая мая задача: ліквідаваць адставанне ў чытанні мастацкай літаратуры к 1 мая 1948 года па навінках. Для гэтага скласці спіс літаратуры і часопісаў, прачытанне якіх абавязкова.

Трэцяя мая задача: устанавіць самы строгі рэжым. Для гэтага зрабіць расклад-распарадак дня з абмежаваннем у часе. Набыць у самы хуткі час гадзіннік. Перад тым як легчы спаць, спланаваць наступны дзень. Улічыць дастатковы адпачынак і нармальны сон.

Дзякуй богу, у мяне знайшлася яшчэ адна перашкода: Іра пачала наладжваць сустрэчы са сваімі дзевачкамі і хлопчыкамі, пазбаўляючы мяне вячэрняга часу. Хай мяне лічаць кім хочуць, усё роўна я не той, кім яны мяне будуць лічыць, але прыйдзецца спыніць гэтыя зборышчы.

*13.1.48.*

Вось ужо каторы дзень не магу нічога рабіць. Дзень мой складваецца ў сувязі з пераездам на Пушкінскую, так што, здаецца, не застаецца нікольві часу. Цяпер нават і на вечар не магу разлічваць: амаль штодзённа да Іры прыходзіць хлопец, таварышкі, і пакой ператвараецца ў сапраўдны базар. Я нервнічаю, але вымушаны прытрымлівацца этыкі і смірэнна, праклінаючы ў сэрцы ўсіх і ўсё, чакаць пакуль гэтая маладая пара, аграбіўшы мой такі дарагі час, не саблагаволіць разысціся. Сёння я не мог трываць і вымушаны быў ісці з хаты. На двары ляпіў цёплы лагодны снег. Я прайшоў да сквера, што ля дома ЦК, вярнуўся назад, некалькі разоў за дарогу атросшы з сябе снег, дайшоў да бетоннага моста, пахадзіў яшчэ крыху па вуліцы і вярнуўся дадому ў спадзяванні, што зборышча ўжо скончылася. Дарэмны мае спадзяванні! Ніхто мяне не разумее, правільней — не хоча разумець. І бальней за ўсё, што не разумее мяне Броня. Скажы ёй аб гэтым прама — яна абзаве мяне прэмудрым піскаром, чалавеканенавіснікам і непазбежна сварка. Мне не хочацца слухаць такія клічкі, больна іх слухаць, таму што яны гаворацца галавой, якая пазбаўлена здольнасці правільна ацаніць. Хіба ж 3—4 гадзіны ў дзень пабыць не на адзіноце, а хаця б без наяўнасці пабочных сведкаў — не права кожнага культурнага чалавека? Для мяне ж гэта проста неабходна, інакш — гібель, беззваротная гібель, калі я і яшчэ ахвярую хоць адзін год. Броня не разумее гэтага, для яе мае намаганні — забава несур'ёзнага чалавека. Калі ёй што-небудзь выкажаш набалеўшае, то цераз дзень усё будзе забыта і к вялікай роспачы ўсё пойдзе па-старому. Я пераконваюся, што гаварыць з ёю, як з другам, глупа, таму што бескарысна. Мама і папа лічаць, што ўсё тое, што яны робяць і што яны гавораць — гэта «савяршэнства» і «ісціна» і ніяк не могуць зразумець, што ім прыемна тое, што робіць Іра, а мне не. Якая яшчэ можа быць прычына, каб перашкодзіць Іры ў яе жаданнях? Эх, я мямля! Дапусціць, каб над сабой чыніліся падобныя здзекі!

Іра расказала, што ўчора ў Мінску на Беларускай вуліцы забілі Міхоэлса[2]. Якая ганьба! Дакуль будзе патуранне гэтым тэрарыстам і грабежнікам! Дакуль нас будуць абкрадаць сярод дня, вырэзваць кішэні, аблічваць, абвешваць!

*15.1.48.*

Міхоэлс, расказваюць, быў забіты гадзін у 9 вечара. Ён з Голубам ішоў на прыём у ЦК. Чаму яны раптам ішлі па Беларускай вуліцы, застаецца загадкавым. Гавораць, што на трупах знайшлі ўшыбы і пераломы. Ёсць аснова думаць, што яны з'явіліся ахвярай чарговага ўхарства шафёраў. Але гэта мала праканальна. Хутчэй за ўсё наўмыснае забойства і не з мэтай аграблення. Папа вельмі перажывае гібель гэтага чалавека.

Нарэшце мы пераехалі. Чатыры пакоі. Сектар мовы займае адзін вялікі пакой. Размясціліся. Заўтра можна прыступаць да працы.

*19.1.48.*

Гэтыя дні не прынеслі нічога асаблівага. Пачаў, нарэшце, пісаць артыкул «Пісьменнік і мова». Трэба больш пісаць і, мабыць, больш шкадаваць сваю працу, а то я з ёю зусім не лічуся. Гляджу я на другіх — гэдак многа пішуць, а я нічога. Трэба пачынаць распрацоўку сюжэта рамана. Нанізваць на яго новыя і новыя эпізоды.

Сёння наведалі наш інстытут Іаўчук[3], Грат(?)чанкоў і цэлая світа дробных.

*21.1.48.*

Мой план кожны дзень развальваецца аб непераможную скалу нечаканасцей. Сёння Суднік паведаміў, што ў працы Акадэміі ўводзіцца новы распарадак: пачатак з 10 гадзін раніцы і да 7 гадзін вечара з гадзінным перапынкам на абед. Такім чынам рушыцца ўвесь мой распарадак. У бібліятэку я змагу хадзіць толькі па выхадных днях, а займацца творчай працай і зусім няма часу.

Выйшла з друку кніжка апавяданняў А. Кулакоўскага[4]. Вось ужо і кніжка, а пачаў ён мала раней друкавацца за мяне.

*1.2.48.*

Што будзе далей, не ведаю, а пакуль што я не магу ўвайсці ў каляю. Усе мае планы штодзённа рушацца. Працаваць няма дзе і няма калі. Рашыў зноў вярнуцца на працу ў рэдакцыю. І трэба план, суровы план, каб выконваць яго, не адступаючы ні на крок.

*28.2.48.*

Аповесць вырысавалася канчаткова. Сюжэтных змен ужо быць не можа. Трэба пачаць настойлівей працаваць над ёй. У самым хуткім часе здаць французскую мову і тады ўсю ўвагу завярэдзіць на аповесці. Апошнія дні я адчуваю ахалоджанне да мовы. Слухаў ўчора Бархударава[5] і адчуў нейкую адчужанасць гэтага прадмета. Ну, што ж, рашуча пакончыць з ёй і аддаць сябе журналістыцы. Дарэчы, аповесць будзе маім залікам. Удасца — рашуча перайду на гэтую работу.

*18.4.48.*

Яшчэ і яшчэ канстатую сваё няўменне арганізаваць работу, наладзіць цвёрдую дысцыпліну і мабілізаваць сваю сілу волі. Я безадказна растрачваю свае лепшыя сілы на нікчэмнасці (бескарысная мітусня па прафсаюзных справах, паседжанні, сходы, нарады, перагаворы, дагаворы, абавязацельствы, справаздачы і інш., і інш.). А час ідзе, самы каштоўны, самы дарагі!

Прымаю рашучае і беспаваротнае рашэнне. К 1 жніўня скончыць аповесць «Іркуцянка» пры любых умовах і пры любых абставінах. Дзённая норма — 2 старонкі на машынцы.

Аповесць будзе маім экзаменам. Калі яна атрымаецца здавальняючай і будзе надрукавана — пакідаю работу ў Акадэміі і прыступаю выключна да літаратурнай работы. Мая работа — мастацкая проза і публіцыстычныя артыкулы.

Другі мой абавязак — чытаць, чытаць і чытаць. Прачытаць як мага больш.

*19.4.48.*

Кожны дзень падтрымліваць сваё рашэнне. Яшчэ не позна выратаваць сябе. Яшчэ не ўсё загінула. Але для гэтага — цвёрдасць і рашучасць. Больш упэўненасці ў сабе. Сарамлівасць мне вельмі перашкаджае. Учора я не выканаў план, за гэта я сёння павінен навярстаць.

Учора ўбачыў Івана М., падарыў свой «Гарачы жнівень»[6]. Паведаміў, што мне заказваюць нарыс аб Мінскім трактарным. Знарок не адмаўляюся, каб шчыльней звязаць сябе з Саюзам пісьменнікаў.

*1.5.48.*

Учора так стаміўся на дэманстрацыі, што і сёння не магу адысці. Вельмі рады, што ў мяне нічога не знайшлі незвычайнага ў лёгкіх: я спакойна магу працаваць з напружаннем.

*14.5.48.*

Я размазня: не магу прымусіць сябе выконваць свой штодзённы план. У мяне многа часу адымае непатрэбная балбатня з Е. М., М. Р. Учора на гэта патраціў

больш гадзіны, і план не выканаў. Трэба пры ўсякіх умовах план выконваць. Трэба ў гэтых адносінах узяць прыклад з Кулакоўскага. Ён часу шкадуе надта.

*22.5.48.*

Здаў урывак з аповесці «Іркуцянка». Першая глава. Адчуваю, што далей так нельга. Неабходна штодзённа ўзбагачаць сябе фактамі з жыцця, чытаць, пабольш чытаць! Не буду больш пісаць у дзённік да таго часу, пакуль не буду мець дасягненняў па выкананню плана.

*25.5.48.*

<…> Адбываецца сесія аддзялення гуманітарных навук аб некаторых пытаннях развіцця грамадскай думкі на Беларусі. Зрабіў даклад пра Скарыну Перцаў, пра Ф. Багушэвіча — В. В. Барысенка. Заўтра адбудуцца Купалаўскія чытанні. Робяць даклады Шарахоўскі, Лужанін, Карпаў.

*2.11.48.*

Нарэшце, здаецца, я здолею папрацаваць як след. Учора Барысенка сказаў, што ён згодзен мяне адпусціць. Два гэтыя месяцы павінны прынесці мне аповесць у гатовым выглядзе і філасофію па кандыдацкаму мінімуму.

*20.11.48.*

Пакуль я не навучуся працаваць строга па плану, датуль я нічога не зраблю. І ўчора і сёння план застаўся нявыкананы. Не хапае сілы волі. Сёння паехаў у рэдакцыю і там праседзеў тры гадзіны без патрэбы. Зачытаўся аповесцю Някрасава і прачытаў больш, чым паложана на гэты дзень, затое не выканаў другія віды работы. Пісаць зусім не браўся. Трэба сябе пераламаць! Толькі ўпартасць у рабоце!

*1.12.48.*

Раніцай, як заўсёды, доўга капашуся і дарэмна прападае шмат часу. Паехаў у Акадэмію. Дамовіліся сёння зрабіць паседжанне правапіснай камісіі. Не адбылося, таму што К. К. і П. Ф. патрэбна было ў Саюз пісьменнікаў. Там сёння справаздача «ЛіМа». К. К. вельмі цягучы чалавек. Я здзіўляюся, як такія людзі не навучыліся да такіх год працаваць. Няма дысцыпліны працы. З-за гэтай неарганізаванасці я таксама страдаў цэлага паўдня. З Акадэміі пайшоў у рэдакцыю. Там нелады з нумарам: часопіс надрукаваны, а цяпер уздумалі здымаць цытату. У рэдакцыі, як і заўсёды, зборышча — гутарка, анекдоты. Мудрэй усіх у гэтым плане Брыль і Грамовіч. А чацвёртай гадзіне вярнуўся дамоў. Чытаў Лявонава. Прыйшлі суседзі і ўварвалі добрую гадзіну часу. <…>

*11.12.48.*

З раніцы чытаў Лявонава. У трамваі вельмі цесна: пусцілі дзве другія лініі, а вагонаў няма, вось на нашай лініі і паменшала. Хтосьці з пасажыраў злуецца: гэта з тых, што свае машыны мелі, ім цяпер моташна ў трамваі. Лепш бы трамвайных вагонаў больш выпускалі, чым гэтыя «Пабеды»[7]. У трамваі трапіла ў галаву цікавая думка: пасля наведання адной з школ Мар'я Васільеўна запісвае сабе ў дзённік: «Кіраўнік не павінен быць у адносінах да сваіх падпарадкаваных работнікаў няўгоднай мачыхай». І далей: «Кіраўнік больш чым хто хутка павінен адносіцца да ўсяго новага, і, якое б яно ні было маленькае, усімі мерамі ўзнімаць яго, паказваць радавым работнікам. Кіраўнік павінен усё бачыць. Усякую добрую справу кіраўнік павінен адзначаць. Усякая неаддзячаная добрая справа прападае ў вачах яе творцы».

У рэдакцыі знайшоў «пасланне» І. Д. Сёння ў Саюзе перавыбарны партыйны сход і І. Д. няма. Па рэдакцыі шлэндае Агіевіч з перакінутым паверх пінжака

рабым шалікам. Плявузгалі, што каму ўзбрыдзе ў галаву і толькі. Мурашоў усё яшчэ не скончыў абложку, і я не магу выканаць заданне І. Д.

З Суднікам рашылі арганізаваць пры інстытуце рукапісны фонд. Трэба распачаць гэтую справу. Праз 20 дзён святкуем 30-годдзе рэспублікі, а ў нас яшчэ нічога няма, прама сорам перад другімі рэспублікамі. У Літве ў гэтых адносінах адмысловы парадак, гавораць, а ў нас няма клопату пра нацыянальную культуру. Што і робіцца, то ўсё гэта ад таго, што адны баяцца, другія бяздарныя, трэція неахайныя, бесклапотныя, чацвёртыя разупэўненыя скептыкі. Толькі жывыя, ініцыятыўныя, самаахвярныя ў адносінах беларускай культуры людзі зробяць што-небудзь значнае.

Трэба мне зайсці ў Акадэмію. Прысталі перакладаць выстаўку на беларускую мову. Як ні дзіўна, а наша інтэлігенцыя ў сябе дома трымае сябе як іншаземцы.

Вечар прапаў, нічога не зрабіў. Праз гэту нерастаропнасць, марную трату часу я ніколі не выконваю свой план, а яго можна выконваць штодзённа.

*12.12.48.*

Я развучыўся ўставаць. Сёння ўстаў а 8 гадзіне. Раніцай план парушыў. У 11-й гадзіне выехаў у рэдакцыю з мэтай папрацаваць спакойна. Не тут та было. Толькі разгарнуўся — уваходзіць Агіевіч. Паабяцаў не перашкаджаць і праседзеў гадзіны тры. Пасля Агіевіча прыйшоў Аляксей Кулакоўскі працаваць — зноў не тая работа. Напісаў адзін эпізод.

Прачытаў «Васілія Цёркіна» Твардоўскага. Цудоўная рэч. Агіевіч у гутарцы са мной пахваліў Брыля — развіты чалавек. Гэта мяне задзела. Я павінен быць вышэй усіх сваіх знаёмых! Дзе мая чортава воля? Больш упартасці і настойлівасці, і я дасягну чаго хачу.

*13.12.48.*

Раніцай да выезду на працу прачытаў «Дом у дорогі» Твардоўскага. Паэма, мне здаецца, значна слабейшая, чым першыя дзве. Узяў у партфель томік Леніна — думаў у інстытуце пазаймаюся філасофіяй, але мастакі паклапаціліся аб маім часе: на стале ляжала добрая кіпа ўсякае «вучонае» мазні. Трэба перакладаць, бо па-барску настроеная інтэлігенцыя лічыць сабе лішнім валодаць сваёй роднай мовай. Я вельмі рад, што прыехаў Грамовіч. Думаю скалаціць сабе матэрыяльную базу, каб у наступным можна было папрацаваць, а то і паехаць некуды. Бяру пераклады гэтых кулакоў для часопіса. Сёння ўпершыню пасля выздараўлення ўбачыў А. Стаховіча. Змяніўся, што нельга пазнаць. Нейкі стаў мажны, выгляд хваравіты, але жартуе. Увесь час закідаў камні ў агарод Лынькова.

Чарняўскі расказаў версію, быццам М. Шолахаў чытаў Іосіфу Вісарыёнавічу сваю другую частку рамана «Паднятая цаліна» і І. В. пакрытыкаваў Шолахава. Я гэта расказаў дома і вельмі добра адзываўся аб Шолахаве. Гэта выклікала — я нават не чакаў, — дрэнную рэакцыю ў папы, Іры і нават у Броні. Усе яны ўсумніліся ў таленце Шолахава, а Іра не ўцярпела і вымавіла: «Эрэнбург таленавіцей!» Што і трэба было давесці.

*16.12.48.*

Заснаваны намі «Рукапісны фонд» паступова напаўняецца. Сёння я атрымаў ад Пятра Фёдаравіча рукапіс «Сіраты Алесі» Паўлюка Труса і рукапісы паэм Пятра Фёдаравіча. Напаўненне вельмі каштоўнае. Калі ўсе нашы пісьменнікі і паэты паставяцца да гэтае справы так, як Пётр Фёдаравіч, то ў нас будзе каштоўнейшая скарбніца нашай літаратуры.

*17.12.48.*

Устаў позна і ўшчуваў сябе за гэта. Праседзеў у рэдакцыі колькі гадзін, пасля выехаў у Акадэмію, каб зрабіць пераклады надпісаў для дыяграм. Роза рыхтуе

філасофію, скардзіцца на сваё кватэрнае становішча. Сёння яна паспрачалася з Пікулінай. Жэнька П. трымае сябе па-барску. Роза права.

*18.12.48.*

З раніцы добра пазаймаўся філасофіяй. А дваццатай гадзіне выехаў у рэдакцыю. Застаў спрэчку паміж Ільёй Данілавічам і Краўчанкам. Усевалад аказваецца самаўпэўнены чалавек і задужа нават. У выніку адбылася перамоўка з Кірэенкам. Тут паспрыяў ужо і Агіевіч. Аддалі на суд Кулакоўскаму і мне.

Чытаю «Землякі» Шахаўца[8]. Здзіўляюся, якія невысокія нашы патрабаванні да твораў.

*21.12.48.*

Прачытаў Шахаўца — несусветнае глупства. У нас пакуль што толькі адзін празаік, варты ўвагі — Янка Брыль. Гэта першы празаік пасля Кузьмы Чорнага. Думаю, што ён з цягам часу зробіцца больш выдатным. Сёння прачытаў яго апавяданне «Іржавая стрэмка» і не мог устрымацца, каб не выказаць сваё захапленне аўтару.

## 1949 ГОД

*5.2.49.*

Вярнуліся хлопцы з Масквы. У абедзвюх рэдакцыях стаіць няспынны рогат. Апавяданні аднаго змяняюцца апавяданнямі другога. Новыя свежыя анекдоты. Адзін з іх: Анатоль Астрэйка[9], амаль адзін з паэтаў застаўся ў Мінску. І вось А. Астрэйка ходзіць па вуліцах Мінска і даводзіць кожнаму сустрэчнаму: «Цяпер вы пераканаліся, што я адзіны паэт у Беларусі?»

Другі: В. Вітка і Я. Шарахоўскі зайшлі ў рэстаран паабедаць. За другім сталом аказаўся хтось з паэтаў. Быў адразу складзены верш: «Два манахі-капуцыны заказалі ў пост свініны».

Удзельнікі дэкады[10] вельмі задаволены прыёмам, які ім быў аказаны ў Маскве. У клубе Савета Міністраў літаратурным вечарам кіраваў А. Жараў[11]. Усе засталіся незадаволены ім. Сапраўды, што такое: «У іх ёсць і проза», або «ў іх ёсць і паэтэсы». У лепшым выпадку гэта глупства.

Удзельнікі засталіся незадаволены кіраўніком дэлегацыі. Гавораць, ён нават не ведаў у твар усіх удзельнікаў дэкады.

*22.2.49.*

Адбыўся пленум ЦК КП(б)Б. Усе былі здзіўлены, што сакратаром ЦК быў абраны Тамашэвіч замест Іаўчука. Студэнты адзываюцца аб ім як аб чалавеку абмежаваным, а тут сакратар ЦК па прапагандзе! Работнікі ЦК, пісьменнікі, рэдакцыі спакойна ўздыхнулі. Іаўчук надта быў патрабавальны і непакойлівы. Усе спадзяюцца, што пры Тамашэвічу будзе спакайней.

*27.2.49 г.*

Трэба працаваць са злом! Ад мяне, як і ад кожнага сапраўднага беларуса-інтэлігента патрабуецца як мага больш зрабіць для таго, каб схіліць масы ў бок любві да свайго роднага. Пераважаюць барскія адносіны з боку часткі інтэлігенцыі да беларускай мовы як да мужычай. Досыць саромецца яе!

*12.3.49.*

Яшчэ і яшчэ раз дакараю сябе ў бязволлі, рашаю адно — раблю другое. Паспрабую сёння да канца выканаць план.

*27.3.*

Зрабіць тое, што намечана! Адмовіцца ад выступлення ў тэатры: трэба пачаць з невялікай аўдыторыі. <…>

*6.6.49.*

Устаў. Было без 20 хв. шэсць. Сеў за працу і напісаў толькі адну старонку. Учора пасварыўся з Броняй. Не гаворым. На дварэ дождж: нарэшце дачакаліся. Праўда, не дужа добра, што холадна. Запрапанавалі білеты на юбілейны пушкінскі вечар у тэатр оперы і балета. Адмовіўся. Прачытаў першую частку «Вяснянкі» Т. Хадкевіча[12]. Рэч нудная, хваліць няма за што. Рад, што я зноў узяўся за сістэматычную работу. Чытаю Ушынскага і мне хочацца за ім паўтарыць: «Зрабіць як мага больш карысці маёй айчыне — вось адзіная мэта майго жыцця, і на яе я павінен накіроўваць усе свае здольнасці». У бліжэйшы час абавязкова скончыць аповесць і прыступіць да збору матэрыялаў. «Іркуцянка» мяне навучыла, што значыць працаваць над больш-менш буйной рэччу. У мяне атрымалася так, што я пачаў пісаць, нічога не маючы пад рукамі. Давялося збіраць матэрыялы ў працэсе працы.

*7.6.49.*

Устаў рана і ўзяўся за работу. Напісаў дзве старонкі — рад і гэтаму. Броня працягвае дуцца.

*8.6.49.*

Устаў як і заўсёды а 6 гадзіне. Не пісалася, абмежаваўся адным абзацам. Броня ўпарта дуецца і не хоча са мною гаварыць. Мне робіцца шкада яе. Ірыначка спіць: я яе накрыў і паехаў на працу. Жана пазвала мяне да тэлефона. Званіла Броня. У Ірынкі тэмпература 39,3°. Пряздждаю. Ірынка вясёленькая, гуляе і, як заўсёды, многа балбоча. Броня не дазваляе ёй сыходзіць на дол. Хутка прыходзіць мама. Я ўязджаю зноў на працу ў надзеі, што Ірынка крышачку прастудзілася і выклікаць урача пакуль што няма патрэбы. Уехаў з работы да часу. У Ірынкі былі рвоты. Праз гадзіны паўтары здарылася страшнае: яе схапілі працяглыя сутаргі, здавалася, яна канчаецца. Мы бегаем і не ведаем што рабіць. Броня губляе ўсякае самавалоданне, крычыць, плача, кідаецца на калені. Я таксама разгубіўся: босы, я чамусьці надзяваю жакетку, потым скідаю яе і кідаюся па туфлі, адным махам уссоўваю іх, не зашнуроўваючы, і лячу колькі маіх сіл з чацвёртага паверха ўніз к доктару Кацману. Бягу цераз вуліцу, стукаюся ў кватэру. На шчасце, адчыняе сам Кацман, штосьці яму крычу ўмольна. Ён не затрымліваецца і бяжыць разам са мною. Па дарозе гавораць, што Ірыначцы лепш. Але гэта толькі супакойваюць. Яна ляжыць без памяці, пасінелая, з шырока расплюшчанымі вачыма. Сабралася многа людзей. Броня сыходзіць з ума. Нада выклікаць хуткую дапамогу. Кацман затрудняецца паставіць дыягназ, але хутчэй за ўсё пнеўманія. Увозім у клініку. Ірынка яшчэ ў хаце пачала плакаць, бясконца плакала ў дарозе і прыёмніку. Памяць доўга не вярталася. Позна вечарам яна пазнала маму. Прыехалі папа з мамай, потым прыехала Іра з Інкай. Ірынка пачала спаць. Позна вечарам прыйшлі Галя і Роза даведацца аб Ірынцы.

*9.6.49.*

Раненька прыйшла мама. Сабраліся і паехалі. Ірыначка адчувае сябе лепш. Зайшоў у інстытут, але працаваць не мог. Яшчэ раз быў у клініцы. Броня паказвала Ірынку ў акно. Яна махала ручкай.

*9.8.49.*

Учора расказаў сюжэт аповесці Міколу Ракітнаму[13]. Яго водгук аб тэме і сюжэце быў выдатны. Гэта мне ўсяліла некаторую ўпэўненасць. Для мяне гэта вельмі патрэбна.

Абавязкова выкарыстаць гэты час для заканчэння аповесці. Правесці жнівень так, каб пасля не хварэць за сябе. Спыніць усякія перашкаджаючыя звычкі. Выпрацаваць дзелавітасць. Прэч гэту бязвольнасць! Строга прытрымлівацца распарадку дня і норм работы. Штодзённа пасля 10 гадз. вечара рабіць падлік праробленага і запіс у дзённік.

## 1950 ГОД

*1.1.50.*

На 1950 год у мяне вялікія надзеі: у гэтым годзе будзе надрукавана мая «Іркуцянка», у гэтым годзе я паступлю ў Саюз сав. пісьменнікаў і, здаецца, калі гэта здзейсніцца, я перайду цалкам на літаратурную работу.

Патрэбна ў гэтым годзе дамагчыся планавага выкарастання часу, вызываць у сабе патрэбную волю да дасягнення пастаўленай мэты.

1950 год павінен быць годам рашаючых поспехаў у рабоце.

Прыехала Валя, прабудзе ў нас усе канікулы.

<…>

*9.9.50.*

Чытаў аўтарэферат А. Семяновіча[14] да яго дысертацыі. Здзіўляюся непісьменнасці аўтара і адсутнасці, так патрэбнага аўтару, пачуцця да слова.

Збіраліся паехаць сёння з афіцэрамі з «Во славу Родины» на Палік па рыбу. Але нешта не з’явіўся сам арганізатар К. Кірэенка. Напэўна, надвор’е напалохала.

Валодзя Агіевіч учора яшчэ з’ехаў з А. Бялевічам. Гурскі незадаволены гэтым учынкам Агіевіча. Сёння ўваходзіць з калідора і звяртаецца да мяне: «У каго гэта сказана, што для рускага чалавека неабходна палка, а не дэмакратыя». Ілья Данілавіч сапраўды дэмакратычны чалавек, уступчывы і добры. Гэтым часам карыстаюцца некаторыя нашыя работнікі. Асабліва грашыць гэтым Агіевіч. Учарашняя адлучка на два дні зусім неапраўдана, таму што акрамя ўсяго, ён дзяжурны па нумары.

*10.9.*

Выхадны дзень. Займаўся гаспадарчымі справамі: накрываю толлю хлявушок, ладжу ў пограбе ларчык. Сёння апошні футбольны матч. Іграюць сёння з маскоўскім «Лакаматывам». Бягу, хоць пачынае ісці дождж. Перажываю правал нашай каманды: напэўна, перавядуць яе ў клас «Б». Нягледзячы на велькі дождж, гульня была цікавая. Нашы выйгралі з лікам 3:1. Але гэта перамога іх не выратуе. Засталося тры гульні, а маюць толькі 21 ачко. «Нефцянік» апратэставаў, было б 23. На стадыёне змок да ніткі.

*25.9.*

Прачытаў свой даклад аб мове на партыйным актыве інстытута. Мне здаецца, прайшло добра, але наогул не ўмею рабіць дакладаў — не ўмею перамагаць сябе, так як гэта павінен трымаць сябе выкладчык.

Прыйшоў у рэдакцыю Янка Маўр. Яго звычка не вітацца ні з кім і раптам задае пытанне: «Хто з вас самы сумленны?» Такія пытанні ў яго характары. Нешта раней ён запытаў: «Хто з вас самы разумны?» Яму трэба было даручыць каму-небудзь перадаць членскія ўзносы сакратару партарг. Гурскаму.

Чалавек можа здацца часам грубым альбо проста нявыхаваным, бо ён не ўмее знайсці мяжу паміж падхалімствам і ветлівасцю.

*29.9.50.*

Сёння пачынаю пробаваць сваю сілу волі. Перастаю курыць і строга прытрымлівацца рэжыму. Трэба пачаць з невялічкага задання і затым паступова павялічваць яго. Заўтрашні дзень — выпрабаванне сябе.

*13.12.50.*

Самая вялікая трагедыя чалавека — абломаўшчына. Яна заўсёды ідзе следам за адставаннем, ці, хутчэй, наадварот. Пасрэдны чалавек можа зрабіць цуда, калі ён умее кіраваць сабою, валодае талентам дзелавітасці. Самы таленавіты чалавек бяссільны што-небудзь стварыць, калі ён у палоне абломаўшчыны. Абломаўшчына — гэта не гультайства, гэта адсутнасць волі, мэтанакіраванасці і ўмення арганізаваць працу.

*14.12.*

Самы маленькі факт здолен нарадзіць глыбокія думкі. Сёння прачытаў артыкул акадэміка Масолава ў «Молодом колхознике». У сувязі з ім узнікла думка аб неабходнасці вядзення запісаў назірання, вопыту вырошчвання ўраджаяў на кожным канкрэтным участку.

*15.12.*

Лета 1951 года патрэбна абавязкова правесці ў раз’ездах. Узяць 1-2 камандзіроўкі, вывучыць Маскву і Ленінград, пабыць у музеях і выстаўках і на вопытных палях. Такім чынам, Масква, Ленінград, Крым і Каўказ, Акадэмія Ціміразева, Мічурынск.

Патрэбна аглядзець і свае, беларускія, доследныя станцыі: Лошыца, Зазер’е, сад Сікоры і інш.

## 1951 ГОД

*1.1.1951.*

Мінуў год. Падсумоўваць няма чаго. Аднак тое нязначнае, што зроблена за 1950 год, з’явіцца асновай для далейшай напружанай работы. Я скончыў аповесць і атрымаў папярэдне станоўчую ацэнку. Гэта ўнясе ў маю работу неабходную долю ўпэўненасці. Дамогся запланавання дэсертацыйнай тэмы, напісаў некалькі нарысаў, артыкулаў.

1951 год трэба правесці ў вялікай напружанай рабоце. Працаваць па строга вызначаным плане.

*11.1.51.*

Вычытаў карэктуру аповесці. Як удачна яна выскачыць з друку. Сёння ўвайшоў у рэдакцыю М. Танк і з абурэннем расказаў, што Казлоў[15] пазваніў, каб давалі ў «Полымі» яго запіскі. Гэта прымусіць адкласці надалей раман Лынькова.

Валодзя Агіевіч зноў забіў дзіка. Размовы ў рэдакцыі змяніліся на тэму паляўніцтва.

Часопіс наш, здаецца, прымае палепшаны выгляд. Вось што значыць слова Маленкова.

Далі магчымасць працаваць над дысертацыйнай тэмай.

## 1952 ГОД

*11.3.52.*

Набліжаецца трэцяя сусветная вайна[16]. У Карэі і паўночным Кітаі амерыканцы выкарысталі бактэрыялагічную зброю. Буду рабіць падрабязныя запісы ўсяго, што адбываецца вакол напярэдадні вайны.

Працую над дысертацыяй. Ганяюць здаваць аповесць у выдавецтва. Не маю часу ўзяцца за яе перапрацоўку.

У гэтым годзе амаль не было зімы. Марозы за 10 градусаў пачаліся толькі ў сакавіку. Цяпер стаіць цудоўная пагода: маленькі марозік і сонца. У інстытуце нельга сядзець ад жары.

*18.3.52.*

Першы дзень падняўся пасля тыднёвай хваробы. У Мінску страшэнны эпідэмія віруснага грыпу. У нас перахварэлі ўсе, а Людачка аж два разы.

Паехаў на працу. Холад жудасны. Усю зіму было цёпла, а вясной ударылі марозы. Ноччу даходзяць да 20° і больш. Сёння моцны паўночны вецер. За маім рабочым сталом нельга сядзець. Дзьме з вакна. У Акадэміі добра — цёпла. Галіна Дзмітр. таксама сёння выехала. Я з ёю гавару, і яна ўжо задаволена, нават вясёлая.

Убачыў Ігната Дуброўскага[17]. Сустрэча з ім для мяне з'яўляецца нейкай светлай хвілінай. Паехалі разам на Пленум Саюза Сав. пісьм.

У Саюзе як звычайна цесна. Броўка зрабіў доўгі, перасыпаны агульнымі трафарэтнымі і прымітыўнымі фразамі даклад. Пакрытыкаваў двума словамі і мяне. Па яго словах суджу, што ён аповесці яшчэ і не чытаў. Яго словы, у якіх гучаць абыякавасць і грэбаванне, выклікалі ў мяне страшны сум. Хочацца пісаць страшную сатыру на ўсіх бяздарнасцей, на кар'ерыстаў, якія ніякай карысці не прыносяць, а толькі шкоду.

Шчыра, ад усяе душы паціснуў руку Янку Брылю! Заслужана атрымаў прэмію. Талент! Не магу сказаць гэта пра Шамякіна.

Дамовіўся з Кулакоўскім пра тэрмін для падрыхтоўкі даклада на секцыі прозы.

Сёння выканаў свой рабочы план. Радасць. Трэба штодзённа выконваць. Выпрацаваць жалезную волю і дзелавітасць!

*20.3.52.*

Учора скончыўся пленум Саюза сов. пісьм. БССР. Уражанне засталося надта няважнае. Глядзелі з Броняй «Тарзан у пастцы». Якое глупства! Зноў захварэла Людачка. Ніяк не вырвацца з гэтых хвароб. Броня вельмі перажывае. Ёй і праўду дастаецца. Хутчэй бы Людачка паднялася, каб можна было іх пакідаць адных. Узяўся пісаць даклад аб мове на секцыі прозы. Усё яшчэ хістаюся: выдаць мне кніжку ці не выдаваць. Не, усё-такі патрэбна крыху перарабіць і выдаць.

*21.3.52.*

Прагледзеў часопіс «Русский язык в школе» за 1947—48 гады. Скончыў сваю частку «Р». К. К. захварэў грыпам. Гэта нават неяк дзіўна. Звычайна ён скептычна адносіцца да хвароб, а тут сам злёг. Прыехаў дадому ў 8 гадз. Людачка на руках у бабушкі з высокай тэмпературай. Броня таксама ляжыць хворая. Давялося выклікаць урача Слаботкіну прыватным чынам. Людачка ўжо звыклася з дактарамі і асаблівых прытвораў не праяўляла. Заплаціў 35 рублёў ганарару. Врачы бедна жывуць, і яны з ахвотай наведваюць хворых прыватным чынам.

Быў Генік. Ён вучыцца за слесара на аўтабазе ў Слуцку. Прыехаў купіць хлеба і булак. Ніна наладжвае вечар (уваходзіны). Думае сазваць многа гасцей. Запрашае нас.

З'явілася нарэшце і Аня. Знайшла сабе кватэру, працуе.

*22.3.52.*

Пасядзеў крыху ў Інстытуце. Абмяняў часопісы. Зайшоў у выдавецтва. Лапіцкая паабяцала ў красавіку выплаціць грошы. З ганарарам цяпер туга. Банк не дае грошай. У магазінах вельмі малыя выручкі ў сувязі з адсутнасцю прадук-

таў. Гаворáць, што з 1 красавіка будзе зніжэнне цэн. Тлумачаць гэта тым, што 5 красавіка адкрываецца Міжнародная эканамічная нарада ў Маскве.

У маіх хворых тэмпература ніжэй нармальнай. Адчуванне значна лепшае. Врач сказала, калі будзе павышацца тэмпература, увесці пеніцылін. Цяпер самы модны сродак. Выкарыстоўваюць яго ў выглядзе мазі, капель і падкожных ін'екцый. Здаецца, слава богу, не патрэбна будзе ўводзіць. Врач пакінула адрас сястры на ўсякі выпадак, якая зможа дапамагчы — зрабіць уколы. Казакевіч Ніна, Прывакзальная 41/1. Казакевіч? Ці не сястра тае Казакевіч, што вучылася перад вайной на філфаку, а ў час вайны, кажуць, збегла з немцамі?

Праходзіць нарада па крытыцы. Газеты «Звязда» і «Советская Белоруссия» змясцілі зусім не тое, што сказаў Грыцак пра маю аповесць. Відаць, для таго, каб не разыходзілася з думкай Гарбунова. «ЛіМ» зусім здаў.

*26.3.52.*

Грашовыя справы ў мяне ў катастрафічным стане. Усюды ў даўгу. Учора паведамілі, што ў гэтым месяцы няма надзеі на атрыманне ганарару. Настрой цяжкі і звяртацца да Ігната, хоць ён і ад усёй душы запрапанаваў дапамогу, не хочацца. Можа, як выкруцімся.

Апавяданне «Сябры» без майго ведама аддалі ў «Бярозку».

*18.6.52.*

Ужасны выпадак — сёння на гары Акадэміі павесілася Ніна Яцкевіч. Заўважыла рабочая. Знялі, але ўжо было позна.

Цэлы дзень быў працоўны настрой.

Грошай ні капелькі. Абяцаў Броні пайсці да <…>, але гэты выпадак памяшаў. Можа, як-небудзь перакідаемся да панядзелка, а там ганарар у «ЛіМе», а калі спраўдзяць, то і ў Вучпедгізе.

Больш так рабіць нельга. Трэба, каб грошы былі. Вельмі перашкаджае бязволле. Сёння ўстанаўліваю самую жорсткую дысцыпліну. <…>

Адбылося паседжанне бюро секцыі прозы па пытанню вылучэння кандыдатаў на Сталінскую прэмію. Вылучылі Лынькова, Паслядовіча і Казлова.

*23.7.*

Учора наша каманда прайграла футбольнае спаборніцтва на алімпійскіх гульнях у Фінляндыі[18]. Лік 1:3 на карысць югаслаўскай каманды. Сёння толькі і гаварылі ўсюды пра гэта. У аўтобусе сустрэў доктара Кацмана. Мяне здзівіла яго кампетэнтнасць у футболе. Ён ведае саставы амаль усіх каманд класа «А», не гаворачы ўжо аб зборнай. Перажывае і Суднік, гатоў па гэтаму поваду гаварыць цэлымі гадзінамі.

Трэба абавязкова працаваць па плану: гэта вымагае дзелавітасці, прывучае да дысцыпліны, трэніруе волю і выпрацоўвае іншыя добрыя якасці. Трэба было б абавязкова вывесці вобраз такога выхоўваючага сваю волю кіраўніка на планавай рабоце.

*12 жніўня.*

Даспявае мак. Ужо напалавіну макаўкі фіялетавыя. <…>

Пасярэдзіне маку стаіць белагаловы хлапчук. Яму не больш чатырох год. Ён доўга не можа справіцца з макавінай, нарэшце зубамі адкусвае макаўку. Там жа сярод маку ён пракалупвае яе і высыпае мак у руку. Але вось ён пачуў крокі і прысеў. Прыкмета таго, што мак забаронена зрываць.

*13 жніўня.*

Настала мая самая любімая пара. Неба чыстае і блакітнае, але не такое, як у чэрвені. Яно нечым нябачным зацягнута, ад гэтага блакітнасць нясвежая. Але гэта нікольі не шкодзіць агульнаму ўражанню. Наадварот, яно здаецца цёплым і мяккім.

Сям-там воблакі белыя, як вата, нерухомыя і маленькія.

Яшчэ ўсё зялёнае. На вішняку цяжка знайсці пажоўклы лісток. Ён — цяпер вызваліўшыся ад пладоў, як жанчына, адпусціўшая дзяцей, здаецца робіцца мажным, купчастым. Скрозь яго густое лісце працінаюць на стол зайчыкі сонца. Здаецца, лісце не пашавеліцца, а зайчыкі на стале гуляюць. Яшчэ ў расколіне зрэдку знойдзеш засохлую вішню з хвосцікам.

На полі яшчэ цвіце бульба. Малачай распушыўся гразнай ватай і бясконца многа конікаў.

Бесклапотна гуляюць ластаўкі. Разам з маладымі. Іх многа-многа.

*13 жніўня.*

Самы чуткі да руху паветра — гэта ліст таполі або асіны. На двары няма нікога, толькі мухі гудуць ды ластаўкі пяюць, гуляючы з маладымі, а лісток на таполі трапечацца. Не дарма кажуць — дрыжыць як асінавы лісток.

Толькі пачалі лятаць ластавяняткі. Генік ходзіць, задраўшы галаву, збівае іх яблыкамі з дрэў. Яны, мабыць, затаміўшыся, часта садзяцца на галінкі дрэў. Прынясіў у руках. Мы іх разам пускалі.

***(БДАМЛМ, фонд 148, вопіс 2, справа 110).***

## КАМЕНТАРЫІ

[1] Бірыла Мікалай Васільевіч (10.IX.1923—1.X.1992) — беларускі мовазнавец, акадэмік АН Беларусі (1977), доктар філалагічных навук (1969), прафесар (1971), заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). У час Вялікай Айчыннай вайны ўдзельнічаў у партызанскім руху. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны» (1976), медалямі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1971) за ўдзел у комплексе прац па беларускай лінгвагеаграфіі.

[2] Міхоэлс Саламон Міхайлавіч (сапраўднае прозвішча Воўсі, 1890 — 1948) — савецкі яўрэйскі акцёр і рэжысёр, педагог, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Адзін з арганізатараў Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра ў Маскве, кіраўнік Яўрэйскага антыфашысцкага камітэта (1942—1948), член мастацкай рады Камітэта па справе мастацтваў пры Савеце Народных Камісараў СССР (з 1939), народны артыст СССР (1939), лаўрэат Сталінскай прэміі (1946). Забіты супрацоўнікамі МДБ у пачатку антысеміцкай кампаніі, арганізаванай за некалькі гадоў да смерці Сталіна.

Згодна самай распаўсюджанай версіі, прыехаў у Мінск з Масквы 8 студзеня 1948 года, каб паглядзець спектаклі, два з якіх прэтэндавалі на Сталінскую прэмію: «Заслонава» ў Рускім тэатры, «Алесю» ў Оперным і «Тэўе-малочніка» ў Беларускім дзяржаўным яўрэйскім тэатры. 12 студзеня ўвечары Міхоэлса і літаратара Голубава (у Лобана напісана Голуба) схапілі супрацоўнікі МДБ, завезлі на дачу Цанавы ў Сцяпянцы, забілі і раздушылі там коламі грузавіка, а потым выкінулі трупы на вуліцы Беларускай. Кіраваў аперацыяй генерал МДБ Агальцоў.

[3] Іаўчук Міхаіл Трыфанавіч (1908—1990) — вучоны, філосаф, партыйны дзеяч Беларусі, член-карэспандэнт АН СССР, замежны член Балгарскай АН.

[4] У 1949 годзе выйшла кніжка Аляксея Кулакоўскага «Гартаванне».

[5] Бархудараў Сцяпан Георгіевіч — савецкі педагог, лінгвіст, спецыяліст па граматыцы і лексіцы рускай мовы, прафесар (1932), член-карэспандэнт АН СССР (1946), рэдактар шматтомнага «Словаря руского литературного языка».

[6] У 1948 годзе выйшаў другі зборнік апавяданняў Івана Мележа «Гарачы жнівень».

[7] «Победа» — культавы савецкі легкавы аўтамабіль, які серыйна выраблялі на Горкаўскім аўтамабільным заводзе ў 1946—1958 гг. Заводскі індэкс мадэлі — М-20.

[8] Шахавец Уладзімір Міхайлавіч ( 28.XI.1918—8.VI.1991) — беларускі пісьменнік і перакладчык. Заслужаны работнік культуры (1979). Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. У 1937 годзе скончыў Магілёўскі рабфак і паступіў на фізіка-матэматычны факультэт БДУ, які скончыў у 1946 годзе. У 1945 годзе — у дзеючай арміі на 1-м Украінскім фронце. У 1946—1948 — літсупрацоўнік газеты «ЛіМ», з 1948 — рэдактар, загадчык рэдакцыі,

намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва «Беларусь», з 1972 — намеснік галоўнага рэдактара, а з 1976 па 1982 — загадчык рэдакцыі выдавецтва «Мастацкая літаратура». Член Саюза пісьменнікаў СССР (1947). Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны І ступені, медалямі. Заслужаны работнік культуры БССР (1979).

[9] Астрэйка Анатоль (Акім Пятровіч Астрэйка; 24.VI.1911—23.VIII.1978) — беларускі пісьменнік, паэт-песеннік. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Скончыў двухгадовыя настаўніцкія курсы пры Мінскім беларускім педагагічным тэхнікуме (1930), вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута (1932—1934). З 1930 года працаваў у газетах Полацка, Оршы, Горак, Мінска. Член Саюза пісьменнікаў СССР з 1939 года. Падчас Вялікай Айчыннай вайны быў адказным сакратаром сатырычнай газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». Двойчы (1942, 1943) накіроўваўся на акупіраваную тэрыторыю Беларусі. У 1946—1948 — старшыня Гродзенскага аддзялення СП БССР, у 1948—1953 — адказны сакратар часопіса «Вожык». Узнагароджаны ордэнамі Чырвонай Зоркі, «Знак Пашаны» і медалямі.

[10] Газета «ЛіМ» ад 24 студзеня 1949 года пісала: «24 студзеня ў Маскву прыбылі ўдзельнікі Дэкады беларускай літаратуры: народны паэт БССР Якуб Колас, К. Крапіва, П. Броўка, А. Куляшоў, М. Танк, П. Глебка… На дэкаду прыехалі і работнікі мастацтва Беларусі: народная артыстка СССР і БССР Л. Александроўская, народныя артысты БССР М. Дзянісаў, І. Балоцін, Р. Млодэк…»

[11] Жараў Аляксандр Аляксеевіч (13.IV.1904—07.IX.1984) — рускі савецкі паэт. Вучыўся ў МДУ, займаўся на паэтычным семінары Валерыя Брусава. Пачаў друкавацца з 1921 года. Самым папулярным яго творам стала паэма «Гармонь» (1926). У гады Вялікай Айчыннай вайны знаходзіўся ў дзеючым ваенна-марскім флоце. Напісаў шмат патрыятычных вершаў і паэм. Узнагароджаны 4 ордэнамі і медалямі.

[12] Хадкевіч Тарас Канстанцінавіч (1912—1975) — беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры БССР (1972). Член Саюза пісьменнікаў СССР (1947). Вучыўся ў Полацкім педагагічным тэхнікуме (1927—1929). З'яўляўся ўдзельнікам літаратурнага аб'яднання «Маладняк». Працаваў у газетах «Чырвоная Полаччына» (1929—1931), «Чырвоная змена» (1933—1934), «Звязда» (1936—1941). У Вялікую Айчынную вайну ў якасці камандзіра ўзвода прымаў удзел у баях пад Вялікімі Лукамі, Тарапцом. У канцы верасня 1941 года быў паранены і трапіў у палон. Удзельнічаў у інтэрнацыянальным руху Супраціўлення на тэрыторыі Германіі. У пачатку мая 1945 года збег з палону. Працаваў у газетах «Звязда» (1945—1950), «Літаратура і мастацтва» (1950—1951), літкансультантам Саюза пісьменнікаў Беларускай ССР (1953—1972).

[13] Ракітны Мікола (сапр. Новікаў Мікалай Ісакавіч; 15.IV.1920—2000) — беларускі празаік. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Скончыў пачатковую школу. У 1935—1938 гадах вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы, пасля якога два гады быў слухачом мастацтвазнаўчага аддзялення Акадэміі мастацтваў. У 1939—1946 гадах у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнічаў у баях на Цэнтральным і Паўднёва-Заходнім франтах. Быў паранены. Пасля дэмабілізацыі працаваў мастаком і літработнікам газеты «Звязда» (1946—1967), рэдактарам аддзела літаратуры і мастацтва часопіса «Беларусь» (1967—1980). Узнагароджаны медалямі і Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

[14] Семяновіч Антон Аляксандравіч (5.VIII.1917—25.VIII.2000) — беларускі літаратуразнаўца. Нарадзіўся ў вёсцы Шабунеўшчына Дзяржынскага раёна ў сялянскай сям'і. Сям'я бацькоў, як серадняцкая, была раскулачана і выслана ў Котлас Архангельскай вобласці, затым у г. Вялікі Усцюг. А. Семяновічу, як непаўналетняму, дазволілі вярнуцца на радзіму, і ён жыў у сваякоў у в. Крупіца каля Мінска. Маці памерла ў высылцы. Працаваў на заводзе Варашылава ў Мінску (1934—1938). У 1938 годзе паступіў у Мінскі педінстытут на літаратурны факультэт, дзе правучыўся да 1941 года. Напачатку вайны працаваў у сельскай гаспадарцы, з кастрычніка 1943 года — сувязны партызанскага атрада імя Фурманава брыгады Ракасоўскага на Дзяржыншчыне. Пасля вайны быў настаўнікам у Івацэвічах, вучыўся ў аспірантуры Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН Беларусі, працаваў малодшым, затым старшым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР (1949—1963). З 1963 года — на выкладчыцкай рабоце ў Мінскім педагагічным інстытуце: дацэнт кафедры рускай і замежнай літаратуры, з 1971 года — загадчык кафедры беларускай літаратуры. З 1992 года — прафесар-кансультант гэтай кафедры. Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны II ст., медалямі.

[15] Казлоў Васіль Іванавіч (18. II. 1903—2. XII. 1967) — партыйны і дзяржаўны дзеяч, Герой Савецкага Саюза (1. IX. 1942), генерал-маёр (1943). Член КПСС з 1927 года.

У 1929—1933 вучыўся ў Камуністычным універсітэце імя Леніна. З 1940 намеснік старшыні СНК БССР. Напачатку Вялікай Айчыннай вайны быў пакінуты ў тыле ворага ўпаўнаважаным ЦК КПБ па арганізацыі партызанскага руху. З красавіка 1941 другі, з ліпеня 1941 — першы сакратар Мінскага падпольнага абкама КПБ і камандзір Мінскага партызанскага злучэння, адначасова з ліпеня 1944 — першы сакратар Мінскага гаркама КПБ. З 1947 старшыня Вярхоўнага Савета БССР. Са студзеня 1948 — старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Член ЦК КПСС з 1966. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР 2—7 скліканняў. Узнагароджаны пяццю ордэнамі Леніна, ордэнам Чырвонага Сцяга і Працоўнага Чырвонага Сцяга, двума ордэнамі Айчыннай вайны I ст. і медалямі.

Аўтар некалькіх мемуарных твораў. Сярод іх: «Верны да канца», «Людзі асобага складу», «Сэнс яго жыцця».

[16] Карэйская вайна 1950—1953 — баявыя дзеянні на Карэйскім паўвостраве паміж узброенымі сіламі Паўночнай Карэі пры падтрымцы СССР і КНР з аднаго боку і войскамі Паўднёвай Карэі пры падтрымцы ЗША і амерыканскіх саюзнікаў пад эгідай Савета Бяспекі ААН з другога. У гэтай вайне па розных ацэнках загінула ад 3 да 5 мільёнаў чалавек, была разбурана гаспадарка, моцна пацярпелі ўсе гарады. За маштаб супрацьстаяння, у які былі ўцягнуты мацнейшыя краіны свету, вайна часам афарыстычна называецца «Трэцяй сусветнай карэйскай вайной».

[17] Дуброўскі Ігнат (сапр. Ігнат Цімафеевіч Чарняўскі; 4.IX.1906—2003) — беларускі празаік, паэт, нарысіст. Навуковец у галіне сельскай гаспадаркі. Кандыдат сельскагаспадарчых навук (1937), заслужаны работнік культуры БССР (1981). У 1928—1929 годзе служыў у Чырвонай Арміі. Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію ў Горках (1931) і аспірантуру пры Усесаюзным інстытуце эканомікі сельскай гаспадаркі ў Маскве (1937). З 1937 года — загадчык сектара аграрных праблем Інстытута эканомікі АН БССР. На пачатку Вялікай Айчыннай вайны пайшоў на фронт, камандаваў батарэяй. Быў цяжка кантужаны і паранены пры абароне Масквы. Трапіў у палон, знаходзіўся ў канцлагеры ў Франкфурце-на-Майне. У 1945—1976 зноў загадваў сектарам аграрных праблем Інстытута эканомікі АН БССР. Узнагароджаны ордэнамі «Знак Пашаны», Дружбы Народаў, Айчыннай вайны II ступені і медалямі. Заслужаны работнік культуры БССР (1981).

[18] Перад другім матчам з югаславамі ігракам зборнай СССР была зачытана тэлеграма Сталіна з тлумачэннем магчымых наступствах паразы ад югаславаў у свеце палітычных адносін паміж краінамі. Пройгрыш з лікам 1:3 меў трагічныя наступствы для многіх ігракоў і трэнераў. Каманда ЦДСА, ігракі якой былі асновай зборнай, 8 верасня 1952 года была расфарміравана. Футбалістаў Крыжэўскага, Башашкіна, Бескава, Пятрова і Нікалаева пазбавілі званняў майстроў спорту і дыскваліфікавалі на год.

***Апрацоўка тэксту і каментарыі Аляксандра ВАШЧАНКІ.***

# НЕ РАЗМІНУЦЦА З АТЛАНТЫДАЙ КЛАСІКІ

## «Круглы стол» па выніках акцыі «Топ-10 любімых твораў беларускай класікі»

*Пачынаючы з кастрычніцкага нумара за мінулы год, у «Полымі» друкуюцца матэрыялы «Дыскусіі». Рашэнне аб неабходнасці ўвядзення такой рубрыкі прадыктавана часам, акалічнасцямі развіцця мастацкага працэсу. Шмат наспела пытанняў, паспяхова вырашыць якія не атрымоўваецца ўжо некалькі дзесяцігоддзяў. Але, як кажуць аптымісты: «Калі няма рашэння, гэта не значыць, што яго няма. Гэта значыць, што ў вас не было сіл яго пачуць». Дзе ж можна знайсці адказ? Вядома, у размовах з людзьмі дасведчанымі і крэатыўнымі. Ісціна там, дзе сутыкаюцца некалькі супрацьлеглых меркаванняў. Той, хто валодае больш трывалай аргументацыяй, перамагае (калі толькі не маем справу з антыноміямі), але паслухаць цікава ўсіх. Каб навучыцца мысліць нестандартна, каб сфарміраваць уласны погляд на сітуацыю, каб не «загразнуць у балоце прызнаных аўтарытэтаў». Таму і абіраюцца ў якасці дыскусантаў людзі зусім розныя... Па ўзросце, прафесіі, нацыянальнасці. Выказваліся на старонках часопіса пісьменнікі, літаратуразнаўцы і тэатральныя крытыкі з Беларусі, Расіі, Украіны, Казахстана, Даніі. Пра лёс літаратурных часопісаў і часопісаў па мастацтве, пра дзіцячую літаратуру. Зараз маем справу з праблемай яшчэ больш складанай і глабальнай. Пры абмеркаванні вынікаў акцыі «Топ-10 любімых твораў беларускай класікі» заканамерна ўзнікаюць пытанні «Што з літаратурнай спадчыны бяруць беларусы ў дзень сённяшні?», «Што чытаюць з сучаснага?», «Як суадносіцца «распіяранасць» і мастацкі густ?», «Ці ёсць будучыня ў элітарнай літаратуры?», «Якой павінна быць літаратура масавая?» і безліч іншых. Уздымаліся яны падчас «круглага стала» па выніках акцыі, які праходзіў на філалагічным факультэце БДУ. Прыемна здзівіла актыўнасць не толькі выкладчыкаў (вядомых у краіне навукоўцаў), але і студэнтаў. Прычым чуліся ад іх важныя рэкамендацыі па ўзвышэнні прэстыжу літаратуры на беларускай мове, паляпшэнні школьных праграм, заўвагі наконт метадалогіі правядзення анкетавання. Вядомы псіхолаг Д. Дэрнер пры вырашэнні праблем раіць карыстацца наступным правілам: «Уявіце, што вы гуляеце ў шахматы, але ў асаблівыя. Калі вы робіце ход, то, паколькі ўсе фігуры звязаныя, вы перамяшчаеце ўсе іх разам». Цешыць, што ёсць людзі, якія выдатна разумеюць, што літаратурную сітуацыю вызначаюць не толькі пісьменнікі. Складанне planаў выдавецтвамі, цытаванне твораў журналістамі і інтэрв'ю з тымі ці іншымі пісьменнікамі, правядзенне ўрокаў літаратуры ў школе і нават звычайнае набыццё кніг у краме — кожнае з названых дзеянняў не можа не ўваходзіць у ланцужок складаных прычынна-выніковых сувязей.*

*Ніжэй чытачы могуць азнаёміцца з вынікамі «круглага стала», пагадзіцца ці не пагадзіцца з думкамі яго ўдзельнікаў, а таксама выступіць у якасці апанентаў. «Размова толькі пачынаецца», — выказала спадзяванне кандыдат філалагічных навук Лада Алейнік. Добры пачатак — палова справы, але як будзе развівацца «Дыскусія» далей, залежыць ад кожнага. Мы ж усе звязаныя...*

***Юлія АЛЕЙЧАНКА***

**Таццяна ШАМЯКІНА, прафесар**

## ЗАКАНАМЕРНАСЦЬ ЦІ ПАРАДОКС?

Знаёмячыся з вынікамі акцыі «Любімыя творы беларускай літаратуры XX стагоддзя», міжволі задумваешся: ці ўсё ў выніках апытвання чытачоў заканамерна, і, значыць, наш народ, выбраўшы найбольш важныя для яго нацыянальнага быцця творы ў прыгожым пісьменстве, у чарговы раз прадэманстраваў сваю мудрасць, ці ўсё ж такі мы маем справу з нейкім культуралагічным парадоксам, скажам, у дачыненні да сучаснай літаратуры: чаму ёю не вельмі цікавяцца, чаму ў бясспрэчна таленавітых аўтараў называюць якраз не лепшыя іх творы? Тут ёсць над чым паразважаць.

І ўсё ж найбольшы непакой выклікае веданне нашымі чытачамі, і найперш малодшым пакаленнем, *класікі*. Адносна класічных твораў, веліч якіх бясспрэчная, чакалася ад суайчыннікаў большага. Вопыт развіцця некаторых краін і рэгіёнаў на мяжы стагоддзяў (Японія, Кітай, ісламскі свет) паказвае, што самыя сучасныя тэхналогіі, літаральна бліскучыя прарывы ў навуцы і тэхніцы дасягаюцца на аснове беражлівага і любоўнага стаўлення народаў да сваёй уласнай культурнай спадчыны. Так і беларусам варта было б лепш ведаць уласны, родны Беларускі космас. А пачынаць неабходна з усенароднага шанавання выдатных людзей Беларусі, найперш яе творцаў.

Выказваючыся пра вынікі акцыі, хацелася б яшчэ і яшчэ раз нагадаць значэнне нашай літаратурнай спадчыны, з указаннем канкрэтных дасягненняў тых ці іншых аўтараў, маючы на ўвазе, што вынікі нашага аналізу прачытаюць настаўнікі, бібліятэкары, прапагандысты роднага слова. Можа, нашы, літаратуразнаўцаў, думкі дапамогуць ім у іх высакароднай працы, ды і нам адкрыюць магчымасць асэнсавання даўно вядомых твораў па-новаму, з вышыні сучаснасці з яе ўсё больш вострымі супярэчнасцямі.

Заканамерна, што сярод любімых у народа твораў **Янкі Купалы** — камедыя «Паўлінка» (хоць на самай справе гэта трагікамедыя). Безумоўна, п’еса — наша найвялікшая нацыянальная каштоўнасць (не цярплю пошлых замежных слоў, тыпу «брэнд»), і згадваць твор, імя гераіні, асобныя рэплікі з п’есы мы ўсе павінны (тым больш, што робім гэта з задавальненнем) у самых розных сітуацыях і як мага часцей. У Іране не інтэлігенты, а самыя простыя людзі, звычайныя працаўнікі — земляробы і рабочыя, ведаюць на памяць тысячы радкоў сваіх класічных паэтаў — Рудакі, Хайяма, Саадзі, Хафіза. Нам да іх вельмі і вельмі далёка. Тут і паўстае пытанне: якая нацыя больш культурная? У Беларусі ні міністэрствы культуры і асветы, ні журналісты не клапоцяцца пра такую ж, як у Іране, папулярнасць нацыянальных скарбаў. Між тым кожны беларус, пачынаючы са школьнікаў, павінен лічыць сваім *нацыянальным абавязкам* паглядзець спектакль «Паўлінка». Тым больш, што гэта крыніца той сапраўднай радасці, якая літаральна ўздымае чалавека на новую вышыню, а не толькі дае адпачынак у нейкай нашай бязмэтавай жыццёвай мітусні. Дзеянне ў спектаклі надзвычай дынамічнае, шмат дасціпных выразаў, надзвычай каларытныя характары. Найперш гэта характар самой гераіні — дзяўчыны, якая ўвасабляе Маладую Беларусь, гордай, незалежнай, дасціпнай, умелай, працалюбівай. Асноўны канфлікт твора — паміж розумам і пачуццём. Другі канфлікт — бацькоў і дзяцей, таксама з разраду вечных.

Засмуціла малая папулярнасць **Максіма Багдановіча**. Неяк не верыцца. Ведаю сотні людзей, у якіх М. Багдановіч — любімы паэт. І ў мяне — таксама.

Асноўная тэма творчасці Багдановіча — *прырода і культура ў іх суаднесенасці і ва ўзаемапранікненні*. Ён жыў сярод вобразаў мінулага («хоць душой у прошлым патануць»), спачываючы ў ім ад жыццёвага (сацыяльнага, сямейнага, бытавога) бязладдзя, і часта разважаў пра тое, што знаходзіцца за краем часу і прасторы. У яго прыхільнасць да вечаровых і начных пейзажаў, што можна тлумачыць *рамантычным* светаадчуваннем паэта — усе рамантыкі любілі ноч, бо

толькі ноччу можна адчуць дыханне Вечнасці, засяродзіцца, як бы падключыцца да рытмаў Космасу, проста марыць.

Прыцягвала яго і водная гладзь, *глыбіня*. У Багдановіча — асаблівая прыхільнасць да азёраў («Возера», «Над возерам» і пад.), а Беларусь жа — азёрная краіна. Дзе, як не ў сувязі з нашымі «блакітнымі вачамі» (хоць бы ў дачыненні да турыстычных праспектаў), згадваць радкі М. Багдановіча?!

Звычайна возера ў творах Багдановіча звязана з міфалагічным вобразам лесуна. У вобразе ляснога духа ў трактоўцы паэта шмат *загадкавага*. Напрыклад, менавіта возера — люстэрка чамусьці лесуна, а не вадзяніка. Пры гэтым у шэрагу вершаў лясун — стары, нямоглы, хоць у «Хрэсьбінах лесуна» ён як бы адроджаны, весела калышацца ў небе, і яго ў нябеснай купелі хрысціць месяц. Таямніцай застаецца, ці можна «душу дзікую» ахрысціць, і ў чым сэнс такога хрышчэння, якое пазначана менавіта хрысціянскімі атрыбутамі — купеллю, крыжамі ялін? Лясун — душа лесу — валодае мудрасцю, таму ён і стары, уласна як старымі заўсёды былі язычніцкія жрацы-вешчуны. Прычым, нягледзячы на старасць, лясун «усім калышэць, дзвіжэць у бару». Увогуле, немагчыма ўявіць маладым лесавіка, калі ён жыве з невядома якой далёкай даўніны. Старасць міфалагічных істот у Багдановіча гаворыць пра іх архаічнасць, нязменнасць і паўсюднасць. Калі ж лесавік загінуў, бо вырубілі стары бор, то пакінуў пасля сябе возера-люстэрка — уваход у іншасвет: «Як у нязнаны свет акно, // Ляжыць, халоднае, яно, // Жыццё сабою адбівае // І ўсё, што згінула даўно, // У цёмнай глыбіні хавае». Менавіта ў іншым вымярэнні, паводле Багдановіча, цяпер жыве лесавік, раз для яго не аказалася месца на зямлі. На дне ракі ці возера, значыць, у адлюстраваным свеце, як бы «свеце наадварот», ляжыць і вадзянік («Вадзянік», «Асенняй ночай»). Сёння размовы пра іншыя вымярэнні, пра мультысусвет — адна з самых модных тэм у навукова-папулярных выданнях і на форумах інтэрнэту. А М. Багдановіч дзякуючы сваёй мастакоўскай інтуіцыі даўно ведаў пра існаванне іншасвету.

Так, адносна неміфалагічных істот, што ўвасаблялі прыроду, а чалавека Багдановіч-хрысціянін спадзяваўся, што «напоўненая» думкамі, пачуццямі чалавечая душа згінуць проста так, зусім без следу, не можа, таму і заклікае свайго чытача: «Жыві і цэльнасці шукай, // Аб шыраце духоўнай дбай. // І ў напружанні паўнаты // Свайго шырокага жыцця // Без болю, ціха зойдзеш ты // У краіну забыцця». Гледзячы на свет, Багдановіч уносіў яго ў душу, як бы уносіў Бога: нейкую незалежную ад нашага «я» светлую рэальнасць. Ва ўсіх сваіх вершах міфалагічнага цыкла, а таксама прыродаапісальных Багдановіч выступае як паэт-пантэіст, для якога Бог раствораны ў прыродзе, Бог і ёсць прырода. Гэта зноў-такі філасофія рамантызму. І адначасова вельмі *нацыянальная філасофія, нацыянальная рэлігія*, для якой характэрныя набажэнствы на прыродзе, хрэсныя хады, ушанаванне зорак, святых крыніц, дрэў.

Ідэал чалавека для Багдановіча — Мадонна. Копія з карціны Рафаэля «Сікстынская мадонна» вісела ў яго над ложкам. Багдановіч ставіўся да жанчыны ўзвышана. Перш за ўсё ён шанаваў жанчыну-маці, цаніў у жанчыне чысціню і адданасць. У Беларусі сёння адраджаецца культ Маці, але гэта — на дзяржаўным, заканадаўчым узроўні. Неабходна, каб ён літаральна авалодаў свядомасцю моладзі, бо ім належыць берагчы родную краіну, падтрымліваць у ёй жыццядзейнасць.

Амаль не гавораць у наш час пра прыгажосць. Сімптаматычна. Як і шмат якія іншыя фундаментальныя каштоўнасці, прыгажосць разбураецца ў сучасным свеце. Адсюль, магчыма, і занядбанне прагі да чытання — *у чалавеку прыглушылі патрэбу атрымоўваць імпульсы прыгажосці.* А вось М. Багдановічу арганічна ўласціва адчуванне і імкненне да стварэння прыгожага. Яго так і называюць — «пясняр красы». Самае прыгожае, што ёсць у свеце, — пачуццё кахання. Безумоўна, у Багдановіча інтымная лірыка багатая на розныя матывы. Ёсць творы сумныя, з трагічнымі нотамі, што звязана з асабістымі перажываннямі. Не вельмі яму, хвораму чалавеку, шанцавала ў каханні. У цыкла «Каханне і смерць» радасць і пакута пастаўлены побач. Але так і бывае ў жыцці, калі яно жыццё, а не расліннае існаванне.

Шмат якія вершы М. Багдановіча — сапраўдныя, сусветнага ўзроўню шэдэўры. Усе народы міфалагізавалі зорнае неба, здаўна Венера была багіняй кахання, але толькі ў Багдановіча закаханыя звязваюцца адзін з адным праз сузіранне зоркі Венеры. Шукаючы ў небе пуцяводную зорку, што кожны дзень суправаджае ўзыход і заход сонца, паэт бачыць у ёй жанчыну і адначасова пазнае праз яе вялікія творчыя сілы прыроды. У вершах «Зорка Венера» і «Маладыя гады» Багдановіч перадае светлыя пачуцці юнацтва, адчуванне маладосці як шчасця. Радасцю і шчасцем прасякнуты таксама яго пейзажныя вершы: «Зімой», «Зімовая дарога», «Добрай ночы, зара-зараніца!», «Па-над белым пухам вішняў...» Прыгажосць прыроды ў Багдановіча паўстае як велізарная жыццёвая сіла з яе каласальнымі творчымі магчымасцямі, неверагоднай разнастайнасцю ліній, форм, фарбаў, гукаў.

Пастаянна працуючы з моладдзю, я з жахам, адчаем назіраю, як страчваецца ў ёй такое, здавалася б, арганічна ўласцівае моладзі адчуванне радасці жыцця, свайго юнацтва. Быццам нейкі страшны цмок выпівае з нашых дзяцей сілы і прагу шчасця. Пра сузіранне імі прыгажосці прыроды і гаворкі не ідзе. Моладзь не выхавалі ў пачуцці любасці да родных пейзажаў. А таму так лёгка і расстаюцца яны з Радзімай; адсюль жа, дарэчы, і экалагічныя праблемы: для маладых няма сэнсу берагчы тое, што не любіш.

У Багдановіча шмат вершаў патрыятычнага характару, дзе згадваецца багатае гістарычнае мінулае Беларусі. Калі ў Вільні ён наведаў беларускі музей, яму асабліва спадабаліся слуцкія паясы, вытворчасць якіх сёння адраджаецца. На аснове ўбачанага ён стварыў цыкл «Старая Беларусь». З сацыяльных варта назваць надзвычай актуальны верш «Мяжы», у якім мяжа — сімвал няволі, адзіноты, адчужанасці чалавека ў буржуазным грамадстве.

Аднак у творчасці Багдановіча няма адчаю і безнадзейнасці. Будучае ўяўляецца яму светлым і шчаслівым.

Ледзь не кожны твор М. Багдановіча можна выдатна задзейнічаць у выхаванні дзяцей і моладзі. Толькі неабходна разумна да гэтага падступіцца.

На першым месцы ў апытванні чытачоў аказалася «Новая зямля» **Якуба Коласа**. Тут якраз усё заканамерна. Твор сапраўды геніяльны, і настаўнікі яго любяць, даводзяць школьнікам яго значэнне, а — галоўнае — у любові да твора выяўляецца нешта вельмі *арганічнае* для нашай нацыі, літаральна *генетычнае*.

Коласаўскае сінтэтычнае, цэласнае ўспрыняцце свету, відаць, непаўторнае як гістарычны этап. Але яго мастацкая традыцыя сфармавала вельмі прадуктыўны стылёвы напрамак у беларускай літаратуры — як у паэзіі, так і ў прозе. Гэта *беларускі нацыянальны стыль*, вытокі якога — у задуменнай і абаяльнай беларускай прыродзе, у размеранасці сялянскага побыту, сардэчнасці і адкрытасці беларускага нацыянальнага характару. Беларускі нацыянальны стыль не прыземлены, не этнаграфічны, не бытавы, а паўнаважкі, грунтоўны, псіхалагічны. Канкрэтнасць яго тоіцца ў асаблівасцях беларускай мовы, а таксама ў ладзе жыцця вёскі, з якой выйшла абсалютная большасць нашых пісьменнікаў.

Беларускую нацыю ўвогуле называюць сялянскаю. А значыць, яна найбольш *інтэлектуальная*. Як быццам, парадокс, бо звычайна паняцці «вясковага» і «інтэлектуальнага» ставілі па розныя полюсы, тым не менш я не перастаю адстойваць думку пра іх тоеснасць, часам палемічна яе завастраючы.

Новая беларуская літаратура, якая ў XIX ст. развівалася ў неспрыяльных умовах, а з пачатку XX ст. магутна заявіла пра сябе, лічыцца адной з самых сялянскіх у свеце: сялянскіх у сэнсе адрасата — для каго стваралася; у сэнсе аб'екта адлюстравання; а ў XX ст. — і аўтарства, бо пераважная большасць савецкіх пісьменнікаў паходзіць з сялян.

З сярэдзіны XX ст., калі беларуская нацыя ў значнай ступені зрабілася гарадской, хоць і захавала моцныя сялянскія карані, калі вырасла пакаленне «дзяцей асфальту», у якога не было вясковага дзяцінства, і асабліва калі адбыліся з 80-х гг. рэвалюцыйныя працэсы ў грамадстве, частка беларускай інтэлігенцыі

пачала адхрышчвацца ад сваёй сялянскай асновы. Сапраўды, у пэўны момант сацыяльнага развіцця, паводле *закона дыялектыкі*, важна было нагадаць народу, што беларускую літаратуру ад яе вытокаў стваралі прадстаўнікі ўсіх саслоўяў: і духоўныя асобы княжацкага паходжання (Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі), і баяры (Мікола Гусоўскі), і выхадцы з купцоў (Францыск Скарына), і прадстаўнікі шляхты (Ян Баршчэўскі, Адам Міцкевіч, Вікенцій Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч, Цётка, Янка Купала), гарадской інтэлігенцыі (Янка Лучына). Увядзенне ў культурны ўжытак, і ў тым ліку ў школьнае і ўніверсітэцкае навучанне, новых імёнаў — Міколы Гусоўскага, Барбары Радзівіл, Яна Баршчэўскага, часам цэлых пластоў літаратуры (напрыклад, рэлігійнай палемічнай), — у значнай ступені пашырала культурную прастору, надавала айчыннай літаратуры стэрэаскапічнасць і гістарычную перспектыву, далучала да найбольш развітых літаратур свету. Увогуле мяжа стагоддзяў, асабліва канец 80-х — пачатак 90-х XX ст., — гэта час новага гістарычнага ўсведамлення беларусамі ўласнай *ідэнтычнасці* (адбылося адно з нацыянальных адраджэнняў — трэцяе ці чацвёртае за нашу гісторыю). Узнікае нават своеасаблівы феадальна-рыцарскі культ, які выразна выявіўся ва ўзбагачэнні жанру гістарычнага рамана новымі значнымі творамі, у з'яўленні адпаведных навуковых прац, у стварэнні моладдзю рыцарскіх клубаў. Нацыя як бы вярталася да сваіх вытокаў — перш за ўсё дзяржаўных.

Але любы імклівы працэс, які б ён ні быў станоўчы, не абыходзіцца без выдаткаў. Стала добрым тонам сярод пісьменнікаў і даследчыкаў-філолагаў катэгарычна адмаўляць выключна сялянскую аснову беларускай літаратуры. Грэблівая ў адносінах да айчыннай спадчыны фраза «Ганна завіхалася каля печы...» пайшла гуляць па розных выданнях і ва ўніверсітэцкіх аўдыторыях. Можна зразумець заклапочанасць беларускай інтэлігенцыі падняццем прэстыжу ўласнага прыгожага пісьменства, імкненнем надаць яму больш высокі статус. Але тут, нам здаецца, назіраецца неразуменне і *анталагічных асноў культуры*, і каштоўнаснай *скарбонкі* айчыннай літаратуры ў іх агульным гістарычным маштабе.

Зыходзіць неабходна з таго, што светапогляд земляробаў самы высокі і адухоўлены; невыпадкова ж менавіта на аснове паселішчаў земляробаў узнікалі гарады, урэшце, усе вялікія цывілізацыі. Земляробу заўсёды прыходзілася ўлічваць намнога больш фактараў, чым качэўніку, рамесніку, любому іншаму прафесіяналу. Таму і з'яўляецца селянін інтэлектуалам.

Сельскагаспадарчая праца дазваляе людзям уступаць з прыродай у найбольш *гарманічныя стасункі*. Чалавек жыве ў двух светах — прыродным і культурным. На гэты дваісты характар нашага акаляючага асяроддзя можна паглядзець і з іншага боку. Чалавек не існуе па-за светам рэчаў і светам знакаў. Рэчы, створаныя як прыродай, так і самім чалавекам, — матэрыяльны субстрат рэальнасці. Сфера знакаў, намнога больш разнастайная, аказваецца звязанай з рэчамі, але пры дапамозе складаных, цякучых і часта няўлоўных адносін. Адрозненне сялянскага жыцця ад гарадскога — у *рэлігійнасці*. Безумоўна, маюцца на ўвазе не дагматы і не царкоўная арганізацыя, а *адчуванне сакральнасці свету, касмічнае пачуццё*, якое дазваляла бачыць вышэйшы сэнс ва ўсіх з'явах прыроды і у чалавечых адносінах.

Акрамя таго, жыццё на зямлі, у непасрэднай блізкасці да лесу, поля, рэчкі, вядзе да самапазнання, да ўсведамлення свайго жыццёвага прызначэння, узгадавання ў сабе духу.

Такім чынам, акрамя прыродных, біялагічных патрэб, для задавальнення якіх існуюць рэчы (а наша цяперашняя цывілізацыя — рэчыўна-спажывецкая), чалавеку, каб заставацца чалавекам і развівацца, патрабуюцца яшчэ і *знакі, вобразы, сімвалы*. Гэтыя патрэбы не менш фундаментальныя. І сяляне задавальнялі іх, ствараючы міфалогію, фальклор, сваю самабытную культуру. Якраз тое, што сёння аказалася як бы на перыферыі грамадскага пазнання і навуковага вывучэння.

Між тым гарадская цывілізацыя застаецца *другаснай* у шмат якіх складніках. У тым ліку ў сэнсе *якасці* чалавечага матэрыялу. У горад з вёсак адыходзілі больш

кемлівыя, больш прыстасаваныя, чуйныя да сучаснасці. Але ўсё ж па нейкіх, не адкрытых яшчэ крытэрыях, у вёсках заставаліся *лепшыя* — захавальнікі патухаючага касмічнага агню, адказнага за працяг жыцця.

Сапраўды, з пазіцый дагматычнай навукі, вёска давала гораду перш за ўсё фізічную масу новай рабочай сілы. Аднак з пазіцый метафізікі *касмізму* вёска падаравала гораду той *тып чалавека*, які сённяшні горад сфармаваць ужо не можа: чалавека, здольнага да салідарнасці і справядлівасці, няўтольна ўражлівага і дапытлівага, адкрытага быццю. *Усё гэта ёсць у Я. Коласа, і на падсвядомым узроўні, літаральна этнічным пачуццём успрымаецца чытачамі.*

Якасці беларуса — выключная непатрабавальнасць, нават аскетызм ва ўмовах жыцця. Дададзім да гэтага пастаянныя небяспекі з боку агрэсіўных суседзяў. Звышнапружанне ў працы і ў абароне краіны доўга не дазвалялі беларусам стварыць уласную дзяржаву — *не хапала жыццёвай энергіі*. У той жа час беларусы — спакойныя, унутранаскіраваныя, народ выключна міралюбівы і працалюбівы. Працалюбства ўласціва беларусам зусім не менш, чым немцам ці скандынавам, — я б назвала гэтую рысу «сіндромам дзядзькі Антося». У яшчэ большай ступені тое ж можна сказаць пра беларускую жанчыну. Беларуская жанчына ў сямейнай эканоміцы (а сёння і ў дзяржаўнай) заўсёды адыгрывала найважнейшую ролю, і часта ёй даводзілася «падымаць» дзяцей пасля пагібелі мужа на вайне ці смерці яго ад цяжкай працы (гінуць героі паэмы «Адвечная песня» і драмы «Раскіданае гняздо» Янкі Купалы, Міхал з «Новай зямлі» Якуба Коласа, Леапольд Гушка з «Бацькаўшчыны» К.Чорнага і інш.).

Земляробства звязана з культам смерці — нараджэння. Гэта ідэя стала шмат у чым нацыянальнай. Што толькі не здаралася з беларускім народам, а ўсё роўна ён *адраджаўся* неаднаразова, адраджаў сваю культуру. Як слушна адзначаў праніклівы даследчык У. Калеснік, «смерць і ўваскрашэнне Беларусі — вось цэнтральны скразны матыў нацыянальнай міфалогіі, ён пранізвае нашу літаратуру і зводзіць яе ў адзіны ланцуг народнага лёсу».

Яшчэ адна важная асаблівасць сельскагаспадарчай працы — узаемапранікненне светаў *вертыкальнага (у часе) і гарызантальнага (у прасторы)*. Маецца на ўвазе залежнасць ад пораў года, дакладнае прыпадабненне рытмаў уласнага жыцця і працы да рытмаў прыроды, а таксама асваенне зямлі — апрацоўка пашы. Адчуванне зладжанасці ўсяго з усім, бачанне цэласнасці і дзіўнай мэтанакіраванасці свету нарадзілі асаблівую *гарманічнасць* нашай літаратуры. Гарманічнасць у найбольшай ступені выявілася ў апісаннях прыроды, у пейзажнай лірыцы, ды стала і вызначальнай рысай шмат якіх *індывідуальных стыляў* (Якуба Коласа, Івана Мележа).

Беларусам заўсёды не хапала сонечнай энергіі: так склалася ружа вятроў, што тут, у цэнтры кантынента, самая меншая колькасць сонечных дзён на працягу года ва ўсёй Усходняй Еўропе. Таму продкі асабліва цанілі менавіта тое, што сонечную энергію назапашвала, — *колас, ніву*. І ў гэтым плане *псеўданім* Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча — Якуб Колас — сапраўды знакавы, можна нават сказаць, лёсавызначальны і для самога класіка, і для яго Радзімы.

Прыкладна тое ж можна сказаць і пра творчасць **Івана Мележа**.

Стыль прозы І. Мележа ў беларускай літаратуры мне здаецца найбольш гарманічным — зладжаным на розных сваіх узроўнях, і найбольш музычным. Асабліва ўдаваліся пісьменніку шырокія карціны быту і нораваў, паказ розных сфер чалавечай дзейнасці, псіхалагічныя характарыстыкі герояў.

Раман І. Мележа «Людзі на балоце» — твор пра беларускую вёску на пераломе часу — пераходзе сялянства ад аднаасобнай гаспадаркі да калектывізацыі. У апошнія гады, калі адбываюцца, уласна кажучы, працэсы ў многім адваротныя, пра мележаўскі раман часам згадваюць як бы з некаторай няёмкасцю — як быццам ён з’яўляўся апалагетыкай савецкага ладу. На самай справе, галоўнае ў творы — нацыянальнае быццё, і найперш тое, што як паветра неабходна нам сёння, каб выхаваць сапраўдных *гаспадароў*: адчуванне любасці да сваёй зямлі,

прага мець яе, працаваць на ёй. Гэтым напоўнены раман, ды ўласна кажучы, уся «Палеская хроніка».

Сучасная тэндэнцыя гаспадарання, сапраўды, заключана ў невялікіх прадпрыемствах, фермах, экалагічных сядзібах. Можна толькі вітаць такую тэндэнцыю — каб усяго гэтага было больш. Творы І. Мележа выхоўваюць любасць да зямлі, у нечым ідучы ад супраціўнага. А, у рэшце рэшт, людзі заўсёды будуць працаваць гуртам, разам, талакой. Таму калгасы — не толькі гістарычны этап, які, па многіх прычынах, неабходна добра ведаць.

Раманы І. Мележа, асабліва лепшы з іх — «Людзі на балоце» — падкрэслена рэалістычныя. І гэта дапамагло аўтару адкрыць свет у многім адметны, незвычайны — свет палешукоў, якія спрадвеку жылі ў лясах, на балотах. Лясы і балоты ціснулі з усіх бакоў, таму зямля для пашы набывала асабліва важнае значэнне. Адсюль — такая апантанасць ёю галоўных герояў, асабліва Васіля Дзятла. Улада зямлі паказваецца пісьменнікам з нябачнай да таго ў беларускай літаратуры псіхалагічнай глыбінёй — па палкасці натуры Васіля можна параўнаць з Рыгорам Мелехавым М. Шолахава.

З часоў аглушальнай славы рамана І. Мележа беларусаў пачалі называць не «тутэйшымі», а «людзьмі на балоце», прычым (скажам, я ў сваіх работах) не ў негатыўным сэнсе, а выключна ў пазітыўным, улічваючы некаторыя адкрыцці археолагаў, гісторыкаў, этнографаў, лінгвістаў. Верагодна, славянства нарадзілася некалькі тысяч гадоў таму якраз на Палессі, на месцы былога Мора Герадота. А яшчэ больш верагодна: балоты *выратоўвалі славянскі этнас* у часы Вялікага перасялення народаў, даўшы магчымасць адседзецца там, куды ваяўнічыя качэўнікі-захопнікі залазіць баяліся. У выніку культура палешукоў — як бы «кансервы» Еўропы: тут захаваліся *самыя старадаўнія*, а таму — *найбольш каштоўныя* — формы мовы, элементы побыту, архаічны фальклор, звычаі, абрады. Раман «Людзі на балоце» напоўнены паэзіяй гэтага адметнага, нават для саміх беларусаў, жыцця. Формы і фарбы прыроды, характэрныя дэталі побыту так маляўніча, так прыцягальна мог паказаць толькі пісьменнік, які на Палессі нарадзіўся і вырас. Натуральна, што «Палеская хроніка» аказалася надзвычай цікавай як для савецкіх, так і для еўрапейскіх чытачоў.

Але этнаграфізмам, своеасаблівай экзотыкай зусім не вычэрпваецца трылогія. У тым і геніяльнасць І. Мележа, што ён здолеў паказаць, што і ў глухім, закінутым кутку Еўропы, на яе перыферыі, людзі — значныя і цікавыя, з багатым духоўным жыццём. Тут ёсць усё: пошукі героямі сваёй жыццёвай дарогі, радасці працы і сямейнага ладу, рамантычнае каханне, глыбокія драмы.

Пра кожнага з герояў сказана якраз з той мерай, каб зразумець, якія сапраўдныя, нявыдуманыя іх жыццёвыя клопаты і турботы. Значнае месца ў рамане займае традыцыйны для мастацкай літаратуры любоўны трохкутнік: Васіль — Ганна — Яўхім. Да Мележа з такой глыбінёй *драма кахання*, бадай, не паказвалася. І побач з гэтым *архетыповым сюжэтам* — лінія Апейкі, камуніста, які праводзіць калектывізацыю на Гомельшчыне. Сёння мы ведаем, як няпроста праходзіла калектывізацыя. Але гэта зусім не азначае, што яна ўсюды вялася з нейкімі парушэннямі і абавязковымі трагедыямі. Усё, у рэшце рэшт, *залежала ад людзей*, ад кіраўніцтва раёна, вобласці, рэспублікі. Каштоўнасць рамана І. Мележа якраз у тым, што ён паказвае неадназначнасць ідэалагічных ацэнак (не мае значэння — з плюсам ці з мінусам), іх аднабаковасць, прымітывізм: жыццё ўсё роўна намнога больш складанае, бязмежна супярэчлівае. Тое, што сяляне вёскі Курані дастаткова лёгка ўтварылі калгас, нягледзячы нават на апантанасць уласнай зямлёю такіх, як Васіль, у многім заслуга чалавекалюбцаў тыпу Апейкі. Сёння мы можам у поўнай меры ацаніць мужнасць, мудрасць, прадбачлівасць Апейкі, многія думкі якога актуальныя для нашага часу. А на самай справе гэта — думкі самога аўтара.

У падачы, у разгортванні падзей І. Мележ ішоў ад простага да больш складанага: ад быту, працы, асабістых стасункаў — да сацыяльных узаемаадносін на

вёсцы, да палітычнай барацьбы і ідэалагічных спрэчак. Усё гэта, аднак, адбываецца не ў замен адно другому, не паслядоўна, а як пашырэнне і паглыбленне жыццёвай плыні. Увесь надзвычай багаты жыццёвы матэрыял падпарадкаваны не проста паказу вёскі пэўнага перыяду, а даследаванню, асэнсаванню яе праблем ва ўсёй гістарычнай перспектыве. Таму і застаецца раман злабадзённым да сёння, таму і чытаецца з такой цікавасцю.

Своеасаблівая і мова раманаў, у якой у найбольшай ступені адбілася непаўторная індывідуальнасць аўтара. Фраза ў яго разгорнутая, з удакладненнямі і паясняльнымі словамі, зваротамі, нярэдкімі дыялектызмамі, але меладычная і нестамляльная для чытача. Такая фраза дае магчымасць, апрача іншага, паказаць прадмет, з’яву, персанажа ў розных сувязях і ўзаемадачыненнях, а ў цэлым утварае адчуванне багацця і разнастайнасці жыцця, адметнасці пэўнага часу.

«Палеская хроніка» І. Мележа — у поўным сэнсе слова народная *эпапея*. Яе таксама, як і «Паўлінку» Я. Купалы, як творчасць М. Багдановіча, неабходна больш актыўна папулярызаваць. Для гэтага патрабуецца найперш *літаратурна адукаваць журналістаў*, каб у іх, часам абсалютна нікчэмнай балбатні, пастаянна гучалі адпаведныя імёны, назвы, цытаты. Усё гэта праз СМІ будзе паступова ўкладацца і ў свядомасць народа.

Што тычыцца журналістаў, то тут не магу не згадаць лёс назвы рамана **Івана Шамякіна** «Сэрца на далоні», у якога рэйтынг 50 %. Трохі здзівіў. Справа ў тым, што я не сустракала на Беларусі медыцынскіх работнікаў сярэдняга і старэйшага ўзросту, якія б не чыталі раман «Сэрца на далоні». І ўсе вельмі любяць яго, лічаць *лепшым* у літаратуры пра іх высакародную, такую патрэбную прафесію.

Шамякін умеў паказаць людзей у працы, у іх прафесійнай дзейнасці. Найлепш яму ўдаўся вобраз хірурга Антона Яраша, і як медыка, і як чалавека.

Шамякін у абмалёўцы дзейнасці ўрачоў кіраваўся не толькі мастакоўскай інтуіцыяй, але і глыбока вывучаў асаблівасці прафесіі. Ён быў знаёмы з многімі дзеячамі медыцыны, сярод іх — выдатнымі, якія і яго ратавалі падчас аперацый. Ён, як і яго герой Кірыла Шыковіч, папрасіўся паназіраць аперацыю на сэрца. Яму, як і яго герою, стала блага. Але ўсё ж галоўнае ён паспеў угледзець: «... бачыў сэрца, жывое, трапяткое, на далоні, на шырокай добрай далоні».

Сцэна бліскучай аперацыі доктара Яраша стала стрыжнёвай, найбольш канцэптуальнай у рамане, вызначыўшы і назву яго. З таго часу гэтая назва выкарыстоўвалася дзясяткі, калі не сотні разоў, журналістамі і пісьменнікамі, так што стала нават банальнай. Але Шамякін быў *першы*, хто прыдумаў яе і надаў ёй глыбокі і высокі гуманістычны сэнс. Любы чалавек, хоць бы герой рамана Славік, якога ўсе лічылі прапашчым, носіць у грудзях жывое, трапяткое, пяшчотнае сэрца. І кожнае сэрца прагне разумення і дабрыні да сябе — каб, кажучы метафарычна, апынуцца ў вялікіх, моцных, умелых чалавечых далонях, што сімвалізуюць усё тое добрае, што стварыў чалавек на зямлі. Уласна, пра гэта твор.

Раман «Сэрца на далоні» Івана Шамякіна, створаны ў пачатку 1960-х гадоў, з цікавасцю чытаецца і сёння. Пачаўшы чытаць, цяжка адарвацца ад кнігі, — так сцвярджаюць яе чытачы. Сіла ўплыву твора, напісанага так даўно, тлумачыцца, відаць, перапляценнем некалькіх фактараў эстэтычнага ўздзеяння, што і дало выключны чытацкі эфект.

Сярод гэтых фактараў звычайна першым называюць сюжэт. Шамякіна па праве лічаць *лепшым майстрам сюжэта* ў беларускай пасляваеннай прозе. У рамане «Сэрца на далоні» сюжэт мае выразную дэтэктыўную спружыну. Ва ўсялякім разе, тут дастаткова сітуацыйных і псіхалагічных загадак.

Журналіст і пісьменнік Кірыла Шыковіч, напісаўшы неўзабаве пасля вайны дакументальную кнігу разам з высокім абласным начальнікам Гуканам, удзельнікам партызанскай і падпольнай барацьбы, а фактычна замест яго, праз дзесяць гадоў адкрывае новыя факты па тэме і хацеў бы працягнуць працу, упэўнены, што далёка не ўся праўда пра савецкае падполле ў час акупацыі выяўлена. Тым больш,

што сябра Шыковіча, праслаўлены ў рэспубліцы хірург Антон Яраш, робіць удалую аперацыю на сэрцы цяжкахворай Зосі Савіч, дачкі доктара Савіча, які лічыўся здраднікам, прыслужнікам фашыстаў. Але Яраш, сам актыўны ўдзельнік падполля, якога менавіта Зося выратавала ад смерці, не верыць у здраду доктара, свайго настаўніка, і яго дачкі. Павага да сябра і пісьменніцкая інтуіцыя прымушаюць Шыковіча заняцца сур'ёзным расследаваннем, у ходзе якога высвятляецца, што Гукан, які ўсяляк перашкаджае рабоце журналіста, адразу пасля вайны напісаў данос на Зосю і яе бацьку, зрабіўшы з іх здраднікаў. Між тым якраз абараняючы партызанскага сувязнога Гукана, загінуў доктар Савіч, які быў адным з кіраўнікоў абласнога падполля. А Зося вынесла не толькі катаванні гестапаўцаў, нямецкія канцлагеры, але і высылку ў Сібір як дачка нямецкага паслугача. Такога роду несправядлівасць — з'ява нярэдкая ў тую цяжкую эпоху.

У ліберальны час напісання твора беларускім партызанскім рухам і гарадскім падполлем перыяду фашысцкай акупацыі займаліся многія журналісты, пісьменнікі, навукоўцы-гісторыкі. Тут аказалася шмат нязведанага, надзвычай таямнічага — цяжка было дашукацца да ісціны. Неверагодна складаныя ўмовы барацьбы, штодзённая смяротная рызыка пры жорсткім рэжыме нацыстаў не дазвалялі падпольшчыкам фіксаваць кожны свой крок у дакументах. У выніку асноўвацца ў росшуках можна было толькі на сведчаннях тых, хто застаўся пасля вайны жывы. Пераважная большасць іх — сумленныя, шчырыя, праўдзівыя людзі. Але аказваліся часам і кар'ерысты тыпу Гукана, якія дзеля таго, каб узвялічыць сябе, паклёпнічалі на іншых і асуджалі іх, такіх, як Зося Савіч, на пакуты.

Рэтраспектыўна-гістарычна-дэтэктыўнай лініяй з яе пакручастымі перыпетыямі далёка не вычэрпваецца сюжэт твора. Шмат увагі аўтар надае тэме кахання — як і належыць у класічным рамане. Драматычныя любоўныя трохкутнікі ўтвараюцца і ў асяроддзі моладзі (Славік — Маша — Тарас), і сярод сталых людзей (Яраш — Галіна Адамаўна — Зося Савіч).

Маладым адведзена шмат старонак у рамане. Асабліва падрабязна выпісаны вобразы Славіка Шыковіча і медсястры Машы, якая працуе з Ярашам. Славік — яўны стыляга, як называлі такіх тыпаў у той час. Цяжка нават сказаць, ці быў прататып у гэтага героя: у асяроддзі пісьменніка, сярод яго дзяцей і родзічаў яго сяброў не сустракалася такога кшталту асоб.

І Славік, і Маша — персанажы выдуманыя, сабраныя з рысак шматлікіх юнакоў, якіх сустракаў Шамякін на жыццёвай дарозе, а ён у той час шмат ездзіў, выступаў у розных калектывах, кантактаваў з велізарнай колькасцю людзей, у тым ліку, маладых. Прычым валодаў такім талентам, што, нават раз убачыўшы чалавека, умеў па-майстэрску дадумваць яго лёс і псіхалогію.

Вобраз Славіка, які пастаянна, з-за свайго характару, трапляе ў недарэчныя сітуацыі, надае твору дадатковы драматызм. Бясспрэчна, імкненне выдзеліцца адзеннем (у Славіка — вузенькія штаны і вяровачкі на шыі замест гальштука), пэўны максімалізм у поглядах і некаторы цынізм, адмаўленне і існуючых парадкаў, і агульначалавечых каштоўнасцей характэрныя для многіх маладых людзей ва ўсе часы. Савецкая эпоха ў гэтым плане не была выключэннем. Але калі пры Сталіне, у гады мабілізацыйнай эканомікі, максімальнага напружання сіл народа ў будаўніцтве магутнай, здольнай супрацьстаяць ворагам, дзяржавы, такія тыпы, як Славік, асуджаліся самім насельніцтвам, то ў 1950-я гады і асабліва ў 1960-я да іх ужо ставяцца паблажліва, ліберальна, мякка. Бацькі разважалі: мы напакуталіся, дык няхай хоць дзеці лёгка пажывуць. Гэтая тэндэнцыя яшчэ і абвастрылася ў наш час: выхаванне дзяцей бацькі ўвогуле перадаручылі тэлевізару і інтэрнэту.

Шамякін паказвае, што само жыццё (дружны працоўны калектыў, шчырае каханне) змяняе такіх, па сутнасці сваёй добрых хлопцаў, як Славік. Часам так і здаралася — на свеце ўсё бывае. Але шмат хто жыў, сталеў, нават рабіў добрую кар'еру, так і захаваўшы юнацкі крытыканскі настрой, з вечным незадавальненнем іншымі, а не сабой, з прыпісваннем грахоў чалавечых, бо няма людзей без грахоў, сацыяльнаму ладу — сацыялізму. Але лад такі, якія людзі. І чалавек, які

не змог шчасліва жыць пры адным ладзе, не здолее адчуваць сябе добра і пры другім, трэцім...

Іншая справа, што ў тыя гады — час напісання твора — яшчэ і ўлады, і вытворчыя калектывы клапаціліся пра кожнага асобнага чалавека, не было таго грамадскага раўнадушша, якое пануе сёння, у эпоху капіталістычнай *канкурэнцыі*. Таму і бярэ брыгада камуністычнай працы да сябе безнадзейнага, здавалася б, Славіка. Так не раз здаралася ў тыя гады. Але множылася колькасць і тых, асабліва сярод інтэлігенцыі, прычым сталічнай — маскоўскай, мінскай, хто жыў, трымаючы дулю ў кішэні. Гэта значыць, думаў адно, гаварыў другое, рабіў трэцяе. Такія і прывялі магутную краіну да развалу. Дастаткова параўнаць, што гаварылі на самым версе — прэзідэнты Міхаіл Гарбачоў, Барыс Ельцын — да ліквідацыі СССР і пасля яго краху.

Тым і цікавы раман, што ён паказвае савецкае грамадства як бы на *перавале*, акцэнтуе ўвагу на сацыяльных тэндэнцыях, якія атрымаюць працяг у будучым. Яшчэ дзейнічала *інерцыя Перамогі*, душэўныя, шчырыя адносіны паміж людзьмі, якія і дапамаглі нам выжыць. Яшчэ лепшыя з беларусаў жылі высокімі ідэаламі — Шыковіч, Яраш, партыйны сакратар Тарасаў, ды і маладыя — Маша, Тарас, Віктар. Героі ўмелі моцна кахаць і сябраваць, памятаць пра мінулае, захапляцца прыгажосцю прыроды і мастацтвам. У рамане выдатныя пейзажныя малюнкі, персанажы часта паўстаюць на ўлонні прыроды — на рыбалцы, за зборам грыбоў, вечарамі вакол вогнішча.

Ёсць у творы і шмат прыкмет таго часу, які сапраўды можна лічыць *пераходным*. Дарэчы, з тэксту відаць, што ніякага дэфіцыту, у прыватнасці, прадуктаў, яшчэ няма: героі носяць дадому з крам розныя прысмакі, часта згадваюцца замежныя каньякі, шампанскае, цукеркі, торты. Сапраўды, дэфіцыт, ды і тое не ў Беларусі, якую ўзначальваў і да сёння любімы народам П. М. Машэраў, пачаўся пасля рэформ 1965 года, калі прадпрыемствы і асабліва гандлёвая мафія сталі кіравацца выключна сваімі інтарэсамі, а не патрэбамі пакупнікоў. Вельмі доўга тыя рэформы, якія можна палічыць ужо *рынкавымі*, эканамісты і журналісты нязменна праслаўлялі, не беручы на сябе працу іх глыбокага аналізу. Сёння відаць, што рэформы 1960-х гадоў, на самай справе, сталі для эканомікі разбуральнымі і нарадзілі шмат негатыўных з'яў.

У час напісання рамана СССР актыўна гандляваў з краінамі народнай дэмакратыі, таму не раз, між іншым, фігуруюць у творы якія-небудзь чэшскія кофтачкі ці тэніскі, бо чэшскія вырабы тады былі ўзорам менавіта еўрапейскай якасці. У той жа час такая прыкрая з'ява, як блат, ужо, можна сказаць, квітнеў (але блат і пры Сталіне быў). Так, Шыковіч і Яраш, шукаючы добрую мэблю для новай кватэры Зосі, у краме нічога добрага не знайшлі і вымушаны былі выкарыстаць сваю вядомасць, каб купіць на базе сапраўды прыгожы рыжскі гарнітур для аднапакаёўкі.

Крытыкі не раз звярталі ўвагу на моцны антыбюракратычны пафас рамана (хіба не актуальна ў наш час?). Тут шмат аўтарскіх выпадаў і супраць чыноўнікаў, і супраць дурных лозунгаў, і супраць партыйных бяздушных прамоў. Вось Шыковіч бярэцца выправіць дрэнны артыкул: «Замест правільнай, але прэснай жвачкі выходзіла жывое, дасціпнае, едкае слова...» Прэсная жвачка, на жаль, пераважала ў СМІ і страшна абрыдла савецкім людзям. Менавіта таму аказваліся моцна запатрабаваныя і мелі шумны поспех такія яркія, з добрай мовай, мастацкія творы, як раман Шамякіна.

Тэкст рамана нібы само жыццё, перанесенае на старонкі кнігі з *кінематаграфічнай дакладнасцю і натуральнасцю*, так што мы яскрава ўяўляем кожную сцэну. Таму раман і трымае, не дае адарвацца. У той жа час мастацкае слова дапамагае таму, чаго не зробіць ні адно кіно, — пранікнуць у глыбіню чалавечага сэрца, як бы патрымаць яго на далоні, каб адчуць яго трапяткую безабароннасць...

Яшчэ адзін папулярны раман І. Шамякіна — «Вазьму твой боль» (34 %). Ён перадае непрыняцце пісьменнікам шмат якіх негатыўных з'яў у тагачаснай савецкай рэчаіснасці. Раман скіраваны супраць раўнадушша людзей, *абывацельскай*

*псіхалогіі.* Адчай герояў твора Івана Батрака і яго жонкі Тасі — ад абыякавасці аднавяскоўцаў да свайго мінулага, да злодзеяў, такіх, як Шышка. Сёння злачынства, крымінал увогуле ўзводзяцца ў норму літаральна на міжнародным узроўні. І. Шамякін паказвае, як пачынаўся працэс, і лічыць яго страшна небяспечным. Кашмар заключаецца ў тым, што ва ўмовах рынкавай эканомікі наверсе часта аказваецца не самы маральны і не той, хто лепш працуе, а, наадварот, крымінальны тып, злодзей, прайдзісвет. Так і адбываецца, пакуль на лакальнай прасторы, з забойцам Шышкам у рамане. З твора аб’ектыўна вынікае, што за такімі, як ён, у далёкай перспектыве, калі людзі не перастануць ставіцца да маралі раўнадушна, — будучыня. Што мы і назіраем штодзённа.

І ў рамане «Вазьму твой боль», і ва ўсіх іншых творах пісьменнік нідзе не надакучвае чытачу. Яго апісанні, дыялогі, маналогі, аўтарская мова настолькі своеасабліва і арганічна перакрыжоўваюцца, уваходзяць адно ў другое, што пры чытанні ніколі не ўзнікае адчування стомленасці. Самыя розныя наратыўныя ўзроўні і сродкі стварэння вобразаў гарманічна суіснуюць, суадносяцца паміж сабою і ўтвараюць цэласную мастацкую сістэму. Сцэны выключна драматычныя замяняюцца паказам хатніх спраў і вытворчых праблем, калектыўныя гутаркі — роздумам ці ўспамінам, аб’ектывізаванае апавяданне — усхваляваным маналогам ад першай асобы. Пераплеценасць лёсаў герояў (сапраўды, усё ў жыцці звязана паміж сабою), залежнасць лёсу кожнага ад яго жыццёвай біяграфіі, сучаснасці ад мінулага робяць не толькі раман «Вазьму твой боль», але і амаль усе творы пісьменніка *ўнутрана свабоднымі*, пазбаўленымі любой догмы. Нездарма І. Шамякін карыстаўся такой каласальнай папулярнасцю ў чытачоў на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў — быў нязменна (без усялякіх рэйтынгаў і акцый) на першым месцы па чытацкай аўдыторыі. І галоўнае — ён добра *перачытваецца.* А гэта найбольш яскравае сведчанне таленавітасці аўтара і мастацкасці твора — калі яго хочацца перачытваць. Ёсць тыя, каго згадваюць часцей, бясспрэчна, значныя аўтары, але перачытваць іх не цягне.

Выдатны фільм паводле рамана «Вазьму твой боль» зняў наш знакаміты рэжысёр Міхаіл Пташук, а галоўную ролю Івана Батрака сыграў адзін з самых таленавітых акцёраў сучаснасці Уладзімір Гасцюхін. Амаль усе творы Шамякіна экранізаваныя. Названая экранізацыя — з ліку найбольш удалых. Ёсць і іншыя, напрыклад, «Гандлярка і паэт» паводле аднайменнай аповесці (яе паставіў вядомы маскоўскі рэжысёр Самсон Самсонаў). У свой час аповесць у прэсе грамілі, сёння яе ацэньваюць выключна высока, як твор наватарскі (працы Міхася Мушынскага). Праўда, наватарскімі былі, уласна кажучы, амаль усе творы Шамякіна. Ён, скажам, аўтар адзінага ў беларускай прозе маштабнага рамана пра трагедыю Чарнобыля — «Злая зорка» (1987 г.).

Праз усю творчасць І. Шамякіна праходзіць пакутлівы пошук той сілы ў свеце, што можа выратаваць чалавецтва, якому пагражае бездухоўнасць. Сілу тую пісьменнік не знайшоў, хоць у 1960—70-я гады яшчэ спадзяваўся і марыў. У 1990-я гады і ў пачатку 2000-х ён убачыў літаральна разгул сілы супрацьлеглай, дзякуючы якой бездухоўнасць сцвердзілася канчаткова.

У 90-я гады і на пачатку новага стагоддзя — да самай смерці ў 2004 г. — І. Шамякін працаваў дастаткова актыўна. А сёння даследчыкі са здзіўленнем канстатуюць, што лепш за Шамякіна пра «ліхія 90-я» ніхто не напісаў. Праўда, з добрага, надзвычай чалавекалюбівага аўтара ён стаў бязлітасны, выкрывальны, магчыма, нават залішне крытычны.

Кнігі Шамякіна выдаваліся на 57 мовах. Толькі ў Кітаі выйшла больш за 10 раманаў і аповесцей — самі кітайскія перакладчыкі прызнаваліся, што з усіх беларускіх, нават савецкіх пісьменнікаў, кітайскім чытачам найбольш спадабаўся менавіта (чамусьці) Шамякін.

Кнігі, бясспрэчна, забываюцца, але ўсё ж паспрабуем памятаць, што ў нашых сённяшніх поспехах ёсць доля і пісьменніка Шамякіна, які сваімі творамі з добрымі і чалавекалюбівымі героямі выхоўваў дзядоў і бацькоў сённяшняга маладога пакалення беларусаў. І не яго віна, што ў свеце сцвярджаецца бездухоўнасць,

а віна тых бяздарных партыйных прапагандыстаў, якія *не здолелі выкарыстаць каласальныя магчымасці мастацкай літаратуры ў справе выхавання*. І ўсё ж Беларусь пакуль захоўвае некаторую маральна-этычную планку.

Поспех **Уладзіміра Караткевіча** ў чытачоў таксама, бадай, заканамерны. Тым больш, што яго імя журналісты якраз ніколі не абыходзілі. Сапраўды, У. Караткевіч — адзін з самых любімых у моладзі аўтараў.

Нас, хто блізка ведаў Уладзіміра Сямёнавіча, заўсёды здзіўляла яго нястомная прага да пазнання, а значыць, да вандроўніцтва. З сябрамі, з жонкай, у складзе навуковых экспедыцый (жонка працавала ў акадэмічным інстытуце) і здымачных груп Караткевіч шмат падарожнічаў па Беларусі, па СССР, два разы быў у Польшчы, тры разы ў Чэхаславакіі. Вандроўкі дапамагалі яму ў працы, у галоўнай яго задачы — стварыць *літаратурную гісторыю Беларусі*, *гісторыю яе мастацтва*. Памятаю, як знішчалі ў Мінску раён Нямігі, і Караткевіч літаральна абіваў парогі гарадскіх улад, просячы іх пакінуць куток старога Мінска. Чыноўнікі, нават самыя высокія, тады смяяліся з дзіўнаватага пісьменніка, які не разумее значэнне прагрэсу ў горадабудаўніцтве. Толькі нямногія, у тым ліку наша сям’я, разумелі прадбачлівасць мудрага майстра, яго клопат пра захаванне культуры роднай краіны.

Прыхільнікі паэзіі вельмі цэняць вершы У. Караткевіча, многія з якіх прысвечаны розным гістарычным падзеям, дзеячам мастацтва, а таксама прыродзе тых мясцін, дзе пісьменнік вандраваў. У паэта быў пранiклівы позірк, уменне ў нечаканых метафарах перадаць прыродную з’яву, як, напрыклад, у вершы «П’юць галубы блакіт із каляіны»: «Зусім нябачны жаўранак крыламі // Ў цымбалы сонечных праменняў б’е».

І ўсё ж Караткевіч больш вядомы як празаік. Па некаторых яго творах знялі высокамастацкія кінастужкі: «Дзікае паляванне караля Стаха» (рэжысёр В. Рубінчык), «Чорны замак Альшанскі» (рэжысёр М. Пташук). У празаічнай творчасці пісьменніка арганічна злучыліся лірычнае і гераічнае, авантурнае і фантастычнае, будзённае і таямнічае. Героі яго першых твораў — апавяданняў і аповесцей — дзейнічалі ў рэальных і адначасова ў незвычайных абставінах. Высокай рамантыкай, жывымі чалавечымі пачуццямі і паэтычным водарам гісторыі прасякнуты апавяданні, аповесці «Чазенія», «Вока тайфуна», «Сівая легенда» і інш. Пісаў ён і казкі, бо ўсё жыццё цікавіўся фальклорам.

Гісторыка-дэтэктыўная аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» (1950, 1958 гг.), як паказала апытванне, — адна з самых любімых у чытачоў Беларусі. І ў мяне таксама.

Міф пра дзікае паляванне ўзнік у Еўропе яшчэ ў эпоху Антычнасці, а затым быў пераасэнсаваны ў хрысціянскую эру. Дзікае паляванне — варожыя народу і кожнаму сумленнаму чалавеку прыродныя і сацыяльныя сілы. Падзеі аповесці адбываюцца ў канцы 80-х гг. XIX ст. у глухой мясцовасці Беларусі, дзе апынуўся малады вучоны-фалькларыст Андрэй Беларэцкі. Яму ўдаецца развянчаць арганізатараў дзікага палявання, якое наганяла страх і на ўладальніцу маёнтка Балотныя Яліны Надзею Яноўскую, і на сялян у акрузе. У адрозненне ад чыстага дэтэктыва ў аповесці паказваецца тагачаснае грамадства не толькі ў яго супярэчнасцях, але і ў яго *нацыянальнай, культурна-гістарычнай своеасаблівасці*, чым найбольш прываблівае чытачоў.

У сваім апошнім рамане «Чорны замак Альшанскі» (1983 г.) Караткевіч таксама надзвычай паспяхова выкарыстоўвае розныя дэтэктыўныя прыёмы. Яны неабходныя яму, каб стварыць такую любімую ім *атмасферу таямнічасці*, а таксама каб уславіць чалавечую інтуіцыю, творчыя магчымасці, эрудыцыю, нешаблонныя падыходы да жыцця, асабліва ўласцівыя галоўнаму герою Антону Космічу.

Уладзімір Караткевіч — гонар беларускай літаратуры. Ён здолеў шматгранна раскрыць нацыянальны характар, паказаць багатага духоўна беларуса, неардынарнага чалавека ў яго імкненні да ідэалу.

...Я спынілася на аўтарах, якія мне асабліва блізкія. Ведаю, што пра іншых скажуць намнога больш і лепш за мяне.

**Вячаслаў РАГОЙША, прафесар**

## ШТО Ж ПАКАЗВАЮЦЬ ВЫНІКІ ЧЫТАЦКАГА АНКЕТАВАННЯ?

Вынікі любога сацыялагічнага апытання прадвызначаюцца як суб'ектам і аб'ектам апытання (хто апытвае і каго апытваюць), так часам і нават месцам апытання. Калі б, напрыклад, пра любімы твор беларускай літаратуры XX стагоддзя апытвалі філолагаў БДУ (а іх звыш дзвюх тысяч!), то, несумненна, адказы былі б некалькі (а можа — і зусім) іншыя. Ад адказаў нашых філолагаў не калькі б адрозніваліся адказы гуманітарыяў, у прыватнасці, ГДУ імя Я. Купалы, ГДУ імя Ф. Скарыны, БрДУ імя А. Пушкіна і іншых навучальных устаноў Беларусі.

Але што ж паказвае чытацкае апытанне, праведзенае «Полымем», у адпаведнасці са сваёй выбаркай рэспандэнтаў?

Перш за ўсё, людзі запомнілі/палюбілі творцаў, з якімі пазнаёміліся ў школе ў курсе беларускай літаратуры. Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, І. Мележ, В. Быкаў, І. Шамякін, У. Караткевіч, М. Танк, Р. Барадулін, Н. Гілевіч — гэта ўсё «праграмныя», «манаграфічныя» пісьменнікі. Названы (хоць іх творы набралі менш за 5 %) і многія іншыя пісьменнікі, творчасць якіх вывучаецца ў школе манаграфічна або аднесена да самастойнага чытання і знаёмства: В. Дунін-Марцінкевіч, А. Міцкевіч, Цётка, М. Гарэцкі, З. Бядуля, К. Чорны, А. Куляшоў, П. Броўка, Я. Брыль, У. Дубоўка, Л. Дайнека, А. Дудараў, А. Васілевіч, Г. Бураўкін, Г. Далідовіч, Я. Скрыган, Я. Янішчыц і інш. Што з гэтага вынікае?

Апытанне паказвае надзвычайную важнасць удасканалення, паглыблення і пашырэння курса гісторыі беларускай літаратуры ў профільным (гуманітарным) навучаннях. Сёння вядзецца гаворка пра патрэбу ўвядзення ў школьныя праграмы «лішняй» гадзіны для вывучэння беларускай мовы. Але не менш важна дадаць гадзіны і на вывучэнне беларускай літаратуры. У нашай маладой дзяржаве Рэспубліка Беларусь менавіта беларуская літаратура, што выконвае, апрача эстэтычнай, яшчэ пазнавальную (у тым ліку гісторыка- і культурапазнавальную), выхаваўчую (у тым ліку сацыяльна-палітычную і маральна-этычную) і іншыя функцыі, дапамагае найперш фармаваць чалавека не проста культурнага, выхаванага, але і нацыянальна-культурнага, сапраўднага патрыёта Беларусі. А менавіта такую задачу, гаворачы пра выхаванне моладзі, паставіў А. Р. Лукашэнка ў сваім выступленні на нядаўнім з'ездзе БРСМ. Нагадаю яго словы: «Культура — вось што робіць беларуса беларусам, а не проста «тутэйшым», у якім бы пункце зямнога шара ён не знаходзіўся. Не толькі наша найбагацейшая спадчына: літаратура, музыка, архітэктура — але і мова, якую мы павінны ведаць, гісторыя, якую мы павінны памятаць, і каштоўнасці, якія мы павінны паважаць».

А нішто так не спалучае і гістарычную памяць, і нацыянальна-культурныя каштоўнасці, і прыгажосць, багацце роднай мовы, як беларуская літаратура. Не дзіўна, што найбольшая колькасць чытачоў (73,9 %) сваім самым любімым творам назвалі «Новую зямлю» Я. Коласа, дзе ўсё гэта спалучылася так арганічна і непадзельна.

І яшчэ адно, пра што хацелася б сказаць.

Зразумела, літаратура — мастацтва шматстайнае, шматаблічнае. Яно праяўляецца ў розных родах, відах, жанрах і формах, мастацкіх метадах і напрамках. Летні луг прыгожы, бо ў ім цвітуць розныя кветкі, растуць розныя травы. У беларускай літаратуры XX стагоддзя таксама ёсць розныя творы — рэалістычныя, рамантычныя (дакладней — неарамантычныя), мадэрністычныя… Але чытачы, як відаць з апытання, аддаюць перавагу творам, напісаным у рэалістычным ці рамантычным ключы. Мадэрнізм, постмадэрнізм у іх, як відаць, не выклікае асаблівага (каб не сказаць — ніякага) захаплення. А колькі такіх твораў, у асноўным

codewarшаваных, мудрагелістых, глыбакадумных, «заумных» (з боку зместу), без загалоўных (вялікіх) літар, без знакаў прыпынку, без рыфмаў, без элементарнага моўнага рытму (з боку формы) напісана і пішацца ў апошні час! Аўтараў такіх твораў і самі такія творы чытачы не назвалі.

Ці не паказальна гэта?

## Пятро ВАСЮЧЭНКА, дацэнт

## ТВОРЫ, ЯКІЯ КЛАДУЦЦА НА СЭРЦА

Рэйтынгі аўтараў, прысуджэнне прэмій, конкурсы ды іншыя праявы спаборніцтва ў літаратуры заўсёды выклікалі ў мяне складанае пачуццё. Vanitas vanitatum… Ці могуць быць лідары ў літаратуры і што рабіць аўтсайдарам? Вельмі павучальным стаўся змест аднаго з нумароў альманаха «Тэксты», прысвечаны якраз аўтсайдарам. Тым літаратарам, якія не маглі стаць першымі, бо жылі ў перыяд масавых рэпрэсій 1930-х у літаратурным асяроддзі. «Хто былі апошнімі, раптам стануць першымі», — кажа Біблія.

Літаратура — не спорт і не навука. Прагрэс у літаратуры — з’ява спрэчная. Вылучэнне лідараў і рэйтынгі — занятак мітуслівы, але захапляльны і, безумоўна, карысны. Ён працуе не на вечнасць, а на сёння, але вечнасць абумоўлена й гэтым мітуслівым сёння. Ён захоплівае, як захапіў, прыкладам, і мяне гадоў дваццаць таму, калі складаў рэйтынгі для часопіса «Крыніца» па намінацыі «Лепшая кніга года». Няраз сам быў удзельнікам аналагічных апытанняў. Паводле іх атрымаў прэмію «Гліняны Вялес» за кнігу «Гаспадарка паноў Кубліцкага ды Заблоцкага». Працягнуў гэтую практыку падчас працы са студэнтамі. Разумею плён акцыі, распачатай часопісам «Полымя». Бо ён набліжае нас да адказу на актуальныя пытанні: «Што чытаюць?», «Ці чытаюць?», «Што патрэбна, каб пачалі чытаць?»

І нарэшце: «Хто ён, галоўны чытач беларускай літаратуры?»

Мяркую, што галоўны спажывец беларускай літаратуры — не абстрактны яе «аматар», не апантаны маргінал, не «профі»-крытык, не дзівак-правінцыял і нават не настаўнік беларускай мовы і літаратуры, а — школьнік, студэнт. Бо ён абавязаны сёе-тое прачытаць, сёе-тое вывучыць на памяць і здаць.

Вядома, я супраць дыктату ў справе чытання, хаця паважаю тыпавыя праграмы і спісы літаратуры, абавязковай для чытання, бо яны складзены спецыялістамі і ў дастатковай ступені рэпрэзентуюць багацце нашага пісьменства, старога і новага. Мне падабаецца мілае патрыярхальнае завучванне вершаў на памяць, але бянтэжыць сітуацыя, калі адзіны верш бубніць на памяць цэлы клас, бо гэты верш ёсць у праграме.

Таму я прапаную студэнтам: «Падрыхтуйце верш сучаснага беларускага паэта, які кладзецца на сэрца». І вось тут пачынаецца!

— А хто ён, сучасны паэт?

— А верш павінен быць вялікі ці малы?

— А Уладзімір Караткевіч — сучасны паэт?

Сучаснасць я разумею так: перыяд змены пакаленняў, гэта значыць, апошнія дваццаць—трыццаць гадоў. Пра памер верша ці варта дбаць? Галоўнае, каб верш клаўся на сэрца. І каб паводле яго ў нас адбылася канструктыўная, эўрыстычная гутарка. Гэтак семінары, залікі і экзамены па літаратуры некалькі хвіляў нагадваюць паэтычныя вечарыны, на якіх гучыць сапраўдная паэзія, адбываюцца даверлівыя гутаркі пра літаратуру і жыццё, і асалоду атрымліваюць усе. А потым усё абарочваецца статыстыкай, рэйтынгамі.

На студэнцкі выбар уплывае шмат што. Не ў апошнюю чаргу — узроставы чыннік і гендар.

Рамантычныя дзяўчаты надта часта абіраюць вершы пра каханне, і дзякуючы іх выбару першую пазіцыю ў маім рэйтынгу займае верш Яўгеніі Янішчыц: «Ты пакліч мяне. Пазаві».

Бо пра каханне. Праграмны, школьны верш. І яшчэ хапае за сэрца дзякуючы якойсь унутранай магіі, таямніцы, увогуле ўласцівай творчай асобе паэткі з Палесся.

Прынята думаць, што найлепшыя вершы пра каханне напісаны ў нас не паэтамі, а паэткамі, такімі, як Вера Вярба, Валянціна Коўтун, Таіса Бондар, Раіса Баравікова, Таццяна Сапач, Валянціна Аксак, Людка Сільнова, Аксана Спрынчан ды шмат яшчэ кім. З паэткамі паспяхова канкурыруе маэстра інтымнай лірыкі Леанід Дранько-Майсюк, з твораў якога ахвотна завучваюць на памяць «Вершы для А.», але найчасцей — «У Вашым голасе квітнеюць астры…» І ўсё дапытваюцца ў мяне: хто ж такая А.? Не скажу.

І хлопцы, і дзяўчаты з задавальненнем вучаць вершы Рыгора Барадуліна «Бацьку» і «Трэба дома бываць часцей». Першы з іх увогуле прабівае навылёт самае калянае сэрца. Другі, што мне надта падабаецца, дазваляе спытаць у студэнта, што такое асвер, дзе жывуць студэнтавы бацькі і ці часта бывае ён дома. Размова завязваецца душэўная і прадуктыўная ва ўсіх адносінах — выхаваўчых, жыццёвых і літаратурных.

І дзяўчаты, і хлопцы разгледзелі талент Анатоля Сыса, толькі гэтага трагічнага паэта кожны шануе па-свойму.

Дзяўчаты аж млеюць ад Сысавага верша «Чорная гадзюка, белая змяя». Мяркую, яны разумеюць, што верш не пра жыццё рэптылій, а пра каханне, і прымяраюць да сябе іпастасі загадкавых гераіняў.

Мужчыны сувора абіраюць філасофскую, змагарніцкую, міфатворчую паэзію А. Сыса, любяць ягоныя маналогі, паміж якімі асабліва вылучаецца «Маналог Апанаса Філіповіча». Мала хто верыць, што ён — пра мінуўшчыну. Высокі рэйтынг маюць такія вершы А. Сыса, як «Паэт», «Дух», «Крыжавалі крумкача», «Маналог «Тутэйшага».

«Лес» вучыўся б студэнтамі на памяць, каб не быў такі даўгі, затое ён актыўна абмяркоўваецца на семінарах. Як і «Пацір», апошнія радкі якога выклікаюць ва аўдыторыі лёгкую істэрыю. «Змяінага цара» слухаюць у маўчанні, з бояззю прызнацца, што анічога не зразумела.

Цікава, што моладзь аддае перавагу традыцыяналізму ў паэзіі, хаця наватарскі талент Алеся Разанава прызнаны шмат кім. Падазраю, што ягоныя квантэмы вучацца на памяць таму, што кароткія. Лінгвісты ўпадабалі і ягоныя вершаказы, бо даюць падставу для далейшых моўных практыкаванняў. Гэтую крышталёва халодную паэзію найвышэй цэняць хлопцы, але вось адна дзяўчына… Яна так начыталася Разанава, што захацела пабачыць яго самога, пазнаёміцца… Параіў ёй наведаць рэдакцыю часопіса «Крыніца», дзе працаваў на той час Алесь Сцяпанавіч, паказаць свае вершы. Наведала… «А ён, аказваецца, чалавек», — паведаміла яна, наведаўшы рэдакцыю. Дагэтуль ён паўставаў у яе вачах як напаўбог, гуру…

Калі студэнты называюць у ліку ўлюбёных вершы прадстаўнікоў літаратурных згуртаванняў «Тутэйшыя», «Таварыства вольных літаратараў», «Бум-Бам-Літ», «Літаратурнае прадмесце», я разумею, што яны самі глыбока заангажаваныя ў сучасным літаратурным працэсе.

Чысціню майго апытання парушыў прыход Сеціва. Ад пэўнага часу студэнты пачалі шукаць вершы, якія кладуцца на сэрца, не ў цішы бібліятэк, не на кніжных і часопісных старонках, а ў лабірынтах інтэрнэту. А там свае законы папулярнасці і спосабаў яе дасягнення, свае гуру, адметныя майстэрствам самараскручвання.

Анкету другога тыпу я пачаў прапаноўваць гадоў дзесяць таму. Таксама, як і «Полымя», прасіў назваць дзесяць, на думку студэнтаў, лепшых твораў беларускай літаратуры. Незалежна ад таго, да якога жанру належыць твор:

гэта можа быць раман, аповед, эпапея, верш, збор твораў, афарызм. Спакушаныя такой вольнасцю, асобныя студэнты ў запале адказвалі: «Усе творы Уладзіміра Караткевіча». А ці прачытаў хто, апроч Анатоля Леанідавіча Вераб'я, гэтыя ўсе творы?

А ў цэлым мае вынікі больш супадаюць з апытаннем «Полымя», чым не супадаюць. Безумоўна, лідар лідараў — «Новая зямля» Якуба Коласа. Купала, Багдановіч, Мележ, Караткевіч, Быкаў, Шамякін — неаспрэчныя лідары і ў мяне. «Сэрца на далоні» Івана Пятровіча Шамякіна — культавы твор студэнтаў, якія жывуць у XXI стагоддзі, і гэта пераконвае мяне ў думцы, што фундаментальныя падыходы да жыцця і да вечнага ў моладзі істотна не памяняліся за палову стагоддзя, хай сабе ў кожным інтэрнацкім пакоі працуюць па тры камп'ютары, на сцяне вісіць аб'ява студэнта «Набуду кватэру», а ейны аўтар прыязджае на іспыт на падараваным татам «мерсе».

Мы з калегамі не складалі прыблізнага спісу лепшых твораў, і, можа, з гэтай прычыны свой персанальны рэйтынг набыла маса сучасных аўтараў, традыцыяналістаў і авангардыстаў, у тым ліку і зорак інтэрнэту. У свой час я апублікую гэтыя спісы і рэйнтыгавыя балы, яны досыць павучальныя і, паводле маіх прагнозаў, будуць мець розгалас.

Але пакуль што зафіксую свае высновы паводле ўласных і «палымянскіх» назіранняў.

Вядома, на выбар студэнтаў і тых наведвальнікаў бібліятэк, якія апытваліся «Полымем», уплываюць настальгічныя ўспаміны па школе, школьных праграмах і тым часе, калі здаваўся экзамен па літаратуры. І калі ўсе былі маладыя, споўненыя светлымі спадзяваннямі. Па вялікім рахунку, што прыгадае з фізікі выпускнік школы, калі ён не фізік? Што прыгадае ён па хіміі, калі ён не хімік? А вось пакручастую гісторыю кахання Андрэя Лабановіча і Ядвісі, Васіля Дзятла і Ганны Чарнушкі памятаюць усе, і нават лепей, чым прыгоды рабыні Ізаўры і проста Марыі.

У густах рэцыпіентаў пераважае такая выратавальная з'ява, як класіка-цэнтрызм.

Яна дапамагае аптымістычна глядзець на вынік спаборніцтва паважнай і масавай літаратуры.

Сярэдні пакупнік у гіпермаркеце заўжды адрозніць натуральную каўбасу ад сурагатнай. Куды дзяецца ягоны клёк, калі ён пераступае парог кнігарні? Купляе сурагатныя дэтэктывы, маскультавыя шэдэўры ды іншую генетычна мадыфікаваную кніжную прадукцыю, і нават не здагадваецца, чым яго труцяць. І розніцы не бачыць паміж сапраўдным і падробным.

Класікацэнтрыст дзеля сваёй інтуіцыі заўсёды адрозніць сапраўднае ад сурагата. І ў жанры дэтэктыву, трылера, фэнтэзі ён адрозніць сапраўднае ад падробнага. Ён абірае якасны прадукт.

Класікацэнтрыст ведае кошт інтэлектуальным асалодам, адрозніць жывую музыку ад лічбавай або ад «фанеры». Практыку чытання сапраўднай кнігі ад паглынання дайджастаў і бяздуманага спажывання гіпертэкстаў у інтэрнэце. (Хаця Сеціва пры абачлівым яго выкарыстанні працуе на карысць сапраўднай літаратуры).

Дык як жа павярнуць усіх тых, каго мы аптываем, да практыкі чытання, да якаснай літаратуры? Магчыма, за кошт новых стратэгій, у тым ліку ў галіне рэпрэзентацыі, выкладання, інтэрпрэтацыі літаратуры. Магчыма, шляхам збліжэння літаратуры і жыцця. Магчыма, праз усведамленне закону жыццятворчасці літаратуры, якая прагназуе і праектуе будучыню. Сусветная літаратура мінулага стагоддзя была носьбітам песімістычных праектаў, антыўтопій, якія, на жаль, спраўджваліся. Магчыма, настае эпоха добрых прагнозаў, надзей, утопій, якія таксама спраўджваюцца. Бо ўсе рэйтынгі сведчаць, што чытач чакае ад літаратуры дабра.

***Заканчэнне будзе.***

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# ШЧАСЦЕ ЧЫТАННЯ

...Першы ранішні промень спачатку нясмела, а потым нібыта цёплай даланёй пагладзіў мяне па шчацэ. Я раскрыў вочы, адкінуў лёгкую коўдру і ступіў босымі нагамі на драўляную падлогу. Мне было дзесяць гадоў, я закончыў чацвёрты клас 9-й полацкай школы, і наперадзе былі канікулы. «Вось ужо начытаюся!» — падумаў з асалодай  і намацаў пад падушкай закрытую закладкай на адной са старонак, чытаную-перачытаную кніжку пра Васька Трубачова і яго сяброў.

Чытаць мяне навучыў бацька, калі мне было пяць год. Гэта потым я зразумеў, што мой бацька-франтавік — чалавек не такі ўжо і пісьменны, усяго сем класаў і адзін курс будаўнічага тэхнікума, але настаўнікам ён аказаўся выдатным, бо літаральна праз пару месяцаў я ўжо самастойна, даволі бегла прачытаў «Мыйдадзіра» Карнея Чукоўскага.

А пад восень, калі дзеці пайшлі ў школу, я наважыўся з сябрамі Васькам і Мішкам запісацца ў дзіцячую бібліятэку, што месцілася на беразе Дзвіны ў дамку, які ўсе ў горадзе звалі Дамком Пятра Першага.

— Ты ў які ж клас ходзіш, хлопчык? — запыталася пажылая бібліятэкарка.

— Яшчэ ў ніякі, але чытаць вельмі люблю, — адказаў я.

Другая, маладзейшая, прыгожая, змерала мяне вачыма і строга прамовіла:

— Запісваем толькі тых, хто ўжо ходзіць у школу. Прыходзь праз год!

Гэта было сказана такім тонам, што ў мяне на вочы ад крыўды нагарнуліся слёзы. Спалоханыя Васька з Мішкам шуганулі праз дзверы на вуліцу.

— Чаму праз год ? Я зараз хачу! Давайце любую кніжку, прачытаю!

Старэйшая супакоіла каляжанку і працягнула мне прыгожую, з малюнкамі кніжку Маршака.

З біблітэкі я ішоў шчаслівы, трымаючы пад пахай некалькі тоненькіх дзіцячых кніжачак.

Так пачаўся мой шлях у свет кнігі. Сёння я нават з пэўнай скрухай успамінаю тыя шчаслівыя гадзіны чытання — дома, калі мама ўжо гнала хутчэй спаць, у школе на перапынках, з раніцы, як у той дзень, пра што пачаўся мой успамін.

Не скажу, каб разлюбіў гэты занятак, але такога ўсёпаглынаючага жадання чытаць пастаянна і ўсюды ўжо няма.

Пісьменнікі мне здаваліся незямнымі чароўнымі істотамі, і я нават у самых смелых марах не мог уявіць сябе на іх месцы, хаця часта перад сном прыдумваў працяг любімых старонак, асабліва там, дзе героі гінулі. Дазволіць я гэтага не мог, і ў маіх вячэрніх мроях яны ажывалі і працягвалі свой гераічны шлях.

Так чытанне станавілася жыццёвай патрэбай, катэхізісам і маніфестам, школай станаўлення асобы.

*«Чытача не ашукаеш. Калі ты любіш, то любіш па-сапраўднаму, а ненавідзіш таксама на ўсю душу, калі ты ўкладваеш у тое, што пішаш, усё што маеш найлепшага, калі робіш гэта натуральна, шчыра, без усялякай задняй, нізкай думкі, — чытач гэта бачыць, ён трымае тваю руку, працягнутую на дружбу»...*

Гэта цытата з кнігі Янкі Брыля «Трохі пра вечнае». Не ведаю, чаму раптам захацелася зняць яе з паліцы, пагартаць і ўвайсці ў ясны і чысты свет класіка роднай літаратуры, якога і класікам некаторыя сучаснікі не хацелі лічыць: ні эпапей пра партыю і народ, ні шырокіх палотнаў на актуальныя тэмы, а што вартыя, маўляў, мініяцюры ды блакнотныя запісы.

Але як да мяне, гэтая шчодрая жменя сонечных промняў, як сам Брыль называў свае карацелькі, заўсёды была гаючым адхланнем, ціхай асалодай, нібы гаворка з дарагім і блізкім чалавекам, шчырым сябрам.

«Трохі пра вечнае»… Сціплая вокладка (куды да цяперашніх камп'ютарных), спецыфічны пах крыху пажоўклай паперы…

О, гэты пах… Як ён, бывала, п'яніў і чараваў нейкай нетутэйшай таямнічасцю, быццам з самой вечнасці ішлі магутныя сігналы радасці і спазнання. І ўжо імёны тых, што былі, як скрыжалі, выбіты на вокладках, выглядалі як нейкія алімпійскія нетутэйшыя насельнікі, мудрыя і вялікія.

Памятаю адзін дзень з юнацтва, так і хочацца сказаць з далёкага, але гэта будзе звыклым штампам, бо юнацтва толькі можа набыць сталыя знешнія рысы, але калі яно ёсць, дык застаецца назаўсёды. Вось я, малады транспарціроўшчык полацкага завода шкловалакна, якім стаў не па жаданні, а таму што не паступіў пасля школы ў інстытут, лічыў за найвышэйшую асалоду хадзіць на працу ў вячэрнюю змену, з шасці вечара, бо цэлы дзень можна было правесці ў чытальнай зале бібліятэкі, дзе так хораша пахла кнігамі, дзе на паліцах можна было выбраць свежыя нумары літаратурных часопісаў, а іх тады там было нямала — і нашыя «Полымя», «Маладосць», «Нёман», і ўсесаюзныя «Знамя», «Новый мир», «Октябрь», «Наш современник», «Дружба народов», і ленінградскую «Неву», і нават «Заря востока», «Дон», «Урал», «Даўгава»…

І вось трымаю ў руках нумар маскоўскай «Молодой гвардии»: «В. Короткевич, «Чазения». Чамусьці пазначана «паэма».

І… не заўважыў, як трапіў у палон твора, чыстага, светлага, такога рамантычнага… Вось пра якое каханне я марыў!..

Не заўважыў, як праляцеў час. На заканчэнне зачапіўся за радок «перевод с белорусского». Дык хто такі чараўнік у нашай літаратуры?.. Так прыйшла ў мой лёс эпоха Караткевіча, эпоха беларускага мастацкага слова, якое стала маім назаўсёды. Слова беларускага, наскага, якім не толькі можна пра гаротную долю спяваць.

А вось, нібы адказ на тую згадку, нібы прывітанне ў той светлы момант, — вычытанае з гэтай кнігі Брыля:

*«Аповесць Уладзіміра Караткевіча «Чазенія» (можа, і правільна названую ім паэмай), таленавіты твор з жывымі фарбамі і гукамі прыроды, з напалам жывых чалавечых пачуццяў, можна было б таксама «растлумачыць» як музыку. Лепш, аднак, прачытаць яе, хто не чытаў, самому прыняць зарад гаючай, па-дзіцячы свежай радасці жыцця, жадання думаць, адкрываць, любіць, быць чалавекам… з вялікай літары. Хіба ж не ў гэтым задача сапраўднага мастацтва?»*

Так і хочацца сказаць: дарагі Іван Антонавіч, Вы мае думкі выказалі.

Гэта я выпісаў з… даклада Янкі Брыля на шостым з'ездзе Саюза пісьменнікаў Беларусі ў 1968 годзе, змешчаным у кнізе. Аказваецца, вось якія даклады бываюць!

У ім тадышні сакратар саюза разглядае больш за сорак раманаў і аповесцей, каля дваццаці паэм і п'ес, мноства вершаў, апавяданняў, нарысаў.

А імёны якія! Іван Мележ, Міхась Стральцоў, Васіль Быкаў, Мікола Лобан, Алена Васілевіч, Іван Пташнікаў, Барыс Сачанка…

Гэта ж трэба было заўважыць, ці не першаму, яскравы і светлы талент маладога творцы, якога паблажліва паляпвалі па плячы аўтары жалезабетонных пуг, папракаючы ў літаратуршчыне і залішнім рамантызме, адыходзе ад прынцыпаў сацыялістычнага рэалізму.

А Караткевіч, між тым, станавіўся ледзь не адзіным «культавым» беларускім пісьменнікам для моладзі. Ён разбураў міф пра «сельскую», «калгасную» беларускую літаратуру. Яго героі — беларускія рыцары, інтэлігенты, вучоныя, падарожнікі — вабілі сваім рамантызмам, любоўю да роднага краю, роднай мовы, яго балады выклікалі высокія эмоцыі і ўласную годнасць.

Верная прыкмета таго часу — дасі пачытаць знаёмаму «Дзікае паляванне караля Стаха» — і лічы, што нарадзіўся яшчэ адзін патрыёт беларускага слова.

Між тым, калі вярнуцца да даклада Янкі Брыля, разам з камплімэнтамі ў адрас тых, каго я ўзгадваў, бескампраміснай крытыцы былі падвергнуты «да суму грунтоўная і бяскрылая інфармацыя пра жыццё ваенных лётчыкаў Антона А.», наіўна павучальныя дэтэктывы» Паўла К., Васіля Х., творы Леаніда Г., Леаніда П. (не называю імёны нашых увогуле па сённяшнім часе зусім неблагіх пісьменнікаў, шкадуючы іх светлую памяць).

«Фігурантамі» даклада Брыля на з’ездзе былі таксама Максім Танк, Аркадзь Куляшоў, Вера Палтаран, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Сцяпан Гаўрусёў, Аляксей Пысін, Вера Вярба, Ларыса Геніюш, Анатоль Сербантовіч, Янка Сіпакоў, Ніл Гілевіч, Еўдакія Лось, Васіль Зуёнак, Анатоль Вярцінскі, Васіль Вітка, зусім маладыя тады Сяргей Панізнік, Алесь Разанаў, Рыгор Семашкевіч, Яўгенія Янішчыц… Сапраўды залаты час роднай літаратуры!..

У сталым чытацкім юнацтве я пачаў разумець, што мне бліжэй як чытачу. З захапленнем я чытаў франтавыя аповесці Віктара Някрасава, Грыгорыя Бакланава, Канстанціна Вараб’ёва, Барыса Васільева, Юрыя Бондарава… Горкай праўдай адгукаліся ў душы творы Віктара Астаф’ева, Фёдара Абрамава, вершы і песні Уладзіміра Высоцкага, Булата Акуджавы...

А «Сотнікаў» Васіля Быкава! Не адзін дзень, месяц, год хадзіў я пад уражаннем гэтага сапраўды вялікага твора.

Не толькі пра камандзіра Сотнікава гаварыў нам аўтар. Пра Хрыста і Іуду, пра Каіна і Авеля, пра здраду і мужнасць, пра лёс беларускага народа.

Васіль Быкаў — гэта цэлая эпоха ў нашай літаратуры. Ён, відаць, першы, хто здолеў найбольш поўна і ярка паказаць свету, ды і нам самім, праўду пра свой народ, сваю радзіму. Памятаю, як нават мой бацька-франтавік, які перанёс і акружэнне, і перадавую, і рукапашныя атакі, пачытаўшы «лейтэнанцкую прозу» Быкава, ціха пытаўся ў мяне:

— А можа, не трэба для маладых такое? Дужа ж страшна, а хочацца нечага светлага і прыгожага.

— Дык гэта праўда, тата? — пытаўся я.

— Праўда, сынок, — адказваў бацька, — ды яшчэ якая!..

Неўпрыкмет увайшоў у маю душу Міхась Стральцоў. Найперш сваім творам «Адзін лапаць, адзін чунь». Ды і іншыя яго празаічныя творы адрозніваліся ад таго, што пісалі сучаснікі, нейкай сваёй тонкай інтэлігентнасцю, акварэльнасцю. Але, бадай, найвышэйшы яго шэдэўр у прозе — «Смаленне вепрука». Гэта ўжо алей, гэта Пітэр Брэйгель!

Сёння хіба Віктар Карамазаў са сваім неўтаймаваным жывапісна-паэтычным талентам можа пісаць такімі яркімі сакавітымі слоўнымі фарбамі. Як сказаў пра пісьменніка адзін з яго калег: «Віктар — гэта тайфун, гэта стыхія!»

Люблю перачытваць мудрага Янку Сіпакова, тонкага назіральніка і псіхолага Вячаслава Адамчыка, разважлівага Алеся Жука, акварэльнага Уладзіміра Ягоўдзіка, заўсёды нечаканую Алену Брава, паэтычныя радкі Рыгора Барадуліна, Алеся Разанава, Алеся Пісьмянкова, Леаніда Дранько-Майсюка…

Як камета, праляцеў, ды, дзякуй богу, не згас, не знік у забыцці Анатоль Сербантовіч:

Прывітанне студзеню і маю,
Салаўю і хмураму сычу!
Што хачу, і сам пакуль не знаю,
Ды і знаць, напэўна, не хачу…

Як было гэта не падобна на тых, каму пра што хацець знаць указвалі зверху, і ён пераўвасабляў гэта ў пафасныя паэтычныя радкі!..

Памятаю, як здаваў літаратуру на ўступных экзаменах у БДУ Дзмітрыю Якаўлевічу Бугаёву. Пакуль адказваў па білеце, спакойна і зычліва ўспрымаў экзаменатар тое, пра што я гаварыў. Але як толькі ўзгадаў, ужо не памятаю з якой нагоды, Сербантовіча, ажывіўся і пачаў пытацца пра тое, што я чытаў з сучаснай літаратуры. І калі пайшлі прозвішчы тых, каго не было ў школьнай праграме, калі на памяць дэкламаваў Караткевіча, Барадуліна, Пысіна, Грахоўскага, іспыт раптам перарос у гутарку, ды такую доўгую, што абітурыенты захваляваліся: няўжо так «валіць» экзаменатар.

А Дзмітрый Якаўлевіч, прыкметна задаволены, падзякаваў мне менавіта за тое, што так шмат чытаю роднай літаратуры.

Шчасце чытання… Як мог, дзяліўся ім з сябрамі, дачкой і сынам… І ўсё больш адчуваў, як перастаюць разумець маё захапленне новыя, маладзейшыя мае калегі і сябры.

«На чытанне часу не застаецца», — звыклы адказ і папулярнай зоркі, і таленавітага вучонага, і паспяховага бізнесмена. А яшчэ з'явіліся паглынальнікі, а часта і паглынальніцы бясконцых крымінальных і жаночых раманаў, перакладных, а то і пад канвеер напісаных «літаратурнымі рабамі» пад прыдуманымі імёнамі.

Часам думаеш, лепш бы такіх «чытачоў» не існавала б увогуле, не псаваліся б масава густы, не драбнеў бы і не размываўся літаратурны працэс. Словамі «літаратура», «пісьменнік» сталі маніпуляваць, і іх, нібы васковыя фрукты, сталі блытаць з сапраўднымі, натуральнымі.

На жаль, усё менш таленавітай моладзі прыходзіць у літаратуру. Што сталася, не разумею, але штукарства, моўная эквілібрыстыка не могуць схаваць недахоп таленту.

Як у тым анекдоце савецкіх часоў, не чытачамі, а пісьменнікамі адразу хочуць быць тыя, хто выштукоўваецца ў перформансах, слэмах, не маючы за душой нічога акрамя нахабства і пыхі.

І як бы хто ні гаварыў, але той радасці адкрыцця цудоўнага твора, таго суперажывання з аўтарам адчуваеш усё радзей, хаця кнігарні перапоўнены тамамі ў прыгожых вокладках…

Кнігі сталі як мясная выразка: гэта для гурманаў, гэта для простага люду, а тое — для тых, хто не грэбуе і аб'едкамі…

А я зноў разгортваю кнігу Брыля:

*«…Чагосьці нянавісць я ўспрымаю часцей за ўсё балюча. Нельга прызвычаіцца. Ці трэба гэта, каб нехта жыў, думаючы пра цябе не тое, чым ты ёсць, ненавідзеў цябе, пагарджаў табою — верны не праўдзе, а свайму памылковаму ўяўленню, якое ў ім падмацоўваюць іншыя твае «сябры».*

О, як гэта знаёма, Іван Антонавіч! І паспрабуй дакажы такому, што пісаў ты не дзеля таго, каб абараніць чыесьці інтарэсы, не супраць канкрэтных асоб, а таму, што гэта цябе хвалюе і трывожыць.

Мне можа не падабацца чалавек, а тое, што ён зрабіў цікавага ў літаратуры, прымушае забыцца на яго асабістыя якасці і ацаніць па вартасці здабытак. Таму часта не імкнуўся да асабістай блізкасці з тымі, каго любіў па творах: баяўся расчаравацца.

Прыемным выключэннем стала сяброўства з Алесем Пісьмянковым, але лёс пазбавіў магчымасці штодня чуць яго басавіты голас, дзяліцца самымі патаемнымі думкамі, казалі адзін аднаму праўду…

Мы часта гаварылі пра зайздрасць. Што ні кажы, а яна — адзін з рухавікоў сапраўднай літаратуры. Але якая?

*«...Зноў кожны дзень сяджу над перакладам «Гномаў» Канапніцкай.*

*Цяпер пяць гадзін, сонца схіліла з поўдня і свеціць на мой вясковы стол, і мне добра — так супакойвае праца, хоць і не поўнасцю творчая, свая.*

*Здорава ўсё-такі пісала жанчына! Працую з задавальненнем і зайздрасцю: чаму гэта я не напісаў такое для дзяцей — шматфарбнае, сакавітае, задушэўнае!..»*

Нічога, здаецца, паэтычнага ў гэтых простых словах, але ж — гэтае надвячоркавае сонца… І ўсё. І гэта ўжо — літаратура.

Графаман часцей за ўсё не разумее, чым ён горшы, асабліва ў вершах — і рыфма, і рытм, і вобразы… Але што такое, калі звычайныя словы пачынаюць свяціцца знутры, не адкажа яму ніхто. Гэта трэба адчуваць.

Калега расказаў мне пра гаворку з адным крытыкам, якая чытаючы двух сяброў, сучасных пісьменнікаў, здаецца, і таленавітых, і дастаткова раскручаных, аднаго адчувае душой, а да другога ставіцца вельмі халодна.

— А ўсё проста, — адказаў я, — адзін піша цёплымі акварэльнымі фарбамі, а другі — увесь у кубіках, ромбіках, трапецыях. Ён ужо для зусім іншага чытача!

Так, часам бывае, што рамантычная натура не можа прыняць цынізм, вычварэнства, хамаватасць. Але ў сучаснай літаратуры некаторыя ўспрымаюць гэта як неабходныя якасці для папулярнасці твора.

Са скрухай думаю, што цяжка бывае з кім-небудзь пагаварыць менавіта пра тое, што сапраўдная літаратура заўсёды сучасная. І хоць у любімых творах героі, бывае, не маюць камп’ютараў і айфонаў, не ездзяць у сабвэі, не маюць наварочанага б’юіка, іх думкі і пачуцці застаюцца блізкімі і зразумелымі.

І зусім смешна, калі дарослы дзяцюк — пісьменнік, каб «асучасніць» свой твор, нашпігоўвае яго супесучаснымі эксесуарамі, пакінуўшы ўласнае правінцыйнае ўспрыняцце рэальнасці, драбнату ўласнай асобы.

І іншая крайнасць — у імкненні да «класічнай народнай» літаратуры — насяліць свой твор Ахрэмамі і Грыпінамі, хаця вясковае жыццё і досвед у такога творцы закончыліся сорак гадоў таму, калі ён назаўсёды перасяліўся ў тлумны і так «ненавісны» яму горад, з’язджаць з якога аднак зусім не збіраецца.

Даваць рэцэпты, як пісаць сучасную літаратуру, аматараў у нас нямала. Але гэта ўсё роўна, як лячыць грып па тэлефоне. Пісьменнік — не ўладар і не ўласнік літаратуры. Яна выбірае пісьменніка. І калі гэты выбар становіцца абмежаваным, прычыну трэба шукаць не толькі ў асобе пісьменніка.

Літаратурны працэс заўсёды адзін. І ў ім існуюць карыфеі і слабакі, абласканыя «зоркі» і ізгоі, таленты і няздары. А вынік — напісанае, застанецца яно з гадамі, атрымае прыхільнага чытача, стане шэдэўрам ці бясследна знікне ў прорве часу.

І з поўнай дакладнасцю можна сказаць, што пакуль жыве чалавецтва, пакуль ёсць тыя, хто не толькі хоча ўлагодзіць цела, страўнік, але і знайсці нешта святое ў душы, будзе пісьменнік і будзе чытач, будзе літаратура.

*«...А за акном, у сонцы — ціхі лес, сосны і яліны, вершаліны якіх абтрэсліся ад снегу, а з большай палавіны ўніз — у снезе. І ціхія, нібы заціхлі свядома. Шпакоўня пад белай шапкай снегу — казачны домік, каля якога днямі ўвіхалася вавёрка.*

*Унучка ўспамінаецца, і старасць ад горычы памылак, бруду жыцця так ахвотна вяртаецца да чыстага паэтычнага свету маленства».*

Гэта ўжо на трыста трэцяй старонцы, і засталося зусім мала. І закрыецца кніга «Трохі пра вечнае» цудоўнага Янкі Брыля, нібыта табою напісаная…

І будзе толькі трымцець у расчуленай душы доўгае і трапяткое шчасце чытання.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# СПАДЗЯВАННЕ НА НОВЫЯ ВЕТРАЗІ




*Мікола БЕРЛЕЖ*

**СТАГОДДЗЕ НА ЗНАЁМСТВА**

*Укладальнік Алесь Бадак, прадмова Алеся Карлюкевіча.— Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2014.*

Беларуска-кітайскія літаратурныя адносіны набываюць новае развіццё. Спрыяюць гэтаму найперш шырокія гуманітарныя, культурныя камунікацыі. У Беларусі вучыцца шмат кітайскіх студэнтаў. У Мінску працуе адразу тры Рэспубліканскія інстытуты кітаязнаўства імя Канфуцыя — у Беларускім дзяржаўным універсітэце, у Беларускім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце і ў Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэце. Нашы студэнты займаюцца ў магістратуры і аспірантуры ў кітайскіх ВНУ. Пашыраецца асяродак маладых людзей, якія добра валодаюць кітайскай мовай. Праходзяць навуковыя канферэнцыі па кітаязнаўстве, усходазнаўстве. Такая атмасфера, несумненна, шмат значыць для стварэння грунту, асновы для развіцця стасункаў у галіне мастацкага перакладу.

Кніга «Стагоддзе на знаёмства», куды ўвайшлі паэтычныя і празаічныя творы кітайскіх пісьменнікаў розных эпох (ад Цюй Юаня (340?—278 гг. да н. э.,) да пісьменнікаў XX стагоддзя), — адлюстраванне зацікаўленняў беларускіх перакладчыкаў у дачыненні да кітайскага прыгожага пісьменства. Адкрываюць зборнік сапраўды анталагічнага характару (45 аўтараў!) вершы Цюй Юаня — «Уладару Усходу Тайі» і «Пакланенне душы».

Згодна звычаям даўнім,
Мы б'ём ва ўсе барабаны,

Вяшчункі заўзята скачуць,
Адна мяняе другую,

Спяваюць дзяўчаты-красуні —
Свеціцца юні пяшчота!

Вясной цвітуць архідэі,
Восенню — хрызантэмы,

Гэтак і звычаі нашы
Доўжацца несупынна.

*(Пераклад М. МЯТЛІЦКАГА.)*

Тут варта было б крыху нагадаць пра Цюй Юаня, пра маштаб яго асобы ў кітайскай культуры, кітайскай літаратуры. Цюй Юань — першы вядомы лірычны паэт у гісторыі Кітая. З эпохі Ваюючых Царстваў. Вобраз паэта — адзін з выразных сімвалаў патрыятызму ў гісторыі кітайскай культуры. Дзень рытуальнага самазабойства Цюй Юаня — гэта свята пад назвай Свята Драконавых Лодак. Цюй Юань служыў міністрам пры двары Чу. Выступаў

супраць гегемоніі Цінь. Быў высланы са сталіцы. Астатняе жыццё прысвяціў збіранню народных паданняў. У 278 г. да н. э. сталіца Чу была захоплена военачальнікам Бай Ці. За тое, што па яго загадзе знішчылі каля мільёна чалавек, палкаводзец атрымаў мянушку Мяснік па чалавечыне. Цюй Юань напісаў «Плач па сталіцы» і кінуўся ў раку Міла. Сяляне спрабавалі выратаваць паэта, але нічога з гэтага не атрымалася. Не знайшлі і цела. Існуе легенда, што аднойчы ноччу з'явіўся дух Цюй Юаня і расказаў, што прычынай смерці паэта стаў рачны дракон. Дух папрасіў сялян кідаць у раку рыс, загорнуты ў трохкутнікі з шоўку, каб напужаць дракона. Пазней шоўк замянілі на лісты з трыснягу, у якіх рыс адварвалі і ўжывалі ў ежу. Так з'явіліся галубцы. «Пошук цела на рацэ» з часам набыў форму спаборніцтваў па грэблі. Нос кожнай лодкі ўяўляў сабой галаву дракона. Гонкамі «драконавых лодак» дзень смерці паэта сімвалізуецца штогод, у пяты дзень пятага месяца па кітайскім месячным календары. Хутчэй за ўсё Цюй Юаню належыць 45 твораў (хаця ёсць і іншыя меркаванні). Самы вядомы — «Пытанні да Неба». На рускую мову творы Цюй Юаня перакладаліся шматкроць. У тым ліку — і Ганнай Ахматавай. «Прынята лічыць, што Цюй Юань касмічны паэт, што ў яго творах адбілася старажытная кітайская паэзія. Для Кітая Цюй Юань — фігура ўсяленскага маштабу, паэт і філосаф, чые страсці, душэўныя пошукі, асабістая трагедыя і глыбокі песімізм задалі на многія стагоддзі пачын адносін паэта да сябе і да свету. Акадэмік В. Аляксееў пісаў, што Цюй Юань — асабісты і вызначальны выказнік сардэчнага смутку, які жыве амаль у кожным кітайскім паэце да сённяшняга дня» (Таццяна Вінаградава).

Відаць, час моўнага прачытання і асэнсавання творчасці Цюй Юаня пабеларуску яшчэ прыйдзе. У кнізе «Пад крыламі Дракона: Сто паэтаў Кітая» (2012) Мікола Мятліцкі змясціў пераклад толькі трох вершаў легендарнага пачынальніка кітайскай паэзіі. У «Беларускай Энцыклапедыі» (2003, том 17) у асобным артыкуле «Цюй Юань» — 16 радкоў. «...Зберагլося каля 25 яго паэтычных твораў, у т. л. паэма-элапея «Лі сао» («Слёзы адлучанага»), напісаных пад уплывам нар. паэзіі, звязаных з кіт. паданнямі і вераваннямі. Стварыў паэт жанр чуцы — адзін з асн. у кіт. класічнай л-ры. З яго творчасцю звязаны пераход ад фальк. традыцыі да аўтарскай...» Тады з Беларуссю, беларускім мастацкім светам, здавалася б, постаць Цюй Юаня не звязана ніякім чынам. Прайшло дзесяцігоддзе. Пераклады надрукаваны ў аўтарскай анталогіі М. Мятліцкага «Пад крыламі Дракона...», два вершы — і ў зборніку «Стагоддзе на знаёмства». Сімптаматычны факт: акрэслена кропка адліку. Засталося запаўняць «белыя плямы». У выпадку з жаданнем прадставіць кітайскую літаратуру ў беларускім мастацкім свеце — гэта бясконцы шлях. І ўсё ж рух па ім дапаможа зрабіць нямала адкрыццяў, дазволіць набыць новы мастацкі і, калі хочаце, літаратурна-філасофскі вопыт.

Дарэчы, «белыя плямы» ў многім ліквідаваны менавіта дзякуючы перакладчыцкай руплівасці паэта Міколы Мятліцкага. «Стагоддзе на знаёмства» змяшчае творы 34 паэтаў у яго перакладах: акрамя Цюй Юаня, прадстаўлены Цао Чжы, Сун Цзы Хоў, Жуань Цзі, Чжан Хуа, Лю Чжэнь, Цзо Сы, Се Ань, Се Вань, Се Хуань, Се Даоюань, Тао Цянь, Тао Юаньмін, Се Лін'юнь, Бао Чжао, Лу Кай, Шэнь Юэ, Кун Чжыгуй, Фань Юнь, Се Цяо, Цю Чы, Жэнь Фан, Хэ Сюнь, Сяо Цзыфань, Лі Паньлун, Ван Шычжэнь, У Вэйе, Чэнь Ісю, Хуан Цзуньсянь, Цю Цзінь, Го Можо, Чжу Сян, Ай Цін, Бянь Чжылінь. Найбольш поўны беларускі партрэт кітайскай паэзіі ва ўсім яе развіцці, на працягу ўсяго яе існавання. Так, XX стагоддзе — гэта толькі пяць паэтаў. Магчыма, з пункту гледжання ўвагі аднаго перакладчыка гэта і не так істотна. Ды і, мяркуючы па некаторых публікацыях у перыёдыцы, Мікола Мятліцкі не пакідае сваіх кітайскіх зацікаўленняў. Будзем спадзявацца, што яго паэтычны досвед яшчэ паспрыяе пашырэнню беларускай прасторы кітайскай паэзіі. Хіба не варты ўвагі айчыннага чытача мастацкія адкрыцці

Бэй Дао (нарадзіўся ў 1949), які неаднаразова вылучаўся на Нобелеўскую прэмію? Ці — Вэнь Ідо (1899—1946), якога забілі тайныя агенты Чан Кайшы? Вэнь Ідо — аўтар паэтычных кніг «Чырвоная свечка», «Мёртвая вада». Паэт До До (нарадзіўся ў 1951 годзе) — з кагорты «студэнтаў плошчы Цяньаньмэнь». Жыў у Англіі, Канадзе, Нідэрландах. У 2004 годзе вярнуўся ў Кітай. Першым з кітайскіх паэтаў стаў лаўрэатам Нейштацкай літаратурнай прэміі (2010). Між іншым, сярод яе лаўрэатаў — Габрыэль Гарсія Маркес, Чэслаў Мілаш. А паэзія дыпламата, нядаўняга міністра замежных спраў Кітая Лі Чжаосіна? А вершы архітэктара і паэтэсы Лінь Хуэйінь (1904—1955)? Дадайце яшчэ Люй Бічэн, Сюй Чжы-мо, Эмі Сяо (ён жа прыязджаў у Мінск у 1936 годзе), Хэ Цзінчжы, ды і шмат яшчэ каго. А ўжо ж і XXI стагоддзе вылучае свае імёны!..

Аглядаючы «Стагоддзе на знаёмства», нельга не сказаць, што рэтраспектыва магла б быць крыху інакшай з пункту гледжання адлюстравання перакладчыцкіх памкненняў беларускіх «кітаістаў». У розныя дзесяцігоддзі кітайскую паэзію перакладалі Анэлія Тулупава, Уладзімір Дубоўка, Максім Танк, Сяргей Дзяргай, Мікола Аўрамчык, Рыгор Барадулін... З пакаленняў маладзейшых — Навум Гальпяровіч, Андрэй Хадановіч, Ігар Бабкоў, Вольга Гапеева, Таццяна Сівец, Рагнед Малахоўскі. І, канешне ж, калі зрабіць агледзіны поўнымі, то, несумненна, томік «Стагоддзе на знаёмства», укладзены Алесем Бадаком, пераўтворыцца ў бібліятэку з некалькіх кніг — прыкладам, з яснай назвай «Бібліятэка кітайскай літаратуры». І чаму б яе не рэалізоўваць аднаму выдавецтву — «Выдавецкаму дому «Звязда»? Магчыма, такі падыход паспрыяў бы цэльнаму бачанню кітайскай літаратуры, беларускіх пераўвасабленняў з кітайскай літаратуры.

Кітайская проза ў анталагічным зборніку — гэта творы Лу Сіня, Дзін Ліня, Е Шэн-Тао, Цюй Лань-По, Яо Цзіня, Юй Ліня, Пань Чжы-Ціна, Лю І-Ціна, Гу Юйя, Ма Фына, Яо Цзіна. Перакладчыкі — Леў Салавей, Яўген Васілёнак, Ганна Сапрыка. Па сённяшнім часе імёны перакладчыкаў мала што гавораць сучаснаму чытачу. Леў Антонавіч Салавей (1925—1988) некалькі дзесяцігоддзяў працаваў у «Мастацкай літаратуры» (спярша, зразумела, — у Дзяржаўным выдавецтве БССР). Перакладаў на рускую мову з беларускай (творы М. Гарэцкага, М. Зарэцкага, У. Дамашэвіча, Р. Мурашкі, І. Навуменкі ды інш.), таксама — на беларускую мову. У тым ліку — і кітайскую літаратуру. Ганна Іосіфаўна Сапрыка (1911—1962) — пісьменніца, выдавецкі рэдактар. Аўтар арыгінальнай кнігі прозы «Калі ў сэрцы вясна» (1959). І — перакладчыца твораў М. Вірты, Я. Галана, А. Макаранкі ды інш. Яўген Пятровіч Васілёнак (1917—1973) у 1958—1966 гады працаваў галоўным рэдактарам часопіса «Нёман». Друкаваўся з 1935 года. Першая кніга апавяданняў — «Зялёныя агні» — выйшла ў 1954 годзе.

Зразумела, што перакладчыцкая праца з’яўлялася для ўсіх іх як водгук на запатрабаванні тагачаснай выдавецкай палітыкі. У 1949 годзе ў Паднябеснай была ўтворана Кітайская Народная Рэспубліка. У Маскве, а следам адпаведна ў тагачасных савецкіх рэспубліках на рускай і іншых мовах пачалі актыўна выдавацца творы кітайскіх пісьменнікаў. Сышліся, зліліся ў адно цэлае мастацкая зацікаўленасць і палітычная, грамадская кан’юнктура. Хаця, нягледзячы на апошнюю акалічнасць, перакладчыкі з усяго адкрытага ім праз тэксты на рускай мове (ужо, зразумела, надрукаваныя ў Маскве) імкнуліся выбіраць лепшае. У выпадку, напрыклад, з Лу Сінем — гэта апавяданні «Зелле», «Роднае сяло», «У шынку». Лу Сінь (1881—1936) — якраз той пісьменнік, які аказаў найбольшы ўплыў на развіццё літаратуры і грамадска-палітычнай думкі Кітая ў першай палове XX стагоддзя. Лічыцца заснавальнікам сучаснай кітайскай літаратуры. Лу Сінь быў рэдактарам некалькіх «левых» кітайскіх часопісаў, цікавіўся марксізмам. У 1930 годзе заснаваў і ўзначаліў «Лігу левых пісьменнікаў» (як секцыю

Міжнароднага аб’яднання рэвалюцыйных пісьменнікаў). Японскі нобелеўскі лаўрэат Кэндзабура Оэ назваў Лу Сіня «найвялікшым пісьменнікам Азіі ў ХХ стагоддзі». Вялікім прыхільнікам творчасці Лу Сіня быў Мао Цзэдун. Сам пісьменнік у Кампартыю Кітая не ўступаў, але быў у яе прыняты пасмяротна. Цікавы факт: на рускай мове ў 1954—1956 гг. выдадзены чатырохтомнік Лу Сіня. А ўсяго па-руску вядома больш як 100 (!) яго асобных выданняў. Адна з першых кніг Лу Сіня на рускай мове — зборнік апавяданняў «Праўдзівая гісторыя А-кея», які выйшаў у Ленінградзе ў 1929 годзе...

«Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі» паказвае тагачасную (1950—1960-х гг.) палітру ўвагі да кітайскай літаратуры ў Беларусі наступным чынам: «На бел. мове асобнымі выданнямі выйшлі пераклады твораў кіт. л-ры: кн. прозы «Апавяданні кітайскіх пісьменнікаў» (пер. Г. Сапрыка, 1953), «Апавяданні» пачынальніка сучаснай л-ры Лу Сіня (пер. Салавей, 1955), «Выбранае» Чжао Шулі ( пер. А. Паўловіч, 1959), пра вясковае жыццё, раманы Мао Дуня «Перад світаннем» (пер. В. Вітка і Я. Казека, 1959, пра класавую барацьбу ў вёсцы і горадзе), Дзін Лін «Сонца над ракой Сангань» (пер. Салавей, 1954) і Чжоу Лібо «Ураган» (пер. В. Вітка, 1958) пра карэнныя змены ў псіхалогіі кіт. сялянства; творы для дзяцей «Дзеці вялікага народа» (пер. Я. Васілёнак, 1959), Ло Дань «Баявы загад» (пер. Л. Арабей, 1957), «Маленькі Чжуцза» (пер. П. Прануза, 1954), Сань-Шан-Фай «Дзесяць маленькіх сяброў» (1960), хуашань «Пісьмо з пеўневымі пёрамі» (пер. Салавей, 1954), нар. казкі «Алень і тыгр» (1953), «Браты Лю» (пер. Якімовіч, 1955), «Гара гаючых траў» (1960, пер. С. Міхальчук), «Сто тысяч стрэл» (пер. Брыль, 1959), «Лінь Вялікі і Лінь Маленькі» (1973). У бел. перыяд. друку публікаваліся творы кіт. класічнай паэзіі (Ду Фу, пер. У. Дубоўкі), паэзія і проза нашых сучаснікаў, фалькл. творы. Творы кіт. л-ры на бел. мову перакл. таксама М. Танк, Аўрамчык, Дорскі і інш.».

«Стагоддзе на знаёмства» (чаму стагоддзе, спытаецеся вы? Ды таму, што першыя пераклады з кітайскага прыгожага пісьменства былі надрукаваны яшчэ ў «Нашай Ніве») — толькі частка, зрэз рэтраспектывы ў галіне перакладаў кітайскай літаратуры на беларускую мову. І разам з тым — добры напамін пра традыцыю, падштурхоўванне да новых перспектыў. Тых, калі з мовы арыгінала на беларускую будуць ажыццёўлены пераклады твораў сучасных кітайскіх пісьменнікаў: таго ж Цзя Пінвы (раман «Былая сталіца», які прыйшоў да чытача ў 1993 г., дае ўяўленне пра цэлы кірунак у кітайскай прозе канца ХХ стагоддзя), тае ж Ці Нін (старшыня Саюза кітайскіх пісьменнікаў, аўтар больш як 50 раманаў і зборнікаў апавяданняў), таго ж Мо Яня (нобелеўскі лаўрэат, некалькіх раманаў якога ўжо добра вядомыя і на рускай мове — «Вялікія грудзі, шырокая задніца», «Чырвоны гаалян», «Краіна віна»)... Як бачым, працы ў перакладчыкаў хопіць. Наспеў час пачынаць новае стагоддзе ў беларускім знаёмстве з кітайскай літаратурай. Сілы для гэтага ёсць.

**Алесь БРАЗГУНОЎ**

# ТРАГІКАМІЧНЫ СВЕТ ВАЧЫМА РАМАНТЫКА

*Т. В. КАБРЖЫЦКАЯ,*
*П. В. РАГОЙША,*
*М. М. ХМЯЛЬНІЦКІ*

**НАШ І НЕ НАШ**
**СЯРГЕЙ ПЯСЕЦКІ:**
**Зоркі Радзімы пісьменніка над колам яго жыццёвых і творчых калізій. —**
*Мн.: Кнігазбор, 2014.*

Асоба Сяргея Пясецкага трапіла ў поле зацікаўлення беларускага чытача адносна нядаўна — у 2001 г., пасля публікацыі П. Рагойшам урыўкаў з рамана «Ніхто не дасць нам вызвалення...» (час. Полымя, 2001, № 6). Потым былі «Запіскі афіцэра Чырвонай Арміі (ад 17 верасня 1939 г.)», бліскуча перастворaныя па-беларуску А. Астраўцовым. Наступнымі сталі «Каханак Вялікай Мядзведзіцы» (2009) і «Пяты этап» (2012) у беларускамоўным узнаўленні Я. Янушкевіча, а таксама «Жыццё раззброенага чалавека» ў перакладзе Р. Равякі (час. «Arche», 2012, № 5). Улічваючы, што з 14 асноўных твораў С. Пясецкага пабеларуску на сёння чытачу ў поўным аб’ёме даступныя 4, наробак істотны. Тым не менш, гэта не стала штуршком для больш-менш заўважнай дыскусіі хаця б у межах айчыннай літаратурнай крытыкі. З’яўляліся спарадычныя публікацыі, у якіх закраналіся традыцыйныя для літаратуразнаўства аспекты (біяграфія і творчы лёс пісьменніка, галерэя персанажаў, мастацкія матывы, тыпалогія вобразаў). Эксплуатаваліся сенсацыйныя моманты з жыцця пісьменніка (супрацоўніцтва ў міжваенны час з польскай контрвыведкай, жыццё кантрабандыста, добрае веданне зладзейскага свету, смяротны прысуд і вылучэнне на Нобелеўскую прэмію ў галіне літаратуры). Ствараліся дакументальныя фільмы: «Каханак Вялікай Мядзведзіцы», «Кантрабандысты», «Сяргей Пясецкі: Наш выбітны ліхадзей». Словам, у грамадстве пастаянна падтрымліваўся інтарэс да шматграннай асобы С. Пясецкага, цесна звязанага з Беларуссю не толькі фактамі біяграфіі, але і тэматыкай, паэтыкай, эстэтыкай сваіх твораў. А гэта — рана ці позна — запатрабавала б упісання яго аўтара ў беларускі кантэкст.

У выпадку з С. Пясецкім, аднак, падобнае ўпісанне або прысваенне амаль да канца XX ст. ускладнялася шэрагам фактараў, без вытлумачэння якіх асоба творцы была асуджана заставацца чужой для беларускага чытача.

Па-першае, для айчыннай навукі было характэрна ідэалагізаванае стаўленне да пэўных пытанняў мінуўшчыны (бальшавізм і сусветная рэвалюцыя, інтэрнацыяналізм і нацыянальнае пытанне, агульначалавечыя каштоўнасці і сацыялістычная культура, выгнанне і бежанства з Беларусі ў 1915 і 1939 гг., польскія Крэсы, паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і пачатак Другой сусветнай вайны), а для грамадства — прадузятасць да творцаў кшталту Пясецкага (антыбальшавік, антыкамуніст, шпіён, кантрабандыст, класавы вораг, наогул дэмаралізаваная асоба — какаініст і эратаман). Пры гэтым варта прызнаць, што менавіта антыбальшавізм (камунізм быў хутчэй метафарай бальша-

візму, бо так і застаўся для чалавецтва на ўзроўні тэарэтычнага паняцця, а не жыццёвай практыкі) як рэакцыя на гвалтоўнае разбурэнне традыцыйнага жыццёвага ладу, якое суправаджаецца бескампрамісным навязваннем антыгуманнай ідэалогіі, складае ядро не толькі мастацкай, але і анталагічнай свядомасці С. Пясецкага. Патлумачаны з гледзішча агульначалавечых каштоўнасцей, ачышчаны ад павуціння класавага падыходу і дыктатуры пралетарыяту, такі антыбальшавізм выяўляецца адзнакай нармальнасці, традыцыйнасці светапогляду аўтара, які яшчэ ў 1918 г., будучы ў Маскве сведкам бальшавіцкага чырвонага тэрору, за ідэалагічным шалупіннем разгледзеў антычалавечную сутнасць гэтай з'явы. Паказальна, што вяртанне С. Пясецкага ў беларускі кантэкст адбываецца менавіта пасля крушэння ідэалогіі бальшавізму-камунізму.

Па-другое, абуджэнню цікавасці да асобы творцы паспрыяў плюралізм, які запанаваў у айчынным літаратуразнаўстве з канца 1980-х. Гэта дало крытыкам і пісьменнікам магчымасць звярнуць увагу на такія жанры, тэмы і персаналіі, якія раней знаходзіліся пад афіцыйнай або негалоснай забаронай.

Па-трэцяе, даследаванне творчасці С. Пясецкага ў беларускім кантэксце стала магчымым толькі пасля таго, як айчыннае літаратуразнаўства прызнала, што беларуская літаратура як мастацкая з'ява ахоплівае не толькі ўласна беларускамоўныя творы, але і створанае за многія стагоддзі на нашай зямлі на іншых мовах — царкоўнаславянскай, лацінскай, польскай, татарскай.

Па-чацвёртае, эмпірыка, статыстыка, аналітыка, рэаліі міжнароднай палітыкі, нацыянальныя і культурныя аспекты ўзаемадачынення народаў на прасторах былой Расійскай імперыі, прадстаўленыя ў творчасці пісьменніка, маглі інтэрпрэтавацца савецкім і польскім чытачом выключна праз ідэалагічныя акуляры, адмова ад якіх павінна была прывесці да светапогляднай рэвалюцыі (увасобленай, урэшце, у Савецкім Саюзе ў выглядзе перабудовы, а ў Польшчы — руху «Салідарнасць»).

Нарэшце, па-пятае, надзвычай важкай перашкодай была недаступнасць саміх твораў не толькі ў Беларусі: у сацыялістычнай Польшчы раманы С. Пясецкага да 1985 г. не выдаваліся, даваенныя і замежныя пасляваенныя эдыцыі былі недаступныя. Але ўжо з 1999 г., калі ўпершыню асобнай кнігай пабачыў свет раман «Адам і Ева» і пасыпаліся перавыданні ўсяго камплекту з 14 раманаў, беларускія перакладчыкі і даследчыкі займелі доступ да поўнай белетрыстычнай спадчыны С. Пясецкага.

Улічваючы вышэйсказанае, з'яўленне калектыўнай працы Т. Кабржыцкай, П. Рагойшы і М. Хмяльніцкага стала магчымым толькі цяпер. У аснове выдання — папярэднія (пачынаючы з канца 1990-х) напрацоўкі, апрабаваныя ў айчынным і замежным друку, на шматлікіх навуковых канферэнцыях і сімпозіумах, а ў выпадку з П. Рагойшам і цэлае дысертацыйнае даследаванне «Творчасць Сяргея Пясецкага: праблема жанрава-стылёвай адметнасці» (абаронена на кафедры славянскіх літаратур БДУ ў 2001 г.), што, несумненна, толькі надае саліднасці, грунтоўнасці і ўзважанасці зробленым высновам.

Разам з тым «Наш і не наш Сяргей Пясецкі» — цудоўны сюрпрыз як для крытыкі, так і для патрабавальнага чытача. Прызнацца, да азнаямлення з кнігай думалася пра часта стасаваны беларускай акадэмічнай навукай падыход: разгляд біяграфіі і творчага майстэрства пісьменніка, вобразаў, герояў, матываў, польска-беларускі кантэкст, акцэнт на сенсацыйнасці матэрыялу, падкрэсліванне аўтабіяграфізму. Аднак, на шчасце, неўзабаве давялося пераканацца ў чымсьці адваротным, што пазбаўляе аўтара рэцэнзіі ад неабходнасці пераказу зместу кнігі і дазваляе засяродзіцца на тым новым, што адразу прыцягвае ўвагу даследчыка. Словам, зрабілася зразумела: з трох магчымых іпастасяў — аглядальніка (канстатацыя наяўнасці), крытыка (выяўлен-

не навацый і недахопаў) і рэцэнзента (ацэнка ўзроўню) — усе будуць да месца. Задачу значна палегчыла тое, што даследчыкам (не называючы канкрэтнага аўтара кожнай з 6 частак кнігі!) нейкім «калектыўным розумам» удалося дасягнуць т.зв. «Мальдзісаўскага эфекту»: па-навуковаму распавесці пра важнае, сціраючы для чытача межы паміж складанасцю матэрыялу і займальнасцю аповеду.

У першай жа частцы («Хто ён, наш зямляк Сяргей Пясецкі? І як жа сталася так, што ён *наш* і *не наш* адначасова?»), назва якой перагукаецца з назвай самой кнігі, аўтары адразу задаюць свайму даследаванню высокую планку, пераканаўча ўпісваючы творчасць С. Пясецкага ў беларускі і ўсходнеславянскі культуралагічны кантэкст (на ўзроўні міфапаэтыкі, ментальнасці, псіхічнага тыпу і культурнага коду). Адна з істотных высноў, якія вынікаюць з прадстаўленай тут канцэпцыі далучанасці С. Пясецкага да ўсходнеславянскай культурнай прасторы, заключаецца ў тым, што ён творча спалучае рэалістычнае бачанне жыцця з рамантычнай скіраванасцю свайго мастацкага дыскурсу. У гэтым аспекце аналіз тыпалогіі «раскіданага роднага краю» на прыкладзе твораў украінскага пісьменніка А. Кобеца, беларускага М. Гарэцкага і польскага С. Пясецкага падаецца не толькі дарэчным, але і неабходным, бо, як слушна адзначаюць аўтары, «тэма бежанцаў, што хвалявала Гарэцкага, пачынае афармляцца, як бачна на прыкладзе твораў Пясецкага, у тэму выгнанцаў». Уласна ў выпадку з С. Пясецкім, як сведчыць яго біяграфія, гэта не столькі выгнанне з пэўнай тэрыторыі (жыццё ў Расіі, Заходняй Беларусі, сацыялістычнай Польшчы, уцёкі ў 1946 г. у Вялікабрытанію), але і з пэўнай культурнай прасторы (Беларусь у складзе Расійскай імперыі і II Рэчы Паспалітай, акупаваная фашыстамі Віленшчына, захопленая камуністамі Польшча). Аднак, і гэта прачытваецца ў падтэксце даследавання, «бежанства» (на ўзроўні польскай мовы) у чужую культурную прастору зусім не азначала для С. Пясецкага прыняцця чужога культурнага кода (хаця ён і называў сябе польскім пісьменнікам). У гэтым плане бліжэйшай аналогіяй хіба магла б паслужыць асоба Алеся Адамовіча.

У больш традыцыйным, аглядным ключы напісана другая частка — «Лёс і творчасць Сяргея Пясецкага ў літаратуразнаўстве, гістарыяграфіі, творах мастацтва». Карыстаючыся пераважна звесткамі з манаграфій польскіх навукоўцаў — «Сяргей Пясецкі (1901—1964). Жыццё і творчасць» Р. Дэмеля, «Жыццё ўзброенага чалавека» К. Паляхоньскага і «Зоркі Вялікай Мядзведзіцы: Жанчыны ў жыцці і творчасці Сяргея Пясецкага» Э. Тамашэвіч (унучкі аўтара), — аўтары кнігі, тым не менш, не ідуць безаглядна за высновамі польскіх калег, а ўздымаюць і табуяваныя дагэтуль пытанні. У прыватнасці, абапіраючыся на творчасць С. Пясецкага, акцэнтуюць увагу на яго датычнасці да дзейнасці Беларускай сялянскай партыі «Зялёны дуб», на супярэчнасцях паміж аўтанамісцкімі праектамі Ю. Пілсудскага і санацыйнай палітыкай міжваеннай Польшчы, робяць доказныя высновы адносна магчымых прататыпаў герояў. Відавочна, што на гэтай дзялянцы будучых даследчыкаў — літаратуразнаўцаў, гісторыкаў, культуролагаў — могуць чакаць неспадзяваныя знаходкі.

Кагнітыўным ядром даследавання Т. Кабржыцкай, П. Рагойшы і М. Хмяльніцкага, несумненна, з'яўляецца трэцяя частка — «Усходнеславянскія чыннікі раманістыкі Сяргея Пясецкага: традыцыі і тыпалогія». Разгляд творчасці Пясецкага ў кантэкце блізкіх усходнеславянскіх літаратур надзвычай важны, бо, як заўважаюць самі аўтары, «падобныя вобразы абумоўлены дзеяннем агульных ці падобных чыннікаў і заканамернасцей грамадскага, культурнага, мастацкага развіцця». І сапраўды, калі для міжваеннай Польшчы і Еўропы ў цэлым раманы «Каханак Вялікай Мядзведзіцы» (1938), «Пяты этап» (1939) і «Начныя багі» (1939) успрымаліся як своеасаблівая

экзотыка, то ў час паваенны многія «экзатычныя праявы» сталі адзнакай штодзённага жыцця т.зв. краін народнай дэмакратыі, або сацыялістычнага лагера, і як экзотыка пачалі ўспрымацца ўжо выключна па заходні бок гэтага лагера («Туман» (1946—47), «7 пілюль Люцыфера» (1948), «Запіскі афіцэра Чырвонай Арміі» (1957)).

Закранаючы праблему літаратурнага сумежжа, даследчыкі падкрэсліваюць выключную важнасць вывучэння тых рэгіёнаў, дзе сыходзяцца розныя этнасы і светапоглядныя сістэмы, для разумення адначасных (і таму на першы погляд нелагічных) тэндэнцый да інтэграцыі і рэгіяналізацыі, якія пазначыліся ў Еўропе пасля Першай сусветнай вайны, а сёння выяўляюцца ў паняцці «Еўропы культур», «еднасці ў разнастайнасці» (не блытаць з сусветным трэндам глабалізацыі, часта ўспрыманым як тэндэнцыя да ўніфікацыі, абезаблічвання). Сцвердзіўшы і паказаўшы на канкрэтных прыкладах, як беларуска-руска-ўкраінскі літаратурны кантэкст шмат у чым прадвызначаў творчую манеру і мастацкі ўзровень раманістыкі С. Пясецкага, аўтары даследавання зрабілі істотны крок наперад. Па сутнасці, тут яны выявілі сябе пачынальнікамі, наватарамі, паколькі ў польскім літаратуразнаўстве, а ў беларускім — і пагатоў, дадзены аспект яшчэ не быў прадметам спецыяльнага разгляду. Гэта, у сваю чаргу, дае ўсе падставы казаць пра зараджэнне новай дысцыпліны ў беларускім літаратуразнаўстве — *пясецказнаўства*. Аўтары не толькі пашыраюць і ўзбагачаюць ужо вядомыя з польскамоўных крыніц факты, але і скіроўваюць даследаванне ў новым, а галоўнае перспектыўным кірунку, які дазволіць выявіць генезіс і раскрыць філасофію творчасці пісьменніка, што немагчыма на матэрыяле выключна польскай літаратурнай традыцыі.

Асабліва пераканаўча праілюстраваны тыпалагічныя сыходжанні, а часам і прамыя ўплывы на С. Пясецкага творчасці класікаў рускай літаратуры А. Чэхава, Ф. Дастаеўскага, М. Гогаля, Л. Андрэева (у выпадку апошняга пісьменніка варта прызнаць слушнасць пазіцыі даследчыкаў што да прамога запазычання, наследавання і ўплыву). У многім падзяляючы прынцыпы рускай «натуральнай школы», С. Пясецкі, аднак, выяўляе пры гэтым сваю мастакоўскую самастойнасць: адмаўляе ідэі Дастаеўскага пра спакутаванне чужых правінаў і маральнае ўдасканаленне з дапамогай рэлігіі, стрыжнявой фігурай сваёй творчасці робіць чалавека-барацьбіта; у адрозненне ад Л. Андрэева, ахвяра ў С. Пясецкага адначасна з'яўляецца і бескампрамісным змагаром; характэрная для твораў А. Чэхава незавершанасць мастацкага часу амаль заўсёды дапаўняецца адкрытым фіналам; калі рэальна-бытавы план у М. Гогаля мяжуе з фантастычным, у С. Пясецкага ён імкнецца да сімвалічнага абагульнення, знакавасці (згадайма багдановічаўскае «Вось сімвал твой, забыты краю родны»).

Не пакіне чытача абыякавым і прачытанне творчасці С. Пясецкага ў кантэксце ўкраінскай літаратуры, выяўленне тыпалагічных пар «Запісы кірпатага Мефістофеля» У. Вінніченкі і «7 пілюль Люцыфера» С. Пясецкага, «Вальдшнэпы» М. Хвылявога і «Пяты этап» С. Пясецкага. Выключнае значэнне мае таксама паказ адрозненняў, абумоўленых кантэкстам эпохі, сацыяльным ладам, культурнай традыцыяй: С. Пясецкі выказвае непрыняцце палітычнай сістэмы бальшавізму, тады як украінскія творцы пабач з палітычным дыктатам Масквы адмаўляюць таксама яе нацыянальны месіянізм.

Сведчаннем сур'ёзнасці і аб'ектыўнасці праведзенай працы стала выяўленне той тыпалагічнай еднасці, якая, здавалася б, даўно ляжала на паверхні ў чаканні таго, хто канстатуе яе наяўнасць. Гаворка пра т.зв. «зладзейскую» трылогію («Яблычак», «Гляну я ў акно...», «Ніхто не дасць нам вызвалення...»), у скарочаным аўтарызаваным варыянце вядомую як «Туман», і п'есу Янкі Купалы «Тутэйшыя», акрэсленую самім аўтарам як «тра-

гікамічныя сцэнкі». Канстатаваўшы відавочнае для абодвух твораў (праўдзівы паказ канкрэтных гістарычных рэалій, гуманістычны і патрыятычны пафас, вострая сатырычная скіраванасць), разгортванне дзеяння ў адным месцы (Мінск) і ў адзін час (1918—1920), даследчыкі перасцерагаюць ад просталінейнага супастаўлення п’есы Я. Купалы і рамана С. Пясецкага. Падкрэсліваючы адрозненні ў адлюстраванні канкрэтных праяў жыцця, галоўнае разыходжанне яны бачаць у ідэйным змесце твораў: маральнаэтычным (захаванне чалавечай годнасці, чалавека як носьбіта культуры) у С. Пясецкага і нацыянальна-палітычным (стаўленне да беларушчыны) у Купалы. Аднак вобразная сістэма, сюжэт і тэматыка «зладзейскай» трылогіі, як і факты творчай і жыццёвай біяграфіі С. Пясецкага — і тут шаноўныя даследчыкі маюць абсалютную рацыю! — даюць усе падставы ўпісаць аўтара ў феномен беларускай «тутэйшасці». Відавочна, што разгляд творчасці С. Пясецкага ў названым аспекце — адзін з асноўных, побач з кампаравістычнымі абагульненнямі, лексічнымі супастаўленнямі і аналізам перакладаў на беларускую мову, кірункаў далейшага развіцця айчыннага пясецказнаўства. У гэтым пераконвае прачытанне заключнай часткі даследавання «Творчасць Сяргея Пясецкага і польская літаратура ХХ стагоддзя», у прыватнасці, супастаўленне падыходаў С. Пясецкага з поглядамі пісьменнікаў Ф. Чарнышэвіча і Ю. Мацкевіча на праблему «крэсовасці» («тутэйшасці» ў польскім прачытанні).

Калі ў папярэдніх частках творчасць С. Пясецкага разгледжана ў яе экзаструктурных (знешніх) сувязях, то ў наступных закранаюцца яе эндаструктурныя (унутраныя) характарыстыкі: асаблівасці арганізацыі часава-прасторавых адносін, аўтабіяграфічны герой як стылёвая дамінанта, пейзажная сімволіка, жанравая шматпланавасць твора. Не паглыбляючыся ў нюансы літаратуразнаўчага дыскурсу і пакідаючы чытачу поле для ўласных назіранняў, адзначым найбольш істотныя, на нашу думку, высновы.

Мастацкую прастору сваіх твораў Пясецкі арганізоўвае выключна шляхам белетрызацыі ўласнага багатага жыццёвага досведу, што дае чытачу рэалістычнае адчуванне, якое часта мяжуе з дакументалізмам. Фактаграфічная дакладнасць у многіх творах узбагачаецца рамантычнымі прыёмамі светаадчування, што стварае адметнасць мастакоўскага стылю Пясецкага. Аўтабіяграфічны герой з’яўляецца не столькі аб’ектам псіхалагічнага паказу або сацыяльнай тыпізацыі, колькі ідэалагічным суб’ектам, што дазваляе аўтару рэалізаваць важныя для яго ідэі і каштоўнасці. Для С. Пясецкага, побач з рамантычным, рэалістычным, публіцыстычным, сатырычным, характэрны элегічны модус мастацкасці, цесна спалучаны з праявамі драматызму (спробы супрацьдзеяння абставінам) і трагізму (усведамленне непераадольнасці канфлікту).

Пры канцы варта выказаць аўтарам даследавання некаторыя пажаданні, бо не даводзіцца сумнявацца, што праца па вывучэнні творчай спадчыны С. Пясецкага імі будзе працягнута.

Так, у раздзеле «Героі Пясецкага і Джэймс Бонд» сцвярджаецца, «што жанравай прыродзе дэтэктываў Пясецкага ўласціва семантычная разнастайнасць». З кантэксту вынікае, што гаворка пра «зладзейскую» трылогію і «мінскія» шпіёнскія раманы («Начныя багі» і «Пяты этап»). Як вядома, дэтэктыў адносіцца да прыгодніцкай літаратуры, у ім з пэўнай доляй інтэлектуальнай гульні павінна раскрывацца нейкая таямніца, а яго сутнаснай рысай з’яўляецца тое, што да заканчэння расследавання сапраўдныя акалічнасці падзеі чытачу не паведамляюцца (або паведамляюцца ў няпоўным аб’ёме). Усё гэта не характэрна для вышэйназваных твораў. Навукоўцамі вылучаюцца псіхалагічны, гістарычны, іранічны, фантастычны, палітычны, шпіёнскі, крымінальны віды дэтэктыва. Відавочна, што прысутнасць у творах С. Пясецкага псіхалагічных момантаў,

іранічнага падтэксту, палітычнай тэматыкі, апісанняў крымінальнага свету і шпіёнскай «рамантыкі» яшчэ не робіць іх дэтэктывамі.

Думаецца, істотна дапоўніла б высновы даследавання тыпалагічнае супастаўленне «7 пілюль Люцыфера» з «Запіскамі Самсона Самасуя» Андрэя Мрыя, бо тоеснасць ужываных абодвума аўтарамі мастацкіх прыёмаў, што называецца, ляжыць навідавоку.

Нарэшце, не варта было абыходзіць увагай і польскамоўны твор «Wojna i sezon» Міхала Паўлікоўскага (Вільня, 2008) — мастацкія мемуары, час дзеяння ў якіх — перыяд між дзвюма сусветнымі войнамі (1914—1939), а месца — землі былога ВКЛ (у асноўным Беларусь), што суадносіцца з хранатопнымі параметрамі раманістыкі Пясецкага. Фактычна, «Вайна і сезон» — адзіны на сёння твор, які дазваляе весці гаворку не толькі пра тыпалагічныя супадзенні, але і пра *тоеснасць* мастацкай парадыгмы прасторы і часу, аўтабіяграфічных вобразаў герояў у М. Паўлікоўскага і С. Пясецкага, пра ўплыў на іх усходнеславянскіх чыннікаў і традыцыі «тутэйшасці».

Нельга не згадаць выдатнага расійскага даследчыка А. Эйхенвальда: «Там, дзе мы маем справу з кваліфікацыяй, губляе значэнне класіфікацыя». Гэтыя словы з поўным правам могуць быць аднесены да даследавання «Наш і не наш Сяргей Пясецкі», у якім Т. Кабржыцкая, П. Рагойша і М. Хмяльніцкі выявілі глыбокае разуменне простай на першы погляд філасофіі творчасці С. Пясецкага, паказалі вытокі яго светапогляднай пазіцыі, цесна звязанай з феноменам «тутэйшасці», упісалі асобу творцы ў беларускі і ўсходнеславянскі літаратурны кантэкст (тым самым пашыраючы сферу даследавання), здзейснілі яго «вяртанне» ў ментальнае поле айчыннай культуры. Высокі, а ў многім і ўзорны, навуковы ўзровень даследавання дае ўсе падставы павіншаваць калектыў з выдатным навуковым і творчым дасягненнем, значнасць якога, трэба спадзявацца, будзе яшчэ неаднаразова адзначана беларускай літаратурнай крытыкай.

Юлія АЛЕЙЧАНКА

# ЗНАЙСЦІ ПАТРЭБНЫ ТОН...




*Уладзімір ГАЎРЫЛОВІЧ*

**АНЁЛАК МОЙ, АНЁЛАК...**

*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2014*

Большасць твораў Уладзіміра Гаўрыловіча прысвечана тэме кахання. Кахання няпростага, якое перамагае час, адлегласць і іншыя перашкоды. Каханне ж усякае бывае… Шчаслівае, гаротнае і, на жаль, забранае. Новая кніга пісьменніка не з'яўляецца выключэннем, хоць і ўтрымлівае творы зусім розныя як па жанравым вызначэнні, так і па тэматычным напаўненні: дзве рамантычныя аповесці і раман. Аб'ядноўвае ж іх галоўнае: цікава, па-мастацку яскрава выпісаныя характары, займальны сюжэт, шчырасць пачуцця.

Аповесць «Анёлак мой, Анёлак...» прысвечана, найперш, выбару жыццёвага шляху, пачуццю адказнасці за свае ўчынкі, незваротнасці здзейсненага. «Мабыць, недарэмна кажуць, што свой грэх — насіць усё жыццё», — з самага пачатку перасцерагае аўтар. Чым можа абярнуцца юначая бяздумнасць? Ці забываецца першае каханне? Як прасіць прабачэння і як выбачаць? Адказы на такія няпростыя і лёсавызначальныя пытанні шукаюць героі аповесці, саракагадовыя «дзяўчынкі» і «хлопчыкі», якія наведалі родную вясковую школу ў юбілейны выпускны год. Назва твора прадвызначае апазіцыю святога, светлага і грэшнага, змрочнага. Бо калі ёсць анёлак, то пэўна, ёсць і сілы супрацьлеглыя. А бываюць жа і паўшыя анёлы… Нездарма аўтар падкрэслівае, што галоўны герой Аляксей маляваў ва ўяўленні вобраз каханай «светлымі, а часцей чорнымі фарбамі». Вядома, з-за вясковых плётак аб прыгожай дзяўчыне. Але ж… Беласнежнай, як у нявесты, была і сукенка, што апранула Галіна на школьны выпускны, які скончыўся трагедыяй. Светлыя промні новага дня страчалі юных закаханых, якія яшчэ не ведалі пра навіслую над іх галовамі пагрозу. «Нібы сонейка яснае, нібы дачка яго» была дзяўчына Улада з легенды пра вёску Вятчын. Увогуле, трэба адзначыць, што твор насычаны не толькі зыркімі колеравымі вобразамі. Чаруюць і яго пахі, смакі. Бярозавік, зефір, перавернутае сена… Усё гэта напаўняе ўспаміны Аляксея Савіча, буйнога вучонага-мікрабіёлага, былога выпускніка Вятчынскай школы. Ён, як дарэчы і доктар Савіч у Шамякіна, чалавек удумлівы, які адгукаецца на пачуцці, але ніяк не можа пазбыцца душэўнага цяжару. Уздымаюцца ў аповесці і такія важныя праблемы, як чарнобыльская трагедыя, выміранне вёскі, пазбаўленне жыцця

яшчэ ненароджаных дзяцей. Дык ці зможа вярнуцца ў гэтым жыццёвым тлуме анёл, які «паляцеў, пакінуў гэты свет»? Фінал аповесці не дае нам адназначнага адказу. Хай кожны вырашае для сябе, ды толькі не губляе веру ў звычайныя цуды.

Другая рамантычная аповесць кнігі, «Пах чаромхі», таксама напоўнена вобразамі зрокавымі, тактыльнымі, пахавымі. Своеасаблівым лейтматывам з'яўляецца чароўны, дурманлівы пах чаромхі, «вясенняга букета ў восеньскай смузе». Гэта і водар абуджэння прыроды, і водар духоў галоўнай гераіні Мірыям. Праз гісторыю кахання швейцаркі Мірыям і беларускага хлопца Ігара аўтар паказвае нам падобнасць лёсаў іх краін, адкрывае для чытачоў наноў прыродную і культурную спадчыну Беларусі, знаёміць з краявідамі «краіны шакаладу, сыру, гадзіннікаў». Швейцарская Аарэ наўздзіў падобная да нашай Прыпяці, сцвярджае Уладзімір Гаўрыловіч. Ды і ў культурным плане Беларусь падаецца турыстцы Мірыям роднай і блізкай. Можа, не толькі з-за падобнасці народаў, можа, нешта іншае прымушае яе сэрца біцца часцей пры згадках пра Кіеўскую Русь? Аўтар, які з'яўляецца, несумненна, выдатным майстрам сюжэта нябачна падштурхоўвае нас да разгадак многіх таямніц, трымае ў пастаянным напружанні. Абаяльным паказаны мужчынскі вобраз, як і ў папярэдняй аповесці. «Загадкавы белы рус» Ігар Косціч выступае і як гід-прафесіянал («здавалася, не было ніводнага пытання, на якое ў хлопца не знайшлося б адказу»), і як малады навуковец, супрацоўнік прыродаахоўнай установы, які прынцыпова не прымае фармальнага падыходу да працы, шчыра дбае аб захаванні запаведных балот. «Усё павінна мець навуковую базу, прыроднай раўнавазе адпавядаць, абароне адзіных у старой Еўропе прыродных рэзервацый», — разважае Косціч. Не абыходзіць зноў жа аўтар і праблемы адказнасці, прычым у апавяданні «Пах чаромхі», гэта біблейская праблема адказнасці дзяцей за ўчынкі бацькоў. Ці атрымаецца ў Мірыям адказаць перад Богам і людзьмі за грахі сваёй маці, ці хопіць мужнасці змагацца за асабістае шчасце? Гэтыя і іншыя пытанні не застануцца без адказу для чытачоў.

Калі названыя аповесці Уладзіміра Гаўрыловіча паяднаны сучаснай тэматыкай, то раман «Забранае шчасце» пераносіць нас у 30-я гг. мінулага стагоддзя, суровы час калектывізацыі. Гэтая тэма для аўтара асабліва блізкая і шчымлівая. Яго дзядуля быў «нямым сведкам тых страшных падзей». З часткі ўспамінаў, выкарастанай у якасці эпіграфа, асабліва ўразаецца ў памяць наступны радок: «Калі раскулачвалі аднаго — ён крычаў: за што ўсё губіце, шчасце маё забіраеце?» Як бачым, менавіта ён і вызначыў назву рамана. Рамана з даволі стройнай кампазіцыяй, сімвалічнымі вобразамі, мастацкімі дэталямі. Апісваючы жыццё людзей жыткавіцкага Палесся, ён робіць гэта па-мастацку пераканаўча, з добрым веданнем рэалій сярэдзіны мінулага стагоддзя. Удала стварае аўтар і запамінальныя, жывыя партрэты вяскоўцаў: «… як гарэзліва смяяліся Верчыны вочкі, як хараша выгіналіся ад смеху яе шчочкі, якія яна штораз пацірала вязанымі рукавічкамі». Адразу адчуваецца і глыбокі псіхалагізм рамана. Напрыклад, вобраз галоўнага героя Рыгора Расевіча паказаны ў дынаміцы, эвалюцыі. Дакладна перададзена, як летуценны юнак пачынае мужнець, як пераносіць жыццёвыя нягоды, як не можа змірыцца з новай праўдай, з ліквідацыяй «чуждых элементов», з забранымі ў яго каханнем і дзецьмі. Рыгор — гэта і загнаны звер, які маўкліва назірае, як «людская зграя знішчае яго жытло, яго логава» і ў той жа час «анёл, які павольна падае з неба», каб ўратаваць сваю, хоць і нялюбую, жонку. Не спрошчана і схематычна, а незвычайна лірычна і далікатна для раскрыцця душэўнага стану героя ў выкарыстоўвае пісьменнік вобразы прыроды. У пару кахання Рыгора і Веры неверагодна доўга цягнецца бабіна лета з цёплымі начамі без туманоў, але «вочы возера ўжо адчуваюць смутак». Вобразамі-сімваламі пранізаны ўвесь раман. Вогнішча праглынае хату Іллі, як праглынае лёсы людзей новы рэжым. Персаніфікаваным увасабленнем бруду, ад якога

не адмыцца ніколі, з'яўляецца «памечаны» плямай на шыі следчы Калатовіч. Сімвалічна ўвасабляецца лёс галоўных герояў і ў згаданай аўтарам легендзе пра Князь-возера.

Моцны па эмацыйным уздзеянні на чытача раман «Забранае шчасце» вельмі пераканаўча паказвае той час, калі «вера і бязвер'е, зло і дабро раптам змяшаліся». Заканамерна, што ў складзе кнігі «Забранае шчасце» ён быў прызнаны лепшым празаічным творам 2008 года. Творы празаіка, публіцыста, драматурга Уладзіміра Гаўрыловіча, перакладзеныя на некалькі моў свету, заўсёды запатрабаваныя. І гэта нядзіўна, бо жыццёвая праўда і шчырасць заўсёды падкупляюць.




*Максим ГОРЕЦКИЙ*
**РОДНЫЕ КОРНИ**
*избранное / пер. с белорус.*
*И. И. Кононец*
*Мн.: Издательский дом*
*«Звязда», 2014*

Сёння Максім Гарэцкі — прызнаны класік беларускай літаратуры. Пісьменнік, творчую спадчыну якога ў поўнай меры змаглі ацаніць толькі нашчадкі. Чаму? Першая прычына — суровая і празаічная. Як «яры нацыяналіст» (Л. Бэндэ), ён падвяргаўся пераследаванням і рана быў гвалтоўна пазбаўлены жыцця. Другая ў тым, што, як і кожны геніяльны чалавек, Гарэцкі ў пэўнай ступені апераджаў свой час. Справа ў тым, што яго творы маюць надта сучаснае гучанне. Як адзначаў М. Мушынскі: «Калі чытаеш, перачытваеш «На імперыялістычнай вайне», «Літоўскі хутарок», «Генерал», «Рускі», «Хадзяка», «Чарнічка», «Сібірскія абразкі», прыгадваецца нечакана зусім іншая, ужо сённяшняя сістэма імёнаў, твораў, літаратурных пошукаў і стыляў — Васіль Быкаў, Янка Брыль, Міхась Стральцоў, Янка Сіпакоў (ды і ўся сучасная літаратура аб вайне). Што ж датычыць «Камароўскай хронікі» — няскончанага, незавершанага, але галоўнага твора ўсяго жыцця — дык ён прымушае ўспамінаць многае выдатнае ў савецкай літаратуры». І гэтая заканамернасць тлумачыцца свядомым імкненнем Максіма Іванавіча да абнаўлення нацыянальнай літаратуры з мэтай уваходжання яе ў агульнаеўрапейскі кантэкст. З вялікай пашанай ставячыся да вопыту папярэднікаў і разумеючы вызначальную ролю пераемнасці літаратурных традыцый, пісьменнік не прымаў простага пераймання, штучнага выкарыстання архаічных форм. Творчая інтэрпрэтацыя, смелыя эксперыменты ў змястоўнай сферы і вобразнай сістэме — вось што вызначае стыль М. Гарэцкага. Няспынны клопат пра далейшы лёс беларускай літаратуры і культуры выказвае пісьменнік і ў артыкулах «Развагі і думкі», «Наш тэатр», дэманструе сваёй навуковай, выкладчыцкай, грамадскай дзейнасцю.

Прозай Максіма Гарэцкага зараз захапляюцца не толькі ў Беларусі. Пераклад яго твораў на мовы свету — надзвычай актуальная і неабходная справа. Чаму мы павінны хаваць гэты скарб, гэты культурны набытак, калі ён — агульначалавечы? У першую чаргу, вядома, адкрываць яго трэба для нашых бліжэйшых суседзяў. Выдатна ўсведамляў гэта ўжо і сам «падзвіжнік з Малой Багацькаўкі», які здзейсніў аўтапераклад на рускую мову рамана «Віленскія камунары». Пасля рэабілітацыі імя Максіма Гарэцкага былі зроблены пераклады яго асобных твораў на рускую мову А. Гатавым і Л. Салаўём, якія ўвайшлі адпаведна ў кнігі «Виленские комму-

нары; Тихое течение : Роман-хроника. Повесть» / перевод с белорус. А. Гатова, Москва: Сов. писатель, 1966 і «Красные розы. Избранное» / Пер. с белорус. Л. Соловей. — Минск : Мастацкая літ., 1976. А яшчэ праз дзесяцігоддзе «Мастацкая літаратура» пачала рыхтаваць да выдання кнігу выбраных твораў пісьменніка ў перакладзе на рускую мову. З просьбай зрабіць пераклад аповесці «На імперыялістычнай вайне» звярнуліся да Ідаліі Кананец, ураджэнкі Беларусі, якая жыла ўжо на той час у Ленінградзе. Вось як апісвае сама Ідалія Ігнатаўна працэс перакладчыцкай працы: «Разнастайныя слоўнікі (нават рэдкі тады Даль) запоўнілі мой пісьмовы стол, звязалася я з Артылерыйскай акадэміяй, са святаром Марскога сабора (ён патрэбны быў з-за хрысціянскіх святаў), а ў час справы вяла перамовы і з іншымі патрэбнымі мне асобамі». Праца Кананец атрымала высокую адзнаку рэдакцыйнай калегіі «Выбранага» (пабачыла свет у 1988 г.), а таксама дачкі пісьменніка Галіны Максімаўны.

Заручыўшыся шчырай прыхільнасцю сям'і Гарэцкага, дасканалым веданнем і душэўным прыняццем яго творчасці, Ідалія Ігнатаўна працягвала сваю важную працу. З яе перакладамі можна пазнаёміцца на старонках часопіса «Нёман» (№8, 2013 г.). А ў мінулым годзе ў выдавецкім доме «Звязда» выйшла кніга «Родные корни», якая ўключае творы «У лазні», «Патаемнае», «Цёмны лес», «Стогны душы», «Родныя карані», «У панскім лесе», «Рунь», «Дзве сястры», «Смачны заяц», «Апостал», «Няўдача», «На імперыялістычнай вайне» і інш. на рускай мове. Пры чытанні кнігі адразу адчуваецца, што І. Кананец з дзяцінства ведала беларускую мову, а ў далейшым змагла пазнаёміцца з чыстай рускай гаворкай, спрадвечна рускімі моўнымі выразамі. Менавіта гэтая акалічнасць дапамагла зрабіць пераклады гарманічнымі і вытанчанымі, трапна перадаць аўтарскую думку, захаваўшы пры гэтым няўлоўныя сэнсавыя адценні. А яшчэ трэба адзначыць, што Ідалія Ігнатаўна заўсёды з вялікай адказнасцю ставілася да кожнага слова, не баялася выказваць нязгоду з рэдактарскімі праўкамі. Напрыклад, падчас рэдактуры перакладу ўжо згаданай намі «Імперыялістычнай вайны» Кананец удалося адмяніць каля сотні правак! Грунтоўную прадмову «Словом возрождать человека» пра жыццёвы і творчы шлях М. Гарэцкага напісаў кандыдат філалагічных навук Міхась Кенька. На прэзентацыі кнігі ў «Доме Масквы» прагучала шмат шчырых слоў вялікай павагі да пачэснай справы таленавітай перакладчыцы, быў зачытаны ліст самой Ідаліі Ігнатаўны пра абставіны працы, сяброўства з дачкой пісьменніка Галінай Гарэцкай. Прысутныя мелі магчымасць паглядзець цікавыя фільмы, прысвечаныя Максіму Гарэцкаму, а таксама дванцаціхвілінную стужку паводле апавядання «Рускі». Зразумела, што кніга «Родныя корни» ўключае далёка не ўсе пераклады, зробленыя Ідаліяй Кананец, таму ўдзячныя чытачы чакаюць і другое выданне з не менш таленавітымі перакладамі нашай суайчынніцы.




*Галіна НІЧЫПАРОВІЧ*

**ЗАБАВЫ ДЗЕТВАРЫ**

*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2015.*

Пэўна, мала знойдзецца такіх, хто не згадае яшчэ са школьных гадоў знакамітыя Коласавы радкі: «Не сядзіцца ў хаце хлопчыку малому…» І гэта цудоў-

на, бо вывучэнне на памяць вершаў на роднай мове сінхранізуе мысленне дзіцяці з ментальнасцю свайго народа, у пэўнай ступені прадвызначае асобасную карціну свету, выдатна спрацоўвае на развіццё маўлення, ды і не проста маўлення, а маўлення вобразнага, яркага, багатага і гнуткага. Лепшае чытанне для дзяцей — тое, што адкрывае для іх блізкае і знаёмае асяроддзе, вучыць бачыць цуды і прыгажосць у паўсядзённым. Добра разумелі гэта славутыя адраджэнцы ў XX ст. — Цётка і Якуб Колас, аўтары «Першага чытання для дзетак беларусаў» і «Другога чытання для дзяцей беларусаў». Разумеюць гэта і сёння ўкладальнікі чытанак для дзіцячага садка і школы (цешыць, што ўсё часцей можна ўбачыць такія беларускамоўныя кніжачкі на паліцах кнігарняў). Даць магчымасць дзецям пачуць беларускія словы ў самым «пяшчотным» узросце — літаральна азначае выратаваць іх ад культурнага бяспамяцтва і «нямой пустэльні» ў далейшым. Вось, да прыкладу, як апісвае сітуацыю, калі маленькія беларусы вымушаны былі навучацца толькі на чужых мовах, ужо згаданая намі Алаіза Пашкевіч: «Выйшла каша… <…> дзеці здзічэлі, сталі ў сваёй хаце чужымі. Мову сваю перадражніваюць, над бацькаўскай рагочуць. Слабы толк».

Таму надзвычай пачэснай з’яўляецца справа тых пісьменнікаў, што прысвячаюць свае забаўлянкі, казкі, прыпеўкі, вершы юным чытачам. Янка Брыль, Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін, Кастусь Цвірка, Мікола Чарняўскі… Гэты непарыўны шэраг можна было б доўжыць і далей. Годна працягвае добрыя традыцыі і Галіна Нічыпаровіч. Яе кнігі «Дзіва дзіўнае», «Непаседа», «В ожидании чудес» былі выдатна ўспрыняты самымі маленькімі і, несумненна, надта патрабавальнымі чытачамі. Доказ гэтаму — зацікаўленыя вочкі на сустрэчах, якія часта ладзіць пісьменніца. А на пачатку бягучага года пабачыў свет яшчэ адзін зборнік вершаў для дзяцей Галіны Нічыпаровіч — «Забавы дзетвары». Вобразы кнігі нязменна абаяльныя і яскравыя: хітрун каток, нязграбныя качаняты, шчабятушкі сінічкі, лёгкі матылёк, непаседа мурашок, палахлівы зайчык, мішка-таптыжка. Галоўнымі героямі зборніка выступаюць і самі дзеці. Яны віншуюць маці ў Дзень народзінаў, рыхтуюць падарункі на свята 8 Сакавіка, ходзяць у грыбы. Не абыходзіцца і без свавольстваў: абадраных каленак, парваных штонікаў, разлітага малака… Але ж якое дзяцінства без гэтага? А яшчэ адкрывае аўтарка для малых свет прыроды з яе штодзённымі цудамі: сонечным пажарам, крыжаванкамі слядоў на снезе, лясной цішшу, асколачкамі неба — пралескамі. Радавацца кожнаму імгненню, шанаваць бацькоў, шчыра сябраваць, любіць кніжкі і захапляцца прыгажосцю — вось чаго жадае ўсім беларускім дзеткам таленавітая пісьменніца. З такой незвычайнай пяшчотай і дабрынёй, выдатным веданнем дзіцячай псіхалогіі можа пісаць, мабыць, толькі чалавек, які мае практычны вопыт выхавання. А Галіна Нічыпаровіч — шчаслівая бабуля, якая мае шэсць унучак. Гэта значыць, што бацькі могуць з поўнай упэўненасцю набываць дзецям кнігі мудрай жанчыны з даліканым густам і бязмежнай любоўю да навакольнага свету і маленькіх свавольнікаў.

# САКАВІК

* * *

У **№ 3** за **1966 год** «Полымя» надрукавала ўрыўкі з «Камароўскай хронікі» Максіма Гарэцкага.

*«Да нядаўняга часу мы зналі Максіма Гарэцкага выключна па тым, што было надрукавана да 1930 г., г. зн., што было зроблена ім за 27 год вельмі цяжкага і цярністага жыцця,* — пісаў у прадмове да публікацыі Юльян Пшыркоў. — *А ў 1930 годзе здарылася непапраўнае, якое нельга зразумець і тым больш — растлумачыць. Па хлуслівым абвінавачванні М. I. Гарэцкі быў арыштаваны і высланы ў Вятку.*

*Усё рабілася для таго, каб назаўсёды пазбавіць пісьменніка магчымасці займацца любімай справай і нават з памяці нашчадкаў выкасаваць яго імя. У тытанічнай, здавался, зусім няроўнай, барацьбе перамаглі чалавечая ўпартасць і настойлівасць.*

*Прывыкшы перамагаць усялякія цяжкасці і перашкоды на сваім жыццёвым шляху, М. Гарэцкі і на гэты раз не спасаваў перад няўмольна злым лёсам. Яшчэ ў часе следства ў Мінску ён пачаў адразу два раманы: «Віленскія камунары» і «Камароўская хроніка», а ў Вятцы працягваў над імі працу. I ў якіх умовах!»*

«Віленскіх камунараў», якія за два гады да публікацыі літаратуразнаўца Янка Шутовіч знайшоў у Беларускім музеі ў Вільні (пры тым, што імя аўтара не значылася ні на рукапісе, ні ў каталогах архіва), «Полымя» надрукавала ў 1963 годзе.

*«Камароўская хроніка» з'явілася ў часопісе ў вельмі скарочаным варыянце. «З прычыны таго, што рукапіс не падрыхтаваны аўтарам да друку, рэдакцыя «Полымя» ўзяла гэту работу на сябе, — пісаў у той жа прадмове Юльян Пшыркоў. — Абмежаваная ў сваіх мажлівасцях, яна вымушана змясціць твор не цалкам, а толькі ўрыўкі з яго, спадзеючыся, што ў недалёкім будучым чытач зможа пазнаёміцца з ім поўнасцю».*

Сапраўды, 60-я гады паклалі пачатак актыўнага вяртання творчасці Максіма Гарэцкага ў кантэкст беларускай літаратуры. Гэта ў **сакавіцкім** нумары «Полымя» за **1963 год** адзначыў і Максім Лужанін у артыкуле «Лёс пісьменніка і твора»: *«Максім Гарэцкі — мастак вялікага і «самароднага таленту» (Карскі), не падобнага ні на чый іншы ў беларускай літаратуры, становіцца на сваё заслужанае, але так і не здабытае пры жыцці месца. Відаць, больш дакладна: не становіцца на сваё месца, а вяртаецца на яго, дый здабыта гэта месца ўсё ж ім самім, пры жыцці, толькі што не ўдалося аўтару пацешыцца з плёну, розгаласу, з прызнання свае работы».* У 1973 годзе з друку выходзіць двухтомнік пісьменніка, у 1984—86 гадах — Збор твораў у чатырох тамах. Праўда, не ўсе вядомыя на той час творы Гарэцкага трапілі на старонкі гэтых выданняў. Напрыклад, у трэцім томе «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі», які пабачыў свет у 1971 годзе, у артыкуле, прысвечаным Максіму Гарэцкаму, у пераліку яго твораў чытаем: «Аўтар драматызаванай аповесці «Антон» (1914, апубл. 1919), дакумент. маст. запісак «На імперыялістычнай вайне» (1914—19, апубл. 1926). Падзеі рэвалюцыі і грамадз. вайны адлюстраваны ў аповесці «Дзве душы» (1919), драматычных абраз-

ках «Чырвоныя ружы» (1922, апубл. 1926), у рамане «Віленскія камунары» (1931—32, апубл. 1963)». Аднак жа «Дзве душы», якія ўпершыню былі выдадзены ў Вільні ў 1919 годзе, у чатырохтомнік не трапілі і з'явіліся толькі ў дадатковым, фактычна пятым томе Збору твораў Максіма Гарэцкага, што выйшаў у 1990 годзе. «Уключаныя ў аднатомнік апавяданні і драматычны абразок, як і аповесць «Дзве душы», па розных прычынах не трапілі ў Збор твораў М. Гарэцкага, — паведамлялася ў кніжным пасляслоўі. — Іх адсутнасць там тлумачыцца не толькі абмежаваным аб'ёмам выдання (100,0 др. арк.), але і грамадска-палітычнымі ўмовамі часу, калі чатырохтомнік рыхтаваўся да друку».

Зменлівасць гэтых самых «грамадска-палітычных умоў часу» добра відаць па тым, як у розныя гады ў друку падаваліся адны і тыя ж факты біяграфіі пісьменніка. Так, калі ў 1966 годзе ў палымянскай публікацыі мы чытаем, што «*па хлуслівым абвінавачванні М. І. Гарэцкі быў арыштаваны і высланы ў Вятку*», то Беларуская Савецкая Энцыклапедыя біяграфічныя звесткі пра яго заканчвае наступнымі датамі: «З кастр. 1923 да крас. 1931 працаваў на рабфаку БДУ, у Горацкай с.-г. акадэміі, у Інбелкульце, АН БССР». Чым займаўся з 1931 да 1938 года гэты яшчэ далёка не стары чалавек, энцыклапедыя не паведамляе. Ды і не магла паведаміць. Але яшчэ ў больш складанай сітуацыі аказаліся аўтары і складальнікі зборніка «Максім Гарэцкі: успаміны, артыкулы, дакументы», які выйшаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1984 годзе. Час паранейшаму ставіў свае «ўмовы», аднак аўтары, і найперш родныя пісьменніка, не маглі сцерці з памяці, не маглі не абмовіцца хоць словам пра тое, што ім балела шмат дзесяцігоддзяў. Брат пісьменніка Гаўрыла Гарэцкі пісаў: «У 1931 годзе брат вымушаны быў асесці на пяць гадоў у горадзе Кіраве (былой Вятцы).

Цяжкія гады, вялікія матэрыяльныя цяжкасці (з выпадковай працай не па спецыяльнасці) і маральная прыгнечанасць не скрушылі, аднак, Максімавага духу і не згасілі прагнасці да літаратурнай творчасці. Упарта працягвалася апрацоўка матэрыялаў да «Камароўскай хронікі», пісаўся раман «Віленскія камунары».

Ці вось — з успамінаў дачкі пісьменніка Галіны Гарэцкай: «А жыццё наша станавілася неспакойным. У «Камароўскай хроніцы»: «Я маляваў бацькам светлыя вобразы жыцця ў калгасах. Бацька казаў задумліва і ўхільна: «Як людзі, так і мы». І запытаўся ў мяне: «А што гэта пра цябе ў газетах пісалі? Людзі казалі: «Во ўжо і Батура папаўся». «Ды так, гэта нічога… Самакрытыка»…

Якуб Колас, даведаўшыся ад мамы ў 1931 годзе, што бацька наш паедзе на пяць гадоў у горад Вятку, стараўся суцяшаць, наведваў нас…

У Вятцы працаваў бацька спачатку землякопам. Будавалі вялікі стадыён. Некаторы час капаў і вазіў пясок на пабудове лазні ў другім канцы горада. З 17 жніўня 1931 года ён стаў чарцёжнікам на ФУПе (фабрика учебных пособий). З 1 сакавіка 1932 года пачаў працаваць там тэхнікам-каштарыснікам».

Для недасведчанага чытача такі паварот лёсу мог падацца дзіўным: вядомы пісьменнік, загадчык кафедры Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, супрацоўнік Інстытута беларускай культуры і Акадэміі навук БССР, і раптам — землякоп, чарцёжнік, тэхнік-каштарыснік. Але такому чытачу і ў галаву не магло прыйсці, што, зноў-такі, вядомы пісьменнік, загадчык кафедры Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, супрацоўнік Інстытута беларускай культуры і Акадэміі навук БССР, і раптам — «вораг народа», расстраляны ў 1938 годзе. Людзі ж дасведчаныя радаваліся і такой магчымасці: хоць завуалявана, хоць кораценька, але сказаць пра самы трагічны перыяд у жыцці аднаго з найлепшых беларускіх празаікаў і ўсёй беларускай літаратуры.

***Алесь МАЛІНОЎСКІ***

*Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.*
*Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца.*
*У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.*

**Ідзе падпіска на І паўгоддзе 2015 года:**

*індывідуальная льготная для настаўнікаў (індэкс — 00471)*

на 1 месяц — 20 700 руб.
на 3 месяцы — 62 100 руб.

*індывідуальная (індэкс — 74985)*

на 1 месяц — 31 900 руб.
на 3 месяцы — 95 700 руб.

*ведамасная (індэкс — 749852)*

на 1 месяц — 91 600 руб.
на 3 месяцы — 274 800 руб.

*ведамасная льготная для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)*

на 1 месяц — 74 400 руб.
на 3 месяцы — 223 200 руб.

**«ПОЛЫМЯ» МОЖНА НАБЫЦЬ:**
**г. Мінск**
**Магазін № 13, плошча Перамогі, падземны пераход;**
**Магазін № 18, плошча Перамогі, падземны пераход;**
**Магазін «Глобус», вул. Валадарскага, 16.**

***e-mail: polymya@bk.ru***

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by
Паштовы адрас: 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 284-84-61,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74,
аддзела паэзіі — 284-80-12.

Стыльрэдактар *М. М. Гілевіч*
Камп'ютарная вёрстка *С. І. Стараверавай*

Падпісана ў друк 10.02.2015 г. Фармат 70×108 1/16. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,8. Ул.-выд. арк. 16,53. Тыраж 2197 экз. Заказ
Кошт нумара ў розніцу 21200 руб.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
ад 22.07.2009 № 9 (перарэгістравана 10.12.2012) выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «БудМедыяПраект».
220123, Мінск, вул. В. Харужай, 13/61. ЛП № 02330/71 ад 29.03.2004 г.
(падоўжана 23.01.2014 г. тэрмінам на пяць гадоў па 29.03.2019 г.).